ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:



10 2004



ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



АНАТОЛЬ ГРЭКАЎ

# «ДЗЕ ЛЬЕЦЦА НЁМАН СРЭБРАВОДНЫ...»

Стаўбцоўшчына... Колькі ні прамаўляю гэтае слова, сэрца заўсёды поўніцца гордасцю за наш славуты край, за яго таленавітых людзей, за казачную прыгажосць прынёманскіх ды пушчанскіх мясцін. Сам я нарадзіўся ў Зэльве, але лёс мой і ўвесь працоўны шлях паяднаны менавіта са Стаўбцоўшчынай. Лічу сваім абавязкам берагчы нашу культурную спадчыну, каб данесці да нашчадкаў усё тое гістарычнае багацце, якое мы маем. Данесці і ўвекавечыць.

Я не раз заўважаў, як адносяцца да свайго краю прыбалты. Бываў там. Гэта людзі, якія ўмеюць любіць і шанаваць сваю зямлю, лепшых сваіх сыноў і дачок. І памятнымі знакамі ў іх цудоўна служаць камяні, валуны. Прыклад ёсць з каго браць. У гэтым сэнсе добра вызначыўся Маладзечанскі раён. Гадоў дваццаць пяць назад там намаганнямі мясцовага энтузіяста, краязнаўца Вячаслава Ляшковіча былі ўстаноўлены валуны памятным датам, людзям, нават магістральнай дарозе Мінск—Вільнюс. У нашым раёне таксама былі і ёсць падобныя краязнаўцы. У Старасвержанскай сярэдняй школе ў свой час выкладаў гісторыю выдатны краязнаўца Іван Андрэевіч Шавель. Ён стварыў школьны краязнаўчы музей, які потым стаў калгасным. Цяпер мы плануем зрабіць яго філіялам нашага раённага музея. Справу Шавеля сёння працягваюць яго вучні Аляксандр Турко, Сяргей Галоўка, Уладзімір Філатаў. Любілі ставіць валуны былыя старшыні мясцовых калгасаў Юльян Цвірко і Антон Юнцэвіч. Па іх ініцыятыве вакол калгасных дамоў культуры «вырасла» сямейства розных камянёў. Дарэчы, самы першы валун у раёне, устаноўлены ў гонар вёскі, з'явіўся ў Старым Свержні, калі ў 1982 годзе адзначалі яго 500-годдзе.

Потым падчас святкавання 100-гадовага юбілею Якуба Коласа, у 1982 годзе, у заказніку песняра — каля Мікалаеўшчыны, урочышчы Бервянец і ля дарогі Мікалаеўшчына — Акінчыцы былі пастаўлены памятныя валуны. Крыху пазней, у 1990 годзе, калі мы стваралі мемарыяльна-мастацкую кампазіцыю драўляных скульптур «Шлях Коласа», паставілі валуны са словамі народнага песняра ў Смольні і Альбуцы, на турбазе «Высокі Бераг», каля пансіяната для ветэранаў вайны

і працы. Каля Акінчыц, дзе нарадзіўся народны паэт, «вырас» валун, які так і назвалі «Шлях Коласа». Бо адсюль «Шлях...» пачынаецца.

«Шлях Коласа» адкрываўся падчас 500-гадовага юбілею Скарыны, у 1990 годзе. Свята адбывалася ў Полацку. Але мы папрасілі, каб і да нас завіталі госці свята. Адкрываў «Шлях...» Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч — сын Якуба Коласа. «Шлях Коласа» — не адзіны аб’ект «Каласавін». Гэта яшчэ і чатыры філіялы музея. Апошні адкрылі ў Ластку. Гэта непадалёк ад нашай вёскі Сверынава і суседняй — Прусінава, дзе пахаваны беларускі празаік Алесь Пальчэўскі.

Мне часам кажуць: «Вось ты, Грэкаў, жывеш на славутай радзіме народнага песняра. Табе лёгка...» Няпраўда! Ідэі падказвае часта сам Колас, яго творчасць. Але з якою цяжкасцю, патугамі, пакутамі даецца ажыццяўленне гэтых ідэй! Ну хоць бы гэты «Шлях Коласа»... Пакуль здзейснілася яго ўвасабленне — патрэбны былі час, цярпенне, нервы. Майстры-разьбяры, якіх мы запрасілі, спачатку доўга былі ў мастацкіх пошуках. А час ішоў... Даводзілася не раз умешвацца ў іх працу, падказваць, дапамагаць. Але ў нас працавалі выдатныя майстры. Я хацеў бы адзначыць Анатоля Маголіна, Міхася Корабава (на жаль, іх няма ўжо сярод нас), Івана Супрунчыка.

Помнікамі-валунамі ўшанавалі мы імёны этнографа і мастака Улада Ініцкага ў Ручыне каля Рубяжэвіч; маці Янкі Купалы Бянігны Іванаўны, якая нарадзілася там; у Засуллі — паэта і мастака Каруся Каганца, у Мархачоўшчыне — Уладзіслава Сыракомлю і Янку Лучыну, якія там бывалі. А ставіць валуны ў нашым раёне, дзякуй Богу, ёсць каму. У нас столькі славутых людзей нарадзілася, жыло і жыве! Адных пісьменнікаў і вучоных каля ста чалавек. Усе яны выяўлены намі, з дапамогаю сяброў складзены спіс. А як знаходзім месца ўстаноўкі валуна? Тут не я адзін вырашаю. Часцей за ўсё разам з маімі аднадумцамі. А іх у мяне нямала. У нас выдатнае сяброўства з літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа ў Мінску, які ўзначальвае наша зямлячка Зінаіда Мікалаеўна Камароўская, таксама энтузіяст у гэтай справе. Шмат дапамагае Мікалай Антонавіч Семяняка, загадчык філіяла музея Якуба Коласа ў Смольні, гэтак жа — раённыя кіраўнікі і работнікі культуры. А эскізы мемарыяльных дошак нам распрацоўвае, адлівае архітэктар з Мінска Міхаіл Ткачук, добры наш сябра.

Валуны... «Каласавіны»... Захаванне і памнажэнне спадчыны Коласа, адкрыццё новых талентаў — гэта не адзіны шлях услаўлення і ўвекавечання Стаўбцоўшчыны.

Друкаваныя выданні — гэта, несумненна, яшчэ адзін шлях увекавечання памяці. Кнігі — бясцэнны скарб нашага жыцця. Вопыт у гэтай справе ў нас немалы. Вельмі дапамагаюць нам музей Якуба Коласа ў Мінску і паліграфкамбінат імя Якуба Коласа, асабіста яго Генеральны дырэктар Валерый Германаў. Наш аддзел культуры ўжо выпусціў 10 кніг. Леташняя, апошняя па часе, — вершы Якуба Коласа. Гэтая кніжачка кішэннага фармату адкрыла нашу новую серыю «Мне сонцам свеціць Наднямонне». Укладанне, дызайн і афармленне вядомага журналіста, нашага земляка Валерыя Дранчука. На чарзе новыя кнігі, над якімі мы працуем сумесна з мастаком Уладзімірам Лукшам, фотамайстрам Георгіем Бірылкам. У перспектыве — выдаць некалькі

кніг пра Стоўбцы, Стаўбцоўшчыну. Плануем зрабіць цікавую кніжку пра сённяшніх нашых вядомых паэтаў, празаікаў з іх творамі, фотаздымкамі і малюнкамі хат, у якіх яны нарадзіліся. Творцаў — выхадцаў з нашага раёна — нямала...

Ужо дзесяць гадоў працуе карцінная галерэя самадзейных мастакой Стаўбцоўшчыны ў Смольні. І самая свежая ідэя — літаральна, яна нарадзілася на днях. У нас ёсць выдатная мясціна над Нёманам — Сінява, праз якую некалі праходзіў кацярынінскі тракт на Захад. Тут мы думаем стварыць музей валуноў.

Ёсць у нас, вядома ж, свае праблемы і цяжкасці. Першае — гэта недахоп тых жа сродкаў. Узяць, скажам, той жа кран-пагрузчык для ўстаноўкі валуноў. Сёння яго можна задзейнічаць на суткі. На паўгадзіны ніхто не згаджаецца, трэба заплаціць мінімум 100—120 тысяч за выбіванне тэксту, за адліўку — 200 тысяч рублёў. А ўстанавіць валун... Можаце ўявіць, у што ўсё гэта абыходзіцца... Я лічу, што на такіх землях-радзімах, як Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, павінны распрацоўвацца і ўвасабляцца праекты, канцэпцыі, праграмы на дзяржаўным узроўні і зацвярджацца дзяржавай. Каб памяць заставалася нашчадкам на вякі. А ў гэтым вялікая роля памятных знакаў, тых жа валуноў.

Ёсць праблемы і іншага плану. Некаторыя скульптуры з асноўнага шляху, такія, як «Вытокі», «Падгляд пчол», мы перанеслі ў Альбуць, бо шмат стала нядобранадзейных людзей. Яны выпальваюць, падразаюць драўляныя скульптуры. А скульптура «Сымон-Музыка» наогул знікла. Нехта пад'ехаў на машыне і забраў яе. Можа, зараз дзенебудзь на дачы стаіць. Нават вывезлі адзін валун. Для мяне гэта — дзікунства, нонсенс.

Я нічога не сказаў тут пра нашы мастацкія і музычныя калектывы. Многія з іх могуць упрыгожыць любое рэспубліканскае свята. Але жыццё патрабуе не толькі святаў, а сур'ёзнай, удумлівай, заўсёднай працы. Трэба шукаць і знаходзіць! Гэтым і жывём!





**МАР'ЯН ДУКСА**

# СВЯТЛО СПАГАДЛІВЫХ БЯРОЗ

* * *

Сусвет не абняты ніякай мяжой,
не бачна памежных слупоў ані звання.
Штодзённа вісіць ён над нашай душой,
і дыхае жахам яго існаванне.
Кругі ўсе і эліпсы дзіўных арбіт —
усё гэта нам, утрапёным, здаецца
жывой каруселлю.
Які ж тут нябыт?
Нябеснай гармоніі музыка льецца.
Хто зможа бясконцую музыку зор
пакласці на нашы звычайныя ноты?
Яе разумее адзін Дырыжор,
што хоча агучыць сваю адзіноту.
Якой бы вялікаю роспач была,
калі б не суцеха, што сэрца салодзіць,
калі б не мелодыя ззяння-святла,
якая да нас з паднябесся сыходзіць.

* * *

А мы, відаць, анахраністы,
былым праняты, як іржой.
Зацята, ўпарта, наравіста
жывём не розумам — душой.
Самаахвярна беды множым,
не раз трапляем у тупік.
І палюбіць ніяк не можам
дасюль халодны свой разлік.
Яму ніяк не хочам здацца,
ніяк — такі душэўны стан...

Наш розум — выбітны дарадца,
але зусім не капітан.
Мы неаднойчы маем ласку
цярпець сумбур, аўрал, абвал...
Але ізноўку па-славянску
мы садзім сэрца за штурвал.

* * *

Надломіш сумысля вярбінку —
рука затрымціць на хвілінку.

Прыціснеш нагой мураша —
і помсліва ўздрыгне душа.

А стрэлам супыніш крыло —
адхлыне ад сэрца цяпло.

А выпусціш злоснае слова —
і радасці страціш палову.

Галоднаму хлеб не дасі —
і літасці ў Бога прасі.

Па лёсе — бяскрайнім полі —
ідзеш ты ад болю да болю.

* * *

Дрыготкім ветрам стрэсены з галля,
над лаўкаю блукае ліст кляновы.
На цёплае ён спадзяецца слова,
не думае, што будзе з ім пасля.
Ён сонца схаладзелага агонь
уніз нясе замест хларафіла.
Ён разумее: восень наступіла.
І, каб сагрэцца, ляжа на далонь.
Нібы сумысля ўпаўшы з вышыні,
дзе палыхае крона залатая,
ён сумнаму дзядулю нагадае
ягоныя ўсе сонечныя дні.
Адзелянела, пышна адцвіла
пара, якая мчыцца гучна й ярка...
Дзве восені, прытуленыя ў парку,
абменьваюцца рэшткамі цяпла.

* * *

Нарэшце ў рукі лёсу даўся —
збівае з ног гадоў навала.
Калісьці ўранку прачынаўся —
і ў сэрцы радасць бушавала.

Гады накручваў час, як робат,
каціў, як снежны вал, трывогі.
І кожны дзень дарослы клопат
на золку падымаў на ногі.
І хай бы клопат быў адзіны
і вёў цябе ён торным шляхам.
Але цяпер вось, як ні дзіўна,
ты прачынаешся са страхам.
Чакаеш літасці ад Бога.
Світанне — ўсведамленне краху.
Няўжо жыццёвая дарога —
твой бег ад радасці да страху.

* * *

Жывеш дрыготка і таропка,
ды горыч точыць непамерна.
Не ведаю, дзе тая кнопка,
якая ўсё былое верне.
Былое збудзецца адразу,
хоць і адстала не на мілю.
Ты захацеў — і стужка часу
назад адкруціцца за хвілю.
Прымай у сэрца неруш веры,
які перадалі нашчадкі.
Зноў маеш чысты ліст паперы —
пішы ізноў усё спачатку.
Цябе не ціснe лёсу кропка,
памылкі абмінай, няўдачы...
Жаданая, з'явіся, кнопка.
Чаму цябе нідзе не бачу?

* * *

Разглядваеш твары дарма,
і памяць успыхвае вяла.
Нікога ўжо з блізкіх няма...
Як быццам тут бомба упала.
Што сталася з людствам былым
асуджанай вёсачкі роднай?
І постаці лёгка, як дым,
сплылі — не адчуеш ніводнай.
Куток непрытульна-чужы.
І ціснe маркота такая.
Загадвае роспач: «Бяжы!»
А бегчы душа не пускае.
Што цешыць яе тут да слёз,
якая ёй свеціць удача?
Хіба што ля чуйных бяроз
з усёй асалодай паплача.

## КРУГ

Даруй, прабач, але не плач.
І не даймай сябе адчаем.
На лоўлю радасці і ўдач
з'язджаем ад цябе, з'язджаем.
Не надта думаем — куды,
свет вабіць тым, што невядомы.
Як коні, юныя гады
б'юць капытамі каля дома.
Даруй, прабач, але чакай,
што будзе плён у нас і зерне.
А з намі здарыцца адчай —
ён да цябе нас зноўку верне.
Як западзе наш гонкі дух,
час апантанасці мінецца,
у рэшце рэшт жыццёвы круг,
матуля, на табе замкнецца.

## ДЗІКІ ХУТАРСКІ САД

Налёт самоты
ёсць ягоны знак.
У госці ён
нікога ўжо не просіць.
Ніхто з людзей не дзякуе...
Аднак
цярпліва і пакорна пладаносіць.
Ніхто
ружовых яблыкаў не рве,
што падаюць.
Ніхто не чуе стукаў.
Ляжаць яны адчужана ў траве
і ўжо зусім не думаюць пра рукі.
Не верыць ён даўно
ў візіт людскі,
самотны сад...
Ды мае міг вясёлы,
калі паснедаць прылятуць шпакі,
калі яго вясной
цалуюць пчолы.

* * *

Гадоў назапасіў
на пару кашоў,
але не здабыў
ні рублёў, ні палацаў.
І тое, што надта шукаў,

не знайшоў.
Я збольшага
сцежку да Бога намацаў.
Ды я для яе —
нібы той каласок,
які адбівае
паклоны на ўзмежку.
Хоць ведаю добра,
што цёплы пясок
падорыць нагам
блаславёная сцежка.

* * *

Мы ходзім, як чужыя, па зямлі,
як недарэкі — маўчуны лясныя.
Глядзіце, як пыхліва расцвілі
на нашых вуснах словы прывазныя.

Што цяжка вымаўляюцца — не жах.
Абыдзецца — не зломкі налаўчыцца.
Ды гонар лезе ўверх, як на драждждах,
што можам да Еўропы далучыцца.

Са слодыччу аж прыпадае слых
да гукаў неўсвядомлена-нязвычных.
Заместа слоў птушына-травяных
аж цэлы воз найменняў экзатычных.

Ды мова наша выжыве, не плач.
Бо мечана вышэйшаю адзнакай.
Бо ззяюць словы родныя «прабач»,
«кахаю», «зычу», «калі ласка», «дзякуй»...

## 30-я ГАДЫ

У небе дым з напышлівай Магніткі.
Закратавана шыбіна акна.
Сяляне, абабраныя да ніткі.
І дыхае з усіх бакоў вайна.

Нямы народ, што гвалт у сэрцы здзейсніў.
Спрабуй цяпер што-небудзь перайнач.
Адпампаваныя ў нябёсы песні,
якія так падобныя на плач.

Зацяты страх застыў на тварах ніцых.
Кроў запаволіў маразяны страх.
Малінавыя ромбікі з пятліцаў
стаяць кашмарным знакам у вачах.

## ПАДПІТКА ДУШЫ

Душа пявучай маладосці,
заўжды падпітвалася ты
бальзамам хмельным — весялосцю,
хоць смех яе і быў пусты.
І радасць скрозь плыла патопам,
штодзень купаліся мы ў ёй,
заўжды абнятыя натоўпам,
сяброўскім гуртам, як сям'ёй.
Чужое песціла дыханне,
чужая грэла цеплыня.
Святло і дружбы, і кахання
лілося на пачатку дня...
Ці не таму, што многа помніш,
ты гэткі сумны за сталом?
Ты зараз чым сябе напоіш —
якім святлом, якім цяплом?
Што маеш ты ад сталых зносін,
і чым жа зараз жывіць лёс?
Цяплом асеннім чулых сосен,
святлом спагадлівых бяроз?
Адкуль чакаю асалоды —
якой уцехі я прашу?
Ёсць звычка добрая ў прыроды —
ад плачу бараніць душу.

* * *

Дзве рэчы мы павінны вызнаць
і спраўдзіць —
з рук іх нельга збыць.
Праз смех і слёзы
мусім выжыць,
каб —
пакахаць і палюбіць.
Лічы сябе шчаслівым смела,
хоць часта быў і без граша,
калі хоць раз спявалі
цела
і закаханая душа.
Ды са сваёй шчаслівай сцежкі
ты не спяшайся
ўбок сысці...
Хоць на адну,
адну усмешку
ты гэты свет узбагаці.

* * *

Гісторыя ўсё ведае пра нас.
Яна была і ёсць жывая сведка
таго, як адбываецца ўвесь час
паразуменне Бога й чалавека.
Яно, паразуменне, існуе,
альбо яго няма ці надта мала.
Яно нам сілы плённыя дае,
яно аберагае ад навалы.
Калі ж яго няма, то так і ведай:
жыццё нам горкі смутак прынясе —
пасыплюцца няпрошаныя беды,
людскія драмы распачнуцца ўсе.
З гнязда свайго не выправіш юдолю,
не выплывем у цёплы дзень з зімы...
Бог выпусціў калісьці нас на волю —
як бесталкова разбрыліся мы!
Калдобістая нас трасе дарога,
і вочы засцяць злосць, туман і дым.
А выйсце ёсць — паразуменне з Богам
і запаветная сустрэча з Ім.

* * *

«Яшчэ на ручках палюляй!» —
даймаў ты, просячы няўтомна.
«Ах, мама! Ты не выдумляй —
нічога гэтага не помню.
Малюнкі ўсе дзіцячых спраў
далёка засталіся дзесьці...»
«Яшчэ ты з яблыкам гуляў
і не хацеў адразу з'есці.
А вось на гэты здымак глянь —
як ты хінешся да рабіны...»
«Ах, мама, можа, перастань —
ізноў адны ў цябе ўспаміны».
Адплыў ад колішніх часін
у акіян жыцця шматбальны.
Дарослы і бывалы сын
баіцца стаць сентыментальным.
І пазбягае цёплых слоў,
бы захацеў прымаразіцца...
Той час яшчэ не надышоў,
каб ад маленства праслязіцца.
А маці плача незнарок.
Не можа ўсё адвыкнуць толкам
ад часу, дзе яе сынок
такі падобны на анёлка.

* * *

З якой бы асалодай я пабег
лясной дарогай гучна-шматгалосай.
Аж хрубасцеў бы сакавіцкі снег —
такі ўжо цёплы! — пад нагою босай.
Ад радасці б раптоўна закрычаў,
зусім бы не задыхаўся ад бегу.
Я б нават ноччу гонка паімчаў
на хутар свой, што вынырнуў з-пад снегу.
Ад плённых дзён і распачатых спраў
з уцехай даўся б — верце ці не верце —
на хутар свой, дзе ветрык часта граў
на бітых шыбах, як на зычнай флейце.
Дзе ў вочы сонца пырснула з імглы,
дзе зведаў знакі дабрыні і жалю,
дзе ўсе даўно збуцвелыя вуглы
вялікую надзею калыхалі.
Дзе быў такі яшчэ іскрысты смех
і дзе душа была яшчэ ў парадку...
З якой бы асалодай я пабег
туды,
дзе можна ўсё пачаць спачатку.





ЯГОР КОНЕЎ

# АМЕРЫКАНСКАЯ АДЫСЕЯ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ

*Аповесць*

## 1778 год

За паўтара года, пражытыя ў Новым Свеце, Касцюшка спазнаў і жахлівае панікёрства падчас адступлення пад Нью-Йоркам, і горыч ад інтрыг нядобразычліўцаў у Філадэльфіі, і гонар будаўніка Дэлаварскіх умацаванняў і Цікандэрогі, і трыумф перамогі пад Саратогай. Зведаў і расчараванне ў Джэймсе Андрэ, якога лічыў сябрам, і здзіўленне ад учынкаў Марціна Эванса, які выдаваў усяго толькі на юнака, і пачуццё глыбокай пашаны перад аўтарытэтам Джорджа Вашынгтона.

Але самыя векапомныя падзеі яго «Амерыканскай Адысеі» адбыліся пасля Калядаў 1777-га...

Між тым нішто тады не паказвала на будучыя ўзрушэнні.

Перад Новым годам 12-тысячнае апалчэнне Паўночнай арміі разышлося па штатах.

У лагеры пад Саратогай засталося 5 тысяч жаўнераў.

Пад кіраўніцтвам Касцюшкі збудавалі хаціны — чатыры на пяць футаў з земляной падлогай, кожная — на тузін шарагоўцаў.

Завеі замялі снегам казармы, а ў лагер так і не прыехалі інтэнданцкія фуры з цёплым абмундзіраваннем і ботамі. Жаўнеры сноўдаліся ў лахманах і атопках. Насамрэч амуніцыі было ўдосталь на складах Філадэльфіі. Аднак галоўны інтэндант Кінг і яго партнёры прадалі вопратку і абутак брытанцам у Нью-Йорку, а спісалі на індзейцаў — маўляў, іракезы разрабавалі ваенны транспарт!..

Штодзённы лагерны рацыён складаўся з аўсянкі і міскі супу — смуроднага варыва, ад якога Тадэвуша ледзьве не ванітавала.

Кароткія зімовыя дні выдавалі бясконца доўгімі. Касцюшка прачынаўся на світанку ў падатлівым усім скразнякам доме, пацепваўся ад холаду, загадваў ардынарцу распаліць камін, піў каву, абыходзіў лагер, пазіраў, як сноўдаюцца туды-сюды, ахінуўшыся дзіравымі коўдрамі, жаўнеры, палуднаваў, наведваўся ў штаб — пабалакаць з афіцэрамі і ўзяць у бібліятэцы якую-небудзь новую кнігу, вячэраў, чы-

таў пры свечцы, а Марцін Эванс сядзеў побач і, крадком улюбёна пазіраючы на яго, цыраваў палкоўніцкі мундзір.

Напрыканцы студзеня ў лагеры пачаўся голад. Шарагоўцы елі сабак і здохлых коней.

Фуражыры вярталіся пустымі — фермеры ў наваколлі адмаўляліся прадаваць харч за долары, наракалі на інфляцыю і не ўтойвалі, што прадаюць прыпасы брытанцам, бо тыя плацяць золатам.

Камандуючы Арнальд загадаў рэквізоўваць харч, але фермеры хавалі яго так надзейна, што жаўнеры не маглі адшукаць і з сабакамі.

Саслабелыя ад голаду жаўнеры хварэлі. Не быў паратункам і шпіталь — штотыдзень там паміралі дзесяць, а то і дваццаць чалавек.

Дзясяткі заледзянелых трупаў ляжалі абапал сцяжыны ад штаба да галоўнай брамы. Сілы, каб дзёўбаць замёрзлую зямлю і хаваць памерлых, ні ў кога не было. Нябожчыкаў скарыстоўвалі замест лавак — сядзелі на іх каля вогнішча.

Генерал Арнальд, робячы абыходы лагера, неаднойчы чуў, як з хацінаў шарагоўцаў далятаці словы:

— Няма ежы, не будзе салдата!..

І жаўнеры пакрысе разбягаліся.

Абыходзячы па начах каравулы, Касцюшка часта натыкаўся на дэзерціраў, што сыходзілі з лагера ў снежную бель, якая выдавала блакітнай у марозным месячным святле. У парваных мундзірах, нацягнуўшы на вушы капелюшы і хаваючы рукі пад пахі, брылі небаракі, ледзь перастаўляючы абматаныя рыззём ногі, паволі знікалі ў сцюдзёнай маўклівасці.

Тадэвуш глядзеў ім услед і думаў, што не мае права крычаць на іх, спыняць і вяртаць. Куды іх вяртаць? На бессэнсоўныя пакуты, смерць ад холаду і голаду?

Да сярэдзіны лютага ў арміі засталося 1700 жаўнераў і афіцэраў.

Арнальд дасылаў роспачныя просьбы аб дапамозе правіянтам і вопраткай Вашынгтону, які зімаваў каля гарадка Вэлі-Фордж. Але становішча кантынентальнай арміі было не лепшым: ад голаду і сцюжы за два месяцы там сканалі дзве тысячы чалавек.

Вашынгтон перасылаў Арнальдавы рэляцыі ў Кангрэс, а там скаргам генерала не верылі — маўляў, перабольшвае, абы не ваяваць!

Старшыня Кангрэса Хэнкак прыслаў ліст — раіў не адседжвацца пад Саратогай, а ісці ў Канаду, далучаць яе да Злучаных Штатаў.

Калі Арнальд зачытаў гэты ліст на штабной нарадзе, Касцюшка параіў, усміхаючыся:

— Лёгка сачыняць такое пасланне, грэючы зад ля цёплага каміна. Прапаную запрасіць сюды містэра Хэнкака пагасціць. Наш суп і марозы з ходу астудзяць яго ваяўнічы запал...

Камандуючы прапусціў яго жарт міма вуха, сказаў, як у развазе:

— Я напішу ў Кангрэс, што Канадская выправа адбудзецца ўлетку. Але ці дажывём мы да лета?

Касцюшка ж нечакана прапанаваў:

— А чаму б, сэр, не звярнуцца непасрэдна да губернатараў? Напішыце губернатарам Нью-Хэмпшыра, Масачусетса і Канектыкута пра нашы беды. Шчыры расповед расчуліць нават каменнае сэрца...

Арнальду прапанова падалася занадта смелай, і ён спытаў у рапарце дазволу ў Вашынгтона.

Галоўнакамандуючы не толькі ўхваліў ідэю, але і сам напісаў лісты да губернатараў — папрасіў памагчы харчам і абуткам для жаўнераў.

І губернатары, у адрозненне ад пыхлівага Кангрэса, адгукнуліся — накіравалі караваны з правіянтам, амуніцыяй і прыпасамі.

З пачатку сакавіка цяжка гружаныя фуры штодня прыязджалі ў лагер пад Саратогай. Гандляры, вядома ж, сябе не пакрыўдзілі, прадавалі тавар па шалёных цэнах. Але Арнальд падпісваў вексэлі, не вагаўся — хай раскашэльваецца Кангрэс!.. Галоўнае, твары жаўнераў пачалі круглець ад сытнай ежы, і цяпер генералу было не сорамна прагуляцца па лагеры.

Акрыяўшы пасля голаду, жаўнеры зноў сталі наведвацца ў Саратогу, дзе штурмавалі карчму і... палявалі на жанчын.

Камандуючы склікаў нараду, каб абмеркаваць: як адвучыць жаўнераў ад распусты?

Палкоўнік Хэй раіў наогул не звяртаць увагі на такую драбязу.

Суровы палкоўнік Морган рэкамендаваў павесіць парачку гвалтаўнікоў і часцей ужываць бізун да парушальнікаў дысцыпліны.

А Касцюшка прапанаваў:

— Каб салдаты не нагульвалі каўбухоў і не думалі пра ўцехі, трэба, каб яны ўвесь час былі нечым занятыя. Напрыклад, шыхтовымі практыкаваннямі.

Арнальд засумняваўся:

— Вы ўпэўнены, Тэд, што нам патрэбна муштра?

— Мы — рэгулярная армія, — настойваў Касцюшка. — Хіба не сорамна, што нашы жаўнеры не ўмеюць трымаць шыхт?

Скончылася ўсё па прымаўцы: сам напрасіўся! Акурат Касцюшку камандуючы і даручыў шыхтавую падрыхтоўку арміі.

І цяпер з ранку да цемры на плацы ўзмакрэлы ад поту Тадэвуш вучыў няўклюдных жаўнераў перастройвацца і маршыраваць — зусім, як дзесяць гадоў таму самога муштравалі ў Варшаўскім кадэцкім корпусе. Шыхты блыталіся, калоны разладжваліся, жаўнеры натыкаліся адзін на аднаго.

Касцюшка бегаў сярод гэтай сумятні, крычаў і размахваў шпагай, указваючы, куды каму і як шыхтавацца. Трацячы ў запале душэўную раўнавагу, пачынаў асыпаць жаўнераў лаянкай — англійскай, французскай, нямецкай, польскай — а сяго-таго недарэку нават лупцаваў шпагай плазам па спіне: гэткім прасцяцкім чынам змушаў дбайна выконваць яго загады.

Арнальд, які часта назіраў за практыкаваннямі, заўважыў:

— Раней я лічыў сябе заўзятым брыдкасловам, Тэд. Аднак да вашай лаянкі, здаецца, мне далёка...

— Трэба дзяліцца ўсімі ведамі, што маю, — апраўдваўся Тадэвуш...

Спярша ён муштраваў узвод. Потым — роту. Затым ганяў па плацы батальён. Нарэшце — полк.

І муштра прынесла плён. Паўночная армія займела дысцыплінаваны выгляд, а ў жаўнераў не стала часу цягацца ў Саратогу...

У чэрвені ў лагер прыйшоў ліст ад галоўнакамандуючага.

Генерал Арнальд зачытаў яго на штабной нарадзе:

«Усемагутны Уладар Сусвету міласціва бараніць Злучаныя Штаты і дасылае нам у сябры французскага караля Людовіка Шаснацца-

тага. Нам належыць прысвяціць дзень, каб адсвяткаваць падзею, якой мы абавязаны зычліваму ўмяшанню нябеснай Дабрыні...»

Да загада прыкладаўся нумар «Пенсільванскай газеты», з якой сам Вашынгтон даведаўся пра ваенны саюз між Францыяй і Амерыкай.

— Цяпер жабнікі выйграюць за нас вайну! — узрадаваўся Арнальд і дадаў: — Арганізуем урачысты парад! Кіраваць ім будзе Касцюшка...

Назаўтра два палкі пастроіліся на плацы.

Шараговыя, сяржанты і афіцэры былі апрануты ў заношаныя і шмат разоў зацыраваныя мундзіры. Ніхто не мог пахваліцца і пристойнымі ботамі. Затое кожны прышпіліў да капелюша букецік палявых кветак!

Армейскі капелан агучыў газетнае паведамленне і прачытаў малітву. А як скончылася хвала Госпаду, над плацам загучалі Касцюшкавы каманды. Палкі разгарнуліся ў лініі, жаўнеры ўскінулі да плячэй вінтоўкі — і загрукаталі залпы плутонгаў, водбліскі стрэлаў пабеглі па шыхтах. Дваццаць разоў грымнулі гарматы. А пасля зайграў ваенны аркестр. Жаўнеры перастроіліся ў шыхты і зладжана прамаршыравалі перад камандуючым. А той вітаў іх:

— Віват каралю Францыі!

Касцюшка пазіраў, як бадзёра адбіваюць крок батальёны, і шкадаваў — які жаль, што яго зараз не бачыць Людвіка!

Як ёй там жывецца на Бацькаўшчыне? Ці ўзгадвае пра яго?..

Пасля завяршэння парада жаўнераў распусцілі па казармах, дзе кожнаму выдалі па чарцы рому. Афіцэраў жа камандуючы запрасіў да сябе. Святочная вячэра задоўжылася за поўнач.

Касцюшка піў кіслае віно, потым ром, потым вогненную «саламандру». Час-почас глядзеў на пячатку сыгнета, на выяву срэбнага арла ў чырвоным полі, думаў:

«Людвіка далёка... Затое ты побач... Яе падарунак...»

* * *

А ў Філадэльфіі тым часам камандуючы брытанскімі войскамі ў Амерыцы Хоў, якога урад Яго Вялікасці адправіў у адстаўку, перадаў паўнамоцтвы генералу Клінтану.

— Я стаміўся ад гэтай вайны, — паскардзіўся Хоў. — Але яшчэ больш стаміўся ад сваёй каханкі Бэтсі Лорынг. Агонь, а не жанчына!.. — і з палёгкай уздыхнуў: — Нарэшце адпачну ад іх!..

Ледзь зніклі за небасхілам ветразі фрэгата, які павёз Хоў у Брытанію, як камандуючы Клінтан прыняў рашэнне, якое кінула ў роспач філадэльфійскіх лаялістаў — яго армія вяртаецца ў Нью-Йорк. Ён атрымаў данясенне разведкі — з Тулона адчаліла эскадра адмірала д'Эстэнга, якая мелася заблакаваць эстуарый Дэлавара. А з захаду горад збіралася ўзяць у аблогу армія Вашынгтона. Каб вырвацца з філадэльфійскай пасткі, належала уцякаць — ды як мага шпарчэй!

18 чэрвеня брытанскі флот адплыў з Філадэльфіі. 10-тысячны кавалерыйскі корпус, якому не хапіла месца на караблях, Клінтан асабіста павёў праз Нью-Джэрсі да Нью-Йорка.

Назаўтра ў горад ўрачыстым маршам увайшла армія Вашынгтона. Яе горача вітала насельніцтва. Мноства самавітых гараджан, якіх

раней ніхто не западозрыў бы ў палымяным патрыятызме, паціскалі рукі жаўнерам і плакалі ад шчасця.

Неймаверна задаволены тым, што адваяваў сталіцу Злучаных Штатаў без адзінага стрэлу, Вашынгтон захацеў замацаваць поспех — дагнаць і разграміць корпус Клінтана.

14-тысячная амерыканская армія дагнала брытанцаў у лесе непадалёк ад гарадка Монмус-Корт-Хаўз. Авангард на чале з маркізам Лафаетам ударыў па англійскім ар'ергардзе. Ды Клінтан не разгубіўся, разгарнуў сваіх коннікаў і кінуў у атаку. Дывізія Лафаета не вытрымала націску і пусцілася наўцёкі.

Вашынгтон, які ехаў на чале цэнтральнай калоны на белым кані, аслупянеў ад знаёмага да болю відовішча: натоўп сінемундзірных жаўнераў уцякаў ад чырвонамундзірных вершнікаў — а брытанцаў было значна менш!..

Галоўнакамандуючы пачаў брыдка лаяцца на падначаленых, ды ад'ютант Гамільтан ціха нагадаў яму:

— Усё сказанае вашай светласцю патрапіць у аналы гісторыі...

Вашынгтон цяжка ўздыхнуў: вось яна, адказнасць перад удзячнымі нашчадкамі! — і надалей аддаваў загады спакойным голасам.

Амерыканская пяхота выстраілася ў баявыя шыхты ўпоперак дарогі і частымі залпамі змусіла брытанцаў спыніцца.

Клінтан кідаў сваю кавалерыю то на левы, то на правы фланг, каб зайсці ў тыл Вашынгтону. Ды з левага коннікам перашкаджаў шчыльны гушчар, з правага — балота.

Нарэшце Клінтан загадаў сваім аддзелам адступіць.

Амерыканцы засталіся начаваць на пазіцыях, а раніцою ўбачылі — брытанцы сышлі ў Нью-Йорк.

Вашынгтон абвясціў перамогу: поле бітвы засталося за ім!

У гонар перамогі Кангрэс загадаў выбіць медаль.

Начальнік Ваеннага ўпраўлення Гейтс з той нагоды кпіў:

— Клінтан мае на медаль такое ж права, як і Стары Ліс...

Недадавалі Гарацыю Гейтсу добрага настрою і амерыканскія газеты, у якіх Вашынгтона ўзнагароджвалі эпітэтамі «Бацька Краіны» ці «Заснавальнік Амерыканскай Імперыі». Кіраўнік Упраўлення прыспешваў Канадскую выправу і, каб мець фарпост на поўначы, змусіў Кангрэс ухваліць яго прапанову — збудаваць фартэцыю на Гудзоне. Кангрэс асігнаваў на будаўніцтва паўмільёна долараў.

— У вас ёсць спецыялісты, здатныя ўзвесці сапраўдную крэпасць? — спыталі ў Гейтса на пасяджэнні.

— Паляк Касцюшка, — адказаў той. — Не ўсе яго погляды мне імпануюць, але ён бясспрэчна таленавіты фартыфікатар.

Галоўны інтэндант Кінг адстойваў іншую кандыдатуру:

— Я прапаную падпалкоўніка Радзіера! Ён выдатна зарэкамендаваў сабе пры ўфартыфікаванні Цікандэрогі.

— Але Цікандэрога капітулявала, — нагадаў генерал Патнам, які прысутнічаў на той нарадзе.

— Гэта віна Касцюшкі! Ён сапсаваў праект Радзіера! Касцюшку даўно пара гнаць у адстаўку!.. Я настойваю на Радзіеры!..

І Гейтс, і Патнам не рызыкавалі ўсчынаць з Кінгам зацятую спрэчку. Ад галоўнага інтэнданта залежала забеспячэнне арміі правіянтам,

зброяй, боепрыпасамі. Кінг мог спаслацца на фінансавыя цяжкасці — і абяскровіць войска.

Адзіны, каго пабойваўся Кінг, быў Джордж Вашынгтон.

Дык да галоўнакамандуючага і вырашыў апеляваць Гейтс.

— Мы прапануем падпалкоўніка Радзіера на пасаду галоўнага інжынера, — сказаў кіраўнік Ваеннага ўпраўлення задаволенаму Кінгу. — Але зацвердзіць прызначэнне павінен яго светласць...

Адначасова з афіцыйным запытам Гейтс даслаў Вашынгтону асабісты ліст: «Лічу, сэр, што ў Касцюшкі болей практыкі, чым у Радзіера, а манера зносін з людзьмі больш далікатная...»

Галоўнакамандуючы пагадзіўся — рэдкі выпадак! — з думкай даўняга нядобразычліўца і напісаў у Ваеннае ўпраўленне: «Паколькі падпалкоўнік Радзіер і палкоўнік Касцюшка наўрад ці здолеюць супрацоўнічаць, лічу мэтазгодным прызначыць галоўным інжынерам Тэда Касцюшку, які, як мне добра вядома, найлепей адпавядае характару і духу нашага народа...»

Аспрэчыць загад Кінг не адважыўся — толькі зубамі скрыгатнуў.

Тадэвуш і не падазраваў, што ў далёкай Філадэльфіі спрачаюцца за яго новую пасаду. Затое ўважліва назіраў за гэтай звадкай Джэймс Андрэ. Пад выглядам негацыянта маёр жыў у горадзе і сустракаўся са сваімі інфарматарамі ў Кангрэсе. Даведаўшыся аб прызначэнні Касцюшкі, ён заспяшаўся ў Нью-Йорк — да генерала Клінтана.

Брытанскага камандуючага маёр заспеў п'яным і ў благім настроі — урад Яго Вялікасці паведаміў, што не прышле ў Амерыку падмацаванняў. Цяпер, калі Францыя ўступіла ў вайну, англійскі флот ахоўваў узбярэжжа Шатландыі ды Ірландыі ад варожага дэсанта, а значная частка войска бараніла калоніі ў Вест-Індыі.

— Ды яшчэ і мяцежная фартэцыя паўстане ў нашым тыле! — вылаяўся Клінтан, выслухаўшы даклад маёра.

Між тым Андрэ не бачыў падстаў для смутку.

— Няхай будуюць, сэр! Калі скончаць, мы зоймем крэпасць без адзінага стрэлу. І тады возьмем пад кантроль паўночныя штаты.

— Хіба такое магчыма? — паглядзеў яму ў вочы Клінтан.

Раўнадушны позірк Андрэ надзейна ўтойваў яго думкі.

— Так. Калі ўзяць прыступам не фартэцыю, а яе камандзіра... Але пакуль рана. Пакуль лепш нанесці ўдар янкі з лесу...

— Што вы маеце на ўвазе? — спытаў Клінтан, наліваючы маёру ў кілішак свой любімы каньяк.

— Чырвонаскурых саюзнікаў. Плямёны гуронаў падтрымліваюць янкі. Затое плямёны іракезаў сімпатызуюць нам. Каб вывесці іх на сцяжыну вайны, трэба сказаць ім праўду. А праўда заключаецца ў тым, што, калі янкі пераможуць, дык засадзяць іх зямлю тытунём, а саміх індзейцаў вынішчаць.

— Сумняваюся, што янкі калісьці здзейсняць такое дзікунства, — сказаў Клінтан. — Але не сумняваюся, Джэймс, што вы — лепшы разведчык імперыі...

Ён паслаў Андрэ разам з палкоўнікам Батлерам, знаўцам індзейскіх звычаяў, на перамовы з іракезамі...

4 ліпеня на берагах Гудзона зазелянелі ніцыя вербы — у паветры нібы завіснуў зялёны дождж. У той дзень іракезы па-свойму адсвяткавалі другую гадавіну Дня незалежнасці — выйшлі з лесу і ў штатах

Нью-Йорк і Пенсільванія пачалі выпальваць ферму за фермай. Звязаных мужчын кідалі ў вогнішча і ўтрымлівалі там віламі, згвалтаваным жанчынам адразалі галовы, з дзяцей здымалі скальпы.

Андрэ і Батлер прасілі правадыроў іракезаў пазбягаць залішняй жорсткасці. Ды на іх джэнтльменскія пажаданні не зважалі — падняты тамагаўк вайны не ведаў літасці.

Вашынгтон кінуў супраць чырванаскурых корпус генерала Салівана. Амерыканскія жаўнеры руйнавалі індзейскія селішчы і нішчылі пасевы, выракаючы іракезаў на голад узімку.

У гэтай аперацыі галоўнакамандуючы задзейнічаў і Паўночную армію — Арнальд мусіў авалодаць фортам Ніягара: адсюль іракезаў забяспечвалі кулямі, порахам і віскі.

Генерал Арнальд склікаў ваенны савет, зачытаў загад Вашынгтона і паставіў баявую задачу:

— Я застаюся на чале аднаго палка ахоўваць лагер. Джон Хэй павядзе свой полк да Ніягары. Тэд Касцюшка будзе камандаваць авангардам. Нашы саюзнікі, гуроны, дадуць праваднікоў. Вам належыць, джэнтльмены, тыдзень брысці па мясцовасці, дзе жывуць толькі мядзведзі, індзейцы і грымучыя змеі...

Пакідаючы нараду, Касцюшка зірнуў на свой сыгнет, у думках спытаў у выявы срэбнага арла: «Паглядзім на Ніягару? Кажуць, гэты вадаспад памерам з цэлы горад...»

Арол распасціраў крылы ў чырвоным полі. Пэўна, і яму хацелася паглядзець на Ніягару!

* * *

У ноч напярэдадні выправы Касцюшка нечакана сасніў Людвіку.

У сне ўзгадаўся той ліпеньскі вечар 1775-га, калі паехаў на баль у палац князя Любамірскага. Паехаў не адзін — суправаджаў пані Сасноўскую і яе пекных пляменніц.

Напярэдадні Людвіка сказала яму, хатняму настаўніку малявання:

— Цётухна паклапацілася, са мной будзе танцаваць яго вялікасць...

— І кароль прыедзе? — здзівіўся Тадэвуш.

— Пасля танца ён падвядзе мяне да цётачкі, — працягвала знаёміць яго са сваім планам Людвіка. — Скажа ёй і Кацярыне парачку кампліментаў. А ты будзь напагатове. Я прадстаўлю цябе яго вялікасці. Ты адрэкамендуешся і папросіш афіцэрскую намінацыю...

— Дык няма ж у войску вакансій, — запярэчыў Касцюшка. — Мне казаў ягамосць князь Чартарыйскі...

— Калі кароль пажадае — знойдзецца! — не сумнявалася Людвіка. — Галоўнае, Тадэ, стварыць прыемнае ўражанне... Я ведаю — ты станеш славутым генералам. Мо заўтра і пачнецца твая кар'ера?

Яе план не на жарт усхваляваў Касцюшку. А раптам?.. Хіба не можа здарыцца цуд?.. Хіба каралеўскае слова нічога не вартае?..

Палову дня ён чысціў мундзір і боты і рэпеціраваў прамову, з якой звернецца да караля, — непрацяглую і эфектную. А праз месяц-другі, верагодна, найвышэйшым загадам яму даручаць камандаванне ротай, а мо і батальёнам, а мо і палком. І калі раптам, не дай Божа, здарыцца вайна, полк будзе граміць ворага. Слава пра адчай-

нага палкоўніка Касцюшку разляціцца па краіне. Кароль узнагародзіць Тадэвуша ордэнам Белага арла, даручыць камандаванне брыгадай, а мо і дывізіяй, а мо і корпусам... Слодыч такіх мараў кружыў галаву!

На баль паехаў Тадэвуш, як на бітву. І, седзячы побач з паненкамі ў карэце, думаў: калі кароль адмовіць, здарыцца самае страшнае, што можна толькі ўявіць, — і ён не перажыве ганьбы!

А ўсхваляваныя паненкі бясконца перапытвалі яго — ці прыгожа яны выглядаюць? Людвіка была ў блакітнай сукенкі, Кацярына — у ружовай. Збірацца на баль пачалі на світанку, а цяпер шамацелі шоўкавымі рабронамі, папраўлялі дэкальтэ і высока ўзбітыя над галавой буклі — і наракалі, што не хапіла колькі гадзін, каб падрыхтавацца належным чынам. Пані Сасноўская — у белай сукенцы з даўгім шлейфам — пазірала на іх са стомленай усмешкай, час-почас дакраналася пальцам да сваіх дыяментавых завушніц.

У палац князя Любамірскага з’ехаліся не толькі каралеўская світа і дыпламатычны корпус у поўным складзе, не толькі вышэйшая арыстакратыя Варшавы, але і шмат шляхты, якую ніхто не запрашаў. Таму давялося праседзець у карэце пару гадзін, перш чым спыніліся перад ганкам, павіталіся з гаспадарамі і прайшлі ў расчыненыя дзверы вестыбюля. Яшчэ пару гадзін чакалі, пакуль Людвіка была запрошана на англез яго вялікасцю. (Папраўдзе, паклапацілася пра гэта не пані Сасноўская, а яе каханак, каралеўскі сакратар Антоні Касакоўскі.)

Тадэвуш чакаў рашучага моманту, паўтараў пра сябе прамову, бракаваў недастаткова, на яго погляд, энергічныя словы і падбіраў новыя — і засяроджана разглядаў раскошную залу, шыкоўна апранутых гасцей. Позірк затрымліваўся то на чырвоных сурдутах і белых парыках лакеяў, то на адкрытых жаночых плячах і веерах з пер’ем, то на рознакаляровых мужчынскіх фраках і гальштуках да паловы падбародка. На бліскучай паркетнай падлозе слізгацелі атласныя і аксамітныя туфлі, генеральскія боты.

Глядзеў Тадэвуш, як змяіцца ў танцы па зале чарада гасцей, — а ў думках бачыў сябе: як імчыць на кані ў атаку, выкінуў наперад руку са шпагай, а за ім ляцяць вершнікі, з крыкам бягуць пехацінцы...

Так задумаўся, што і не прыкмеціў, як наблізіліся кароль і Людвіка. З-за спіны Станіслава Аўгуста выглядваў сакратар Касакоўскі. Увага многіх прысутных сканцэнтравалася на Тадэвушу — і кожны позірк, як падалося яму, працінаў, нібы куля.

— Дазвольце прадставіць вашай вялікасці Тадэвуша Банавентуру Касцюшку, — мілагучна прамовіла Людвіка.

«Як яна стараецца! — падумаў Тадэвуш. — Яна кахае мяне...»

Позірк блакітных вачэй караля затрымаўся на ім.

Сакратар Касакоўскі ціха, але выразна нагадаў яго вялікасці:

— Крэатура Чартарыйскага. У Рыцарскай школе меў мянушку «Швед». За кошт каралеўскай стыпендыі быў накіраваны ў Парыж вучыцца на жывапісца...

Абураны Касцюшка забыў сваю прамову, якую столькі сачыняў, знянацку ўзгадаў даўнюю крыўду, ускрычаў:

— Мне так і не заплацілі стыпендыю! Я вучыўся за кошт князя...

І спалохана змоўк. Чартарыйскі быў заўзятым ворагам караля.

Каралеўскі позірк слізгануў убок ад яго. Станіслаў Аўгуст вымавіў:

— Але маляваць вы навучыліся, дарагі швед. І, як мне сказалі, неблага. Зарабляеце на жыццё. Дык на што ж вам скардзіцца?

— Я вывучыўся на ваеннага інжынера, ваша вялікасць, — заспяшаўся Тадэвуш. — Я мог бы шмат карысці прынесці... Хачу служыць Айчыне... У войску... У Кароне або ў Княстве...

— На жаль, намінацый няма. Але звярніцеся ў Ваенную камісію...

І кароль адступіў на крок, падаючы такім чынам знак, што размова скончана. Станіслаў Аўгуст з усмешкай звярнуўся да Кацярыны:

— Гляджу, малодшая дачка майго адданага паплечніка, гетмана Сасноўскага, у прыгажосці не саступае старэйшай сястры. Ці ўмее паненка танцаваць менуэт?

Паружавелая ад шчасця Кацярына ўчапілася ў працягнутую руку яго вялікасці.

На Касцюшку ўжо ніхто не зважаў. Самае страшнае, што магло здарыцца, адбылося — але ён перажыў, толькі галава жудасна балела.

Побач ціха прагучаў выратавальны голас Людвікі:

— Сёння мы прайгралі... Не страшна, выйграем заўтра. Я ведаю — ты будзеш славутым ваяром...

Тадэвуш у гэтым далёка не быў упэўнены. Але з каханай пагадзіўся:

— Так, пацярпець паразу — не так і страшна...

Прачнуўшыся на світанку, Касцюшка выцер слёзы. Пра што хацела папярэдзіць яго Людвіка? Навошта ўзгадала пра сябе?

Благое прадчуванне з'явілася ў палкоўніка. Ён можа і не ўбачыць Ніягары! Выправа можа скончыцца паразай!

«Не страшна, — супакойваў сябе Касцюшка. — Пацярплю паразу сёння, заўтра атрымаю перамогу...»

* * *

Авангард, якім камандаваў Касцюшка, складалі тры роты. Яны літаральна прадзіраліся праз гушчар, сякерамі расчышчалі дарогу для павозак і гармат. Полк прасоўваўся марудна — штодня не больш, чым на дзесяць-дванаццаць міль.

Вядома, іракезы загадзя папярэдзілі брытанскіх саюзнікаў пра такіх гасцей. Той парою палкоўнік Батлер і маёр Андрэ якраз кватаравалі ў форце Ніягара. Андрэ і параіў каменданту форта:

— Не чакайце, пакуль вас возьмуць у аблогу. Сустрэньце янкі на падыходзе. У аблозе янкі ўпартыя, а вось на маршы ваякі з іх аніякія...

Тадэвуша суправаджалі галандзец Ван Браан, які адмыслова ведаў мову гуронаў, праваднік — стары індзеец, які часта прыкладваўся да бутэлькі рому, і дзесятак індзейцаў-разведчыкаў. Яны рассыпаліся на добрую мілю абапал палка і папярэджвалі пра ўсё, што бачылі.

Касцюшку трывожылі іхнія звесткі аб тым, што ў лесе сноўдаюць іракезы. Прадчуваў небяспеку. Але як яе прадухіліць?

На чацвёрты дзень паходу ён пачуў гул вадаспада.

— Няўжо мы так блізка ад вады? — спытаўся ў Ван Браана.

— Ніягару здалёк чуваць, але ісці да яе яшчэ тры дні, — адказаў галандзец, глыбакадумна пускаючы дым з люлькі.

Назаўтра, калі полк быў на маршы, гуроны-разведчыкі данеслі, што бачылі наперадзе, за дзве мілі, засаду — сотня брытанскіх стралкоў і паўтысячы іракезаў.

— Атакуем! — загадаў Хэй, пастроіў жаўнераў у калону і пад бой барабанаў павёў іх, як на парад.

Праваднік штосьці буркнуў — і гуроны падаліся ў лес.

— Ён сказаў: брытанцы ваююць, як баязліўцы, а янкі — як дурні, — пераклаў Ван Браан ды падаўся ўслед за гуронамі.

«Пацукі ўцякаюць з карабля!» — тужліва падумаў Касцюшка.

А куды яму ўцякаць?..

Апоўдні наблізіліся да рачулкі з пясчанымі берагамі.

Джон Хэй спытаў у Касцюшкі:

— Дзе ж засада, якой нас палохалі?..

Не паспеў дагаварыць, як грымнуў залп з-за прыбярэжных дрэў. Дзесятак жаўнераў галаўной калоны ўслалі бераг. Дзесяткі два параненых крыкамі агалошвалі лес.

Грымнуў новы залп — скасіў яшчэ шыхт.

Сотні куляў джалілі паветра вакол Касцюшкі. Адна збіла яму капялюш. Тадэвуш адчуў, як уздыбіліся валасы на галаве.

Ашаломленая калона кінулася наўцёкі. Праз хвіліну вакол Касцюшкі не засталося ніводнага жаўнера. Стаяў побач толькі ардынарац Эванс, дый той ліхаманкава калаціўся ад страху.

І раптам з-за дрэў выйшаў Джэймс Андрэ, спыніўся ля вады. Ад Касцюшкі яго аддзялялі некалькі ярдаў плыткай рачулкі.

— Зноў лёс звёў нас, Тэд! — засмяяўся маёр. — Ці памятаеце маю прапанову? Мо перадумалі? Дык ці згодны паслужыць Яго Вялікасці? Падпішаце кантракт на дзесяць тысяч фунтаў?!..

Касцюшка падняў прастрэлены капялюш, атрос, насунуў на галаву, паклаў руку на эфес шпагі, крыкнуў:

— Мой адказ па-ранейшаму адмоўны, Джэймс! А зараз, з вашага дазволу, я вас пакіну! — і загадаў ардынарцу: — За мной, Марцін! Бог апякуе героям, але дурняў не любіць! — і пабег па сцяжыне, над якой уздымаўся пыл ад жаўнерскіх ботаў.

Марцін Эванс не адставаў ад любімага камандзіра.

Андрэ наўздагон крыкнуў:

— Да сустрэчы, Тэд!..

З лесу выбягалі іракезы, пераходзілі цераз рачулку, здымалі скальпы з забітых і цяжкапараненых.

А Касцюшка з ардынарцам дамчаліся да абоза, дзе Хэй, бэсцячы і хвошчучы жаўнераў палкай, змусіў полк пастроіцца ў калону.

— Паверыць не магу! Нас разбілі! — сказаў ён Тадэвушу і вылаяўся.

— Ініцыятыва перайшла да ростбіфаў, Джон, — канстатаваў Касцюшка. — Мо вернемся ў Саратогу?..

Ды Хэй думаў пра рэванш!

— Мы вернем ініцыятыву! Замацуемся, пераначуем і — у наступ!..

Тадэвуш не спрачаўся — усё ж Хэй камандуе выправай!

Гарматы і абоз з правіянтам павярнулі назад.

Адзіным прыдатным месцам для лагера аказаўся вялікі луг за пяць міляў ад ракі. Касцюшку, аднак, непакоілі парослыя сасняком ўзвышшы, якія ўздымаліся з поўдня і ўсходу.

— Адтуль нас будуць падстрэльваць, бы курапатак, — падзяліўся ён благімі прадчуваннямі з ардынарцам. — Маліся, Марцін, каб зноў убачыць Філадэльфію.

— Хачу пабачыць тату, — агучыў запаветную мару Эванс-малодшы. — Як думаеце, даруе ён мне ўцёкі з дому?..

Пад Касцюшкавым кіраўніцтвам жаўнеры ачысцілі луг ад хмызоў, паставілі намёты, узвялі палісад, выкапалі перад ім роў.

Ноч прайшла спакойна, а ўранку з лесу паказаліся брытанцы — пад бой барабанаў шыхтамі рушылі да палісада. Ззаду пляліся індзейцы.

Пехацінцы Хэя павіталіся з імі залпавым агнём. Брытанцы адступілі, пакінуўшы на лузе дзесятак забітых і параненых. Іракезы паздымалі скальпы і з іх — не мае значэння, што саюзнікі!

Апоўдні іракезы і брытанцы занялі прылеглыя ўзвышшы і павялі адтуль агонь з ружжаў і мушкетаў. Амерыканцы ў адказ цэліліся ў парахавыя дымкі, якія віліся сярод хвояў.

Праз колькі гадзін лінуў дождж, роў перад палісадам напоўніўся вадой. Стрэлы загучалі радзей — у стралкоў падмок порах.

Ды скончыўся лівень, з-за воблакаў выкацілася сонца, закуродыміў луг. Падсох порах, затрашчалі ружжы, пацягнуўся ў нябесны блакіт парахавы дым, часцей падалі на мокрую траву забітыя і параненыя.

Касцюшка трымаўся бліжэй да палісада і маліўся, каб чарговая куля аказалася не ягонай.

Дастаў з-пад кашулі медальён, намаляваны тры гады таму ў Варшаве, расчыніў палавінкі, паглядзеў на партрэт Людвікі. Ён заўсёды будзе кахаць яе — прыгожую, чароўную ў сваёй абаяльнасці! Яна бачыла яго ў прарочым сне — у сялянскай світцы, на кані, камандуючым буйной арміі. Значыць, ён загіне не сёння, бо пакуль — не ў світцы, і не камандуючы!..

Тадэвуш прыслухаўся — і скрозь страляніну ўлавіў далёкі шум велічнага вадаспада. Падумалася: Ніягара — як тое шчасце, да якога ідзеш праз жыццё, ды так і не ўбачыш. Не ўбачыў ён Ніягары... І колькі яшчэ ў свеце прыгожых куточкаў, якіх ніколі не ўбачыць! Але ці варта шкадаваць? Хіба ён мае ўладу над сваім лёсам? Лепш падзякаваць Усявышняму за тое, што з неспазнанай ласкі Сваёй дапамог яму патрапіць у Новы Свет!..

Касцюшкавы думкі перапыніла куля, што чвякнулася, узбіўшы пырскі, у лужыну ля яго бота...

У прыцемках абстрэл спыніўся. Абаронцы форта страцілі забітымі трыццаць чалавек і ўдвая болей паранеными.

Хэй, з пачарнелымі ад пораху вусамі, прыйшоў параіцца:

— Порах скончыўся. Застаецца адно — ударыць у штыкавую!

— І загінуць, — лагічна падсумаваў Касцюшка. — У нас нязручная пазіцыя: сотню нашых пакладуць, ледзь высунемся з-за палісаду. І як атакаваць ворага, які хаваецца ў лесе? Лепш адступіць. На золку, калі іх вартавыя пазасынаюць…

Хэй падумаў і пагадзіўся з сябрам, склікаў афіцэраў і сяржантаў ды склаў план адступлення, прызначыў дыспазіцыю кожнай роты, ўзвода і аддзялення ў калоне.

Унутры форта выкапалі яму, пахавалі забітых. Капелан прачытаў над брацкай магілай малітву.

Касцюшка і Хэй чакалі світанку ля вогнішча і, каб не заснуць, завялі гутарку пра філасофію.

Хэй засведчыў сябе прыхільнікам класічнай філасофіі Элады.

— У бацькавай бібліятэцы былі трактаты Фалеса Мілецкага і Анаксімандра. Я чытаў таксама Анаксакора і Геракліта. Марыў вывучаць філасофію. Мажліва, калі б бацька саступіў, не змушаў займацца гаспадаркай, а выправіў на вучобу ў Еўропу, як я прасіў, мы б не пасварыліся, і я не ўцёк бы з дому...

Касцюшка ж распавёў яму, што арыгінальную філасофію мелі не толькі эліны, але і персы, індусы, кітайцы.

— Толькі іх турбавалі розныя праблемы. Элінаў цікавіла, як утвораны Сусвет, якое месца ў ім займаюць прырода і чалавек... А персаў — што такое дабро і зло, іх узаемапранікненне... Індусы з дзяцінства думалі пра смерць, імкнуліся душу ўратаваць, пераўвасобіцца ў новым жыцці ў чалавечае цела... А кітайцаў цікавіла, як уладкаваць гэты вар'яцкі свет. Канфуцый меркаваў, што ўладароў можна навучыць мудра кіраваць. А Лао-цзы раіў махнуць рукой на ўсе законы, сысці ў горы і жыць адпаведна законам прыроды. Я думаю, рацыю меў Канфуцый...

— А навошта вам думаць пра старажытную філасофію тут, на вайне? — здзівіўся Хэй.

— Для мяне філасофія — як аблокі, што плывуць над намі, — ускінуў Тадэвуш галаву да хмарнага неба. — Аблокі лучацца з зямлёй дажджамі. Зямля — мы, а дождж — філасофская думка. Параўноўваючы розныя вучэнні, я спрабую зразумець Боскую мудрасць. Мы ўсе знаходзімся на аднолькавай адлегласці ад Бога, але на рознай — да Бога. Я думаю, праз веды, праз нястомную працу душы і розуму мы можам хоць крыху наблізіцца да спазнання Ягонай Мудрасці...

— Баюся, вы памыляецеся, Тэд, — пакруціў галавой Хэй. — Боская мудрасць не зводзіцца да сумы ведаў. Ёю нельга авалодаць, як сваёй набыткам. Свет нашай думкі абмежаваны, а Ягонай — бязмежны. Калі б звычайная птушка раптам займела чалавечы розум — яна ўпала б на дол непрытомная. Гэтаксама і мы не вытрываем ад усёй велічы Боскай.

— Затое дзякуючы філасофіі мы можам выйсці за небакрай сваіх магчымасцей, — бараніўся Касцюшка. — І куды прыемней думаць пра старажытных філосафаў, чым пра нейкага ростбіфа, які зараз, можа, цэліцца ў нас...

На золку белым попелам пакрылася вогнішча.

Чутно было, як у лесе дзяўбе дрэва дзяцел.

Палкоўнікі падняліся, пайшлі будзіць падначаленых.

Праз дзве гадзіны, у ранішнім тумане, калона пакінула ўмацаванне. Абоз і гарматы кінулі, каб не абцяжарваць рух.

Чуйныя вартавыя іракезаў заўважылі сыход калоны і папярэдзілі брытанцаў.

Андрэ раіў камандзіру атрада праследаваць янкі, але той адмахнуўся ад парадаў маёра. Па-першае, хацелася паспаць, а па-другое, досыць яму і адной перамогі над бунтаўшчыкамі!

Калі развіднела, брытанцы зайшлі за палісад, патапталіся на магіле, разбурылі палісад і з трафеямі вярнуліся ў форт.

Іракезы ж яшчэ колькі міляў праследавалі калону, пастрэльвалі з-за дрэў і хмызоў у спіну жаўнерам ар'ергарда.

Амерыканцы ўздрыгвалі ад ваяўнічых крыкаў, якія далятаалі з гушчару, шчыльней гуртаваліся і прыспешвалі крок, хоць ад стомы ногі не слухаліся, не прасілі прывалу, хоць плечы ўгіналі насілкі з параненымі, зброя, торбы з амуніцыяй...

Да Саратогі дабрылі за два дні.

Уся армія на чале з камандуючым Арнальдам памалілася за спачын душы загінуўшых у экспедыцыі. Страты ў Ніягарскай выправе склалі восемдзесят забітых і столькі ж параненых.

Няўдалы паход і страх перад іракезамі, якія лютавалі дзесьці паблізу, не спрыялі ўмацаванню дысцыпліны — на працягу месяца колькасць дэзерціраў пераваліла за трыста. У лагеры засталося каля 1 200 шарагоўцаў і сяржантаў ды 200 афіцэраў.

Арнальд папрасіў у Вашынгтона падмацунку, зазначыўшы ў рэляцыі, быццам нанёс паразу брытанцам і стрымаў наступ індзейцаў.

Ды замест новых аддзелаў галоўнакамандуючы прыслаў распараджэнне — Паўночную армію перафарміраваць у брыгаду!

Джордж Вашынгтон сам быў майстра складаць адпіскі для Кангрэса, у якіх паведамляў пра перамогу за перамогай. І калі прачытаў рэляцыю Арнальда, дык лёгка здагадаўся, што яго падманваюць. У тое лета славу амерыканскай зброі заплямілі не толькі няўдачная Ніягарская экспедыцыя, але і параза генерала Салівана — яго корпус разграмілі на канадскай мяжы. Дык паход Салівана галоўнакамандуючы ў данясенні Кангрэсу назваў разведвальным рэйдам, а няўдачу Арнальда замаскіраваў рэарганізацыяй...

Бенедыкта Арнальда ўразіла не толькі паніжэнне яго службовага статусу, але і другое распараджэнне Вашынгтона. Прачытаўшы яго, генерал выклікаў Касцюшку і паведаміў:

— Нам даручылі пабудаваць фартэцыю! Можаце паверыць, Тэд? І гэта не жарт! Вось подпіс яго светласці!

Тадэвуш усхвалявана прыклаў далонь да грудзей. Адчуў пад мундзірам і кашуляй медальён з партрэтам Людвікі Сасноўскай. Хіба не казала яна, што ён збудуе крэпасць?!

Генерал падышоў да развешаных па сценах мапаў, паўзіраўся.

— Вось тут, на узвышшы побач з гарадком Вест-Пойнт! — ткнуў ён пальцам у паперу.

— Вест-Пойнт? — паўтарыў Тадэвуш, пераклаў: — Усходняя Кропка? Пэўна, калісьці для пасяленцаў гэта была ўскраіна...

Ён угледзеўся ў мапу, ухваліў:

— З стратэгічнага пункту гледжання месца — выдатнае. Гудзон тут апісвае луку, абараніць фартэцыю з трох бакоў... Калі тут будзе крэпасць, брытанцы ўжо не змогуць пагражаць нам з поўначы. А мы займеем базу для ўварвання ў Канаду...

— Гэта ж непасільная задача! — ледзь не галасіў Арнальд. — Нам бракуе людзей, матэрыялу, рыштунку…

З далёкага лесу даляцеў індзейскі покліч — іракезы палохалі вартавых, нагадвалі пра сваю блізкасць.

Касцюшка пастукаў пальцам па мапе.

— Недалёка горы. Значыць, будзе цэгла. А вакол узвышша — лясы. Значыць, будзе дрэва для будаўніцтва... Лепей не думаць пра цяжкасці, сэр. Задача пастаўлена, і мы яе выканаем!..

І назаўтра з'ехаў на рэкагнасцыроўку ў суправаджэнні ардынарца ды ўзвода аховы, двух тузінаў кавалерыстаў.

У падарожжа Тадэвуш апрануў палатняныя штаны і кашулю, абуў высокія боты з аленевай скуры, замест капелюша павязаў на галаву хустку. Да пояса прымацаваў сякеру з кароткім тапарышчам і нож з шырокім лязом. На левае плячо накінуў ваўняную коўдру, на правае — карабін і ражок з кулямі. Ногі бараніў ад калючак чырвоны драп.

— У мундзіры вы куды прыгажэйшы, — зазначыў Марцін.

— Навошта красавацца перад індзейцамі? — запярэчыў Тадэвуш.— Я чуў, за падстрэленага афіцэра ростбіфы даюць іракезам бутэльку віскі і ражок пораху. А мая галава каштуе даражэй...

Па дарозе да Вест-Пойнта начавалі або ў заезных дамах — выстаўлялі вартавых і спалі на агульным ложку, круглым каркасе вакол слупа, галавой вонкі, або ў намётах у лесе.

31 жніўня атрад спыніўся недалёка ад гарадка Вест-Пойнт, на верасовым узвышшы. Шыракаплынны Гудзон агінаў пляскаты ўзгорак з усходу, на захадзе жаўцелі скалістыя горы, на поўдні і поўначы раскінуўся лес.

Пасля вячэры — аўсянка з саланінай і чарка рому — Касцюшка запоўз у свой намёт, захутаўся ў коўдру і заснуў.

І сніў Сяхновічы. Быццам на арліных крылах пераляцеў праз Атлантыку і апынуўся ля бацькоўскага дома — аднапавярховага, крытага дранкай, з невялічкім ганкам і прылеглым садком.

На ганку стаялі бацькі, сёстры Ганна і Кацярына, брат Юзаф. Ля ног у іх круціўся сабачка Зюзя — лепшы сябра Тадэ ў дзяцінстве. Родныя махалі рукамі, развіталіся з дзевяцігадовым Тадэ, а ён сядзеў на павозцы і азіраўся назад — да болю ў шыі. Зюзя бег за ім, падскокваў ля колаў, жаласліва гаўкаў, махаў хвастом. Тадэ ехаў у школу манаскага ордэна піяраў у мястэчка Любешаў на Піншчыне. Меркавалі бацькі, што старэйшы сын прыме манаскі сан.

Цяпер Тадэвуш ужо ведаў, што апошні раз бачыць сям'ю разам, што праз тры гады бацьку заб'юць невядомыя хціўцы. Багата зазнае Тадэ ў школцы лазы, будзе мець лепшыя сярод вучняў адзнакі па матэматыцы, лацінскай, французскай і нямецкай мовах. Але манахам не стане. У 1760-м вернецца ў Сяхновічы, будзе дапамагаць маці па гаспадарцы. Да тае пары, пакуль матуля не нагадае гетману Сасноўскаму пра колішняе сяброўства з яе мужам, папросіць скласці Тадэ пратэкцыю для паступлення ў Рыцарскую школу — Варшаўскі кадэцкі корпус...

Сніў Тадэвуш і снежаньскі дзень 1765-га, калі з'язджаў у Варшаву, а на ганак выйшлі праводзіць матуля, брат і сёстры. Цяпер ужо ведаў, што сёстры выйдуць замуж, пакінуць родны дом, матуля памрэ праз тры гады, а яго тая дарога прывядзе ў Новы Свет. Тадэ панура маўчаў і калыхаў нагамі. Родныя махалі, а пастарэлы Зюзя бег за калёсамі, круціў хвастом і гаўкаў — гучна-гучна...

Тое сабачае гаўканне і абудзіла Касцюшку. Яшчэ не прачнуўшыся, ён рэзка сеў і закрычаў:

— Цішэй! Цішэй!

— Штосьці здарылася, сэр? — зазірнуў у намёт ардынарац.

— Сон бачыў, — вінавата ўсміхнуўся Тадэвуш...

Марцін распаліў вогнішча і згатаваў сняданак.

Падсілкаваўшыся аўсянкай, Касцюшка ў задуменні піў каву. І раптам яго працяла думка — ажно зашмат сербануў і апёк губы.

— Гаўкаў сабака! Зюзя! Бы той воўк у Гедымінавым сне!..

— У якім сне? — перапытаў Марцін.

— Вялікі князь літоўскі Гедымін заснуў пасля ловаў і сасніў ваўка, які гучна выў, — узгадаў Касцюшка легенду. — Вяшчун Лідзейка патлумачыў сон — на тым месцы паўстане горад з гучнай славай. І Гедымін заснаваў Вільню...

— Складаныя ў вас назвы ды імёны... — адзначыў Эванс.

Касцюшка, бы недачуў, казаў сваё:

— І мой Зюза папярэджваў — тут паўстане магутная фартэцыя.

— Ну, калі гэта адзіны крытэрый! — развёў рукамі Марцін...

Назаўтра Касцюшка памчаў у Саратогу, пакінуўшы на ўзвышшы пікет — каравул з пяці жаўнераў.

На штабной нарадзе ён параіў Арнальду:

— Лічу неабходным як мага хутчэй перабазавацца пад Вест-Пойнт і да маразоў абсталяваць лагер.

Генерал на чале батальёна выправіўся аглядаць пазіцыю.

Яшчэ здалёк яны прыкмецілі зграю грыфаў, якія кружылі над узвышшам. Пад'ехалі бліжэй і ўбачылі аскальпаваныя трупы жаўнераў, пакінутых Касцюшкам у пікеце.

— Відаць, індзейцы знянацку іх атакавалі, — зняў капялюш і перажагнаўся Тадэвуш.

Арнальд саскочыў з каня, ступіў у рудую ад засохлай крыві траву — боты пакрыліся чырвоным налётам — і паморшчыўся:

— Першыя страты Вест-Пойнта.

— Дай Бог, каб апошнія... — выказаў спадзеў Тадэвуш.

Забітых пахавалі. Памаліліся за спачын іх душы.

Потым Арнальд агледзеў масцовасць, пахваліў палкоўніка:

— Маеце рацыю, Тэд. Тут хопіць месца і рэдутам, і бастыёнам...

Касцюшка запэўніў:

— Дэлаварскія ўмацаванні, Цікандэрога, Стэнвікс, Бенінгтан, Саратога — мае першыя спробы, чарнавікі. А Вест-Пойнт стане маім шэдэўрам, лепшым, што я збудую ў жыцці!

— Дык пачынайце, — загадаў генерал. — Бярыце пад сваё кіраўніцтва полк Хэя. Няхай яго малайцы абсталёўваюць лагер. Астатнія аддзелы перабазуюцца на працягу месяца...

* * *

Пакуль не абсталявалі лагер, Касцюшка кватараваў у Вест-Пойнце — у дамку ўдавы Элізабет Варэн.

— Майго мужа зарэзалі індзейцы, — распавяла яна кватаранту ў першы вечар знаёмства. — І цяпер яго душа спачывае ў раі, а я адчуваю сябе нікому не патрэбнай...

— І я адчуваў сябе нікому не патрэбным, — прызнаўся Тадэвуш, — пакуль не знайшоў сабе справу даспадобы — фартыфікацыю. Нельга паддавацца на сваёй роспачы, трэба шукаць, нястомна шукаць...

Першы тыдзень кватаравання завяршыўся для яго ў ложку гасціннай кабеты. На світанку ўдава выправадзіла Тадэвуша са спальні, зазначыўшы:

— Мы павінны быць асцярожнымі. Не хачу, каб мне пунсовую літару прышылі да спадніцы... І чаму твой ардынарац так дзіўна на мяне пазірае? Нібыта раўнуе...

Марцін Эванс нездарма раўнаваў свайго камандзіра. Касцюшка прылаўчыўся глухой начной парою пранікаць у спальню Варэн, пройдзе — масніца не рыпне, і вяртацца ў свой пакой да таго, як пеўні заспяваюць. Падаючы на сняданак аўсянку і каву, ардынарац з дакорам пазіраў на Тадэвуша, а той рабіў выгляд, нібыта не заўважае Марцінавай рэўнасці.

Хутка, аднак, Эванс супакоіўся — прыкмеціў, што камандзір не кахае кабету, а спаталяе цялесны голад. Адчула гэта і місіс Варэн і аднойчы наўпрост спытала:

— Ты ажэнішся са мной, Тэд?

Касцюшка не змог пакрывіць душой.

— Прабач, але бѐз кахання... Я ўдзячны табе... Характар у цябе не цукар, ты і ў ложку любіш камандаваць. Цяжка нам будзе ўжыцца...

— Пустое, я цябе таксама не кахаю, — прызналася Варэн. — Шчыра кажучы, я і мужа не кахала. Для шлюбу каханне зусім не абавязкова...

Тадэвуш пакруціў галавой.

— А я лічу: лепей аднаму, чым без кахання...

Удава ўсё ж перапытала:

— Гэта тваё апошняе слова?

Касцюшка апусціў галаву.

— Прабач.

— Ну, дык і застанешся да скону адзінокім! — злосна напрарочыла Элізабет Варэн. — Кахай свайго ардынарца! Ён, пэўна, з тых, каго жанчыны не цікавяць... Мо і ты такі ж?

Касцюшка палічыў ніжэй свайго гонару працягваць гэтую гаворку.

Назаўтра пераехаў у лагер і загадаў паставіць для сябе намёт.

* * *

У кастрычніку лагер пад Вест-Пойнтам канчаткова абсталявалі: тут размясцілі два батальёны, збудавалі склады для зброі, боепрыпасаў, правіянту і рыштунку.

У лістападзе Ваеннае ўпраўленне адклікала ў Філадэльфію Бенедыкта Арнальда. Гарацый Гейтс прызначыў яго на адказную пасаду ў казначэйстве. Генерал спадзяваўся, што Арнальд перашкодзіць індэнтанту Кінгу раскрадаць асігнаванні Кангрэса. У тую восень канфлікт паміж начальнікам Упраўлення і галоўным інтэндантам абвастрыўся. Гейтс намагаўся, каб прафінансавалі Канадскую экспедыцыю пад яго кіраўніцтвам, а Кінг значную частку бюджэтных датацый клаў у кішэню сабе і сваім апекунам у Кангрэсе — арміі даставаліся рэшткі. Гейтс верыў, што Арнальд, якому ён давяраў, нарэшце спыніць казнакрадства. Ён і думкі не дапускаў, што Арнальд паладзіць з Кінгам, і кампаньёны будуць сумесна рабаваць казну...

А пакуль, перадаючы камандаванне брыгадай Джону Хэю, Арнальд не здагадваўся, што на новай пасадзе ўзбагаціцца, перажываў, ныў:

— Я, ба́явы генерал, цяпер — тылавы пацук. Тут, на Поўначы, я быў героем нацыі. А кім буду ў адстаўцы?

І разнерваваўся: ажно разбалелася параненая двойчы нага, ды так, што з Вест-Пойнта не на кані мчаўся, а пакаціў у карэце.

На развітанне Касцюшка сказаў яму:

— Спадзяюся, сэр, вас чакае адказная пасада, і вы яшчэ прыедзеце сюды з інспекцыйнай праверкай. І мне будзе чым пахваліцца пры нашай наступнай сустрэчы...

* * *

Да пачатку зімы пад кіраўніцтвам Касцюшкі збудавалі казармы для жаўнераў і афіцэрскае жыллё, царкву і шпіталь, насыпалі абарончы вал, умацавалі схілы каменнем ды выкапалі роў з эскарпамі і контрэскарпамі. За валам выраслі валгангі, пляцоўкі для стралкоў і гармат, перад валам — гласіс, насып, які прыкрываў умацаванне ад абстрэлу звонку. Паставілі частакол над валам — і ўдарылі маразы.

Снег усцілаў зямлю, а на снег падала барвова-жоўтае засохлае лісце з дрэў. У зімовых прыцемках патанала наваколле ды раслі сумёты. Лёд глыбока скаваў Гудзон, рыбакі не маглі прабіцца да вады, каб налавіць рыбы на юшку.

Як і ў папярэднія гады, інтэнданты не завезлі ў лагер ні цёплага абмундзіравання, ні абутку. Дактары ў шпіталі часта ампутавалі жаўнерам абмарожаныя рукі ды ногі.

Адчуўся і недахоп харчу. Фермеры, як звычайна, не прадавалі правіянт фуражырам. З іх вуснаў шчодра сыпалася адмысловая лаянка, калі перад імі выкладвалі стосы доляраў. Навошта, маўляў, ім тыя паперкі, калі Кангрэс Злучаных Штатаў афіцыйна прызнаў: долар канчаткова абясцэніўся?!

У сярэдзіне снежня Джон Хэй пісаў галоўнакамандуючаму:

«Салдаты ядуць усе віды конскага корму, за выключэннем сена. Баюся, аднак, што, калі сітуацыя не палепшыцца, для салдат не застанецца ніякіх выключэнняў...»

Але Вашынгтон не мог здабыць харчу і для сваёй арміі, якая зімавала ў Вэлі-Форджы. Ён расфарміраваў 16 палкоў і адправіў у адстаўку звыш тысячы афіцэраў: не было чым карміць людзей!

Тады Хэй загадаў фуражырам затрымліваць любыя павозкі з правіянтам, якія сустрэнуць у наваколлі, і заварочваць іх у лагер. З уладальнікамі расплачваліся распіскамі ад імя Кангрэса. Акрамя таго, палявалі на дзічыну ў навакольных лясах. І хаця елі не дасыта, аднак жа і не галадалі.

І таму галоўны інжынер меў самыя аптымістычныя планы на будучы год. На Каляды, падчас афіцэрскага банкета, Тадэвуш падняў чару з паншам і прапанаваў тост:

— За нашу фартэцыю! Пакуль яна толькі ў маёй галаве. Але ў будучым годзе ўвасобіцца ў камені!

І выпіў да донца, бо верыў — надзеі здзейсняцца!..

* * *

А ў Філадэльфіі тым часам на баляванні Бенедыкт Арнальд пазнаёміўся з абаяльным камерсантам Джэймсам Андрэ.

— Вялікі гонар паціскаць руку герою Канадскай экспедыцыі і пераможцу пад Саратогай, — трос той Арнальдаву далонь.

— На жаль, не ўсе тут памятаюць пра мае сціплыя ўчынкі, — расквітнеў усмешкай генерал, які быў ужо на добрым падпітку.

— Так, сціпласць — благая спадарожніца заслугам, — спачувальна заківаў камерсант, круцячы гузік сваёй камізэлькі. — Між іншым, я чуў, да вайны вы гандлявалі тытунём і ромам...

— І меў добры прыбытак, — пацвердзіў Арнальд.

— Паколькі гаворка зайшла пра камерцыю, дык дазвольце пазнаёміць вас з маім сябрам, — падвёў Андрэ генерала да самавітага джэнтльмена, побач з якім сціпла трымаліся жонка і прыгожая дачка. — Містэр Шэпард. Гандлюе скурамі і соллю... Думаю, новая пасада ў казначэйстве абавязвае вас цікавіцца навінамі на біржы і рынках...

Арнальдаў паглядзеў на дачку містэра Шэпарда, васемнаццацігадовую Пэгі, — і яму расхацелася весці гаворку пра камерцыю. У галаве трыццацівасьмігадовага халасцяка закруцілася думка — прыспеў час і яму ажаніцца!

Дамовіўшыся з Арнальдам, што яшчэ прыедзе да яго з візітам, Джэймс Андрэ пакінуў баль у прыўзнятым настроі. Адной гутаркі хапіла яму, каб пераканацца — герой Амерыкі сам запрапануе паслугі ўраду Яго Вялікасці! Што з таго, што Бенедыкт Арнальд лічыць сябе патрыётам? Разумная жонка пераменіць яго погляды! Містэр Шэпард, сакрэтны агент Яго Вялікасці, выхаваў дачку ў любві да законнага манарха. Шэпард не адмовіць генералу, калі той папросіць рукі Пэгі. У казначэйстве Арнальд не затрымаецца. Грошай такому срэбралюбцу ніколі не будзе хапаць! Застанецца праштурхнуць Арнальда на пасаду каменданта Гудзонскай крэпасці, а там...

Шанц на поспех такой складанейшай камбінацыі быў мізэрны, але Андрэ верыў — надзеі здзейсняцца!..

## 1779 год

Зіма абдымала сцюжай, абдзімала ветрам лагер ля Вест-Пойнта, намятала снег па дахі дамоў.

Увечары ззяў пурпуровы захад, а ўначы блішчэлі сузор'і.

Касцюшка глядзеў на зоры і ўзгадваў бацькавы словы: за нябеснай заслонай — рай, і Боскае святло струменіцца скрозь дзіркі ў цемры.

Штодня Тадэвуш на чале штата памочнікаў складаў, перарабляў чарцяжы ўмацаванняў — і нецярпліва чакаў, калі вецер выдзьме сцюжу, калі пацяплее, калі ажыве будоўля.

Аднойчы ў лютым Касцюшка накінуў плашч на плечы, адчыніў дзверы, каб выйсці на вуліцу, а ў пакой з марозу ўляцеў брудна-шэры шчанюк, загаўкаў, закруціўся вакол яго ботаў.

— Ты хто такі? — спытаў Касцюшка. — Скуль узяўся?

У цёплую пару года па лагеры бадзялася нямала дварнякоў, але ўзімку жаўнеры паелі ўсіх сабак. А гэты цудам ўратаваўся!

Урэшце шчанюк супакоіўся, сеў, глядзеў чорнымі вачыма на Касцюшку, пакручваў хвастом.

Ну, хіба прагоніш такога назад на сцюжу, на згубу?!

— Марцін! — паклікаў Тадэвуш ардынарца.

Той выткнуўся з суседняга пакоя, зірнуў на шчанюка, спытаў:

— Хочаце, каб прыгатаваў яго на вячэру?

Касцюшка распарадзіўся інакш:

— Абвясці ўсім у лагеры, што гэта — мой сабака. І пакармі яго.

Ардынарац абурыўся.

— Самім есці няма чаго!.. Засталося, праўда, крыху саланіны... А як назавяце сабаку?

Касцюшка не вагаўся:

— Зюзя!.. У нас у Сяхновічах быў сабака Зюзя. Таксама аўчарка, — усміхнуўся. — Я любіў яго. Калі малы быў, дык на яго спіне катаўся...

— Дурное імя! — засмяяўся Эванс.

Касцюшка патлумачыў:

— Зюзем у нас на Літве называюць мароз, дух сцюжы.

Марцін зразумеў.

— Сумуеце па Бацькаўшчыне?

Тадэвуш прыклаў далонь да сэрца:

— Як падумаю, што магу не вярнуцца дадому — у грудзях пячэ... — Сказаў і выйшаў з дома.

Шчанюк цяўкнуў і пабег за ім.

З тае сцюдзёнае пары Касцюшка і Зюзя пасябравалі — куды чалавек, туды і сабака. Шпацыруе галоўны інжынер па крэпасці — Зюзя ззаду круціцца. Сядзіць Касцюшка ў пакоі, піша за сталом — Зюзя ў нагах уладкуецца, дрэмле.

Пэўна, Зюзя меркаваў, што гэта ён бароніць гаспадара: здаралася, сядзе ля парога і цяўкае на кожнага, хто зойдзе! А паколькі ўдзень да галоўнга інжынера памочнікі забягалі часта, дык сабачы брэх не змаўкаў. У ардынарца галава балела, а Касцюшка толькі ўсміхаўся. Прызвычаіўся Тадэвуш, прыкіпеў сэрцам да Зюзі — сабака быў напамінам пра Берасцейшчыну, Сяхновічы...

* * *

Зіма скончылася сакавіцкім капяжом. З поўдня дайшлі чуткі аб варожых поспехах: брытанцы захапілі порт Савану, узялі пад кантроль штаты Джорджыю і Паўднёвую Каралiну. Каб адбіць Савану, Вашынгтон накіраваў туды дывізію генерала Лінкальна — у яе складзе быў кавалерыйскі полк польскіх валанцёраў Казіміра Пуласкага. Ды брытанцы ўшчэнт разграмілі тую дывізію, Пуласкі загінуў на полі бою.

У гутарцы з Хэем Касцюшка з'едліва пракаментаваў:

— Сустракаў я гэтага Пуласкага ў Варшаве. Тыповы лях, недысцыплінаваны, пыхлівы! Палякам-каранежнікам абы гераічна загінуць! Паляк жыве гонарам, а не розумам... Бог літасцівы выбавіў мяне ад службы ў каронным войску!..

Напрыканцы сакавіка будаўніцтва аднавілася — знеслі частакол і выкапалі траншэю пад падмурак сцены.

Гонар пакласці першую цагліну даручылі галоўнаму інжынеру.

У той апошні сакавіцкі дзень гурмы хмар грувасціліся на небе. У вышыні з маркотным крумканнем кружыў крумкач.

Тадэвуша абступілі сотні будаўнікоў — абапіраліся на рыдлёўкі, трымалі ў руках кельмы, вёдры з растворам. Недалёка стаялі афіцэры

на чале з Джонам Хэем — з келіхамі шампанскага ў руках. Зюзя сядзеў побач з гаспадаром, аддана глядзеў на яго, задраўшы галаву.

Тадэвуш, у фартуху і пальчатках, падняў цагліну.

Па ёй рухаліся мурашы. Ён здзьмуў іх.

Позірк затрымаўся на пячатцы сыгнета — распасцёр крылле срэбны арол, узляцеў у чырвоным полі як ніколі дагэтуль высока.

— Наша фартэцыя будзе, як гэтая цагліна! — узняў Тадэвуш яе над галавой. — Нам — апора, ворагу — перашкода! Нам — на радасць, ворагу — на роспач!

— Віват! — закрычаў Джон Хэй.

— З Богам! — Касцюшка паклаў цагліну.

Ардынарац Марцін кінуў на яе кельмай раствору.

Зюзя радасна загаўкаў, падскокваў на спружыністых лапах.

Афіцэры нагбом асушылі шампанскае ды паразбівалі келіхі.

* * *

Напрыканцы вясны ў Вест-Пойнт прыслалі з Філадэльфіі падмацаванне — тры палкі, 2 220 жаўнераў. Джон Хэй задзейнічаў іх на будоўлі — і справа закіпела. Адзін полк падвозіў цэглу і рыхтаваў раствор, другі клаў сцены, трэці ахоўваў будоўлю ад індзейцаў.

На працягу лета па ўсім перыметры ўзвышша паўсталі каменныя сцены—курціны таўшчынёй на два футы і вышынёй на дзесяць, з шырокімі дазорнымі пляцоўкамі над брамай, байніцамі для ружжаў, амбразурамі для гармат. Унутры чатырохкутнай цытадэлі ўзвялі чырвонацагляныя казармы і казематы, куды перанеслі рыштунак, харч, зброю, запасы пораху, куляў і ядраў. Дабудавалі другі паверх да драўлянага каменданцкага дома: Хэй перасяліўся наверх, а на першым размясцілася канцылярыя. Пашырылі шпіталь, дадалі два крылы з новымі палатамі і аперацыйнымі пакоямі.

Касцюшка з ранку да вечара быў сярод будаўнікоў. На світанку падсілкоўваўся кавай, удзень палуднаваў булёнам з аднаго кацялка з жаўнерамі, вячэраў аўсянкай. Схуднеў і пачарнеў ад загару, аднак, кладучыся спаць, прыспешваў у думках надыход новага дня — каб бачыць, як вырастуць яшчэ на фут сцены яго крэпасці.

І таму адчуў сябе зусім ніякавата ў святочны дзень.

4 ліпеня гарнізон Вест-Пойнта адзначаў трэцюю гадавіну Дня Незалежнасці. Пасля ўрачыстай малітвы жаўнеры наладзілі баляванне на ўзлессі — распалілі вялізнае вогнішча, пілі ром, гарлапанілі песні, абдымаліся з маркітанткамі. Афіцэры ж выправіліся ў Бенінгтан — у тамтэйшы бардэль, дзе пілі віно і бавілі час у абдымках дарагіх (5 долараў за візіт) прастытутак. Джон Хэй запрашаў і Касцюшку, але той застаўся прыглядаць за каравульнымі.

— Разумею, — падміргнуў яму Хэй. — Мне гаварылі, што жанчыны вас не цікавяць. Ваша жонка — ваш ардынарац.

— Мана, Джон, — бараніў гонар Тадэвуш. — Жанчыны мне падабаюцца, але не хачу падчапіць французскі катар. Лепш без жанчын, чым з такімі жанчынамі.

— Верагоднасць злавіць хваробу — такая ж, як злавіць кулю. Мы — на вайне. Дык жывіце сённяшнім днём, Тэд...

— Я хачу жыць доўга, а не толькі сённяшнім днём. А што да схільнасцей майго ардынарца... Калі Бог стварыў яго такім, трэба і прымаць яго такім. Ён не вагаючыся аддасць жыццё за мяне. Але ён заўсёды будзе для мяне толькі ардынарцам.

— Мне ўсё роўна, Тэд, якія ў вас схільнасці, — прызнаўся Хэй. — Шчасце для мяне, што я наогул сустрэў такога чалавека, як вы... І хоць ваша сумленне бялейшае за снег, ваша рэпутацыя ўжо безнадзейна заплямлена. Вас заўсёды будуць лічыць..

— Не мае значэння, — адмахнуўся Касцюшка. — Супраць маны мы ўсе безабаронныя. Хто мяне паважае, ацэніць найперш мае заслугі. А хто не паважае, няхай пляткарыць!

— Я вас паважаю, — запэўніў Хэй. — І буду спаганяць з тых афіцэраў, якія вострацць язык аб вашу рэпутацыю...

Увечары, выгульваючы Зюзю, Тадэвуш выйшаў за браму. Непадалёку чарнела сцяна лесу. З узлесся далятаў рогат і спевы п'яных жаўнераў, жаночы віскат.

Касцюшка ўздыхнуў, узгадаў ночы ў абдымках Элізабет Варэн. Цяпер яна, вядома, і на парог яго не пусціць! Марцін неяк абмовіўся, што бойкая ўдава знайшла сабе мужа...

Нечакана Тадэвуш узгадаў Купалле, якое гэтай парою святкавалі на Берасцейшчыне. Узгадаў, як бегаў юнаком з вясковымі аднагодкамі ў лес, дапамагаў устанаўліваць шэст з пудзілам Мары, кружыў у карагодзе, бег за вогненным колам з гары і зайздросціў тым хлопцам, якія цалаваліся з дзяўчатамі ў лясным змроку. Для яго не знаходзілася пары, каб, узяўшыся за рукі, скакаць цераз агонь. І юны Тадэ марыў адшукаць у глухамані папараць-кветку, якая спраўдзіць яго жаданне, прывядзе да каханай...

«Папараць-кветкі ўжо не адшукаць, адзіноты не пазбыцца, — думаў Касцюшка. — Але ўсё роўна недзе далёка, у нетрах лясной цемры будзе квітнець чароўная кветка. Гэтаксама ў глухамані маёй адзіноты будзе квітнець спагада да людзей...»

* * *

Увосень у навакольных лясах вецер кружыў мяцеліцу з апалага лісця, горы хаваліся ў шэрых туманах.

Да канца лістапада ўзвялі заходні і паўночны бастыёны крэпасці, ды раптам будоўля спынілася: з Філадэльфіі не паступілі грошы, асігнаваныя Кангрэсам на выплату жалавання.

Хэй выправіў Касцюшку высветліць, куды падзеліся грошы.

Зюзя наважыўся бегчы за гаспадаром у далёкую дарогу. Касцюшка загадаў ардынарцу, каб узяў сабаку на вяроўку. Так і з'ехаў пад пакрыўджанае гаўканне сябра...

У Ваенным упраўленні палкоўніку паведамілі, што асігнаванні чамусьці затрымаліся ў казначэйстве. Адказным за затрымку аказаўся генерал-маёр Арнальд.

Касцюшка сустрэўся з былым камандзірам у яго двухпавярховым, з чарапічным дахам і шырокім ганкам доме. Лесвіцу да ганка ўпрыгожвалі масіўныя ліхтары.

Арнальд горача абняў яго, пахваліўся:

— Віншуйце мяне, Тэд! Я ажаніўся! Гэты дом атрымаў у пасаг за маёй Пэгі. Дзякуючы службе ў казначэйстве займеў такія-сякія фінан-

савыя рэсурсы. Але са здзіўленнем заўважаю, што колькі б ні зарабляў, грошай заўсёды не хапае!.. А што вас прывяло ў нашу скваліную Філадэльфію?

Даведаўшыся аб прычынах, шчыра прасіў прабачыць.

— Затрымка абумоўлена нашай шалёнай інфляцыяй! Пакуль асігнаванні перавялі ў безнаяўны разлік, сума абясцэнілася на дзесяць працэнтаў. Каб вярнуць яе рэальны кошт, я інвестыраваў парачку камерцыйных аперацый парачцы гандлёвых дамоў. Галоўны інтэндант Кінг параіў мне так паступіць. Ён і сам такім чынам зарабіў сабе маёмасць... Само сабою, гэта супярэчыць інструкцыям, але я мушу клапаціцца пра патрэбы нашых салдат! Хіба я сам не галадаў пад Саратогай?!.. На жаль, гандлёвыя аперацыі занялі больш часу, чым разлічваў. Затое прыбытак кампенсаваў страты ад інфляцыі. Слова гонару, у бліжэйшыя дні перавяду грошы ў наяўнасць і адпраўлю ў Вест-Пойнт... Вы паверыце майму слову, Тэд?

Хіба мог Тадэвуш яму не верыць?

Прыкрае ўражанне, праўда, пакінула місіс Пэгі Арнальд. Падчас вячэры, на якую гаспадар запрасіў яго, яна спытала:

— Ці не падаецца вам, сэр, што існуе сапраўдны патрыятызм і патрыятызм хлуслівы?

Былі пададзены ўжо смажаныя фазаны, сальцісоны і свіныя скабкі, надыходзіла чарга ананасаў і вустрыц.

— Што вы маеце на ўвазе, мэм? — удакладніў Тадэвуш.

— Ці не задумваліся вы пра тое, што нашы дзяржаўныя дзеячы сур'ёзна памыляюцца? Ці не насцярожвае вас, што ўсе дасягненні Амерыкі за пяць гадоў рэвалюцыі — гэта празмерныя пазыкі ў Францыі ды цалкам падарваныя фінансы?

Касцюшка зніякавеў: не чакаў такіх разваг з вуснаў юнай гаспадыні. Кінуў позірк на Арнальда — той моўчкі піў віно і глядзеў на абрус, нібыта не чуў размовы.

Затое Пэгі не маўчала:

— Ці не падаецца вам, што рэвалюцыйная разня — спараджэнне лжывага патрыятызму? Кароль Георг выдаў прывілей, згодна з якім Канада займела больш спрыяльныя ўмовы для гандлю, чым раней. Не дзіва, што канадцы зажылі куды лепей за нас. А калі б і нашы палітыкі спынілі вайну і далучыліся да Канады? Гэта б стала праявай сапраўднага патрыятызму. Вы пра гэта не думалі, сэр?

— Вядома, не! — абурыўся Касцюшка. — Рабаўладальнік можа карміць слугу пернікам, але не дазволіць яму разбагацець. Толькі ў свабоднага чалавека ёсць шанец! Калі Амерыка будзе свабоднай, дык зможа стаць і заможнай. А ў калоніі такой магчымасці не будзе, якія б прывілеі ні надавала метраполія. Зараз усё чалавецтва мае унікальны шанец. У свеце можа з'явіцца краіна, дзе шануюць правы чалавека і прызнаюць роўнасць усіх людзей перад Усявышнім. За такі шанец варта змагацца, мэм! І мне дзіўна чуць развагі, якія патыхаюць здрадай, з вуснаў жонкі нацыянальнага героя!..

Тут і гаспадар ачуняў, умяшаўся ў размову:

— Не будзьце такім строгім, Тэд. Маладыя жанчыны чаго ні навыдумляюць! Не варта звяртаць увагі. Хутка ў нас з'явіцца дзіця, і галава Пэгі будзе занята іншымі думкамі.

Місіс Арнальд усміхнулася і апусціла вочы.

— Прабачце, — прыклаў Касцюшка руку да сэрца.

— Вы — непахісны, — сказала Пэгі такім тонам, што цяжка было зразумець — хваліць або асуджае.

«А як бы я сябе адчуваў, калі б чуў такое з вуснаў жонкі? — жахнуўся Тадэвуш. — Мо і мае ідэалы пахіснуліся б?.. Уратуй мяне Божа ад такой жонкі!..»

* * *

У доме Ханса Эванса Касцюшка праводзіў толькі ранак і ноч. Удзень адпраўляўся ў Ваеннае ўпраўленне, а ўвечары Арнальд запрашаў яго разам з сабой ці на баль, ці на званую вячэру, ці ў тэатр. І паўсюль знаёміў яго з калегамі па службе, з камерсантамі, з кангрэсменамі. Тадэвуш піў шампанскае і віно, заглядаўся на прыгожых жанчын у раскошных строях — і паўсюль адчуваў сябе няёмка, паўсюль выглядаў чужынцам у сваім паліняялым мундзіры. Узгадаў, што гэтак жа няёмка, вераб'ём сярод сытых галубоў адчуваў сябе некалі ў Варшаве, у асяродку арыстакратаў.

— Шкада, што тут няма аднаго майго прыяцеля, — неяк прагаварыўся Арнальд, калі ехалі ў карэце, на задках якой стаялі лакеі ў напудраных парыках. — Яго завуць Джэймс Андрэ. Ён уразіў бы вас...

Касцюшка ажно падскочыў на скураных падушках.

— Джэймс Андрэ?! Камерсант?!

— Зараз у яго справы ў Чарлстане. Але напісаў мне, што праз пару тыдняў вернецца ў Філадэльфію...

— Арыштуйце яго! — закрычаў Касцюшка. — Ён не камерсант. Ён — шпег! Мяне ён сапраўды глыбока ўразіў!..

Арнальд засяроджана выслухаў яго расповед пра знаёмства падчас падарожжа праз Атлантыку, пра сутычкі пад Саратогай і падчас Ніягарскай экспедыцыі, узмаліўся:

— Прашу вас, Тэд, нікому не гаварыце пра Андрэ. Сяброўства са шпіёнам пашкодзіць маёй рэпутацыі. Клянуся, што арыштую яго адразу, як убачу. А вы абяцаеце, што будзеце маўчаць?

Хіба мог Тадэвуш адмовіць яму?

— А што я магу зрабіць для вас? — пацікавіўся Арнальд.

— Ці не маглі б пазнаёміць мяне з містэрам Джэферсанам, аўтарам «Дэкларацыі пра Незалежнасць»? — спытаў Касцюшка.

— Сёлета Джэферсана абралі губернатарам Вірджыніі. Пакуль ён быў кангрэсменам, дык бясконца прапаноўваў арыгінальныя законы. А цяпер ажыццяўляе іх на практыцы...

— Цікава было б з ім пагаварыць, — уздыхнуў Тадэвуш.

Арнальд паблажліва ўсміхнуўся і сказаў апякунскім голасам:

— Мой цесць, містэр Шэпард, ладзіць ў сваім доме банкет. Туды запрошаны губернатар. Безумоўна, запрошаны і вы...

Пасля банкету Арнальд прадставіў Касцюшку губернатару — трыццацісямігадоваму джэнтльмену з шырокім тварам, блакітнымі вачыма і русымі валасамі, завязанымі ў коску.

— Інжынер-палкоўнік Тэд Касцюшка...

— Я чуў пра вас, сэр! — радасна ўсклікнуў Джэферсан. — Ад яго светласці галоўнакамандуючага. Ад генералаў Патнама, Гейтса. Даўно марыў пазнаёміцца...

— І я таксама! — усміхнуўся Касцюшка. — Я захапляюся, сэр, вашай «Дэкларацыяй», вашым «Статутам пра рэлігійную свабоду». Кожнае слова знаходзіла водгук у маім сэрцы...

Узаемаразуменне ўсталявалася між імі імгненна: пра што ні загаворыць адзін, другі тут жа знаходзіў, што дадаць.

— Я жыву са скрухай у сэрцы, — прызнаўся Джэферсан. — Шмат чаго зроблена, але яшчэ болей балючых пытанняў Кангрэс пакідае без разгляду. Наша рэвалюцыя не завершана. Не ўсе амерыканцы маюць роўныя правы... Кангрэс дакляраваў, што кожны грамадзянін мае права на 20 акраў зямлі. Але як быць з правамі індзейцаў на гэтую зямлю? Баюся, гэтая супярэчнасць скончыцца крывапраліццём...

— А ў маёй Айчыне зараз ніхто не гаворыць пра роўныя палітычныя правы. Бацькаўшчына спіць. Ды не памёрла!

— Амерыка ўжо не калонія, але захоўвае ідэйную залежнасць ад метраполіі. Нашы заканадаўцы цытуюць англійскія законы, шукаюць аналогіі ў рэгламентах англійскага парламента...

— Затое ваш «Статут пра рэлігійную свабоду» забараніў уладам умешвацца ў справы веравызнання. Амерыканцы пазбаўлены гвалту сумлення. А ў нас дысідэнтаў, уніятаў і кальвіністаў прыніжаюць, праследуюць. Нам яшчэ трэба пазмагацца за свабоду веры...

— Каб змагацца, патрэбна сіла. Не вонкавая — унутраная.

— У Амерыцы я адчуў у сабе сілу, — прызнаўся Касцюшка. — А не закінуў бы лёс мяне сюды — не спазнаў бы яе...

— Да сілы хіліцца лёс, — спагадліва ўсміхнуўся Джэферсан. — Чалавек дужы, калі дужая яго душа. Сіла дадзена, каб здзяйсняць вялікія справы. А калі няма вялікай мэты, чалавек не стане асілкам...

— У мяне вялікая мэта... — пакляўся Тадэвуш.

Да позняга вечара яны, адасобіўшыся ў куточку залы для танцаў, не зважаючы на музыку і сноўданне гасцей наўкол, не маглі нагаварыцца.

Калі прыспела пара разыходзіцца, Джэферсан горача паціснуў руку Тадэвушу.

— Запрашаю вас, Тэд, сустрэць Каляды ў маёй сядзібе...

— На Каляды я буду ў Вест-Пойнце, — засмуціўся Тадэвуш. — Але ўпэўнены — сустрэліся цяпер, дык сустрэнемся і ў чацвер. І будзем добрымі сябрукамі. Наканаванага не пазбегнуць...

* * *

А назаўтра адбылася цяжкая размова з генералам.

Тадэвуш з Арнальдам шпацыравалі па цэнтральнай Маркет-стрыт — вярталіся з Кангрэса, з пасяджэння, на якім разглядалася фінансавае забеспячэнне арміі. Нічога прыемнага на тым пасяджэнні Касцюшка не пачуў — прамоўцы з трыбуны даводзілі заканадаўцам, што дзяржаўнага бюджэту фактычна няма, долар ужо не будзе канвертуемай валютай, нават у Філадэльфіі гандлююць за брытанскія фунты. Дык, маўляў, армія павінна сама выжываць як можа! Надзеі на перамогу ў вайне ўскладаліся не на сваё войска, а на французскага караля, які планаваў высадзіць дэсант пад сценамі Лондана.

У той жа дзень чарговы раз абваліўся на біржы курс долара. Філадэльфійскія арыстакраты адрэагавалі на новы віток інфляцыі мудроным чынам. Касцюшка і Арнальд сустрэлі франта ў чырвоным сурду-

це, які вёў на вяровачцы сабаку — яе поўсць была абклеена доларамі. Праз дзвесце крокаў убачылі жартаўніка ў сінім сурдуце, — гэты вёў за аброць кабылу, аблепленую купюрамі.

Арнальд смяяўся, а Тадэвуш заўзята ганьбіў заканадаўцаў.

— У гэтых джэнтльменаў процьма пыхі, а розуму — ні на мезенец. Не разумеюць, што брытанцы яшчэ могуць перамагчы! Не разумеюць, што не накормяць сваю армію — будуць карміць акупантаў. У мяне на Бацькаўшчыне таксама кіруюць абмежаваныя цынікі! Калі плыў сюды, спадзяваўся, што ўбачу тут трыумф розуму і ўзаемнай павагі. Дзе там! Аказваецца, улада паўсюль належыць цынікам!

— А вам не падаецца, Тэд, што Амерыка гіне? — раптам спытаў Арнальд. — І час паклапаціцца — якую мы з гэтага займеем карысць?

— Вы сапраўды так думаеце? — жахнуўся Касцюшка.

Яму падалося — у голасе генерала загучалі ноткі Пэгі.

А той зразумеў — вось-вось палкоўнік страціць да яго давер.

— Вядома, не, — усміхнуўся Арнальд. — Вы на свае вочы бачылі — я не хаваўся ад куляў у баі... Але за што мы пралівалі кроў, цярпелі галечу і голад? Якой будзе ўзнагарода?

— Мяне гэта зараз не цікавіць, — прызнаўся Касцюшка. — Амерыка — адзінае месца, дзе я наогул камусьці патрэбны. І тут я раблю справу, якую лепей за мяне ніхто не зробіць.

— Зайздрошчу цвёрдасці вашага духу, Тэд. Але чаму б не падумаць і пра той рэдкі шанец, які вам дорыць лёс? Вы можаце вярнуцца на радзіму багатым чалавекам...

Касцюшка спыніўся, зацікаўлена ўскінуў бровы.

— Што вы маеце на ўвазе, сэр?

— Інфляцыя галапуе. Фінансісты маюць вострую патрэбу ў безнаяўных актывах для сваіх аперацый. І калі асігнаванні Кангрэса затрымаюцца ў Філадэльфіі яшчэ на пару месяцаў, мы з вамі зробім выгадныя інвестыцыі. Чысты прыбытак — пяць тысяч працэнтаў штомесяц. Ваша доля складзе чвэрць.

Такі накірунак размовы Тадэвушу не спадабаўся.

— А як пражывуць без грошай нашы афіцэры і жаўнеры?

— Перацерпяць! У гэтым і заключаецца ваша задача — уціхамірыць гарнізон. Абяцайце салдатам што заўгодна — абы не было скаргаў у Кангрэс. Памятайце: кожны дзень затрымкі жалавання — гэта рэальныя грошы на вашым рахунку...

Слухаў Касцюшка — і адчуваў, як баліць сэрца. Калі пагодзіцца — зможа ў адстаўцы штодня частавацца смажанымі фазанамі. І гэтак хочацца пагадзіцца!

Ды незнарок падняў руку, паглядзеў на пячатку сыгнета, на выяву срэбнага арла. Распасцёрла птушка крылле ў чырвоным полі, нагадвала Тадэвушу, што трэба слухаць найперш сваё сумленне. Як заўсёды, праўда на баку старога сябра!

І Касцюшка адчуў неймаверную палёгку, калі прамовіў:

— Мой гонар не дазваляе прыняць вашу прапанову, сэр... Вы не задумваліся: што ад чаго паходзіць — зло ад золата ці золата ад зла? Што з вамі адбываецца, генерал?

Арнальд здзіўлена паглядзеў на яго і — рассмяяўся.

— Божухна, Тэд! Не падумайце, быццам усю гэтую лухту я гаварыў усур'ёз!.. Шчыра кажучы, калі штодня кантралюеш фінансавыя

плыні, можна і ашалець... Я толькі выказаў здагадку. Але разлікі аказаліся памылковыя! Дзякуй, што ўказалі на маю памылку. Заўтра атрымаеце ўсю суму. Вас будзе суправаджаць да Вест-Пойнта ахова. Даруйце мне, Тэд, недарэчныя фантазіі!

Хіба мог яму Касцюшка не дараваць?..

* * *

Дараваў, як і Джэймсу Андрэ, якога знянацку напаткаў ля казначэйства. Касцюшка ішоў туды, каб падпісаць паперы пра атрыманне грошай, Андрэ — перагаварыць з Арнальдам.

Ля ганка яны пазналі адзін аднаго і — спыніліся. Тадэвуш паклаў далонь на эфес шпагі, Андрэ пацягнуўся да кішэні зялёнага сурдута, дзе хаваў пісталет. Іх аддзялялі тры крокі.

— Вы арыштаваны, Джэймс, — сказаў Касцюшка і агледзеўся — ці няма паблізу вайсковага патруля?

Ды не было відаць жаўнераў. Пасярэдзіне вуліцы каціліся запрэжаныя буйваламі павозкі з садавінай і тытунём. Босыя негры цягнулі нагружаныя скрынямі двухколкі. Ручаямі струменіліся прахожыя па тратуарах: спяшаліся матросы ў круглых капелюшах, габрэі ў чорных сурдутах, мажныя немцы ў блакітных камізэльках. Нікому не было справы да нейкіх там афіцэра і камерсанта, якія праціналі адзін аднаго пякучымі позіркамі.

— Крыкнеце — я застрэлю вас, Тэд, — ціха папярэдзіў Андрэ. — Лепш мірна разыдземся. Памятаеце, на ўзгорках Бемуса я вас адпусціў? Адпусціце і вы мяне цяпер.

— І тады будзем квіты? — зняў Тадэвуш далонь з эфеса і засунуў вялікі палец за пояс.

— Так, да наступнай сустрэчы, — выняў Андрэ руку з кішэні.

Касцюшка зноў агледзеўся. Міма праляцела лакаваная брычка, у якой сядзелі самавітыя джэнтльмены ў жоўтых і чырвоных парыках. І куды падзеліся ўсе патрулі?!

— Наступным разам мы ўжо не разыдземся, — паабяцаў Тадэвуш і падняўся на ганак казначэйства.

Ля дзвярэй азірнуўся — Андрэ знік.

«Не бяда, Арнальд яго арыштуе», — супакоіў сябе Касцюшка.

* * *

Праз два дні на золку ён пад'язджаў да Вест-Пойнта. За ім каціўся фургон з брыгаднай казной, ехаў конны каравул.

Калі саскочыў з сядла, першым да яго падляцеў Зюзя: гаўкаў, падскокваў, намагаўся лізнуць гаспадара ў шчаку. Тадэвуш пачухаў сабаку між вушэй, ускудлаціў поўсць — задаволены Зюзя кульнуўся на спіну, зацерабіў лапамі.

Імкліва разнеслася па фартэцыі вестка — галоўны інжынер прывёз заробак. Толькі зайшоў у штаб, як узрадаваныя афіцэры паднялі яго на рукі і з крыкамі «віват!» падкідвалі пад столь.

У лагер зачасцілі транспарты з харчам, ромам, тытунём, абуткам і абмундзіраваннем — усюдыісныя маркітанты прачулі, што ў Вест-Пойнце з'явіліся грошы...

На каляднай вячэры Касцюшка займаў пачэснае месца побач з камендантам, піў святочны пунш з вялізнага кубка і слухаў, як у ягоны гонар афіцэры раўлі песню «Бо ён такі слаўны хлопец!..»

А ў Філадэльфіі тым часам Бенедыкт Арнальд піў у кампаніі з Джэймсам Андрэ. Піў — заліваў гора. І было ад чаго.

Толькі паспеў Касцюшка пакінуць Філадэльфію, як камісія Кангрэса, якая правяравала казначэйства, выявіла, што на працягу многіх месяцаў Арнальд і галоўны інтэндант Кінг пераводзілі дзяржаўныя асігнаванні на ўласныя рахункі. Абодвух адправілі ў адстаўку. Аднак экс-галоўнага інтэнданта яго кампаньёны ўладкавалі ў заканадаўчую камісію парламенцкай асамблеі Вірджыніі, а герою Саратогі ніхто не дапамог. Гарацый Гейтс, да якога звярнуўся Арнальд, здзекліва зарагатаў яму ў твар:

— Вы не апраўдалі маіх спадзяванняў, сэр. Я сам ініцыяваў гэтую праверку Кангрэсам казначэйства...

Пэгі Арнальд параіла мужу папрасіць грошы на пражытак у яе бацькі. Экс-генерал прыехаў да цесця са шчырай прапановай:

— Я ведаю, містэр Шэпард, што вы — лаяліст. Як і ваша дачка. Дзякуючы ёй я зразумеў, што ёсць ілжывы і сапраўдны патрыятызм. Як сапраўдны патрыёт, я хачу прапанаваць ураду Яго Вялікасці свае паслугі. Наколькі высока іх ацэняць?

— Я паведамлю пра вашу прапанову тым, каму належыць пра яе ведаць, — абяцаў Шэпард.

І вось на Каляды Джэймс Андрэ прыехаў у дом Арнальда і ледзь не з парога заявіў:

— Камандуючы Клінтан прапануе вам пяць тысяч фунтаў і чын генерал-маёра брытанскай арміі.

Герой Саратогі не вагаўся.

— А ці магу я атрымаць частку гэтай сумы ўжо цяпер? Мы з Пэгі нарабілі столькі пазыкаў... Да таго ж, яна цяжарная...

Андрэ ахвотна раскрыў свой партманет.

— Што ад мяне патрабуецца? — удакладніў Арнальд, з асалодай разглядаючы стос грошай у сваёй руцэ.

— Дасылайце Старому Лісу лісты, — праінструктаваў Андрэ. — Нагадвайце аб ранейшых заслугах, прасіце пасады каменданта Вест-Пойнта. Пішыце да тае пары, пакуль не прызначыць. А калі прызначыць, перадасцё фартэцыю нам.

— Ваш план — авантурны, — расцаніў Арнальд.

— А хіба вайна — не авантура? — парыраваў Андрэ.

За святочным сталом, узняўшы келіх з віном, ён пажадаў:

— За шчаслівыя народзіны місіс Бенедыкт Арнальд! Няхай у вас будзе спадкаемца. У мяне таксама ёсць сын. Я прыгледзеў тут яму плантацыю... За будучыню нашых дзяцей мы будзем змагацца!..

Узгадалі і пра Касцюшку. Арнальд са смехам распавёў:

— Ён раіў мне арыштаваць вас, як толькі ўбачу!

— Я сам яго арыштую у Вест-Пойнце, — пакляўся Андрэ. — І больш не адпушчу. Амерыканскі бунт задоўжыўся, і гэта ўжо выводзіць з сябе. Пара з ім скончыць! — і стукнуў кубкам аб стол, ажно разляцелася шкло.

Арнальд падняў чару з пуншам і абнадзеіў:

— Сёлета адбудуцца рашучыя змены!..

## 1780 год

У тыя зімовыя паўгалодныя месяцы Касцюшка складаў новыя чарцяжы, бавіў час у штабе, выязджаў на ловы — і чакаў вясны, калі адновіцца будаўніцца крэпасці.

Здавалася яму, што гэтак жа нецярпліва чакаюць цёплага часу і шпакоўня, якую змайстраваў ардынарац і прымацаваў на даху яго дома, і бярэзіна без лістоты, якая расла побач з ганкам.

Першым пра набліжэнне вясны абвясціў сваёй жвавай гаворкай ручай, які няспадзявана абудзіўся сярод снежных палеткаў, зацурчэў каля сцен крэпасці. Неўзабаве наляцелі з пахмурлівага небакраю гракі, акупавалі навакольныя лясы, безупынна перагукваліся, ладавалі на дрэвах гнёзды з апалага галля.

Калі падсохлі дарогі, у Вест-Пойнт зачасцілі кур'еры з Філадэльфіі. І навіны прывозілі не самыя радасныя.

Пакуль Вест-Пойнт зімаваў, адрэзаны снягамі ад усяго свету, 8-тысячная брытанская армія генарала Клінтана ўвайшла ў Вірджынію, разграміла 5-тысячную Паўднёвую армію генерала Лінкальна і заняла Чарлстан — буйнейшы горад на Амерыканскім Поўдні. Патрыётаў ахапіла паніка, лаялісты трыўмфавалі. Многім здавалася: Злучаныя Штаты дажываюць апошнія месяцы. 50 тысяч лаялістаў запісаліся добраахвотнікамі ў армію Клінтана. У армію Вашынгтона завербаваліся 45 тысяч чалавек, пераважна негры, якім Кангрэс гарантаваў пажыццёвую волю за год службы.

Гарацый Гейтс на пасяджэнні Кангрэса вінаваціў ва ўсіх няўдачах Джорджа Вашынгтона, які, маўляў, адседжваецца ў Вэлі-Фордж замест таго, каб ратаваць Айчыну.

Старшыня Кангрэса Хэнкак паабяцаў Гейтсу:

— Разаб'яце Клінтана на Поўдні, як тры гады таму разбілі Бергойна на Поўначы, — прызначым вас галоўнакамандуючым.

На чале двух палкоў Гейтс накіраваўся да Чарлстана. Пакуль рухаўся туды, Клінтан вярнуў сваю армію ў Нью-Йорк — чакаў падмацаванняў з Брытаніі, а на Поўдні пакінуў 2-тысячны корпус генерала Карнваліса. З ім Гейтс і сутыкнуўся ля гарадка Камдэн.

Варожыя арміі сышліся на фермерскім полі пад музыку аркестраў. Першы залп брытанскіх грэнадзёраў зваліў сотню амерыканцаў і змяшаў іх шыхты. Янкі далі залп у адказ — таксама звалілі сотню ворагаў, аднак англійская калона не пахіснулася. Брытанцы далі другі залп — упала долу яшчэ сотня янкі. Амерыканскія пехацінцы пачалі разбягацца. Карнваліс накіраваў наўздагон кавалерыстаў — тыя пасеклі шаблямі больш за тысячу ўцекачоў. Гарацый Гейтс сам ледзь uратаваўся ад пагоні, прамчаў на кані без адпачынку ці не сто міляў.

Данясенне Гейтса аб паразе пад Камдэнам перапалохала кангрэсменаў. Хтосьці з іх адважыўся гучна спытаць:

— Ці не пара пачаць перамовы пра ганаровую капітуляцыю?

Пакуль думалі на гэты конт, Вашынгтон тэрмінова прыехаў у Філадэльфію і супакоіў разгубленых заканадаўцаў:

— Не бяда, што нас разбілі пад Чарлстанам і Камдэнам. У нас і раней былі паразы, але мы дагэтуль не разбіты. Міласэрныя нябёсы апякуюцца Амерыкай! Не бяда, што страчаны Поўдзень. Гудзонская фартэцыя надзейна абароніць нашу Поўнач!

Уражаныя яго энергічнай прамовай, кангрэсмены адкінулі прэч капітулянцкія думкі і раз'юшана абрынуліся на няўдачніка Гейтса — адправілі ў адстаўку, ды яшчэ і стварылі камісію, якая мусіла расследаваць яго дзейнасць на пасадзе кіраўніка Ваеннага ўпраўлення.

Пачуўшы пра гэта, Гейтс расплакаўся:

— Божа, як бязлітасна абыходзіцца Рэвалюцыя з тымі, хто яе распачаў! У мяне засталося столькі нявздзейсненых планаў! Калі б я стаў галоўнакамандуючым! Рэфармаваў бы Канфедэрацыю, далучыў бы да яе Канаду, зрабіў бы з Амерыкі магутную імперыю! І з-за адной няўдачы ўсе надзеі рассыпаліся ў прах...

А Вашынгтон дамогся ў кангрэсменаў права прызначаць камандзіраў без узгаднення з Ваенным упраўленнем. Таму ніхто не запярэчыў, калі ён прызначыў Бенедыкта Арнальда камендантам Вест-Пойнта. Добрага паўгода герой Саратогі бамбардзіраваў галоўнакамандуючага лістамі, у якіх скардзіўся на жабрацтва, абвяргаў абвінавачанні ў ліхвярстве, нагадваў пра свае ранейшыя заслугі, прасіў адпаведную ягонаму гонару пасаду.

— Кіраванне такой фартэцыяй — лепшая ўзнагарода яму, — сказаў Вашынгтон, перадаючы ад'ютанту падпісаную паперу...

— Гэта лепшая ўзнагарода нам! — абрадаваўся Джэймс Андрэ, калі Арнальд паказаў яму загад галоўнакамандуючага. — Засталося ўзгадніць дэталі — якім чынам здасцё крэпасць...

Арнальд думаў пра іншае.

— Сёння мая Пэгі нарадзіла хлопчыка! Цяпер я — бацька. Мне спатрэбяцца грошы. Вашы пяць тысяч я ўжо растраціў...

— Я пагавару з камандуючым Клінтанам, — уздыхнуў Андрэ. — Думаю, ён заплаціць яшчэ пяць тысяч. А пакуль адпраўляйцеся з сям'ёй у Вест-Пойнт і прымайце камандаванне. Я хутка наведаю вас з добрымі весткамі ды інструкцыямі...

Праз пяць дзён пад выглядам камерсанта Андрэ прыехаў у Нью-Йорк. Камандуючы Клінтан прыняў яго, выслухаў даклад і не адразу паверыў у такую ўдачу.

— Лепшую крэпасць бунтаўшчыкоў узначаліць наш агент! Вы — геній, Джэймс! Гэта самая бліскучая аперацыя ў гісторыі сакрэтнай службы Яго Вялікасці! Захапіўшы Вест-Пойнт, я злучуся з нашымі сіламі ў Канадзе і авалодаю паўночнымі штатамі. Потым Карнваліс ударыць па Філадэльфіі з поўдня, і мы раздушым бунтаўшчыкоў...

— Накіруйце да Вест-Пойнта пяхотную дывізію, — папрасіў Андрэ. — Няхай затоіцца ў лесе і чакае майго сігналу...

* * *

А Касцюшка цягам вясны і лета завяршыў будаўніцтва знешняй шасцікутнай мураванай сцяны Вест-Пойнта з двума брамамі — Паўднёвай і Паўночнай, а таксама цытадэлі.

На пачатку верасня ў крэпасць прыехаў новы камендант — разам з жонкай, сынам-немаўлём і штатам прыслугі.

Джон Хэй перадаў Арнальду камандаванне і перасяліўся з камендацкага дома да Касцюшкі.

Арнальд агледзеў умацаванні. Касцюшка суправаджаў генерала, вёў яго ўздоўж сцен-курцінаў, указваў на верхнія і ніжнія пляцоўкі выступаў-бастыёнаў, тлумачыў:

— Калі ворагі наблізяцца да рова, іх сустрэне наш агонь з ніжняга кавальера. А калі ростбіфы палезуць на курціну, нашы жаўнеры расстраляюць іх з верхняга кавальера.

Арнальдківаў кожнаму яго слову, а сам сабе думаў: «Дзесяць тысяч за такую цвярдыню? Ці не танна прадаю яе?»

— Калі ж вораг авалодае знешнімі сценамі, дык патрапіць пад агонь артылерыі са сцен цытадэлі, — хваліўся Касцюшка. — Яна вышэйшая на тры футы...

«За такі шэдэўр можна прасіць дваццаць тысяч фунтаў!» — вырашыў Арнальд.

Джэймс Андрэ не таргаваўся. На тайнай сустрэчы з Арнальдам у лесе, за дзве мілі ад крэпасці, маёр пагадзіўся з новымі ўмовамі.

— Я ўпэўнены, камандуючы Клінтан заплаціць вам яшчэ дзесяць тысяч. Але пасля таго, як наша дывізія зойме цытадэль!

«Камерсант» вымаў з-пад падэшвы бота складзеныя паперы.

— Ваш кантракт падпісаны Клінтанам. Пасля нашай перамогі вы станеце самым буйным землеўладальнікам у штаце Нью-Йорк.

— Прыемная перспектыва! — генерал-маёр вымаў з кішэні мундзіра свае паперы. — План фартэцыі... І добрая навіна ў дадатак. Заўтра, 24 верасня, прыязджае з інспекцыйнай праверкай галоўнакамандуючы.

— Вось дык падарунак нябёсаў! — узрадаваўся Андрэ. — Захопім і крэпасць, і Старога Ліса!

— Я наладжу парад у лагчыне перад крэпасцю, — працягваў Арнальд. — Калі гарнізон выйдзе праз Паўночную браму, ваш атрад увойдзе праз Паўднёвую і зойме пазіцыі на сценах. А я заваблю Старога Ліса ў цытадэль і арыштую.

— З вялікім задавальненнем заўтра ўвечары вып'ю келіх шампанскага ў вашым доме! — выказаў спадзеў Андрэ.

І, сардэчна развітаўшыся, заспяшаўся ў раён дыслакацыі брытанскай дывізіі. Па дарозе думаў: як яго ўзнагародзяць? Чынам палкоўніка? Ордэнам Падвязкі?

Арнальд жа па дарозе ў крэпасць прыкідваў, у якую гандлёвую аперацыю яму інвеставаць дзесяць тысяч фунтаў.

Спыніўшы каня на ўзлессі, генерал здалёк агледзеў Вест-Пойнт. Велічная крэпасць уяўляла сабой дасканалы інжынерны твор — на фоне хаатычна нагрувашчаных скалістых гор яе бастыёны і форты выдавалі гарманічнай часткай краявіду. І заўтра гэтая фартэцыя стане сімвалам непахіснай брытанскай магутнасці на кантыненце!..

* * *

Калі камендант уязджаў праз Паўночную браму, дык сустрэў Касцюшку. Той ішоў выгульваць сабаку. Арнальд прыпыніўся:

— Ці не жадаеце папалуднаваць са мной, Тэд?

— Дзякуй, сэр, але я падсілкаваўся ўжо, — аддаў чэсць Тадэвуш. — Цяпер хачу зрабіць праменад...

— Асцерагайцеся, у лесе могуць хавацца чырванаскурыя, — на твары Арнальда пазначылася шчырая заклапочанасць.

— Палкоўнік Хэй выставіў каравулы і сакрэты на адлегласці трох міляў ад крэпасці, — супакоіў Тадэвуш генерала.

Арнальд прышпорыў каня, а Касцюшка з зайздрасцю паглядзеў таму ўслед. Чаму не шанцуе яму, як Арнальду? Чаму не пашчасціла мець жонку і сына? Чаму ён не нацыянальны герой?

З плаца ва ўнутраным двары, дзе муштраваліся два палкі, даляталі тупат жаўнерскіх ботаў, лаянка сяржантаў, каманды афіцэраў — гарнізон рыхтаваўся да парада ў гонар прыезду галоўнакамандуючага.

Тадэвушу не было чым заняцца, таму ён сумаваў ад самага ранку. Затрымаў позірк на купцы бяроз, што раслі недалёка ад брамы. Сярод маладых дрэў узвышалася разгалістая старая бяроза. Падумаў, што і сам ён — як гэтае старое дрэва з сухімі крохкімі галінамі. Не напоіць такое дрэва вясна жыватворным сокам кахання, не ўпрыгожыць пяшчотнай лістотай і квеценню! Неўзабаве яму — трыццаць пяць. Наўрад ці зведае ён яшчэ радасць і смутак кахання, счэзне, ссохне ў самоце, бы тая бяроза…

Амаль гадзіну ў такім меланхалічным роздуме прагульваўся Касцюшка ўздоўж сценаў. Час-почас пазіраў на партрэт Людвікі Сасноўскай у медальёне, уздыхаў. Але не зведаць яму болей кахання, не стаць, як Арнальд, героем, генералам, сем'янінам!..

— Дазвольце звярнуцца, сэр! Каму належыць гэта аддаць?

Касцюшка схамянуўся. Перад ім выструніўся шыракаплечы барадаты жаўнер у скураной кашулі. У адной руцэ барадач трымаў паляўнічую стрэльбу, у другой — папяровы скрутак.

— Хто такі? — строга спытаў палкоўнік.

— Радавы Марцінсан, чатцвёртая рота, першы ўзвод. Мы ўтрох былі ў сакрэце ў беразняку. Бачым — ідзе чалавек. Апрануты ў цывільнае, але нейкі падазроны. Ішоў у бок брытанскіх ліній. Мы яго затрымалі, абшукалі. У боце, пад абцасам, знайшлі гэтыя паперы. Адзін з нашых крыху ведае грамату. Расчытаў слоўца — «Вест-Пойнт».

— Дзе затрыманы?

— Мае таварышы канваіруюць яго, — адказаў каравульны. — А мяне паслалі, каб папярэдзіў начальства. Вось я і прыбег.

— Хвалю за стараннасць, — узяў Касцюшка паперы. — Адканваіруйце арыштаванага ў дом каменданта. А я папярэджу генерала...

Арнальд з жонкай толькі што папалуднавалі вэнджанай шынкай і запечаным карпам, дапілі каву. Місіс Пэгі паднялася наверх — паглядзець, як спіць сын, а муж сядзеў за сталом — праглядаў справаздачы. У гэтую хвіліну і зайшоў Тадэвуш, з парога далажыў:

— Каравульныя затрымалі падазроную асобу, сэр! Вядуць сюды. Вось што знайшлі пры ім. — І падаў паперы.

Арнальд кінуў на іх вачыма і — збялеў, потым пачырванеў, учарэпіўся за настольнік непрыбранага стала. Урэшце выціснуў з сябе:

— Мне блага... Я вас пакіну... — І выйшаў на вуліцу.

Касцюшка ў разгубленасці зірнуў у акно — пабачыў, што камендант пабег на стайню, вывеў адтуль асядланага каня, ускочыў у сядло, прышпорыў і памчаў да брамы. Зюзя, які круціўся каля ганка, загаўкаў і пабег за коннікам — была ў сабакі такая звычка!

Пачуліся крокі на лесвіцы — спусцілася абаяльная каменданцкая жонка, прыязна ўсміхнулася Тадэвушу.

— Дзень добры, сэр. А дзе Бенедыкт?

— Нічога не разумею, мэм. Я сказаў яму, што затрыманы лазутчык. А ён расхваляваўся і некуды паскакаў...

Рэакцыя камендантавай жонкі была не менш дзіўнай. Пэгі Арнальд неяк па-вар'яцку рагатнула, а потым залямантавала:

— Ён абяцаў мне падарунак да наваселля! Вось і зрабіў!..

Пэгі ведала пра змову мужа з Андрэ. Іх план праваліўся! Божа, які ж лёс напаткае цяпер яе і дзіцятка?!

З немым крыкам Пэгі кінулася наверх, ухапіла з калыскі і прыціснула да грудзей сына. Немаўля прачнулася і заплакала.

Касцюшка пацягнуўся да перахопленых папераў, прачытаў — і жахнуўся. Слухаючы галашэнне каменданцкай жонкі ды дзіцячы плач, Касцюшка не хацеў верыць сваім вачам. Ён два гады будаваў фартэцыю, а вораг без бою ледзь не заняў яе! Арнальд — здраднік? Неверагодна!.. А калі б каравул не заўважыў лазутчыка? Амерыка магла б прайграць вайну... Выпадак ўратаваў яе ад катастрофы... Меў рацыю Вашынгтон, калі гаварыў — Усявышні апякуе Амерыкай...

Тадэвуш узгадаў, як тры гады таму на полі ля Фрыменз-Фарм яны з Арнальдам вялі ў атаку брыгаду. Генералу другі раз прастрэлілі адну й тую ж нагу. У правай руцэ Тадэвуш сціскаў шпагу, а левай падтрымліваў параненага героя. А потым Арнальд сказаў, што для яго лепей было б загінуць у той дзень...

«Вось мне навука — не зайздросціць чужому шчасцю! — думаў Тадэвуш. — Яно можа аказацца падманным…»

Знадворку пачуліся конскае цоканне і людскія галасы.

Касцюшка зірнуў у акно і абамлеў — перад домам спыніўся Вашынгтон са шматлікай світай і аховай.

Тадэвуш выбег на ганак і аддаў чэсць галоўнакамандуючаму.

— Дзе камендант? — спытаў Вашынгтон. — Я папярэджваў, што прыеду з праверкай заўтра, але вырашыў прыбыць сёння...

— Думаю, генерал Арнальд нясецца да брытанцаў, — адказаў Касцюшка. — Вось прычыны яго знікнення, — і падаў паперы.

Галоўнакамандуючы ўзяў іх, зайшоў у дом і сеў за стол чытаць. Касцюшка, павітаўшыся з ад'ютантам Гамільтанам, застаўся на ганку.

Ад грознага рыку Вашынгтона задрыжэлі шыбы.

Касцюшка і Гамільтан кінуліся ў дом, уляцелі у пакой да Вашынгтона. Галоўнакамандуючы задыхаўся ад крыўды, стагнаў:

— Арнальд — здраднік! Каму ж цяпер верыць?!

— Паспрабую дагнаць яго, — сказаў Гамільтан і выбег з пакоя.

Праз хвіліну на чале атрада вершнікаў ён панёсся да брамы.

Зюзя зноў загаўкаў, памкнуўся за коннікамі, але дабег да брамы і вярнуўся — нельга ж пакідаць гаспадара без нагляду!

А Вашынгтон усё не мог супакоіцца:

— Павесіць мярзотніка! Я так яму давяраў!..

З другога паверха далятала выццё Пэгі Арнальд.

— Палкоўнік, паглядзіце, хто там катуе кошку! — папрасіў Касцюшку галоўнакамандуючы.

Падняўшыся, Тадэвуш убачыў: місіс Арнальд у ніжняй кашулі, ані не ўтойваючы сваіх пекных формаў, босая бегае са спальні ў дзіцячы пакой і назад у спальню.

— Ці магу я вам дапамагчы, мэм? — далікатна спытаў Касцюшка.

— Галава! Мая галава! У ёй — распалены прас! — вішчала Пэгі. — Майго мужа скралі духі! Забралі яго на неба!

— Мне вельмі шкада, мэм, — прамармытаў Тадэвуш.

Пэгі зноў рынулася ў спальню, упала на ложак і заверашчала:

— Вы — злодзей! Вы хочаце забіць майго сына!

Касцюшка накрыў яе коўдрай, зачыніў дзверы спальні і спусціўся ўніз. Сказаў галоўнакамандуючаму:

— Місіс Арнальд захварэла. Перажывае.

— Вы думаеце, яна ведала пра здраду? — спытаў Вашынгтон.

Тадэвуш не сумняваўся: ведала! Але хто прыгледзіць за дзіцём, калі яе арыштуюць?.. І сказаў як мог спакойна:

— Мяркую, не. Наўрад ці муж ёй давяраў...

— Ну, дык адправім яе з сынам і слугамі да бацькоў у Філадэльфію, — распарадзіўся Вашынгтон: — Камендантам Вест-Пойнта я зноў прызначаю палкоўніка Хэя. Перадайце яму загад — абвясціць баявую трывогу. Гарнізон — пад ружжо! Падвоіць каравулы!.. І паклапаціцеся, каб мне і маім афіцэрам накрылі на стол...

Касцюшка збегаў на кухню, а потым да Джона Хэя — перадаў загады Вашынгтона.

Калі вярнуўся ў дом каменданта, галоўнакамандуючы, ужо супакоены, прапанаваў яму паабедаць разам. Елі моўчкі. І ўжо за кавай Вашынгтон спытаў Тадэвуша:

— А вы самі, палкоўнік, нічога падазронага не заўважылі ў паводзінах Арнальда?

Тадэвуш распавёў пра свой візіт у Філадэльфію напрыканцы мінулага года ды пра Арнальдаву прапанову.

— Але тады я і думкі не дапускаў, што ён можа здрадзіць... Лепей бы ён загінуў пад Саратогай... Я мяркую, Арнальд заслугоўвае помніка. Але на пастаменце павінен красавацца адзін бот: толькі яго двойчы параненая нага і вартая павагі...

Вашынгтон горка ўсміхнуўся:

— Калі б мы мелі магчымасць абіраць момант сваёй смерці... — І дадаў: — Я пераводжу вас, сэр, пад непасрэднае кіраўніцтва. Ад'ютант Гамільтан аформіць загад. Вы не супраць?

— Служыць пад камандаваннем вашай светласці — вялікі гонар! — прыклаў далонь да сэрца Тадэвуш.

«Вось і навука мне, — самавіта расправіў ён плечы, — удача можа прыспець у любы момант! І не варта скардзіцца на лёс…»

Толькі дапілі каву, як прывялі затрыманага шпіёна. Касцюшка ажно войкнуў, пазнаўшы старога знаёмага. А той, убачыўшы Тадэвуша, усміхнуўся яму, бы старому сябру.

На допыце Андрэ нічога не ўтойваў ад галоўнакамануючага.

— Калі б я пайшоў іншай сцяжынай, заўтра над Вест-Пойнтам лунаў бы наш сцяг. І я дапытваў бы вашу светласць, а не наадварот. Ды што зробіш, лёс салдата пераменлівы.

— Вы не салдат, а шпег, — сказаў Вашынгтон. — А шпегаў вешаюць.

— Чатыры гады таму я кіраваў пакараннем вашага разведчыка, Натаніэля Хейла. З-пад шыбеніцы ён прарочыў, што і мне каліські намыляць пятлю. Хейла павесілі 22 верасня. А сёння — 23-е. Хіба не фатальнае супадзенне!..

— Рана вам развітвацца з жыццём, — сказаў Вашынгтон, якому спадабаўся гэты добра выхаваны джэнтльмен. — Мажліва, Клінтан абмяняе вас на Арнальда. Ці не жадаеце выпіць са мной шампанскага? — даў знак памочнікам, каб адкаркавалі бутэльку.

Андрэ сумна ўсміхнуўся, выпіў келіх і пайшоў пад канвоем на гаўптвахту. Прыглядаць за ім Вашынгтон даручыў Касцюшку.

Увечары вярнулася пагоня на чале з Гамільтанам. Здрадніка не дагналі, затое сустрэлі паштальёна — вёз ліст у Вест-Пойнт ад Арнальда, які ўжо атабарыўся ў штабе англійскай дывізіі і сачыніў пасланне Вашынгтону. У лісце былы камендант пісаў, што перайшоў да брытанцаў з-за сапраўднага, а не лжывага патрыятызму, і раіў Вашынгтону вымятацца з Вест-Пойнта.

— Яшчэ і здзекуецца! — абурыўся галоўнакамандуючы.

І выправіў паштальёна з пасланнем да камандуючага Клінтана — прапанаваў абмяняць здрадніка Арнальда на маёра Андрэ.

Клінтан сімпатызаваў геніяльнаму Андрэ і пагарджаў здраднікамі. Але не пагадзіўся на абмен, бо ў кантракце дакляраваў Арнальду, што ні пры якіх умовах не выдасць яго бунтаўшчыкам. Камандуючы напісаў, што маёра Андрэ нельга лічыць звычайным шпегам, і калі Вашынгтон праявіць міласэрнасць, дык гэта ўратуе жыццё тысячам янкі. У адваротным выпадку помста за Андрэ будзе жорсткай!..

А пакуль камандуючыя перапісваліся, пакуль паштальёна-небараку канваіравалі амерыканскія пехацінцы да брытанскіх ліній і падвозіў эскорт англійскіх драгунаў да Вест-Пойнта, Касцюшка прабаўляў час у размовах з Андрэ на гаўптвахце. Абодва быццам вярнуліся ў часы атлантычнага падарожжа, калі не падманвалі адзін аднаго, калі верылі, што наперадзе іх чакае толькі лепшае.

— Чаму вы звязалі свой лёс з разведкай, Джэймс? Няўжо вас так хваляваў прэстыж Брытанскай імперыі?

— А хіба вас, Тэд, пагнаў у Амерыку толькі клопат пра прыгнечаных янкі?.. Мы ўсе памром. Важна, чым запоўнім прамежак часу, адведзены нам Госпадам. Побыт заможнага філісцёра мне, як і вам, не даспадобы. Наша з вамі наканаванне — змагацца. Вайна — аснова не толькі нашага жыцця, але і ўсяго свету. Ці памятаеце, хто са старажытных мудрацоў назваў вайну «бацькам усяго існага»? Здаецца, Анаксагор?

— Геракліт, — паправіў Касцюшка. — Анаксагор адкрыў, што аснова светаўтварэння — эфір...

— Так, Геракліт... Памятаеце, ён пісаў, што свет складаецца з патокаў жыцця, і перасячэнне патокаў спараджае вайну. У Амерыцы перасекліся плыні імперская і сепаратысцкая. А мы з вамі апынуліся на лініі сутыкнення. Толькі я не збярог сваю галаву, а ваша пакуль на плячах. Я падаўся на сакрэтную службу, бо хацелася прыгод. Займеў іх удосталь. Завербаваў сотні агентаў. Вось толькі вас не здолеў...

— Мае палітычныя погляды занадта адрозніваюцца ад вашых, — пакруціў галавой Тадэвуш. — Вы лічыце, што для народаў лепей, калі яны жывуць у адной імперыі. А я мяркую — кожны народ мае права быць гаспадаром у сваім доме.

— Я хацеў не палітычнага паразумення, а чалавечага. Мне ўсё жыццё так не хапала сапраўднага сябра!

— І ў мяне ніколі не было сапраўдных сяброў, — прызнаўся Касцюшка. — І, баюся, ніколі не будзе. Так лёс распарадзіўся...

— Лёс распараджаецца дзіўным чынам, — сказаў Андрэ. — Самую магутную імперыю перамагае ўласная калонія. І, думаю, пераможа...

— Хіба на ўзгорках Бемуса вы не пераконвалі мяне ў адваротным? — здзівіўся Касцюшка.

— За тры гады я лепей зразумеў, чаму еўрапейская ваенная дактрына не спрацоўвае на амерыканскай глебе. Еўрапейскія манархі ўмацоўваюць дысцыпліну сярод жаўнераў муштрай і сяржанцкай палкай. А янкі ідуць на вайну добраахвотна, бо вераць, што адстойваюць сваю свабоду. Вайна для еўрапейскіх манархаў — забава. У Еўропе ваююць толькі ў цёплую пару года, не выпальваюць чужую тэрыторыю, не рабуюць насельніцтва. Манархам не патрэбны спустошаныя правінцыі, а рабункі падрываюць дысцыпліну. А янкі ўкаранілі тактыку партызанскай вайны. Каб перамагчы партызанаў, трэба вынішчаць насельніцтва Амерыкі амаль пагалоўна. Але якая карысць брытанскай кароне ад могілак? Брытанія для Еўропы — узор лібералізму. Каб не зганьбаваць сваю рэпутацыю, яна не адважыцца на дзікунскія метады вайны. Значыць, у рэшце рэшт янкі пераможуць. Хоць я і не дажыву да гэтага моманту...

— А вы ўхвалілі б жорсткія метады вайны?

Андрэ пакруціў галавой.

— Наша старая добрая Англія заваёўвала калоніі не дзеля рабунку, а каб несці святло хрысціянскай веры і дэмакратычных каштоўнасцей тубыльцам, паляпшаць іх дабрабыт. За гэта я любіў Брытанскую імперыю. За гэта ахвярую ёй жыццё...

30 верасня ўранку Вашынгтон адаслаў Пэгі Арнальд з дзіцем і слугамі ў Філадэльфію, а ўвечары склікаў афіцэрскую нараду, на якой быў вырашаны лёс Андрэ.

— Мы павінны, джэнтльмены, дзейнічаць у адпаведнасці з законам, — сказаў галоўнакамандуючы. — Як чалавек адказны за лёс сваіх падначаленых, мяркую, мы абавязаны даць яскравы ўрок усім, хто паспрабуе ў будучым схіліць нашых афіцэраў да здрады. Усявышні ведае, як мне хочацца, каб маёр Андрэ стаў выключэннем з гэтага правіла. Аднак я не маю права на небяспечныя прэцэдэнты...

«Смерць Андрэ не паўплывае на вынік вайны, — з горыччу думаў Тадэвуш. — А на свеце так мала разумных людзей!..»

Аспрэчваць меркаванне Вашынгтона ён не адважыўся — не адчуваў маральнага права. Аднак падчас галасавання аказаўся адзіным, хто ўстрымаўся ад смяротнага прысуда.

І яму ж выпала паведаміць маёру пра прыгавор — павешанне!

Пачуўшы, Джэймс Андрэ пачырванеў і спытаў:

— А ці нельга замяніць шыбеніцу расстрэлам? Смерць ад кулі куды больш ганаровая... Калі вяроўка ламае шыю, нябога мочыцца... Не хацеў бы ляжаць у труне з мокрымі штанамі.

— Думаю, вас гэта ўжо не будзе хваляваць, — сказаў Касцюшка, вымаючы з каша, з якім прыйшоў на гаўптвахту, бутэльку віна, птушыную ножку і кавалак шынкі.

Кульнулі па кілішку, і Андрэ зноў спытаў:

— Ці памятаеце, Тэд, акалічнасці нашага знаёмства? Я адцягнуў вас ад борта, калі вы падалі ў акіян. Я ўратаваў вам жыццё. Ці можаце адплаціць мне той жа манетай? Мо зможаце ўратаваць ад шыбеніцы?

Тадэвуш задумаўся, уздыхнуў.

— Не магу, Джэймс. Уратаваць вас — значыць, парушыць прысягу, запляміць гонар, здрадзіць... Ваяваць за імперыю я не стану. Маё наканаванне — бараніць пакрыўджаных і слабых. Калі здраджу свайму наканаванню, мяне чакае пакаранне ў адвечным жыцці. А я не хачу ў пекла. Я хачу ўбачыць райскае святло. Бацька казаў, што пра яго нагадваюць нам зоры — дзіркі ў чорнай заслоне...

З боку плаца далятаў стук сякер — майстравалі шыбеніцу.

Андрэ зірнуў у закратаванае акенца. Зіхоткая поўня падалася яму нябесным вокам — быццам нябыт зірнуў проста ў сэрца.

— У мяне ёсць сын — Джонатан. Зараз яму пятнаццаць. Я не бачыў яго чатыры гады. Ужо не ўбачу. І шкадую, што не казаў яму такіх слоў, як ваш бацька. Калі раптам сустрэнецеся з ім, Тэд, перадайце мой запавет — няхай часцей глядзіць на зоры, думае пра пекла і рай.

— Калі сустрэну — скажу, — пакляўся Тадэвуш.

Выпілі яшчэ. Андрэ нервова ўскудлаціў далонямі валасы.

— Столькі людзей загінула ў мяне на вачах, а я дагэтуль не магу паверыць, што і сам памру. Памятаеце, што казаў Геракліт пра смерць? Здаецца, «жыццё ўтвараецца на глебе смерці»?

Касцюшка кіўнуў і працытаваў:

— «Агонь жывіцца смерцю зямлі, паветра жывіцца смерцю агню, вада жывіцца смерцю паветра, зямля — смерцю вады»... Я таксама не ўяўляю, Джэймс, што магу памерці. Але ў мяне ёсць суцяшэнне. Я мяркую, што смерць — парог у наступнае жыццё.

Андрэ ўздыхнуў і наліў яшчэ віна.

— А я, Тэд, не ўпэўнены, што ёсць яно, наступнае жыццё. Не маю дакладных звестак... Таму так страшна паміраць.

— Мы не маем улады над сваім лёсам, Джэймс...

Уранку гарнізон Вест-Пойнта пастроіўся на плацы.

На гаўптвахту прыйшоў канвой. Маёр плёўся, абапіраючыся на плячо Касцюшкі, а ззаду ішоў капелан, уголас чытаючы з малітоўніка: «І пайду я дарогай Смерці...»

Вашынгтон не мог глядзець на пакаранне. Сядзеў з афіцэрамі світы ў царкве — маліліся за ўратаванне душы Андрэ і плакалі.

Калі Андрэ ўзвялі на эшафот, і кат зацягнуў вяроўку на яго шыі, маёр раптам сказаў Тадэушу:

— Мне здаецца, я ўбачыў вашу будучыню, Тэд.

— І што вы там угледзелі, Джэймс?

— Вы станеце знакамітай асобай! І памрэце ад старасці!

Вот ката выбіў з-пад Андрэ зэдлік.

Тадэвуш пачуў, як хруснулі шыйныя пазванкі, адвярнуўся і пайшоў, прамармытаўшы:

— Дзякуй за добрыя сло́вы, сябра...

* * *

Праз дзень павешанага знялі і пахавалі на могілках за сцяной.

Вашынгтон пакрысе супакоіўся, падпісаў загад — кантынентальнай арміі перабазавацца ў Вест-Пойнт на зімоўку. Сюды ж перамяшчалася і штаб-кватэра з канцылярыяй.

Касцюшка ўхваліў яго распараджэнні:

— Прысутнасць вашай светласці падбадзёрыць гарнізон, засмучаны здрадай генерала Арнальда!

Пад яго кіраўніцтвам тры палкі абсталявалі вялікі лагер у прылеглай да крэпасці лагчыне: выкапалі абарончы роў, насыпалі вал, узвялі частакол, расчысцілі дарогі для кавалерыстаў і артылерыі, збудавалі казармы.

На працягу кастрычніка і лістапада пад Вест-Пойнт перабазаваліся 22 тысячы жаўнераў і 23 тысячы апалчэнцаў.

Нарэшце нагадалі пра сябе і саюзнікі — французская эскадра пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Рашамбо кінула якар ля Ньюпарта і выбіла з горада брытанскі гарнізон.

Вашынгтон паслаў Рашамбо кур'ера з прапановай — сумесна ўдарыць па Нью-Йорку, разграміць армію Клінтана.

Аднак французскі камандуючы заўпарціўся:

— Якая можа быць вайна, калі холадна? Пачакаем вясны!

І застаўся зімаваць у Ньюпарце...

Снежаньскія завеі замялі Вест-Пойнт і армейскі лагер. Зноў катастрафічна не хапала правіянту. Гарнізон высякаў навакольны лес на дровы, ладзіў ловы. Аднак упаляванай дзічыны не хапала, каб пракарміць 50-тысячнае войска. Галодныя жаўнеры пачалі разбягацца.

На роспачныя заклікі галоўнакамандуючага аб дапамозе грашыма старшыня Кангрэса прыслаў адказ — Злучаныя Штаты не могуць расплаціцца за пазыкі папярэдніх гадоў. Таму армія, маўляў, павінна сама клапаціцца пра сябе!

Такое зняважлівае стаўленне Кангрэса прывяло Вашынгтона ў стан дэпрэсіі. На штабных нарадах ён скардзіўся:

— Гісторыя вайны за незалежнасць — гэта гісторыя падманутых надзей. Зусім нядаўна мы ледзь не прайгралі вайну. Здрада звіла кубло ў самым сэрцы нашай арміі. Але і наперадзе нічога не відаць, акрамя новых турботаў. У нас няма харчу, каб карміць жаўнераў, і няма грошай, каб плаціць ім жалаванне. Дагэтуль мы неяк трымаліся, але ўсяму прыходзіць канец...

Прыгнечаны настрой Вашынгтона перадаўся і Тадэвушу. Хіба і яму не абрыдла вайна? Хіба не даняло адвечнае пачуццё голаду, сверб даўно нямытага цела? Навошта ён прыплыў у гэтую клятую Амерыку?..

Глядзеў Касцюшка на пячатку сыгнета, і падавалася яму, быццам і срэбны арол ужо не сягае да вяршыняў, а хоча скласці крылы, адпачыць, прагне ўтульнасці і спакою...

На Каляды Вашынгтон сабраў у каменданцкім доме афіцэраў, частаваў іх кіслым віном, печанай мядзведзінай, ялавічынай і тунцом, а ў тосце выказаў сціплы спадзеў:

— Дапамажы нам, літасцівы Бог, перажыць наступную кампанію!

Тадэвуш слухаў яго і запэўніваў сам сабе: «А я ператрываю гэты цяжкі час, не пушчу адчай у сэрца!.. Дый не ўсё так блага. Маім скальпам не завалодалі іракезы. Я не канаю ад сцюжы і голаду. І, як дзень змяняе ноч, так і спакой зменіць узрушэнне, а мір — вайну. І я дачакаюся перамогі!..»

І калі надышла чарга яму гаварыць тост, крыкнуў:

— Я ведаю — мы пераможам!

І яго бадзёры настрой перадаўся прысутным. Афіцэры закрычалі:
— Віват!..

Потым да поўначы асіплымі галасамі гарлапанілі святочныя песні.

Касцюшка спяваў разам з імі, пазіраў на агонь у каміне і шчасліва ўсміхаўся. Ён любіў гэты свет — такі недасканалы і такі дзівосны!..

## 1781 год

Цягам зімы з лагера пад Вест-Пойнтам дэзерціравалі 15 тысяч апалчэнцаў і 7 тысяч жаўнераў. Армія скарацілася да 23 тысяч чалавек.

Касцюшка не асуджаў тых, хто ўцёк, але захапляўся воляй тых, хто застаўся. У гутарцы з Гамільтанам ён гаварыў:

— Жаўнеры недаядаюць, не маюць цёплай вопраткі, ужо год як не атрымліваюць жалавання — і ўсё роўна служаць. Як жа яны шануюць сваю свабоду! Калі б мае суайчыннікі мелі такую волю!..

А палкоўнік-ад'ютант бэсціў інтэндантаў:

— Яны здзекуюцца з нас, тылавыя пацукі! У Філадэльфіі ўдосталь абмундзіравання і харчу. Ды спекулянты з інтэнданцтва прадаюць іх па вар'яцкіх цэнах брытанцам у Нью-Йорк. Тое, чым раней займаўся галоўны інтэндант Кінг, цяпер робяць яго пераемнікі. А кангрэсмены закрываюць вочы на махлярства, бо маюць сваю долю прыбытку. А ў яго светласці няма паўнамоцтваў, каб пакараць здраднікаў, спыніць ліхвярства! Але і салдацкая цярплівасць калісьці скончыцца...

І меў рацыю. У лютым у Марыстаўне ўзбунтаваліся тры палкі, укамплектаваныя з ураджэнцаў Пенсільваніі. Дзве тысячы жаўнераў, якім 15 месяцаў затрымлівалі выплату грошай, забілі трох афіцэраў-казнакрадаў і рушылі да Філадэльфіі, пакляўшыся разбурыць гэтае гадзючае кубло, дзе жыруюць за іх кошт палітыканы-прайдзісветы! Бунтаўшчыкі аблажылі горад і паслалі ультыматум — або ім заплацяць, або ад сталіцы Канфедэрацыі застанецца папялішча!

Напалоханы Кангрэс абраў новага старшыню — Томаса Рыда. Той выклікаў да сябе філадэльфійскіх банкіраў, прыгразіў ім:

— Годзе вам накручваць працэнты з чужых грошай. Вярніце салдатам іх заробак, інакш нас усіх на штыкі падымуць!

Банкіры панаракалі на жаўнераў — у іх, маўляў, сумлення няма, не маглі яшчэ пачакаць! — але грошы перавялі.

Старшыня Кангрэса сустрэўся з кіраўнікамі бунтаўшчыкоў і заплаціў не толькі жалаванне, але і кампенсацыю за затрымку.

Атрымаўшы грошы, жаўнеры разышліся па сваіх штатах.

Вашынгтон ажно за галаву схапіўся, калі даведаўся пра гэта.

— Наша армія страціла два палкі! — крычаў ён на афіцэрскай нарадзе. — Трэба ўмацаваць дысцыпліну самымі жорсткімі мерамі! Інакш усе салдаты разбягуцца!

Праз тыдзень паўстаў полк, расквартараваны ў Нью-Джэрсі, — таксама пайшоў да Філадэльфіі па затрыманыя грошы.

Вашынгтон накіраваў супраць іх корпус генерала Грына.

Карнікі акружылі нью-джэрсійцаў у гарадку Трэнтан, абяззброілі, прыгналі на плошчу, дзе Грын зачытаў ім загад галоўнакамандуючага.

— «Мы ўсе глыбока перажываем пакуты арміі. Аднак, калі мы чакаем ад краіны выканання яе абавязацельстваў, дык павінны памятаць пра яе складанае становішча. Мы пачалі барацьбу за незалежнасць з абмежаванымі сродкамі для вядзення вайны, мяркуючы, што патрыятызм кампенсуе іх недахоп. Мы прадбачылі цяжкасці, і не павінны пасаваць перад імі, гэтак жа як і не кідаць выклік закону і парадку, каб дамагчыся палёгкі...»

Потым расстралялі перад строем двух завадатараў бунту, астатнім нагадалі, што трэба захоўваць вайсковую дысцыпліну — і нью-джэрсійцы вярнуліся на месца ранейшай дыслакацыі.

А Вашынгтон тым часам бедаваў на афіцэрскай нарадзе:

— Я — крываджэрная пачвара! І чаму я не адмовіўся ад пасады галоўнакамандуючага пяць гадоў таму?!.. Бунт нью-джэрсійцаў цалкам апраўданы! Мне шкада нашых жаўнераў! Галодных, голых, зняважаных жабракоў! Але як усім дапамагчы?!..

Той зімой ён пакутаваў ад галаўнога болю. Ад кожнай непрыемнай звесткі (а прыемных не паступала!) галава ў яго ажно расколвалася. Ад нервовай змучанасці сталі выпадаць зубы. Запрошаныя дантысты сяк-так змацавалі скіўіцу дротам, аднак зазначылі, што лепш усе зубы выдаліць. Вашынгтон прагнаў дактароў і паскардзіўся ад'ютантам:

— Уяўляеце сабе галоўнакамандуючага кантынентальнай арміі з бяззубым ротам?! Уяўляеце, як я буду шамкаць загады?!..

Ушчэнт узнерваваны, ён раздражняўся ад любой драбязы і часта крычаў на падначаленых. Потым, праўда, прасіў прабачэння.

Давялося і Тадэвушу пачуць з вуснаў яго светласці прыкрыя словы — за тое, што затрымаўся прадставіць на разгляд праект новых фартыфікацыйных работ.

— Не можаце выканаць простае даручэнне! — крычаў галоўнакамандуючы. — Усе палякі такія абібокі?

— Не ўсе, — прызнаў Тадэвуш і далікатна паправіў: — Але я нарадзіўся ліцвінам...

Ужо ўвечары ён піў каву ў кампаніі з яго светласцю, і ўлагоджаны Вашынгтон крыху саркастычным, крыху ментарскім голасам перапрашаў яго, тлумачыў:

— Да маладых людзей, якім давяраю, я стаўлюся як да родных дзяцей. Таму часам бываю рэзкі...

— Безумоўна, — кіўнуў Тадэвуш. — Я нават і падумаць не мог пра тое, каб пакрыўдзіцца на вашу светласць. Калі шануеш чалавека, трэба паважаць яго незалежна ад настрою. Калі я і зраблю штосьці карыснае ў будучым, дык толькі таму, што навучыўся ад вас велічы духу, мужнасці, спагадзе да людзей...

Вашынгтон скрушна ўздыхнуў:

— Да самага скону буду пытацца ў нябёсаў: за якія правіны яны пазбавілі мяне шчасця бацькоўства? Чаму няма ў мяне дзяцей? Адзін пасынак, дый той лайдак...

Тадэвуш спачувальна прамаўчаў, падумаў: «І гэты вялікі чалавек на свой капыл няшчасны!»

І па звычцы паглядзеў на пячатку сыгнета, на срэбнага арла ў чырвоным полі. Мудрая птушка нібыта пацвярджала: не трэба нікому зайздросціць, побач з поспехам заўсёды будзе нябачны боль!..

Не палепшылі настрою яго светласці і весткі аб новых варожых захадах: брытанская эскадра з'явілася ля берагоў Вірджыніі — радзімы Вашынгтона. Саракагарматныя фрэгаты плылі па шырачэзным Патамаку, высаджвалі дэсанты, рабавалі і выпальвалі сядзібы плантатараў-патрыётаў. Чарнаскурыя рабы землеўладальнікаў-рэвалюцыянераў, у адпаведнасці з дэкрэтам брытанскага парламента, атрымлівалі свабоду.

Адзінай некранутай сядзібай на патамакскім прыбярэжжы аказаўся Маўнт-Вернан — сядзіба Джорджа Вашынгтона. Пасынак Джон Кастыс, якога айчым пакінуў прыглядаць за гаспадаркай, запрасіў брытанскіх афіцэраў у госці, напаіў да паўмярцвяцкага стану і пацешыў выступленнем сваёй дачкі — пяцігадовае дзяўчо ўзлезла на стол і дэкламавала непрыстойныя вершы, вывучаныя пад кіраўніцтвам бацькі. У знак падзякі за гасціннасць брытанцы не спалілі дом.

Калі Вашынгтон даведаўся пра ўчынак пасынка, дык закрычаў:

— Лепей бы Маўнт-Вернан спалілі разам з гэтым прыдуркам! Кім я выглядаю цяпер сярод пагарэльцаў?! Мой прэстыж падарваны!..

Дэпрэсія настолькі авалодала ім, што ў чэрвені Вашынгтон загаварыў на афіцэрскай нарадзе пра сепаратны мір.

— У нас няма шанцаў выйграць вайну! Пяць гадоў таму Кангрэс выдаткоўваў на армію 24 мільёны долараў. Сёлета — 2 мільёны, дый тыя — на паперы. Рэальна я атрымаў 5 тысяч долараў. Паслугі дантыстаў каштуюць болей. Як ваяваць у такіх умовах? Не дзіва, што жаўнеры разбягаюцца!.. Адзінае ўратаванне — перамовы і ўзаемныя саступкі. Калі кароль Георг пагодзіцца на незалежнасць шасці паўночных штатаў, дык хай забярэ сабе сем паўднёвых, якія кантралюе Карнваліс. Ростбіфы захаваюць і Нью-Йорк, дзе атабарыўся Клінтан. Я збіраюся, джэнтльмены, напісаць у Кангрэс ліст з такой прапановай...

Касцюшка асуджальна пакруціў галавой. Ён таксама добра ведаў пра катастрафічны стан арміі: не было грошай, каб набыць правіянт жаўнерам, медыкаменты і лекі ў шпіталь. Вясною армія скарацілася ўдвая — збеглі яшчэ 12 тысяч жаўнераў. Сам даўно не атрымліваў жалавання, хадзіў у абшарпаным мундзіры і дзіравых ботах. І ўсё ж не падзяляў ілюзій, быццам незалежнасць можна захаваць часткова!

Разумеў Тадэвуш: дапякло Вашынгтона адвечнае недафінансаванне, калі пагаджаецца на такое! Кампрамісны мір зробіць галоўнакамандуючага згалелым выгнаннікам, бо родная Вірджынія застанецца пад уладай брытанцаў. І ўсё ж ён ахвяроўваў дабрабытам — абы не марнымі аказаліся шэсць гадоў рэвалюцыі! Ды не верыў Касцюшка, быццам Брытанія задаволіцца адступнаю платаю. Забярэ спярша адну частку Злучаных Штатаў, а потым і другую!

Таму дазволіў сабе сказаць яго светласці:

— Дзесяць гадоў таму ў маёй Айчыне шмат гаварылі пра кампрамісны мір з Расіяй. А скончыліся размовы тым, што царыца Кацярына забрала частку Літвы і чакае моманту, каб забраць і астатнія правінцыі... Гэтак жа падмануць і Амерыку! Кампраміс з імперыяй немагчымы! Або яна вас паглынае, або вы змагаецеся за свабоду!

Галоўнакамандуючы паморшчыўся. Не любіў ён, калі падначаленыя выказвалі думкі, не падобныя да яго ўласных. Пахмурна спытаў:

— Дык што вы прапануеце, Тэд?

— Не спяшацца з пасылкай ліста ў Кангрэс. Трэба падумаць...

— Шкада, што сярод маіх паплечнікаў няма аднадушша, — уздыхнуў Вашынгтон. — Вернемся да гэтага пытання пазней...

А назаўтра Аляксандр Гамільтан па сакрэце сказаў Тадэвушу:

— Ці ведаеце, Тэд, што на стале ў яго светласці ўжо ляжаў загад аб прызначэнні вас галоўным інжынерам кантынентальнай арміі?

Безумоўна, Касцюшка не ведаў.

— Але пасля таго, як вы запярэчылі яму, — працягваў ад'ютант, — яго светласць вярнуўся ў кабінет і на маіх вачах парваў загад. Ён балюча перажывае, калі з ім не пагаджаюцца...

Тадэвуш у адказ перажагнаўся.

— Хвала Госпаду! Мы не маем улады над сваім лёсам, Аляксандр... Мяне ніколі не вабіла штабная праца. Усявышні ведаў пра гэта — і збярог мяне ад прыкрай пасады...

Гамільтан збянтэжана ўсміхнуўся:

— Вы маглі б ужо сёлета стаць генералам, Тэд...

— Калі Бог дапусціць — стану. Не ведаю калі і якім чынам... А калі Бог не захоча, дык хоць са скуры вылузвайся...

— Чаму вы заўсёды спасылаецеся на нябёсы, Тэд?

— Таму, што стаў сведкам вялікага цуду.

— Якога? — насцярожыўся Гамільтан.

— Мы пакуль жывыя... — па-філасофску адказаў Тадэвуш.

Абодва ад душы зарагаталі...

А Вашынгтон болей не вяртаўся да тэмы кампраміснага міру. У яго з'явіўся іншы клопат — зноў Бенедыкт Арнальд.

Згодна з кантрактам, камандуючы Клінтан надаў уцекачу чын генерал-маёра, даручыў камандаванне 2-тысячным корпусам і накіраваў у Вірджынію. Навaспечаны генерал правёў спусташальны рэйд, загадаўшы кавалерыстам і пехацінцам вынішчаць усіх жыхароў запар, не зважаючы на ўзрост і пол.

— Яны ўсе загадзя вінаватыя ў тым, што нарадзіліся ў адным штаце з Джорджам Вашынгтонам, — казаў Арнальд.

Яго корпус выпальваў горад за горадам, ферму за фермай.

Касцюшка гаварыў з гэтай нагоды Джону Хэю:

— Шкада, што нельга прадбачыць будучыню. Калі б ведаў, якой пачварай акажацца Арнальд, застрэліў бы яго пад Саратогай!..

— Мы жывём у недасканалым свеце, Тэд, — глыбакадумна сказаў камендант Вест-Пойнта. — І калі б загадзя ведалі ўсё, што адбудзецца, — жыць не захацелі б.

— Магчыма, дзеля таго мы і прыходзім у гэты свет, каб удасканаліць яго ў адпаведнасці з Боскім наканаваннем... Думаю, што калі нябёсы не абралі мяне сваёй зброяй, дык самі пакараюць Арнальда. Не ў гэтым жыцці, дык у адвечным...

У ліпені Вашынгтон накіраваў супраць Арнальда корпус генерала Грына. Арнальд не адважыўся прыняць бой і адступіў у Нью-Йорк.

Раззлаваны гэтай няўдачай камандуючы Клінтан назваў Арнальда баязліўцам, адхіліў ад камандавання і адправіў у Лондан. Там да здрадніка прыхільна паставіўся адзін кароль Георг. Брытанская арыстакратыя не прыняла сына гандляра, няхай і генерала, у сваё кола. Зайздроснікі ў ваенным міністэрстве справадзілі генерала-няўдачніка

ў адстаўку. Праз сем гадоў Арнальд вярнуўся ў Канаду. Спрабаваў заняцца камерцыяй — канкурэнты выцеснілі яго. Спрабаваў гуляць на біржы — страціў збераджэнні. Жонка пакінула яго. Так і памёр Бенедыкт Арнальд адзінокім жабраком ва ўзросце 64 гадоў. Праз сто гадоў у Саратозе, як і прадбачыў Касцюшка, яму паставілі помнік — бот на пастаменце і ніякай шыльды. Маўляў, толькі двойчы параненая нага Арнальда вартая павагі!..

* * *

Пасля Арнальдавага адступлення Вашынгтон акрыяў духам, натхнёна склаў план сумеснага з французамі штурму Нью-Йорка і даслаў яго на ўзгадненне генерал-лейтэнанту Рашамбо, які па-ранейшаму адпачываў у Ньюпарце.

Вашынгтон меў падставы думаць, нібыта фартуна зноў яму ўсміхаецца: у Вест-Пойнт прыйшло падмацаванне — 10 палкоў апалчэнцаў. Да таго ж, брытанская эскадра пакінула Патамак — узяла курс на Вест-Індыю. Вірджынія вярнулася пад кантроль патрыётаў.

А пакуль французскі камандуючы разважаў над яго ідэямі, Вашынгтон вырашыў аднавіць баявыя дзеянні на Поўдні, які ўтрымліваў пад кантролем брытанскі корпус лорда Карнваліса.

Галоўнакамандуючы выклікаў да сябе генерала Грына і Касцюшку. Водзячы ўказкай па мапе, Вашынгтон гаварыў:

— Разведка паведамляе, што зараз Карнваліс сядзіць у Чарлстане, але мае намер злучыцца з Клінтанам у Нью-Йорку. Ростбіфы хочуць абрынуцца на нас сумеснымі сіламі. Наша задача — не дапусціць іх злучэння і, па магчымасці, аслабіць групоўку Клінтана... Пасля разгрому Карнвалісам генерала Гейтса Паўночная армія існуе толькі на паперы. Таму ваш корпус, сэр, — звярнуўся да шыракаплечага, з кароткай рудой барадой Грына, — стане гэтай арміяй, а вы, сэр, — кіўнуў Касцюшку, — будзеце галоўным інжынерам Паўднёвай арміі... Вам належыць накіравацца ў штат Караліна і серыяй удараў знясіліць Карнваліса, закрыць яму дарогу ў Нью-Йорк. Разумею, што задача складаная. Карнваліс дагэтуль не прайграў ніводнай бітвы. Але павінен жа хтосьці яго нарэшце адолець!..

Калі Касцюшка выйшаў на вуліцу, Зюзя, які чакаў гаспадара, ляжачы ў ценю ля парога штаба, сарваўся з месца, забегаў, заскакаў вакол яго, намагаючыся лізнуць гаспадара ў руку.

На твары Касцюшкі ззяла шчаслівая ўсмешка — новае прызначэнне прыйшлося даспадобы. Абрыдла яму сядзець у Вест-Пойнце абібокам!

І не прадбачыў Тадэвуш, што паўднёвая кампанія будзе для яго непрацяглай, але надзвычай бурнай...

* * *

Напрыканцы ліпеня амаль адначасова выступілі 4-тысячная армія Грына — на поўдзень і 6-тысячны корпус Карнваліся — на поўнач. Бараніць Чарлстан засталася дывізія асцярожнага генерала Сміта.

Грын гнаў жаўнераў без адпачынку: яго армія пераадольвала 40—50 міляў штодзень. Корпус Карнваліса — прадугледжаныя статутам 18. І калі брытанцы толькі пакінулі штат Паўднёвая Караліна, амерыканцы ўжо ўвайшлі ў Паўночную Караліну.

Варожыя арміі манеўравалі на мясцовасці, зрэзанай бурлівымі рачулкамі, што збягалі з заходніх гор і цяклі да акіяна праз гушчары і балоты. Брытанцы, натыкаючыся на раку, або шукалі бліжэйшы мост, або будавалі пераправу. Амерыканцы перапраўляліся шпарчэй. Касцюшка падаў ідэю: нацягваць над вадой дзве вяроўкі — па адной жаўнеры ішлі, за другую — трымаліся, і так перапраўляліся. А рыштунак, боепрыпасы і гарматы перавозілі на плытах.

На ваенным савеце Тадэвуш падсумаваў свае назіранні:

— Ландшафт Караліны спрыяе партызанскай вайне, а не рэгулярнай. Ростбіфам цяжка нас адшукаць сярод лясных нетраў. А мы можам абраць зручнае месца для лагера з такім разлікам, каб трымаць пад кантролем варожыя камунікацыі.

Большасць членаў савета не пагаджалася з думкай галоўнага інжынера — патрабавалі генеральнай бітвы. Асабліва зацята выступаў генерал Лі — той самы, якога ў 1776-м Кангрэс хацеў прызначыць галоўнакамандуючым, ды ён патрапіў у палон. Сёлета Вашынгтон абмяняў Лі на генерала Бергойна, паloненага пад Саратогай. Няўдзячны Лі распачаў інтрыгі супраць Старога Ліса, засыпаў Кангрэс і Ваеннае ўпраўленне даносамі — вінаваціў Вашынгтона ў здрадзе і бяздарнасці. Каб пазбавіцца інтрыгана, Вашынгтон прызначыў Лі начальнікам штаба Паўднёвай арміі. Тут, у Караліне, генерал Лі заўсёды быў на падпітку, брудны, неахайна апрануты, і паўсюль за ім цягалася зграя любімых догаў. Лі меркаваў, што дзень пражыты дарма, калі ён каго-небудзь не абразіў, калі каму-небудзь не сапсаваў настрой. І цяпер ахвярай сваёй злосці абраў Касцюшку.

— Наш паляк — прыроджаны баязліўца! — крычаў Лі. — А сапраўдны амерыканец не баіцца сустрэць ворага вочы ў вочы!

На павышаны тон перайшоў і Тадэвуш.

— Да вашага ведама, сэр, нарадзіўся я ліцвінам!..

Касцюшку падтрымаў камандуючы Грын.

— Гейтс не пабаяўся сустрэцца з Карнвалісам і быў ушчэнт разбіты. Мы не маем права паўтарыць яго памылку. — І загадаў галоўнаму інжынеру, — Прыгледзьце месца для лагера, Тэд...

Тадэвуш адшукаў пазіцыю на ўзвышшы ля гарадка Солсберы. Узгоркі нагадалі яму Бемус-Хэйтс — і тут меўся яр у прылеглай нізіне, гушчар з поўначы і захаду, хуткаплынная рака Яткін з усходу. Нават недалёкая карчма нагадвала карчму Бемуса ля Саратогі.

Грыну, які прыехаў інспектаваць, Касцюшка патлумачыў:

— Асноўныя дарогі штата пралягаюць недалёка. Адсюль мы зможам перахопліваць транспартныя караваны ростбіфаў. А калі Карнваліс падасца на поўнач, ударым з тылу, расцярушым у пыл... Мне патрэбны полк, каб уфартыфікаваць узгоркі...

Грын з ім пагадзіўся, адобрыў пазіцыю.

Але не пагадзіўся Лі. Прымчаў у лагер і накрычаў на інжынера:

— Мы не будзем хавацца ў гэтай чортавай глушэчы! Мусім змагацца адкрыта, па-рыцарску! Бог дапаможа нам! Як дапамагаў і мне, калі я быў камандуючым арміі. Калі я выйграў бітвы пад Портсмутам і Коўспенсам! Толькі аднойчы Бог памыліўся — калі не дазволіў мне ўзначаліць кантынентальную армію!..

Верны Зюзя, які паўсюль суправаждаў гаспадара, ад такога злоснага крыку спярша схаваўся за Касцюшкавы боты, а потым не стрываў і сярдзіта загірчэў.

Тадэвуш змрочна вымавіў:

— Сэр, я не намераны вас угаворваць. Камандуючы загадаў аддаць пад маё камандаванне полк. Будзьце ласкавы выканаць яго даручэнне...

Начальнік штаба з'едліва ўсміхнуўся.

— Выканаў бы, але вось недарэчнасць — вольных жаўнераў няма, усе аддзелы выконваюць баявую задачу! Дык самі бярыце ў рукі рыдлёўку і капайце яму. Можа, у ёй вас і пахаваюць...

Ад крыўды загрукала сэрца ў грудзях.

— Сваімі рукамі я толькі вам выкапаю магілу!

— Як размаўляеце са старэйшым па чыне і ўзросце! — зароў Лі. — Я дашлю ў Кангрэс рапарт. Адзначу і вашу недысцыплінаванасць, і вашу нядбайнасць, і вашы здрадніцкія разлікі! Не спадзявайцеся, быццам Стары Ліс вас абароніць! Ён — далёка, а я — ваш начальнік! Загадаю вам ваўком выць — станеце на карачкі і будзеце выць!

Зарагатаў, сеў на каня і даў шпоры.

— Мой начальнік — генерал Грын! — крыкнуў яму Тадэвуш.

Але Грын і сам пабойваўся начальніка штаба. Калі Касцюшка прыйшоў да яго са скаргаю, камандуючы тужліва развёў рукамі:

— Я думаю, ад безупыннага п'янства Лі крануўся розумам.

— Дык адпраўце яго ў рэзервы! — усклікнуў Тадэвуш.

— Я пісаў на гэты конт яго светласці, а ён — у Кангрэс. Аднак Лі штотыдзень дасылае ў Ваеннае ўпраўленне стосы скаргаў. А там засядаюць пераважна нядобразычліўцы яго светласці. Яны імкнуцца адправіць Старога Ліса ў адстаўку. Даносы Лі — важны козыр для іх. Яны дамагліся, каб Кангрэс стварыў камісію для разгляду рапартаў Лі. Калі кангрэсмены паверацъ Лі, мы пазбавімся сваіх пасадаў. — Ён дастаў з шуфляды бутэльку рому і кілішкі: — Вып'еце са мной, Тэд?

Касцюшка не адмовіўся. Узялі па кілішку.

Тадэвуш паморшчыўся і з горыччу пакруціў галавой.

— Мы балансуем на мяжы паразы, а ў тыле — інтрыгі... І які вораг больш небяспечны — той, хто перад намі, або той, хто за спінаю?..

Грын наліў яшчэ па кілішку, спытаў:

— Але хіба мы павінны адчайвацца, Тэд?

— Безумоўна, не! — адказаў Тадэвуш. — Пакуль мы жывыя — ёсць шанц перамагчы!..

За той шанц камандуючы з галоўным інжынерам і выпілі.

* * *

Сваім загадам, у абыход начальніка штаба, Грын накіраваў батальён абсталёўваць лагер пад Солсберы і загадаў арміі туды перамяшчацца.

А Лі тым часам на чале кавалерыйскага палка атакаваў брытанскую калону, якая везла з Чарлстана боепрыпасы і харч у лагер Карнваліса. У палон патрапілі звыш 500 пехацінцаў.

Карнваліс зразумеў, якая небяспека яму пагражае, і разаслаў разведчыкаў па ўсім штаце — шукаць базу бунтаўшчыкоў.

У ліпені Паўночная армія згрупавалася ля Солсберы. Але Касцюшка не паспеў уфартыфікаваць узвышша — знянацку заявіліся брытанцы.

На ваенным савеце Лі пахваляўся:

— Няхай атакуе! Зламае аб нас зубы!

Ды хітры Карнваліс не пагнаў жаўнераў у атаку — паставіў за ярам артылерыйскую батарэю і распачаў шквальны абстрэл.

Амерыканцы контратакавалі — іх адкінулі назад.

Грын загадаў Лі ўзначаліць контратаку — спадзяваўся, што той не вернецца з бою. Ад варожых залпаў палеглі дзясяткі жаўнераў, а Лі вярнуўся без адзінай драпіны. Заўважыўшы на твары камандуючага шчырае расчараванне, начальнік штаба з усмешкай сказаў:

— Ведаеце, чаму мяне пазбягаюць кулі? Я іх не баюся!

Пасля правалу контратакі Касцюшка заўважыў Грыну:

— Мы не пратрымаемся. Трэба адступіць. І як мага хутчэй.

Пачуўшы яго словы, Лі гучна вымавіў:

— У нашага галоўнага інжынера — заечая душа. Да таго ж, яшчэ і здраднік! У яго было досыць часу, каб уфартыфікаваць лагер. А ён не выканаў сваіх абавязкаў. Трыбунал па ім плача!

І пайшоў па пазіцыі, знарок штурхануўшы Касцюшку плячом.

Ад такое абразы ў Тадэвуша рукі задрыжалі. Ускінуў галаву да захмараных нябёсаў — за якія правіны яму пасылаецца такое выпрабаванне духу!..

Пад няспынным гарматным агнём Паўднёвая армія адступіла з вышыняў. Давялося кінуць палонных і ўсю артылерыю.

Лі настойваў на тым, каб расстраляць палонных, даводзіў:

— Інакш Карнваліс іх узброіць і кіне супраць нас!

Абураны такім дзікунствам, камандуючы Грын мацюкнуўся:

— Ваша месца, сэр, не ў штабе, а на бойні! У вас натура крыважэрца, а не грамадзяніна!

Лі не апраўдваўся, адно буркнуў:

— Чаму вы распякаеце мяне ў прысутнасці падначаленых?!..

Грын спадзяваўся, што пакуль Карнваліс замацуецца на захопленым узвышшы, у Паўднёвай арміі будзе час, каб заняць новы рубеж абароны. Але прадбачлівы брытанскі лорд пагнаў свой корпус наўздагон за бунтаўшчыкамі. І назаўтра прыціснуў Паўднёвую армію да камяністага берага шыракаплыннай ракі Яткін. Ноч уратавала амерыканцаў ад пагалоўнага знішчэння.

Сваім афіцэрам Карнваліс заявіў:

— Заўтра на світанку патопім бунтаўшчыкоў у рацэ.

І загадаў узмацніць дазоры, каб вораг не вырваўся з аблогі.

А тым часам генерал Лі раіў на ваенным савеце:

— Трэба прабівацца на ўсход. Мажліва, большасць арміі загіне. Але літасцівы Бог уратуе тых, хто гэтага заслугоўвае!

— А што думае галоўны інжынер? — спытаў Грын у Касцюшкі.

— Трэба пераправіцца ўначы на заходні бераг. Пакуль пануе цемра, ростбіфы не адкрыюць агонь...

— Патапіць нас сабраліся?! — зароў Лі. — Няма ў палякаў мужнасці, каб годна сустрэць смерць!.. «Адступленне» — слова, якога не можа быць у лексіконе сапраўднага амерыканца!

Гледзячы міма яго, Касцюшка цвёрда прамовіў:

— Нарадзіўся я ліцвінам...

Камандуючы прыняў рашэнне.

— Мы не адступаем. Мы здзяйсняем абыходны манеўр. Рыхтуйце пераправу, Тэд!..

У змроку жаўнеры пад кіраўніцтвам Касцюшкі майстравалі пантоны — асвятляючы прыбярэжны лес паходнямі, валілі дрэвы, цягалі бярвенні да ракі і звязвалі вяроўкамі. Перад світанкам армія пераправілася. Плыты спалілі на беразе.

Цяпер мацюкаўся лорд Карнваліс. Абдурылі, янкі клятыя!

Двое сутак брытанскія сапёры будавалі мост цераз раку. На трэці па ім пранеслася чырвонамундзірная кавалерыя.

За гэты час Паўднёвая армія дабрыла да ракі Дэн, фарсіравала яе і атабарылася на высокім беразе. Пад кіраўніцтвам Касцюшкі жаўнеры акружылі лагер разгалінаванай сістэмай акопаў. А каб Лі не перашкаджаў, Грын адправіў яго ў разведвальны рэйд.

У хуткім часе брытанцы фарсіравалі і Дэн. Аднак Карнваліс не адважыўся ні на аблогу, ні на штурм — мясцовасць не спрыяла: лагер бунтаўшчыкоў баранілі рака з усходу і балоты з поўдня і захаду. Ядры не даляталі да амерыканскага лагера, а па дрыгве не пойдзеш у атаку!

І Карнваліс прыняў рашэнне.

— Няхай Грын адседжваецца тут, а мы рушым у Нью-Йорк...

Убачыўшы, што брытанцы адступілі, Грын узрадаваўся:

— Перамога! — і даслаў рэляцыю Вашынгтону ў Вест-Пойнт.

Шмат увагі ў ёй прысвяціў і Касцюшку:

«Да ліку найбольш карысных і сімпатычных мне таварышаў па зброі належыць палкоўнік Касцюшка. Няма з кім параўнаць ягоную адданасць да службы, а ў вырашэнні сур'ёзных задач, якія часта паўставалі перад намі ў гэтай «малой», але рухомай вайне, не было нічога больш карыснага, чым яго парады, дзейнасць і яго дасціпнасць. Не стамляючыся ні ад якой працы, не палохаючыся ніякай небяспекі, вылучаўся небывалай сціпласцю ў перакананні, што не здзейсніў нічога асаблівага. Не патрабаваў нічога для сябе, але ніколі не прамінаў выпадку адзначыць і рэкамендаваць да ўзнагароды чужыя заслугі...»

Толькі адаслаў ліст у Вест-Пойнт, як вярнуўся з разведвальнага рэйду Лі і далажыў камандуючаму:

— Карнваліс падзяліў корпус. Кавалерыю і абоз накіраваў у Нью-Йорк, а сам з пяхотай адпачывае ў форце Найці-Сікс.

Тут жа ацаніўшы сітуацыю, Грын распарадзіўся:

— Значыць, мы маем над ім двайную перавагу. Дык — атакуем! Мы больш не ўцякаем — праследуем!

І Паўднёвая армія імкліва пакінула пазіцыі на беразе Дэна.

* * *

З'яўленне амерыканцаў пад сценамі Найці-Сікс стала поўнай нечаканасцю для Карнваліся.

— А я думаў, што напалохаў гэтага Грына, — прамармытаў лорд, азіраючы з курціны намёты бунтаўшчыкоў, якія бялелі на адлегласці двух гарматных стрэлаў.

Ён паслаў у Нью-Йорк ганцоў з панічнай просьбай аб дапамозе.

Большасць з іх затрымалі амерыканскія дазоры, але — не ўсіх.

— Джэнтльмены, нам спатрэбіцца шмат цярплівасці, — сказаў Карнваліс афіцэрам на ваеннай нарадзе. — У гэтай схватцы пераможа той, у каго нервы мацнейшыя...

Не менш духоўнай моцы спатрэбілася і Касцюшку. Галоўным чынам з-за звадак, якія штодня ўсчынаў начальнік штаба.

На ваенным савеце галоўны інжынер настойваў на тым, каб паўтарыць вопыт Саратогі — акружыць крэпасць паралелямі.

Камандуючы Грын сумняваўся:

— Там у вас была артылерыя. А тут у нас няма гармат...

— Затое тут мы можам падкапацца пад сцены і падарваць іх, — бараніў свой план Касцюшка.— Пораху ў нас хопіць.

Генерал Лі настойваў на штурме:

— Хіба мы — краты, каб закопвацца ў зямлю?! Мы — амерыканцы! Пакажам ростбіфам, што ўмеем смяяцца смерці ў твар!.. Праявім рашучасць — і Карнваліс выкіне белы сцяг...

Не падабаўся камандуючаму і гэты план.

— Атака захлынецца ў крыві. Варожая артылерыя прастрэльвае кожны ярд на подступах...

Пасля доўгага роздуму ён прыняў усё ж план Касцюшкі, а раз'юшанаму начальніку штаба строга вымавіў:

— Забараняю вам умешвацца ў фартыфікацыйныя работы!

Лі не пярэчыў. Аднак учыніў іншае паскудства — прыслаў капаць траншэі не жаўнераў, а недысцыплінаваных апалчэнцаў, якія неахвотна бралі ў рукі рыдлёўкі. Вольналюбівыя партызаны не так пракладвалі паралелі, як бязладна пастрэльвалі па крэпасці з вінтовак. А на загады Касцюшкі не зважалі — бо не падлягалі статутным пакаранням.

Шкоды брытанцам ад такіх абстрэлаў не было. Яны адказвалі гарматным агнём ды імклівымі контратакамі.

Касцюшка пайшоў у штаб скардзіцца камандуючаму. Грына не заспеў — той з'ехаў на рэкагнасцыроўку. Затое сустрэў таго, каго менш за ўсё хацеў убачыць. Начальнік штаба сядзеў ля ўваходу ў намёт у атачэнні штабных памочнікаў, піў ром з рыльца бутэлькі і прывітаў Касцюшку сваім звычным хамствам:

— Якога ражна вам тут трэба? Вы павінны быць на баявых лініях! А мо надумалі даць дзёру?

Памочнікі генерала дагодліва зарагаталі.

У Тадэвуша ад нянавісці задрыжэлі рукі.

— Я павінен бачыць камандуючага!

— Па якой патрэбе? — Лі закаркаваў бутэльку.

— З-за нядбайных апалчэнцаў мы губляем каштоўны час! Такімі тэмпамі мы і за месяц не падбярэмся да сценаў! А дапамога Карнвалісу, можа, ужо на падыходзе. Мне патрэбны рэгулярны полк замест гэтых абібокаў!

Начальнік штаба са здзеклівай усмешкай разглядаў яго пашарпаны мундзір і павучальна прамаўляў:

— Гэта ваша віна, палкоўнік, што траншэі капаюцца гэтак марудна. Вы не здолелі належным чынам арганізаваць работу. Гэта таму, што вы — тыповы ідыёт. Ад такіх ідыётаў нашай арміі трэба пазбаўляцца...

Нервовая ліхаманка падбівала Касцюшку заляпіць аплявуху гэтаму мярзотніку. Альбо праткнуць яго шпагай на дуэлі!.. Але ж... Старэйшага па чыне не выклічаш на дуэль — статут забараняе. І за абразу начальніка — трыбунал...

І раптам Касцюшку асяніла, як трэба паводзіць сябе з хамам. Ён акрыяў, ласкава ўсміхнуўся генералу:

— Вы такі смелы, сэр. Пэўна, таму, што кулі пасвістваюць далёка?

Лі ажно падскочыў з крэсла. Ніхто дагэтуль не сумняваўся ў яго смеласці! Што дазваляе сабе гэты паляк?!

А Касцюшка не даваў яму апамятацца:

— Дазвольце запрасіць вас на кубачак кавы. Калі не пабаяцеся...

— Пабаюся? — перапытаў Лі.

Касцюшка паказаў на нізіну, што прастрэльвалася з крэпасці, — там расла купка хвой і бярозак.

— Мне падаецца, там самае зручнае месца, каб адпачыць душой, абмеркаваць нашы непаразуменні... Безумоўна, калі вам боязна, сэр, я скасую сваё запрашэнне...

Памочнікі Лі насцярожана змоўклі.

Твар генерала акамянеў. Лі адкаркаваў бутэльку, сербануў рому, выцер вусы рукавом бруднай кашулі, ціха сказаў:

— А я думаў — толькі ў мяне з галавой не ўсё ў парадку... Лічыце, сёння найлепшы дзень, каб памерці?

Тадэвуш зірнуў на аблокі.

— Чаму б не праверыць: пажадана нябёсам наша смерць ці не?

Лі крыва ўсміхнуўся:

— А вы не такі слабак, як мне спярша падалося!.. Сапраўды, чаму б і не выпіць кубачак кавы? Хадземце! — Павярнуўся да памочнікаў: — Ці жадае хто далучыцца?

Ахвотнікаў не знайшлося.

Афіцэры пазбягалі глядзець у вочы самазабойцам.

* * *

Маланкава па лагеры пранеслася чутка — начальніку штаба і галоўнаму інжынеру жыць надакучыла!

Пагледзець, як іх заб'юць, збеглася ці не ўся армія. Нават каравульныя пасыходзілі з пастоў.

Генерал прыхапіў з сабой бутэльку рому, люльку і тытунь. Касцюшка — ардынарца Марціна, які нёс дровы, кубкі і чайнік. Сам Тадэвуш нёс паходню.

За гаспадарамі ўвязаліся сабакі — тры догі Лі і верны Зюзя.

На сценах форта замільгалі чырвоныя мундзіры. Сам лорд Карнваліс падняўся паглядзець — мо парламенцёраў паслалі?

Нервова ўздрыгваючы, Марцін Эванс склаў дровы, засыпаў каву ў чайнік і пацікавіўся ў Касцюшкі:

— Ці няма, сэр, у вас да мяне яшчэ даручэнняў?

Тадэвуш распаліў вогнішча і паставіў чайнік на агонь, загадаў:

— Ідзі ў лагер, паглядзі, ці не вярнуўся камандуючы.

Марцін аддаў чэсць і пабег.

Чакаючы, пакуль закіпіць вада, Касцюшка сеў, скрыжаваўшы ногі, а Лі прылёг, абапёршыся на левы локаць. У правай руцэ трымаў бутэльку, да якой час-почас прыкладваўся.

## Казка

Дзеці любяць казкі. І вось, кожны народ у сваім дзяцінстве прыдумаў сабе казку, назваўшы яе рэлігіяй. Але гэтыя казкі так людзям спадабаліся, што яны не хочуць адмовіцца ад іх і сёння. А можа, мы, чалавекі, дасюль яшчэ дзеці? І б'юцца хлапчукі-мужчыны, называючы свае бойкі войнамі.

## Кнопка

Дзяўчына падбегла да аўтобуса ў той момант, калі шафёр зачыніў ужо дзверы, але машына яшчэ не кранулася з месца, і яна пачала махаць рукою, прасіць шафёра, каб пусціў яе ў аўтобус. Але шафёр аказаўся неспагадлівы, не адчыніў дзверы, паехаў.

Наступны аўтобус па раскладзе меўся быць праз гадзіну, і дзяўчына вырашыла ісці пешкі. Па дарозе трэба было перайсці шумную магістраль, дзяўчына не асцераглася, і яе збіла машына.

А шафёр так і не дазнаўся — праз тое, што не захацеў націснуць на кнопку, — загінуў чалавек.

## Зямля

Усё, што нарадзілася на зямлі, на зямлі і застаецца, нішто з зямлі не знікае. Нездарма спакон веку мае яна адну вагу. Нават дыназаўры і маманты, мільярды людзей, што жылі да нас, ператварыўшыся ў пыл, круцяцца разам з зямлёю вакол яе восі, круцяцца вакол сонца. Можа, яны і кормяць зямлю, якая корміць усё на ёй жывое.

## Бог

Зайздрошчу таму, хто шчыра верыць у Бога. Гэта ўсё роўна, як мець дужага і вернага сябра, да якога можна прыйсці ў цяжкую хвіліну, у якога можна папрасіць дапамогі, на якога можна паспадзявацца. І ўсё, што прыходзіць да цябе ў жыцці — і радасць, і гора, — можна лічыць як наканаванае, пасланае Богам, прымаць радасць з удзячнасцю, а гора з пакораю. Як добра таму, хто мае ў сэрцы Бога, і як цяжка быць рэалістам.

## Пахвала

Адзін пісьменнік падарыў мне сваю кніжку. Не вельмі спадабаліся мне яго творы, але пры сустрэчы, каб не пакрыўдзіць — пахваліла.

Цяпер, калі хто хваліць напісанае мною, я думаю: гэта ён з далікатнасці.

## Першы блін

Ажаніўся і цераз год развёўся. Сказаў:

— Першы блін комам.

## Помста

«Тарковский и я» — пад такою назваю выпусціла ў Маскве кнігу кіназнаўца Вольга Суркова.

Перамыванне, як гэта кажуць, бруднай бялізны, выстаўленне і самога рэжысёра, і яго жонкі ў самым непрывабным святле — усё гэта

падобна на помсту з боку пані Сурковай за недастатковую да яе ўвагу з боку славутага рэжысёра, падобна на звядзенне нейкіх рахункаў. Аднак аўтарка не так прынізіла Таркоўскага, як самую сябе. І барані Бог вялікіх людзей ад такіх біёграфаў.

## Пытанне

А калі чалавек нехрышчоны і наогул не належыць ні да якой рэлігіі, то што — ніякі Бог не кантралюе яго ўчынкаў? І на тым свеце яму няма перад кім трымаць адказ?

## Сэрца Еўропы

Мы, беларусы, жывём у сэрцы Еўропы, вакол нас вялікія і малыя краіны са сваёю незалежнасцю. То як жа гэта мы за вякі не здолелі пабудаваць сваёй дзяржавы, не здолелі даць належны статус сваім мове, культуры, ператварылі іх у фальклор? Ці неба над намі не такое, як над іншымі краінамі, ці начальства спакон веку нялюдскае, ці самі мы затоўчаныя, прыбітыя і называем гэтыя свае затоўчанасць і прыбітасць талерантнасцю?

## Курачкі

Бабулька ехала з Камароўкі. Прысела на лавачку, спытала ў мяне:

— Колькі гэта часу? Мае курачкі там галодныя. Я ж іх так люблю. Якое гора ў мяне ці пячаль, я да іх іду, плачу... І яны як разумеюць, выстраяцца ў радок, глядзяць на мяне...

Далучаецца другая бабулька:

— У каго ёсць галава, у таго ёсць і розум... І ў курыцы, і ў кошачкі, і ў сабачкі... І ўсё яны разумеюць.

## Футра

Сястра, якая жыла ў Амерыцы, адрываючы ад сваёй пенсіі, пасылала брату ў Беларусь даляры. Той хаваў іх «на чорны дзень». Але той чорны дзень надышоў раней, чым чакаў брат. Ён памёр, так і не скарыстаўшы сястрынай дапамогі.

Скора памерла і ягоная жонка. Усё іхняе дабро перайшло ў спадчыну жончынай стрыечнай сястры — бліжэйшых родзічаў не мела. А тая, атрымаўшы даляры, купіла сабе дарагое футра.

Каб ведала сястра, што за грошы, якія адрывала ад сваёй пенсіі і пасылала брату, чужая, незнаёмая жанчына купіла сабе футра...

## Грань

Беларуская літаратура пастаўлена на грань выжывання. Ці пакажа яна сваю жывучасць? Ці паслухмяна пойдзе на дно? Тым і пакажа — альбо сваю патрэбнасць свету, альбо непатрэбнасць. Ці выжыве ў гэтай сітуацыі, ці загіне.

## Пошукі мінулага

Жыццё развяло іх. Яна паехала адведаць бацькоў і знікла. Знікла для яго, здавалася, назаўсёды, бо грымела вайна, а ён быў салдат іншай краіны.

Прайшло шмат гадоў. Ён ажаніўся, у яго нарадзіліся дзеці. Але з памяці не сыходзіў той юны вобраз — сінія вочы, мяккія светлыя валасы, сонечная ўсмешка.

Памерла жонка, разляцеліся па свеце дзеці, а той светлы вобраз не толькі не сышоў з памяці, а нібыта паярчэў — жывы і хвалюючы.

Змяніўся свет, змяніліся абставіны, і ён, стары ўжо чалавек — далёка за семдзесят, жыхар другой краіны, вырашыў знайсці яе і высветліць — чаму яна тады знікла.

Ён так мала ведаў пра яе, толькі імя — Зіна — і горад, дзе прамільгнула іх кароткае каханне.

І ўсё-такі Зіну знайшлі. І высветлілі, чаму яна тады знікла. Яе арыштавалі за сувязь з іншаземцам. Яна прабыла ў лагеры дзесяць гадоў.

Яны сустрэліся. Зіна, якая жыла ў яго памяці такой маладой і прыгожай, таксама была ўжо старая, таксама далёка за семдзесят. У яе была хвароба Паркінсона — моцна трэслася галава і дрыжэў голас, яна з цяжкасцю хадзіла на распухлых нагах. Ад яснага твару, ад сініх вачэй, ад сонечнай усмешкі не засталося нічога.

Ці трэба было шукаць мінулае?

## Ісціна

Існуе толькі адна неабвержная ісціна, яе не трэба шукаць, яна ляжыць на паверхні. Гэта ісціна, што я памру. Што памруць усе людзі, якія цяпер жывуць на зямлі, што памруць і тыя, што яшчэ не нарадзіліся. І супроць гэтай ісціны нічога не зробіш.

## Багадзельня

Сустрэла знаёмага. Ён спавядаўся:

— Пазаўчора пахаваў матку. І, ведаеш, адчуў палёгку. Яна жыла з маёй замужняй дачкой, і тая настойвала, каб я аддаў матку ў багадзельню. Я ўпіраўся, і вось, нарэшце, усё скончылася прыстойна...

Я падумала — Божа мой, як замінаюць маладым старыя людзі! Бабка некалі ўзяла ўнучку з мужам у сваю шыкоўную кватэру, і вось цяпер яны не ведалі, як пазбавіцца ад бабкі.

Ці не сучасная каралева Лір?

## Бог і пяро

Чытаеш старонку за старонкай розных аўтараў. І тут і там словы, сказы, але што за таямніца, што за магія, відаць яскрава — тут рамяство, а тут талент, тут з галавы, а тут — ад Бога. А Богам называем мы непазнаныя сілы, што кіруюць пяром. І напісанае тым пяром, якім кіруе Бог, — хвалюе. А напісанае без Бога — пакідае раўнадушным.

## Крыўда

Зорка эстрады зарабляе шалёныя грошы, мільёны мае на рахунку ў банку, а жыве галаднавата — трымае жорсткую дыету, каб не растаўсцець, каб прывабна выглядаць на сцэне.

## Моцныя духам

Вялікі амерыканскі пісьменнік Джэк Лондан і наша беларуская Цётка нарадзіліся і памерлі ў адзін і той жа год. І Джэк Лондан, і Цётка былі за рэвалюцыю, абое былі рамантыкамі.

Ніякага параўнання Джэка Лондана з Цёткаю не можа быць, і ўсё-такі, усё-такі... У гэтым нешта ёсць... Час нараджаў людзей моцных духам.

## Раней не бачылі

Вобраз дваццаць першага стагоддзя: камуфляжная форма, чорная маска на твары, пасак шахіда...

Раней такога не бачылі, раней пра такое не чулі....

## Дзяльба

Не новая сітуацыя — зладзеі, абрабаваўшы банк, не могуць падзяліць здабычы і з саўдзельнікаў робяцца заклятымі ворагамі.

Мастакі, што пішуць твор у сааўтарстве, часам не могуць падзяліць славы і таксама са шчырых сяброў робяцца заклятымі ворагамі.

## Мода

Як ствараецца мода? Бяруць штаны і год за годам складаюць у бочку. Пройдзе шмат часу, бочка будзе напакаваная. Тады яе перакульваюць уверх дном. Тое, што апынецца зверху, і будзе моднае.

## Рацыён

Сёння новыя беларусы купляюць сваім гадаванцам — сабакам ды катам — цяляцінку, пячоначку, глазураваныя сыркі.

Ніякая пенсіянерка не можа дазволіць сабе такі рацыён.

## Мамант

Пазваніў знаёмы рэжысёр, які нядаўна адсвяткаваў свой сямідзесяцігадовы юбілей. Кажа:

— Некалі я, у маладосці, думаў, што семдзесят гадоў — гэта ўжо мамант. А цяпер бачу, што семдзесят гадоў — юначы ўзрост.

## Фатаграфія

Знайшла здымак сорак сёмага года мінулага стагоддзя. На ім я, настаўніца, сярод сваіх вучняў — хлопчыкаў другога класа. (Тады былі асобна жаночыя і мужчынскія школы.)

Як жа цяжка было мне з тымі жэўжыкамі-непаседамі, як вымотвалі яны маю душу і якімі здаваліся часам злыднямі. А сёння глянула на тую фатаграфію — якія ж мілыя мае хлапчукі, якія добрыя і шчырыя ў іх твары.

## Смех

Ляхэн із гезунд — кажуць немцы. Смех — гэта здароўе. Кепска сябе пачувала і вырашыла палячыцца смехам. Купіла білеты на канцэрт гумару і сатыры.

Зала рагатала, а мне зусім не было смешна ад той пашляціны, што кацілася са сцэны ў залу. Так і не вылечылася, толькі грошы зглуміла — дзесяць даляраў.

## Пакланенне

Дзмітрый Мяражкоўскі напісаў некалі геніяльныя радкі:

И я сжег все, чему поклонялся,
Поклонился тому, что сжигал…

Не так даўно крышылі, палілі цэрквы, касцёлы і пакланяліся камунізму.

Сёння крышаць, рушаць камунізм і пакланяюцца царкве.

## Спужаўся смерці

Стары чалавек, некалі вялікі начальнік, пачаў шукаць сустрэч з былымі сябрамі, прасіць прабачэння, калі што некалі не так было, зрабіўся мяккі, добразычлівы.

— Спужаўся смерці, — сказаў пра яго адзін знаёмы.

## Туалет

Чалавек усё жыццё пражыў у вёсцы і за сваёй патрэбаю бегаў у «сутачкі» — так у іхняй вёсцы называлі прыбіральню. Састарэў, захварэў, і дачка забрала яго да сябе ў горад.

Ніяк не мог прывыкнуць дзед да гарадскога туалета. Як гэта так — у кватэры, ды ў такі чысценькі, беленькі... І колькі вады траціцца...

## Вуліца

Жыхары адной з вёсак Гродзенскай вобласці вуліцу імя Леніна перайменавалі ў вуліцу Папы Рымскага...

Пераацэнка каштоўнасцей, так бы мовіць...

## Усё канчаецца

Якім бы доўгім і сумным ні быў дзень — ён канчаецца.

Якім бы доўгім і шчаслівым ні было жыццё — яно канчаецца таксама.

## Падарункі

Вучням-кадзетам раздалі навагоднія падарункі, у тых падарунках, сярод мандарынаў ды цукерак, былі і цюбікі зубной пасты.

— Зубная паста — гэта добра, — уздыхнуў адзін кадзет. — Толькі зубных шчотак у нас няма.

## З гісторыі

Некалі дырэктар выдавецтва «Беларусь» Захар Пятровіч Матузаў строга забараняў упамінаць у кнігах прозвішча Радзівілаў. «Няма чаго прапагандаваць князёў», — быў ягоны аргумент.

А між тым: княгіня Магдалена Радзівіл дапамагала грашыма першаму беларускаму выдавецтву «Загляне сонца і ў наша аконца», фінансавала выданне кнігі Максіма Багдановіча, за свае грошы адчыняла

беларускія школы і прытулкі для дзяцей-сірот. А газета «Вольная Беларусь» у свой час пісала: «Па загаду вядомай у нашым краі вялікай землеўладальніцы княгіні М. Радзівіл у яе маёнтку вывешаны абвесткі, паводле каторых прапануецца служачым ужываць беларускую мову заміж польскае і расійскай».

Дзякуй Богу, што цяпер пра гэта можна пісаць.

## Жыццё

У маладосці жыццё здаецца вельмі доўгім — колькі яго яшчэ наперадзе, канца не відаць.

А ў старасці як азірнешся — якім жа кароткім жыццё аказалася. І нічога ў ім ужо не паправіш.

## Забастоўка

Па шырокай вуліцы Нью-Йорка ішла калона дэманстрантаў — са сцягамі, плакатамі.

— Якое ж сёння ў вас свята? — спыталіся мы, савецкія турысты, у нашага гіда.

— Ніякае не свята, гэта дэманстранты аб'явілі забастоўку і выказваюць свой пратэст.

З дзівам, з цікаўнасцю глядзелі мы на тых забастоўшчыкаў, у нас такое і ўявіць было немагчыма.

А сёння ў Маскве на вуліцы шахцёры ляскаюць па бруку каскамі — як у кожнай прыстойнай капіталістычнай краіне.

## Справядлівасць

На зямлі спрадвеку не існавала справядлівасці. Яшчэ да нашай эры Сакрат за свае погляды быў прыгавораны да смяротнай кары. Па волі натоўпу быў распяты Хрыстос, на кастры спалілі Жанну д'Арк і Джардана Бруна.

І да сённяшняга дня зло пануе над дабром, якім бы судом тое зло ні судзілі.

## Мастачкі

Дзяўчаткі робяцца таленавітымі мастачкамі, калі пачынаюць размалёўваць уласны твар — бровы, вейкі, павекі, вусны... Ствараюць уласны партрэт — мастацкі твор.

## Злом галавы

Калі пачынаеш думаць — як утварыўся сусвет, як утварылася наша зямля, як з'явіліся на ёй расліны, звяры, птушкі, так мудра прыстасаваныя да жыцця, як, нарэшце, з'явіўся чалавек, то, здаецца, лопне галава ад таго думання, але ўсё роўна нічога не дазнаешся, як ні круці мазгамі, а вучоныя гіпотэзы так гіпотэзамі і застануцца.

## Панда

У Кітаі забойства панды караецца смерцю.

У Беларусі кожны дзень забіваюць беларускую літаратуру, мову, і ніхто не нясе за гэта ніякага пакарання.

## Святыя абразы

У навагоднім «Блакітным агеньчыку» прытанцоўвалі і спявалі не вельмі прыстойныя куплеты артысты, загрыміраваныя пад Маркса, Энгельса і Леніна. Асабліва шчыраваў «Ленін», ён спяваў пра тое, колькі гора прынесла людзям Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Відовішча гэта выклікала жах, падобны да рэлігійнага. Нішчыліся святыя камуністычныя абразы, як некалі нішчыліся абразы царкоўныя.

І яшчэ думалася, што некалі такі жарт пастаноўшчыкам і ў галаву не прыйшоў бы, а каб прыйшоў, то тая галава ўміг зляцела б.

## Сытыя песні

Валасы дыбам, крыўлянне, набор бяссэнсавых слоў — такія песні, кліпы ўрываюцца сёння ў нашы кватэры з тэлевізара. Далі свабоду, і вольную глебу запаланіў чартапалох. Перад сытымі выканаўцамі адна задача — здзівіць, уразіць, абяздушыць слухача.

І ўспамінаюцца надрыўныя песні Высоцкага, шчымлівыя песні Акуджавы, задушэўныя песні нашых «Песняроў».

Кажуць, які час, такія і песні. То ў які час мы жывём?

## Дзіця

Нарадзіць дзіця — вялікая адказнасць перад новым жыццём. А ў нас вельмі часта дзеці на свет з'яўляюцца выпадкова, незапланавана, часта сп'яну і да таго ж — нежаданыя.

## Багацце і каханне

Багацце не робіць чалавека шчаслівым, шчаслівым яго робіць толькі каханне — такая думка праходзіць скрозь папулярныя бразільскія серыялы аўтара Бэнэдзіта роу Барбозы. Яго героі пакідаюць бацькоў — мільянераў, адмаўляюцца ад багатай спадчыны, абы толькі быць са сваімі каханымі.

Але сам Бэнэдзіта роу Барбоза нажыў на сваіх серыялах не малое багацце і жыве, вядома, не ў хаціне.

## Тэлефон

Адна прыяцелька сказала мне па тэлефоне:

— Усё, больш я табе не званю, маёй пенсіі не хапае на тэлефонныя размовы.

І перастала званіць.

Дажылі...

## Прырода

Якая ж ты жорсткая, прырода! Нараджаеш свежае, маладое, прыгожае, даеш яшчэ нейкі час для росквіту, а потым, год за годам, ператвараеш у старое, у брыдкае, у чарвівы грыб. А далей, нібы спалохаўшыся таго, што нарабіла, знішчаеш сваё тварэнне, ператвараеш у пыл.

## Не будзь красіва

Ехалі ў электрычцы. Побач стаяла маладая пара. Яна — ну зусім непрыгожая, даўганосая, а ён — хлопец відны. І як жа ён абдымаў яе, як бараніў ад штурханіны ў перапоўненым вагоне.

Вось вам ілюстрацыя да прымаўкі — не будзь красіва, а будзь шчаслівa.

## Спрэчка

— Ці ёсць Бог?

— Думаю, што ёсць, бо вельмі разумна створана ўсё на зямлі.

— А я сумняваюся, бо вельмі жорстка створана ўсё на зямлі. Драпежнікі паядаюць нявінных траваядных, людзі забіваюць, калечаць адно аднаго, і хваробы, смерць чалавека ў вялікіх пакутах. Калі і ёсць Бог, то ён не літасцівы, а вельмі жорсткі.

## На што здольны

Чалавек не выбірае бацькоў, не выбірае радзімы, не выбірае нацыянальнасці. Не выбірае ён і часу сваёй смерці. Калі азірнуцца на чалавечае жыццё, то, здаецца, і на працягу свайго існавання ён не вельмі вольны ў выбары, быццам нейкая сіла, нейкі лёс вядзе яго па жыццёвай дарозе.

То што ж тады залежыць ад самога чалавека? На што ён здольны сам? Што мусіць сам рабіць у жыцці? За што адказваць перад сабою і людзьмі?

Напэўна, сам павінен ён зарабляць свой кавалак хлеба... І не рабіць людзям зла.

## Вечнасць

Пашпарт сведчыў, што ёй дзевяноста восем гадоў. Сама яна гэтага не памятала, сказала жанчына з сельсавета, прыйшла і сказала, што трэба ёй пашпарт мяняць — з савецкага на беларускі. А навошта ёй мяняць пашпарт, ён ёй зусім не патрэбны, і раней, усё жыццё быў не патрэбны. Як непатрэбна была і грамата. Усё жыццё яна не ўмела ні чытаць, ні пісаць. Яна працавала ў калгасе — даіла кароў, касіла траву, жала жыта, а на гэта патрэбна была не грамата, а сіла. А яна была дужая, гэта цяпер аслабела і цэлымі днямі сядзіць на прызбе каля сваёй хаты. Паўз яе працякае вечнасць, яна гатова ўжо растварыцца ў той вечнасці, але вечнасць пакуль яе не прымае. Больш за ўсё яна сядзіць бяздумна. Але часам усплываюць у памяці каровы, якіх даіла, трава, якую касіла, жыта, якое жала. Часам з далёкай даўніны ўсплывае ў памяці прывід мужчыны, але і ён успамінаецца, як тая трава, якую касіла, як жыта, якое жала.

## Няма таленту

Сухенькі сівы дзядок з кавенькаю разважаў голасна, на ўвесь аўтобус-экспрэс, які вёз з вакзала ў Бараўляны:

— Дзевяноста першы год, няма таланту ездзіць, трэба дома сядзець, а хвароба пагнала мяне ў гэны Мінск!

## Класавы падзел

У восьмым класе сярэдняй школы сябравалі між сабою дзяўчаткі, бацькі якіх мелі замежныя машыны.

Дзяўчаткі, бацькі якіх ніякіх машын не мелі, таксама сябравалі між сабою і не любілі тых задавак.

## Мурашачка

Мыла акно, і аднекуль выкацілася, пабегла па падаконніку малюсенькая мурашачка. Я на яе анучку — лясь — і забіла. А потым пашкадавала: бедная мурашачка, яна і не ведала, што яна жыла і што яе забілі.

А можа, ведала?

## Васіль Быкаў

Усё творчае жыццё Васіль Быкаў быў у канфлікце з уладамі.

І нават смерць яго, пахаванне выклікалі чарговы канфлікт.

## «Шпіён»

Мастак, зусім малады хлопец, сядзеў пад Кіевам на полі і рабіў замалёўкі для свайго эскіза. А было гэта ў першы год пасля вайны. За мастаком доўга назіраў нехлямяжы мужычок-украінец, а потым спытаў:

— А чы ты не нямецкі шпіён?

— Ні, — адказаў мастак.

Мужычок яшчэ паўглядаўся на мастака, худога, бедна апранутага, і зноў спытаў:

— А ісьты табе хто-небудзь дае?

— Ні, — адказаў мастак.

Мужычок выняў з кішэні яблык і падаў мастаку.

## Укус

Укусіла аса. З тыдзень не праходзілі боль і пухліна. Гэта ж трэба — такая маленькая мушка, а такое моцнае джала і столькі яду! Не раўнуючы, як паганы чалавек, — укусіць, і доўга баліць.

## Аўтамат

Хлопчык гадоў шасці бегаў з драўляным аўтаматам.

— Та-та-та! — страляў ён у сваіх сяброў, і тыя падалі.

Бацька! Навошта ты купіў дзіцяці такую цацку! Сын вырасце і захоча мець сапраўдны аўтамат, і тады ўжо не абыдзецца без дзіцячага та-та-та...

## Страшней за смерць

Учора была маладая, здаровая, багатая, шчаслівая — сёння абрынулася ў бездань, страшнейшую за смерць. У Маскве, падчас катастрофы ў аквапарку, у яе загінулі муж і чатырохгадовы сын. А ёй прыйшлося ампутаваць абедзве нагі.

## Спазніліся

Члену Саюза пісьменнікаў прыйшло запрашэнне на сход літфонду. А гэты пісьменнік ужо год як адышоў ад усіх праблем жыццёвых. Вось так — ні Саюз пісьменнікаў, ні Літфонд не ведаюць, хто з іх членаў жывы, а хто аддаў ужо душу Богу.

## Малюнак

Дзед з рукзаком за плячыма шпарка ішоў па вуліцы, а трохгадовы ўнук бег за ім, як сабачка за гаспадаром.

## У доктара

— Доктар, у мяне вось тут баліць, — паказвае кабета на бок.
— А колькі вам гадоў?..
— Семдзесят пяць...
— І вы хочаце, каб у вас нічога не балела? Баліць, значыць, вы яшчэ жывая.

## Хімера

Свабода — гэта хімера, яе не існуе на свеце. Жыццё кожнага чалавека звязана з жыццём іншых людзей, і ён не можа быць ад іх свабодны. Свабоды не можа быць нават у нашых думках, бо нашы думкі, наш розум абмежаваныя ведамі. Свабоды няма ў прыродзе, бо яна падпарадкавана сваім законам, і парушыць жывой істоце той закон — значыць, загінуць. Свабоды няма нават у космасе, бо ўсе яго планеты, зоркі падпарадкаваны гравітацыі і не могуць ад яе аслабаніцца. Так што ўсе лозунгі, заклікі аб свабодзе не што іншае, як пошукі хімеры, мары пра нязбытнае.

## Слёзы

У герояў перадачы «Чакай мяне» ўзнікаюць такія сітуацыі, што плача ўся студыя. І плачуць мільёны тэлегледачоў, і я сярод тых мільёнаў.

## Цукеркі

У рэдакцыю мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь» зайшоў малады аўтар, каб даведацца пра лёс свайго рукапісу. Загадчык рэдакцыі Мікола Тураў пачаў выносіць хлопцу строгі прыгавор, на мой погляд, не зусім справядлівы. І я сказала некалькі слоў у абарону аўтара — цяпер не памятаю ні яго імя, ні прозвішча. Сказала і пра іх забылася. А назаўтра малады аўтар прынёс і паклаў мне на стол вялікі карабок цукерак. І я падумала — Божа мой, як важна было таму хлопцу пачуць хоць слова ў сваю падтрымку і як удзячны ён быў мне за тое слова...

Маё заступніцтва не змяніла лёс таго рукапісу, але я тады зразумела — як жа адгукаецца чалавечая душа і на благое, і на добрае слова.

## Дыягназ

Каханне — гэта хвароба, часам нават са смяротным зыходам, але тое рэдка. Як і кожная хвароба, каханне прыносіць пакуты, але яна вылечная. І найлепшыя лекі для яе — час. Хварэць каханнем можна некалькі разоў у жыцці, няма імунітэту, няма ад яе і прышчэпак. Хвароба гэтая часам пакідае ўскладненні, але часцей за ўсё мінае бяследна.

## З успамінаў мастака М. Гуціева

— Мы ў партызанах лістоўкі пісалі, малявалі карыкатуры на Гітлера. Каб іх тыражыраваць, патрэбны быў лінолеум, рабіць на ім клішэ. Але дзе ў партызанах знойдзеш той лінолеум? Ад разведчыкаў даззналіся, што ў кабінеце аднаго нямецкага генерала падлога выслана лінолеумам. Накіравалі туды партызанаў. Тыя падпільнавалі, калі

генерала не было на месцы, уварваліся ў кабінет і садралі з падлогі лінолеум. Ухапіць што іншае не мелі часу. Потым немцы вельмі дзівіліся — нічога не ўзялі партызаны, толькі лінолеум з падлогі садралі.

## Утульна...

Начальнік турмы, у якой сядзеў Хадаркоўскі, расказваў па тэлебачанні пра ўмовы, у якіх утрымліваўся арыштант:

— У камеры чатыры чалавекі, кожны мае сваё спальнае месца, ёсць тэлевізар, халадзільнік, халодная і гарачая вада, у камеры цёпла і ўтульна.

Невядома, як можа быць утульна ў турме, гэта слова выклікае ўсё ж іронію. Аднак, калі добра падумаць, то, магчыма, мільёны сумленных расіян не маюць такіх умоў жыцця, як некаторыя арыштанты. Месяцамі жывуць шмат якія расіяне ў мароз без ацяплення, без гарачай вады і нават без электрычнасці.

## Пахаванне

Памерла маці. Дочкі дзелавіта абмяркоўвалі — як апрануць нябожчыцу, якую купіць труну, дзе пахаваць. Прыехалі і сыны. Малодшы пахадзіў па хаце, агледзеўся і кажа:

— Малайцы сёстры, не плачуць, а я ехаў сюды і думаў, што тут будзе такое галашэнне...

## Лепш...

Лепш быць ашуканым, чым ашуканцам...
Лепш быць пакрыўджаным, чым крыўдзіцелем...
Лепш быць забітым, чым забойцам...





## СОФ'Я ШАХ

* * *

Адпелі салаўі, зязюлі адкувалі,
і ліпы неўзабаве адцвілі,
а лета ўсё яшчэ як быццам у запале, —
адчуць сваю мяжу няма калі.

Душа затое не спазнілася — пачула.
Душу затое ўжо не абхітрыць
ні шалам зелені, ні квецені разгулам,
ні сонцам, што так слепка зіхаціць.

І ўсё яно нічога б, — то ж не дзіва —
спад будучы наперад адчуваць,
да болю, да замарачэння распачліва
яго ізноў, ізноў перажываць.

Ды з'ява новая няўзнак апанавала
і не знайсці мне на яе адказ:
чаму душа аб спадзе тым загаравала
раней намнога, чым мінулы раз...

* * *

Ізноў вясна ды лета, восень ды зіма,
яшчэ вясна ды лета, восень ды зіма —
і часу ўжо вось гэтага ў жыцця няма.

А што ўзамен яго, заместа тых гадоў,
якім аддадзена і сіла, і любоў?
Такая ж самая любоў і сіла слоў.

Ды сіла гэтая, хоць як што ні кажы,
не адлюстроўвае з-за дадзенай мяжы
у поўнай меры тое, што ў самой душы.

Пра тое, скрозь як дзівіцца яна ўсяму,
як свету беламу сябе нясе саму,
мо толькі Богу і вядома аднаму.

* * *

Шэранькія высі,
шэранькія далі...
Хмары панавіслі —
час апанавалі.

Час апанавалі
звычнаю маркотай —
лістападам сталі,
апавітым слотай.

Апавітым слотай
дзён акарацелых,
сточаных употай
скрухай застарэлай.

Скрухай застарэлай,
думкай безвыходнай
на зямлі згалелай,
на зямлі гаротнай...

* * *

Ах ты, любая, глыбокая,
Ах, чарговая мая,
зноў дажджы твае шырокія
зрокам-слыхам пешчу я.

Зноў вятры твае арганныя
забіраюць сэрца ў даль,
зноўку дні твае туманныя —
нібы мой таемны жаль.

Ранне, вечар, ноч бяззорная,
ранне, вечар, ноч ізноў...
Што паўторна-непаўторнае
у табе мой дух знайшоў?

Ах ты, восень, восень-восенька!
Ах, мая дарэшты ўся, —
з ветрам, слотай, голым голлейкам
на сярэдзіне жыцця!

* * *

Наляцелі віхрамі вятры,
расхісталі, ўздыбілі ваколле —
і шалеюць, і равуць віры
ў комінах, у правадах, у голлі.

Вычварныя свісты, гулы ўслед
за глухімі стогнамі і плачам

нібы паглынулі белы свет,
нібы стаўся й сапраўды прапашчым.

Ляскат, брынкат, бразгат навылёт,
скавытанне, шастанне, трымценне...
Гэткі вэрхал высакосны год
учыніў зямлі на заканчэнне.

## СНЕГ

Вось і пайшоў, бы і не супыняўся,
лета і восені бы й не было,
бы й трапяткі золак не разгараўся,
чуючы весняга сонца цяпло.

Вось і ідзе, быццам гэтыя далі
век і не ведалі фарбаў другіх:
жоўта-зялёнай шырока не ззялі,
ані блакітнай між сіне-скразных.

Вось ён і кружыць, і кружыць без стомы,
і запаўняе паветра наўсцяж —
гэты да болю такі ўжо знаёмы
белы, халодны, зімовы міраж.

* * *

Зіма... Так хочацца да мамы,
у тыя даўнія гады,
на бераг той, далёкі самы,
дзіцячай доляю круты.

Так хочацца... Ну хоць на трошкі...
На вочы ўбачыць на свае
ўсе тыя сцежачкі-дарожкі,
якіх так зараз не стае.

Яшчэ разок, разок паслухаць
і вецер, дождж, і цішыню...
Яшчэ разок сябе ахутаць
паветрам тым, што нават сню...

Да мамы — праз снягоў здранцвенне,
да мамачкі — праз доўгі час...
Майго цярпення і змірэння
канчаецца запас.

* * *

Вецер, ноч і я, —
нас, бяссонных, трое.

Ў кожнага — журба свая,
каянне старое.

Вецер — зноў і зноў,
зноў пра незваротнасць
дзён, і тыдняў, і гадоў...
Што — яго няўтомнасць!

Ноч — пра немату
ды пра зябкасць-глухасць,
пра няўцямнасць-слепату...
Толькі што ўжо — скрушнасць!

Я... А я — паміж.
Я — для ўсведамлення,
што начная глуша-ціш —
боль майго сумлення.

* * *

Неба сінь-сінеча,
сонца прамяні.
Штосьці птах шчабеча
ў ранняй светлыні.

Азіраеш высі, —
эх, і глыбіня! —
гэтак узняліся
на пачатку дня.

Дух жывы і лёгкі,
а імпэт — струна.
Ну вясна — і толькі,
сапраўды вясна.

А пагляд апусціш
вольна-ўзнёслы свой —
і няўзнак астудзіш
белаю зямлёй.

## ДЫПТЫХ

1

Іспыт — і гэты вось блакіт,
і смужнасць далечы — іспыт.
Выпрабаванне і вясной,
яе лагодай, яснатой.

Вось тут, дзе весняя мяжа,
ці многа трэба, каб душа
захвалявалася ізноў
да самых патайных асноў?!

Ды з нейкім новым пачуццём,
ды з немагчымасцю маўчком
яго ў сабе вяршыць-спяліць, —
яно ўжо ёй амаль баліць.

Здаецца, мо было б лягчэй,
каб следам, следам і хутчэй —
у гэтую жывую плынь:
у рух паветра, ў сонца, ў сінь...

2

Цягне-вабіць, цягне-кліча
весні ранак, весні дзень
нейкай сілай чараўнічай
неўсвядомленых надзей.

Нейкім вечным спадзяваннем,
што на беды і на злосць
для збаўлення-ратавання
процівага ўсё-ткі ёсць.

Што ад роспачаў ды боляў
недзе там, у новых днях,
нешта ж мае ўсё-ткі доля,
каб не слаб жыццёвы шлях.





АЛЕГ ЛІТОШКА

# ТАНЕЦ ЦЕЦЕРУКОЎ

## *Апавяданне*

Хтосьці сказаў, што паляванне — горш за вязніцу.

Так яно ці не так, аспрэчваць не буду, але блуканне са стрэльбай па лесе мне падабалася яшчэ з юначых гадоў. Не скажу, што пражыць не магу без палявання, але, калі выпадала такая нагода і магчымасць, ніколі не адмаўляўся.

Закінуў мяне пракурорскі лёс у раённы паляшуцкі гарадок. На той час я быў самы малады пракурор у нашай рэспубліцы.

У гарадку шмат начальнікаў — вялікіх і маленькіх, сярэдніх і так сабе, — і ўсе яны, як правіла, мелі стрэльбы, кожны з іх быў паляўнічым...

Пятро Якаўлевіч, з якім я пазнаёміўся, прыехаўшы ў яго саўгас, з першай сустрэчы мне дужа спадабаўся. Дабрачы аказаўся чалавек, вясёлы. І — шчыры. Пяты год кіраваў саўгасам. Ён і на кіраўніка быў не дужа падобны — не меў строгага начальніцкага выгляду, ніколі не павышаў голасу. З яго пакеплівалі сябры, і ён не ўмеў ні на кога крыўдзіцца.

У яго, калі можна так сказаць, была шырокая душа. Ён не мог каго-небудзь падмануць, паабяцаць нешта і не выканаць, даць слова і не стрымаць яго. Тым больш — нешта ўкрасці. Я дадаў бы на сваёй мове — ніколі не ўступаў у супярэчлівасць з законам, хаця яго калегі, у сілу многіх прычын і абставінаў — аб'ектыўных і суб'ектыўных, — недзе і пераступалі закон. Абставіны прымушалі тое рабіць. І шчыра здзіўляліся яго сябры, калі ён не згаджаўся прыпісаць у зводцы лішні кілаграм малака ці тону зерня...

Толькі пасміхаўся, жмурыў вочы, адмахваўся, гаварыў:

— Ды не магу я так, хлопцы... Маці вучыла мяне — ніколі не красці і не падманваць. Бог жа ўсё бачыць...

— Хай Бог бачыць, але не бачаць раённыя чыноўнікі-статысты... Ты амаль у перадавіках ходзіш, але не хапае табе паўтоны малака для перамогі ў раённым спаборніцтве, а ты і не думаеш, каб быць першым...

— Не, думаю, тое несумленна будзе...

Была яшчэ адна добрая рыса ў яго — ён усім стараўся дагадзіць, а дзеля сваіх сяброў мог пайсці на любыя ахвяры. Ён перажываў за чужыя няўдачы ці гора, свае ж клопаты ніколі не выстаўляў напаказ.

Мая пракурорская служба вымушала асцярожна выбіраць сяброў, але Пятро стаў адразу ж адным з лепшых і шчырых маіх дружбакоў. Я давяраў яму ва ўсім, як самому сабе.

Раённае пасяджэнне па нарыхтоўцы збожжа доўжылася тады нядоўга — мо каля гадзіны. Прысутнічаў на ім і я — запрасіў райкам.

Мы выйшлі на вуліцу, спыніліся непадалёк ад будынка раённай улады. Пасля пахмурных дзён і зацяжных дажджоў выглянула сонца, прыемна лашчыла твар. Ад гэтага і настрой у нас быў добры, у сэрцы — лагода, на душы — спакой.

Мы чамусьці не спяшаліся развітвацца, хаця ўдзельнікі сходу даўно паразыходзіліся і параз'язджаліся па сваіх маршрутах.

— От цяпер недзе ў гэты час цецерукі гарцуюць, танцы наладжваюць... — прымружыў задумліва вочы Пятро, уздыхнуў, як быццам шкадаваў, што не знаходзіцца каля іх, не бачыць іх гарцавання.

Я маўчаў, не ведаў, да чаго ён хіліць. Ён быў і са мною, і недзе далёка ад мяне. У яго блакітных вачах люстравалася сінеча неба, але ж там былі і крапінкі суму.

— Алег, а ты любіш паляванне? — нечакана спытаў у мяне сябар, падстаўляючы сонцу твар.

У яго светлыя валасы, як пшанічная, толькі што складзеная ў сцірты салома, і промні сонца купаліся ў іх, выбельваючы яшчэ больш.

— Люблю, а што? Можаш наладзіць паляванне?

— Уяўляеш, братка ты мой, грэчневае прасторнае поле, а на ім — процьма цецерукоў, — не адказаў на маё пытанне сябрук. — З канца сакавіка да чэрвеня наладжваюць яны свой баль — такаванне, — аж чорна-чырвона ад іх — сляпы нават, не цэлячыся, пападзе...

— Ты так добра ведаеш гэтых птушак? — мне хочацца чамусьці падахвоціць яго да азарту. — Як арнітолаг расказваеш...

— Мая стыхія, — ківае галавой Пятро, нібы згаджаецца з маёй здагадкай. — На гэту тэму магу табе цэлую лекцыю прачытаць. Пра тое, напрыклад, што цецерукам уласцівы полавы дэфармізм...

— А што гэта такое?

— Гэта азначае, што самка і самец розняцца па форме і па афарбоўцы. Самкі, натуральна, меншыя за самцоў. Апярэнне касачоў чорнае, з сінявата-фіялетавым адценнем. Калі глядзіш на іх падчас такавання, то, братка ты мой, сэрца заходзіцца і шчыміць ад замілавання... А гукі, якія яны выдаюць гукі! Братка ты мой дарагі, — то ж сімфонія, араторыя! То яны чуфыркаюць — чу-фыыр, чу-фыр, чуфыр-чуфы-чуфыыр, — то буркацяць нешта невыразнае, бегаюць, б'юцца паміж сабою, а як распусцяць хвасты — тады ад іх і вачэй нельга адвесці...

— Ты так іх блізка бачыў?

— Во як цябе цяпер бачу... І я думаю, братка ты мой, што чалавек навучыўся скокам у райскай птушкі, а можа нават, і ў нашага цецерука. Якія яны робяць выкрунтасы — і падэспань, і вальс, і кракавяк... Якія яны грацыёзныя і прыгожыя падчас кахання! Цуд! Чароўнае відовішча!

Гляджу на яго — і радуюся чалавечаму настрою, непасрэднасці, апантанасці і шчырасці. Як хлапчук — даверлівы і просты. І мне прыемна, што ў мяне ёсць такі сябра.

— Фантазёр, — усміхнуўся я, не верачы ў тое, што ён мне расказаў, — дзе ж гэта такое можа быць?

— Не верыш? — загарэўся Пятро і пачаў свідраваць мяне вачыма. — Не верыш мне? Тады я табе вось што скажу, мой дарагі дружа. У цябе ў пятніцу дзень нараджэння, так?

— Так. Ну і што?

— А то... Я хачу табе зрабіць да твайго дня падарунак. Які? Не абяцаю дзесяць, а пяць цецерукоў на сяброўскую вячэру мы абавязкова табе падстрэлім. Хочаш папаляваць?

Прапанова была нечаканай, і я не ведаў, як адрэагаваць на яе.

— А дзе яно знаходзіцца, тое грэчневае поле?

— У Забалацці. Гэта ж мае ўладанні. Дык як — хочаш падстрэліць некалькі птахаў?

Прыйшла пара прымаць рашэнне. Тым больш, што ён заінтрыгаваў мяне сваім аповедам.

— Хачу. Да таго ж, мне трэба наведацца ў Забалацце — закрыць адну скаргу.

— На мяне? — зноў прыжмурыў вока Пятрусь. — На мяне не так часта, але пішуць...

— Ды не, адна пенсіянерка ніяк з пенсіяй уладзіць не можа, дапамогі просіць...

— А-а... Ну, дык прыязджай. Надумаешся, прыязджай, — пачаў ужо і прасіць дырэктар саўгаса, загарэўшыся здзівіць мяне і абрадаваць. І хітра падміргнуў: — Не пашкадуеш, слова даю...

У Забалацце мы паехалі службовым «Масквічом». За рулём сядзеў вадзіцель Аляксей — вясёлы хлапец, амаль мой аднагодак. Расказваць пра свае жыццёвыя прыгоды мог гадзінамі, аж пакуль я не спыняў яго.

Са скаргай я разабраўся хутка. Жанчына жыла адна, усё жыццё аддала калгасу, хацела, каб ёй дабавілі колькі рублёў да пенсіі — не хапала на пражыццё. У яе слязіліся вочы, голас быў ціхмяны і глухі. Чакала, што я ёй параю. Даў параду — паклікаць да сябе работніцу сацыяльнай службы.

— Як жа я яе, сынок, паклічу? Мо б ты пасобіў як, га?

— Добра, я накірую да вас патрэбнага чалавека... Можа, што і зробіць.

Пятро Якаўлевіч акурат заканчваў планёрку.

Убачыў нас з расчыненага акна, падаў знак, каб чакалі.

Праз колькі хвілін ён падышоў да нас, узрадавана заўсміхаўся, замітусіўся, — шчыра рады быў нашаму прыезду.

— Ох і весела, братка ты мой, мы правядзём час! А вы, хлопчыкі, пакіньце свой «масквічок», перасядайце ў мой танк — «газік». Ён нас па любым балоце пракоціць...

Сам і за руль сеў, завёў рухавік, пакіраваў па вясковай, з калюжынамі, дарозе.

— Спачатку, хлопчыкі, па палях праедзем, — як бы вінаваціўся Пятро, — паглядзім, як ідзе праца ў брыгадзе... А потым ужо, пад'ехаўшы з другога боку, і з'явімся нечакана на поле з убранай грэчкай... А там, на полі, і гуртуюцца ў сваіх дзівосных танцах цяцеркі... Яны будуць ладзіць сваю «дыскатэку», а наш клопат — не быць мазіламі...

Для мяне вясковыя пейзажы былі знаёмыя, прывычныя. Сам жа вырас у вёсцы, босым па балоце блукаў, браў у рукі вужоў, не баяўся гадзюк... Але ніводнага разу не бачыў цецерукоў — ці то яны не вадзіліся ў нашых краях, ці то не спаткаліся мне ў лесе гэтыя дзівосныя птушкі — не ведаю. А Петрусёва абяцанне сустрэчы з гэтымі тлустымі і важкімі птахамі яшчэ больш абудзіла ўва мне цікавасць і жаданне пабачыць іх.

Пятро расказваў і расказваў, а я глядзеў на поле, па якім снавалі запыленыя зернеўборачныя камбайны, што зжыналі апошнія гектары збожжа, і ўбачыў сябе на тым полі сярод людзей.

І падалося мне, што па пожні ішоў не незнаёмы юнак, а то я — падлетак, спяшаюся да дзядзькі Васіля, нясу яму ў глечыку крынічнай вады. Я ў яго ў памочніках, і ганаруся тым. Цвёрдым крокам, як дарослы, крочу па полі.

Тады да камбайна чаплялі саломанакапляльнік. Я як памочнік камбайнера знаходзіўся на ім і ўважліва сачыў за накапленнем саломы. Калі ж было яе з коптурам, націскаў на рычаг, — і салома апускалася на зямлю, ссоўвалася... А часта даводзілася доўгім дручком перакідваць яе, ссоўваць у канец накапляльніка, каб потым ужо, калі будзе поўны, усё адразу і выкінуць... Гэта была цяжкая і пылотная работа. Аж у лёгкія пылота забівалася, асцюкі, здавалася, дзерката сядзелі ў грудзях...

І хоць прайшло шмат часу з тае пары, мне здавалася, што ў рот і цяпер плішчыцца тая пылота, што яна ў мяне на зубах... Я нават закашляўся, адчуўшы дзяркотку ў горле.

— Прастудзіўся? — пацікавіўся ў мяне Пятро.

— Ды не, пылота, мусіць...

— О, гэтага дабра ў нас хапае, усюды яго з коптурам, — рагатаў са сваіх жа слоў дырэктар саўгаса. — Хлеб — ён нялёгка даецца.

— Згодзен, Пятро, з табою, сам некалі працаваў памочнікам камбайнера.

— А-а, — разумее мяне, ківае галавой.

Машына рэзка спынілася — я ледзьве лбом не стукнуўся аб шкло.

— Глядзі, — шапнуў мне сябар і позіркам паказаў на ўскраек поля.

Па полі, па брыжыку яго, спакойна хадзілі невядомыя мне птушкі. Я здагадаўся, што то і былі тыя самыя цецерукі, да якіх нас вёз Пятро. Яны былі на ладнай адлегласці, але стрэльба магла дастаць іх, калі добра прыцэліцца і стралок ніштаваты.

— Ага, а вунь і назіральнік, вартавы, — працягваў ён, гледзячы ўжо некуды ўверх, у густое голле дрэў.

І я ўбачыў таго, пра каго гаварыў сябар: на самым высокім дрэве, блізу поля, сядзеў прыгажун-самец. Выдаўжыўшы шыю, ён пастаянна паварочваў туд-сюд галаву, сачыў, каб не празяваць небяспеку...

— Трэба яго зняць, інакш не паспеем і зварухнуцца, як ён падыме ўсю чараду, — выказаў меркаванне дырэктар і, зірнуўшы на мяне, прапанаваў: — Вось табе і даём права зрабіць гэта. Трымай.

Ён падаў мне стрэльбу, а сам адкрыў пярэдняе акно.

Я стаў прыцэльвацца да жывой мішэні, якую добра бачыў, але нечага марудзіў, сам не ведаю, чаму — ці то шкадаваў «вартавога», ці то баяўся не пацэліць і не выглядаць перад сваім сябрам «мазілам»...

І трэба ж — у той самы момант, без ніякай патрэбы, не спытаўшы дазволу, з «газіка» выйшаў Аляксей. Як толькі ён ступіў на зямлю, «вартавы» з крыкам кінуўся кумельгам уніз, а потым рэзка ўзняўся ўверх, гучна лапочучы моцнымі крыламі... За ім, гэтак жа порстка, узнялася з крыкам і ўся чарада птушак...

— Ах... Ну, што ты... — з дакорам і жалем паглядзеў на вадзіцеля Пятро, мацюкнуўшыся пры гэтым, ляпнуў сябе даланёю па калене. — Яны бачаць чалавека на адлегласці і блізка не падпускаюць да сябе.

Ён глядзеў дакорліва і на мяне, што я прамарудзіў, згубіў дарагі час і тым самым усё сапсаваў.

— Прыгожыя птушкі, — уздыхнуў я, каб не паказваць свайго настрою: я нават чамусьці ўзрадаваўся, што яны ўцяклі ад нас, і ў гэтым не хацеў прызнавацца свайму сябру. — Гэта тут у цябе расла грэчка?

— Тут, братка ты мой. Харошы гатунак сеялі — грэчка татарская. Дужа меданосная. З кожнага гектара пчолы прыносяць у вуллякі да ста кілаграмаў мёду. Пачастую вас сёння... Смаката! Раней сеялі «Юбілейную-2», ды нешта не спадабалася. Пчолам не спадабалася — без вялікай ахвоты ляцелі на яе...

— Ну што, цяпер — дадому? — паглядзеў я на Петруся.

— Ды што ты, што ты, братка ты мой дарагі! — успляснуў ён рукамі, засмяяўся, паглядзеў на свой гадзіннік. — Я — хіба не гаспадар свайму слову? Каб сказаў пра мяне потым, што я — балабол і хлус, так? Я ведаю, куды яны паляцелі. То ў іх запасны, так бы мовіць, аэрадром. Рушылі!..

Мы кружлялі ляснымі дарогамі, адольвалі балацявінкі і неглыбокія рачулкі, і нечакана перад намі адкрылася поле. Зноў жа — зжатае грэчневае поле, на якім, па меркаванні сябра, павінны збірацца ў чараду цяцеркі.

— Яны дужа любяць ласавацца зярнятамі грэчкі, — растлумачыў Пятро, — і таму хутка тлусцеюць, набіраюць вагу.

Турпы грэчневай саломы былі неахайна скуёўджаны, як быццам хто знарок параскідваў яе па полі.

Дырэктар саўгаса вылез з машыны, прайшоўся каля вялізнай капы, крутануў злосна галавой:

— Ну і дзялкі! Як сам не праверыш, нічога толкам зрабіць не могуць. Во абібокі, прывыклі толькі лынды біць... Трэба мяняць брыгадзіра — абленаваўся канчаткова. А сказаў жа мне, што тут усё зроблена выдатна. Я табе пакажу тваё «выдатна», — пагражаў ужо непасрэдна брыгадзіру. — Яе ж трэба тэрмінова скласці, бо сюды заўтра пастухі прыгоняць кароў — і прападзе каштоўны корм. Гэта ж зімой — як знаходка будзе для рагуль.

Перажываў, хваляваўся Пятро за сваю гаспадарку, нават і пра нас забыўся. А мяне радавала хіба адно — мой сябар выглядаў клапатлівым і занепакоеным гаспадаром. А прыкідвацца ён не ўмеў...

— Тут яны павінны быць, — трошкі астудзіў сваю ўзбуджанасць Пятро Якаўлевіч. — Яны ж любяць ласавацца зярняткамі з саломы грэчкі... Стой... А мо то яны і параскідвалі тут салому? — ачомаўся, ужо чухаў патыліцу, адчуваючы, што дарэмна ўзлаваўся на брыгадзіра.

Мінулі адну капу, потым і другую... Наперадзе — трэцяя, як і папярэдняя, разбэрсаная. І мы ўжо ведаем прычыну.

— Пятро Якаўлевіч! — паўшэптам прамовіў Аляксей і крануўся яго пляча. — Гляньце, «вартаўнік» сядзіць.

Да гэтага моманту ён маўчаў, адчуваючы сваю віну: сам сабе не мог дараваць таго, што выйшаў з «газіка» і напалохаў цецерукоў...

— Дзе? — насцярожыўся Пятро — круціў галавой па баках.

— Ды вунь, на вяршыні капы, — шаптаў вадзіцель, паказваў пальцам у той бок, дзе ён убачыў вартавога, хаця да капы было яшчэ далекавата.

— Ага, правільна. Мусіць, самец.

Ён тут жа прыпыніў легкавік.

— Хлопцы, далекавата мы спыніліся, не пацэлім, — выказаў я меркаванне, — трэба трошкі бліжэй пад'ехаць, бо зноў усё сапсуем.

— Добра, — пагадзіўся дырэктар, завёў зноў рухавік і плаўна павёў «козліка» да высокай капіцы. — Калі заўважыць нас, то...

Зноў даручана было першым страляць мне.

Я добра прыцэліўся і стрэліў.

Не пацэліў. Яшчэ раз — тое ж самае.

— Эх, мазіла, — з дакорам прамовіў Пятро, — дай мне стрэльбу і глядзі, як трэба страляць.

Адзін стрэл, другі, трэці... А касач як сядзеў, так і працягваў сядзець, як усё роўна пасміхаўся з нас, ды яшчэ пасля кожнага стрэлу ківаў галавой.

— Пад'едзь яшчэ бліжэй, — пачынаў прачынаццца ўва мне азарт паляўнічага. — Я ж яшчэ ніколі не прамахваўся...

Зноў стрэл... Другі. Ды што такое за насланнё — касач сядзеў на сваім месцы, не ўзлятаў, а толькі варочаў галавой, як здзіўляўся з тых, хто трывожыў яго спакой.

— Дайце мне, — не вытрымаў ужо і Аляксей.

Заняўшы зручную пазіцыю, прыцэліўся і націснуў на курок.

«Вартавы» зноў здзіўлена заківаў галавой...

Разоў з пяць выстраліў Аляксей — вынік той жа...

— Нічога не разумею, — пацінуў плячыма, аддаў мне стрэльбу.

— Патроны ватай набітыя, — прамовіў я сур'ёзна.

— Можа, і так, але больш мы не маем ніводнага патрона, — паказаў пусты патранташ Пятро. — Цяпер хай хоць перад носам стануць — няма чым стрэліць...

Мы нічога не разумелі, але і не хацелі прызнавацца ў тым, што мы не варашылаўскія стралкі, а мазілы.

— Можа, мы яго падбілі, раз ён не ўзлятае, — сказаў Аляксей. — Пайду праверу.

— Ідзі, ідзі, — падахвоціў я яго.

Мы пад'ехалі яшчэ бліжэй — пад самую ўжо капу, а «вартавы» і не думаў палохацца нас.

Аляксей выскачыў з машыны, падбег да капы, хуценька ўскараскаўся па жэрдцы (невядома адкуль яна і была там) на самы верх. І ў той жа момант мы пачулі гучны дзікі крык. Мы перапалохаліся, падумалі, што з ім здарылася нейкая нечаканая бяда, і кінуліся на дапамогу.

А Аляксей у гэты час ссунуўся з капы на зямлю, бразнуў вобзем цецерука, а потым яшчэ і пачаў тантаць яго нагамі, нешта абразліваe і злое гаварыў-крычаў мёртвай птушцы.

Мы нічога не разумелі, толькі пераглянуліся.

А Аляксей аж узмакрэў, выціраў лоб рукавом пінжака, зіркаў з-пад ілба на нас, крычаў:

— Ды якая гэта птушка?! То ж пудзіла гарохавае! Падманка!..

Потым ён упаў на спіну, задрыгаў нагамі і зарагатаў:

— Ну і паляўнічыя, ну і асы, — не маглі адрозніць падман ад сапраўднага цецерука. Ну няхай я ніколі не быў на паляванні, ніводнага разу не стрэліў па жывой істоце, але вы...

Я нахмурыўся. Тут ужо Аляксей біў проста ў цэль, у самае, так бы мовіць, яблычка. Мне ад яго слоў стала крыўдна, і я з непрыхаваным дакорам паглядзеў на таго, хто падбіў нас на такое паляванне...

Пятро Якаўлевіч пачырванеў, нічога не адказаў, — толькі нізка схіліў галаву, адчуваючы сваю віну, разумеючы, што ён у нашых вачах прысаромлены і зняважаны... На яго у той момант нельга было без жалю глядзець...

Вярталіся, як на зямлю ўжо насоўваўся шэры змрок.

З лагчын поўз туман, быццам хто ў лесе расклаў вялізнае вогнішча, і яно паціху згасала, не могучы дагарэць.

Мы праязджалі тое, першае, поле, дзе Аляксей спудзіў чараду.

Пятро прытармазіў. Позіркам паказаў мне на дрэва. На тым самым месцы, што і раней, сядзеў прыгожы і смелы, грацыёзны і спакойны важак цецеруковай калоніі — «вартавы».

А па полі, зусім непадалёку ад нас, за некалькі крокаў, гуляла чарада такіх жа цудоўных птахаў.

Мы не вытрымалі, выйшлі з машыны.

І што дзіўна — цецерукі абсалютна не адрэагавалі на нашае з'яўленне. Нават і не глядзелі у наш бок. І маўчаў нават іх «вартавы».

Я выразна бачыў, як выглядала апярэнне ў самцоў, — чорнае, з сінявата-фіялетавым адценнем. Брыво было ярка-чырвоным, як полымя, але не аперанае. На крыле яскрава выдзялялася белая палоска. А хвост... І трэба ж мець такі хвост! Як ліра, з загнутымі, уроскід, канцамі. А самкі, наадварот, былі шэрыя.

Птушкі па-ранейшаму не звярталі на нас аніякай увагі.

Падумалася: яны проста гуляюць па полі, нахіляючы раз-пораз галаву... Дык жа не — у іх рухах быў нейкі патаемны рытм, і для іх гучэла нячутная для нашага вуха музыка нябёсаў, і яны танцавалі свой чароўны і дзівосны танец, выкрыкваючы нейкія гартанныя гукі, гукі кахання і яднання, радасці і ўзнёсласці... Гэта быў, няйначай, птушыны экстаз, апафеоз шчасця, які чалавечаму розуму непадуладны і таму незразумелы...

Божа, няўжо гэта мы бачым сваімі вачыма? Божа, няўжо Ты можаш так нечакана ўзрадаваць чалавека і прымусіць яго паверыць, што гэтыя цуды існуюць у свеце дзякуючы Табе?

Ойча, як добра, што Аляксей сагнаў важака са свайго седала, ой як добра, што нам папалася тое пудзіла і мы расстралялі ўсе зарады... Хіба ж убачылі б мы цяпер гэткі цуд, такую жывую казку, такі спектакль выдатных актораў? Мне хацелася за гэта расцалаваць Аляксея, але найперш майго самага лепшага ў свеце сябра, да якога я нечакана яшчэ больш пранікся любоўю. І адначасова падумаў пра сябе: «Адкуль... Адкуль гэтыя паляшуцкія райскія птушкі даве-

даліся, што у рулі нашай стрэльбы не было ніводнага зарада — адкуль?!»

Мая душа спявала, яна ўзнесла мяне некуды наверх, туды, дзе былі воблакі, адкуль і плыло на нас Боскае бласлаўленне і мелодыя цішыні... Я не стаяў на зямлі, я лётаў, падняты пругкім паветрам і энергіяй унутранай радасці вышэй за аблокі, далятаў некуды да зор...

Ніяк не мог адарваць позірку ад балетнага дзейства, ад цецерукоўвых скокаў, ад іх прыцягальнай аўры і шкадаваў ужо, што мой чалавечы розум, які лічыцца такім дасканалым, не мог расшыфраваць значэнне іх танцаў... Не мог зразумець, але толькі адчуваў. Адчуваў сэрцам. Адчуваў душой...

Праз колькі год, калі мяне лёс кідаў то ў адзін раён, то ў другі, даведаўся, што мой сябра трапіў у цяжкую катастрофу... Як ні стараліся дактары выратаваць яго, але нічога не здолелі зрабіць...

І ў той жа час прачытаў у газеце, што цецярук (Lyrurus tetrix) занесены ў Чырвоную кнігу...

Прачытаў, і адразу ж у памяці пачуўся вінаваты вокліч майго сябра: «Братка ты мой дарагі!..» Часта чую яго голас.

Усё жыццё, пакуль і жыць буду, ніколі мне не забыць майго сябра — Пятра Якаўлевіча. І — грацыёзных цецерукоў, якія падаравалі мне ў мой дзень народзінаў такі непаўторны танец — танец Прыгажосці і прагі да Жыцця.

То была, як мне падаецца сёння, яшчэ і падзяка, што не стрэліў я тады першы, на пачатку нашага палявання, у важака іх чарады. Птушкі нібы сцвярджалі жыццёвую ісціну — зрабі добрае, — і дабрынёй табе адгукнецца...





ТАЦЦЯНА БУДОВІЧ

# «...І СВЕТ НЕ ЗДАЕЦЦА ХАЛОДНЫМ І ХВОРЫМ»

## НОЧ

Як хутка месяц адплывае,
хаваецца за дом.
І больш з нябёс не пазірае
ён залатым святлом.

А ноч без месяца сляпая
сціхае за акном.
І асцярожна спавівае
ўсё наваколле сном.

...Мая туга ізноў пільнуе
тваіх вачэй тугу.
Адно аднога не ўратуем —
суцешым хоць крыху.

...Твая далонь беспамылкова
маю далонь знайшла.
Ізноў сагрэюць нас не словы —
ілюзія цяпла...

* * *

Якое шчасце быць паэтам!
Душа мая, твой цень самотны
ізноў прымае радасць гэту
і гэты вечар ціхі, слотны.

І дзень за днём вядзе ў нікуды
з героямі чарговай кнігі.
І шчасце ўсё ў чаканні цудаў
у зманным подыху адлігі.

* * *

Нечаканне цябе
не заўсёды дарэчы,
асабліва цяпер.
Гэты травеньскі вечар...

Гэты смутак у ім.
Вастрыню адзіноты
як знарок салаўі
ажыўляюць па нотах,

і скрыпічным ключом
нотны сшытак чакання
вымалёўвае дом.
Бэз. Сустрэчу. Змярканне...

## МАТЫЛЁК

О, як мне доўга жыць! —
пакуль не згасне дзень,
і сонца не ўпадзе
за далягляду ніць.

...Перадвячэрні зман
зямлі не прынясе
спакой, дзе пакрысе
даўжэе ценяў стан.

Але, пакуль жыву,
увесь сусвет люблю.
І сонца, і зямлю,
і кветкі, і траву.

* * *

Кавалкі разбітае сонцам дарогі,
прыступкі ў таемны завоблачны горад...
Знікаюць з-пад сэрца аскепкі трывогі,
і свет не здаецца халодным і хворым.

І я растаю ў бездакорнай сінечы,
у золаце сонца ільдзінкай самоты.
...Якая прыгожая восень, дарэчы,
у нашых амаль што паўночных шыротах!

* * *

бясконцае гэта ваганне
з сабою ці з лёсам змаганне

ўтрымаць раўнавагу ісці
адно для таго каб знайсці

для рызыкі большай нагоды
чым проста адчуць асалоду

як лёд у душы растае
не скоўвае болей яе

...па краі ісці раўнавагу
трымаць покуль хопіць адвагі

глядзець не пад ногі не ўніз
не скончыцца гэты карніз

* * *

Усе гузікі на паліто
ты зашпільваеш гэтак старанна.
...Не спытаць і не ведаць, за што
і хто сэрца тваё *так* параніў.

Непарушны зімовы спакой
і дзіцячыя мары аб цудзе.
У наступнай зіме мы з табой
зноў сустрэнемся тут.
...Парк. Снег. Студзень.

* * *

Са мной за кампанію зноўку адліга
шукае нястомна твой вобраз у кнігах.

...Сняжынкі растануць на цёплых далонях,
бясконцасць чакання імгненна патоне

ў вачах тваіх колеру хакі аднойчы,
і болей нічога ніхто не захоча:

ні рызыкі марнай, ні ціхага шчасця,
на строме ўтрымаўшыся, долу не ўпасці,

ні таннай надзеі, што ўсё яшчэ будзе.
...Нічога не будзе: адліга і студзень.

* * *

Хай з'ядае туман снягі —
невымернасць маёй тугі.

Гэта ўсё ўжо было. Ізноў
я жыву дзеля яркіх сноў.

А наяве — ізноў туман.
Ці вясна, ці адліжны зман...

* * *

Каго выпрабоўваў лёс,
хто лёс выпрабоўваў сам,
шчаслівы, калі ён здольны
даць волю сваім слязам.

І выліць з душы атрутны
адчай, і адчуць, што ў ёй
не ўсё яшчэ скамянела
ў палоне тугі нямой...

## ЖЫРОВІЦКАЯ ІМПРЭСІЯ

з ветрам плывуць праз фортку пахі вясны
пальцы знаходзяць самі
ноты забытай песні
Санта-Лючыя
ты
затрымаеш мяне
*тут*...

* * *

Беларуская наша самота
даспявае марудна і ўпотай.

Мы ў чаканні гарым і згасаем,
ды наўрад ці калі прычакаем,

да якой гістарычнай падзеі
ці яшчэ да чаго яна спее.

...Беларуская наша самота
дажывае пужлівай істотай

у адчаі заціснутых душаў.
У сляпым і глухім раўнадушшы...

* * *

У пошуках вечнай любові сляпое карэнне
сабою пранізвае ўпарта наскрозь сутарэнні.

А мы з табой разам не будзем ніколі, *ніколі*
плячо да пляча бараніць нашу бедную волю.

Нам суджана з іншымі побач і жыць, і памерці,
і быць, як сляпое карэнне, да самае смерці...

* * *

Небяспека згубіць раўнавагу
не падточыць апошнія сілы,
хоць наўрад ці дадасць і адвагі.
Як было, так і будзе: штосілы

напаўняць нейкім сэнсам ваганне
па-над прорвай будзённага шчасця
бессэнсоўных сустрэч і расстанняў.
Бессэнсоўнае мэты: не ўпасці...

* * *

калі немату адчуваю
сябе аддаю
на волю Тваю:
ні радасці і ні адчаю
ні лёгка ні цяжка
а неяк бязважка
нібыта душа засынае...

* * *

Без цябе сумам поўняцца дні.
Кожны з іх — як няпрошаны госць.
І не верыцца нават, што ёсць
недзе іншых сусветаў агні...





*ПЕРАКЛАДЫ*

## МІХАІЛ ЛЕРМАНТАЎ

**3.X.1814—15.VII.1841**

*У найцудоўным сузор'і славянскіх геніяў — Міцкевіча, Пушкіна, Шаўчэнкі, Багдановіча — асаблівым святлом ззяе зорка Лермантава: у гэтым святле бачацца журботныя промні трагічнага лёсу. Шалёная куля нянавісці спыніла сэрца, не даўшы паэту дажыць да дваццаці сямі... Ён прадчуваў заўчасную смерць, але, дзякуй Богу, памыліўся ў прадказанні, быццам няшмат здзейсніць, выказаным у вершы «Не, я не Байран...» (1832). Там ёсць такі радок: «Мой ум немного совершит...» Усяго за 13 няпоўных гадоў творчасці Лермантаў падараваў свету пранікнёную паэзію, чароўную і мудрую прозу, паэтычную драматургію. У літаратуры сцвердзіў сябе юны класік, хрэстаматыйны творца — раманам «Герой нашага часу», паэмай «Мцыры», а перадусім — мноствам вершаў-шэдэўраў, у якіх уся гама чалавечых пачуццяў — ад захаплення і любові да расчаравання, пагарды, гневу. Паэт у сваіх творах спаўна адлюстраваў драматызм жыцця, мыслячы антытэзамі дабра і зла, жыцця і смерці, зямнога і нябёснага. Яго асоба — асоба самотніка, расчараванага часта і ў каханні, і ў грамадстве, і ў жыцці. Пры гэтым творы яго не панурыя — яны заварожваюць магічнаю красой і сілаю, дасканаласцю формы і глыбінёю зместу, гранічнаю і таму ўзрушальнай шчырасцю. І вабяць яны прыхільнікаў прыгожага пісьменства амаль два стагоддзі.*

*Да спадчыны Міхаіла Лермантава неаднойчы звярталіся беларускія паэты: Якуб Колас і Аркадзь Куляшоў, Антон Бялевіч і Анатоль Вялюгін, Аляксей Зарыцкі і Міхась Клімковіч, Уладзімір Шахавец і Юрась Свірка. Скарбонка перакладаў ягоных твораў папаўняецца і дзякуючы сучасным паэтам: Алесю Каско, Ніне Мацяш ды іншым.*

*Прапаную чытацкай увазе мае выбраныя пераклады вершаў Лермантава, створаных ім на працягу амаль усяго творчага шляху.*

***Васіль Жуковіч***

### МАЛІТВА

Не вінаваць, магутны, пільны,
І не карай мяне, малю,
Што гэты змрок зямлі магільны

Я з яе жарсцямі люблю;
Што ў сэрца рэдка пранікае
Струмень жывых тваіх прамоў;
Што ўсё заблуджаны блукае
Далёка недзе розум мой;
Што лава творчага гарэння
Кіпіць, выходзячы з грудзей,
І сіла дзікіх узрушэнняў
Азмрочвае мне шкло вачэй;
Што да цябе прыйсці баюся,
Што свет зямны зацесны мне,
І песняй грэшнаю малюся
Я не табе, святы, о не!

Ды пагасі агмень свабодны
Ці ўсё спалі ў святым агні,
Мой позірк супыні галодны
І сэрца ў камень абярні.
Ад страшнай прагі песнапення
Душа адлучыцца мая,
Тады на цесны шлях збавення
Зноў да цябе звярнуся я.

***1829***

## ПРАДКАЗАННЕ

Расіі чорны прыйдзе год і дзень,
Калі цароў карона ўпадзе;
Забудзе чэрнь ранейшую любоў,
Спажывай многіх будзе смерць і кроў;
Дзяцей, жанок бязвінных сам закон
Не абароніць — будзе сцёрты ён;
Чума ад мёртвых цел пачне блукаць,
Сярод журботных сёл ахвяр шукаць;
І стане голад бедны край марыць
І сеяць гора і бяду чыніць;
Пажары адаб'юцца ў хвалях рэк —
Тым днём магутны ўстане чалавек;
Яго пазнаўшы — ўцяміш ты адно:
Нашто ў яго руцэ булатны нож.
І гора для цябе! — твой плач, твой стогн
З насмешкай здзеклівай успрыме ён;
Усё ў ім жахлівым будзе дыхаць злом,
Як плашч яго з узвышаным чалом.

***1830***

## БЯДНЯК

Каля варот святой царквы
Стаяў бядняк, мальбою скуты,

Прасіў ён хлеба, ледзь жывы
Ад смагі, голаду й пакуты.

Які яго паліў агонь, —
Казаў ён сумнымі вачамі.
А нехта на яго далонь
Паклаў цяжкі халодны камень.

Кахання гэтак я маліў
З слязамі горкімі, з тугою;
І з лепшым пачуццём маім
Навек падмануты табою!

*1830*

**РАМАНС ДА І...**

Як панясу я на чужыну
Пад неба горнай стараны
Маю суровую журбіну,
Мае падманлівыя сны
І з ядавітай злосцю людзі
Мяне аблаюць тут парой, —
Ці ты маёй аховай будзеш
Перад зларадпаю гурмой?

О, будзь!.. о! позіркам і словам
Ахвяру зла ты захіні,
Каб мая радасць канчаткова
Не знікла ў горычныя дні,
Каб я сказаў, адсюль прагнаны:
Ёсць сэрца, лепшых дзён залог,
Дзе мае мукі ўшанаваны,
Дзе свет іх ачарніць не мог.

*1831*

* * *

Зваць можаш ты надзею сненнем,
Няпраўдзе выказаць давер,
Браць хвалы й клятвы пад сумненне,
Ды вер майму каханню, вер!

Не ігнаруй чуццё святое,
Нішто не ўтоіць позірк мой;
Грэх крывадушнічаць з табою —
З душой анёльскаю тваёй.

*1831*

**НЕБА І ЗОРЫ**

Чыстае неба начное,
Ясныя мілыя зоры,

Пэўна, як шчасце дзіцяці;
О! Чаму нельга мне хоць бы падумаць:
Ясныя зоры, як шчасце маё!

Чым ты не шчасны? —
Скажуць мне людзі.
Тым я не шчасны,
Добрыя людзі, што зоры і неба —
Зоры і неба! — а я чалавек!..

Людзі ўзаемна
Зайздрасць гадуюць;
Я ж — не зайздроснік,
Толькі зайздрошчу я зорам прыўкрасным,
Толькі іх месца заняць бы жадаў.

*1831*

* * *

Не, я не Байран; голас мой
І сам — выбраннік — шчэ нязнаны,
Як ён, вандроўнік, светам гнаны,
Ды толькі з рускаю душой.
Раней пачаў я, скончу рана,
Няшмат змагу ажыццявіць;
У душы, бы ў нетрах акіяна,
Надзей разбітых груз ляжыць.
Хто можа, акіян суровы,
Твае уведаць тайны? Хто
Мае адзене думы ў словы?
Я — альбо Бог — альбо ніхто!

*1832*

* * *

Я жыць хачу ў палоне жалю
Любові, радасці назло;
Яны мой розум забаўлялі
І надта згладзілі чало.
Пара, пара насмешкам свету
Прагнаць спакойнасці туман.
Што без пакут жыццё паэта?
І што без буры акіян?
***Ён*** хоча жыць цаною мукі,
У цяжкіх клопатах гарэць.
Купляе ён нябёсаў згукі,
Дарэмнай славы не бярэ.

*1832*

## ДА*

...Хоць разам імгненне былі мы,
Ды вечнасць — нішто перад ім;

Пачуцці дарэшты спалілі,
Лічы, пацалункам адным;
Даруй! — не шкадуй безразважна
Няспоўненых дзён і начэй:
Расстацца здавалася цяжка,
Сустрэцца было б не лягчэй!

*1832*

## ВЕТРАЗЬ

Бялее ветразь адзінокі
Ў блакітным мора тумане́!..
Шукае што ў краі далёкім?
Што ў роднай кінуў старане?..

Вятрыска свішча — хваля грае,
І мачта гнецца і рыпіць...
На жаль, ён шчасця не шукае,
І не ад шчасця ён бяжыць!

Пад ім жывой бруі лазурак,
І промень сонца над кармой...
А ён, бунтоўны, просіць буры,
Нібыта ў бурах ёсць спакой!

*1832*

* * *

Расстаціся, партрэт жа твой
Ля сэрца я свайго нашу:
Як вобраз памяці жывой
Ён радуе маю душу.

У новых жарсцях я згараў,
А разлюбіць яго не мог:
Так храм пакінуты — ўсё храм,
Кумір парынуты — ўсё бог!

*1837*

* * *

Голас пачую твой
Звонкі і ласкавы —
Бы ў клетцы птушачка,
Сэрца трапечацца;

Вочы сустрэну я
Нябёсна-глыбокія —
З грудзей насустрач ім
Душа ўся просіцца,

І неяк весела,
І плакаць хочацца,
І так бы шчыра я
Ў абдымкі кінуўся!

*1838*

## МАЛІТВА

Хвілінаю адчайнаю,
Палонены тугой,
Малітвай жыццядайнаю
Ратуюся адной,

Бо сіла ёсць гаючая
Ў суладдзі слоў жывых,
І цуду неўміручага
Дыханне чую ў іх.

З тугой не трэба няньчыцца —
З душы зляціць няўзнак, —
І верыцца, і плачацца,
І лёгка, лёгка так...

*1839*

## ЧАМУ

Сумотна мне таму, што я цябе люблю,
І знаю: маладосць квітучую тваю
Не пашкадуе злых паклёпнікаў ганенне.
За кожны светлы дзень ці слодычы імгненне
Пакутай і слязьмі заплаціш ты ў журбе.
Сумотна мне... таму, што весела табе.

*1840*

## А. В. СМІРНОВАЙ

Без вас хачу сказаць вам многа,
Пры вас я слухаць вас хачу;
Ды моўчкі глянеце вы строга —
І я, збянтэжаны, маўчу.

Шукаю словы мітусліва
Прад вашым розуму святлом...
О, смешна б гэта ўсё было,
Каб гэтак не было тужліва...

*1840*

* * *

Бывай, нямытая Расія,
Ты, рабства-пекла, панства-рай.
І цьма мундзіраў светла-сініх,
І верны ім народ, бывай.

Мо на Каўказе, там, далёка,
Сцяна схавае ад пашэй
Тваіх, звышпільнага іх вока
І ўсюдыісных іх вушэй.

*1841*

## УЦЁС

Залатая хмарка начавала
На грудзях уцёса-веліканa;
Падхапілася ранютка-рана
І па небе ўдаль павеславала.

Ды застаўся след яе ў маршчыне
Беднага уцёса. Адзінока
Ён стаіць, задумаўся глыбока,
Ён ціхутка слёзы лье ў пустыні.

*1841*

## СОН

Спякотаю ў даліне Дагестана
Ў грудзях з свінцом ляжаў як мёртвы я;
Глыбокая мая смылела рана,
Па кроплі кроў сачылася мая.

Ляжаў адзін я на пяску ў даліне;
Уступы скал цясніліся кругом,
Паліла сонца горныя вяршыні,
Пякло й мяне — ды спаў я мёртвым сном.

З зіхоткімі агнямі баль прысніўся,
Вячэрні баль у роднай старане,
Між юных жонак гоман жыва ліўся,
Яны ўсё гаварылі пра мяне.

Але ў вясёлы гоман не ўступала,
Сядзела там задумліва адна;
Бог знае як туга ў душу запала,
І ў сон як правалілася яна;

Ёй снілася даліна Дагестана,
Мярцвяк знаёмы у даліне той;
Дымілася ў грудзях, чарнела рана,
Кроў халадзела і цякла бруёй.

*1841*

* * *

1

Не, не цябе кахаю моцна я,
Не да красы бліскучае прыкуты:
Мне лю́бы ў табе даўнія пакуты
І маладосць самотная мая.

2

Калі гляджу я на цябе парой,
У роздуме лаўлю твае пагляды, —
Размовай таямнічаю заняты,
Ды размаўляю сэрцам не з табой.

3

Сяброўку чую юных дзён, начэй,
Ў табе шукаю рысы дарагія,
У тваіх вуснах — вусны ўжо нямыя,
Ў вачах — агонь пагаслых тых вачэй.

*1841*

***Пераклад з рускай Васіля Жуковіча.***





# НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ

## АРКАДЗЬ ГЕЙНЕ

Як і многія яго равеснікі, вершы Аркадзь Гейне пачаў пісаць яшчэ ў школе. А блаславіў маладога паэта ў літаратуру Аркадзь Куляшоў. У тыя перадваенныя гады студэнты-пачаткоўцы зачытваліся ўзнёслай лірыкай таленавітага паэта, ведалі на памяць яго нізку «Юнацкі свет», часта прыносілі на суд да Аркадзя Аляксандравіча і свае вершы. Мікола Аўрамчык згадвае: «Аднойчы я прыйшоў да яго з вершамі. Ён прачытаў іх, выказаў заўвагі... Відаць, сярод вершаў не было нічога цікавага. Бо Аркадзь Аляксандравіч сказаў:

— Нядаўна быў у мяне Аркадзь Гейне... Напісаў добры верш — «Шчаслівая зорка»...

У душы я пазайздросціў свайму таварышу... Пасля, сустрэўшыся з Аркадзем Гейне, расказаў яму пра гэта. А ён здзівіўся, дый кажа:

— Аркадзь Куляшоў не хваліў мне верш... Ён толькі сказаў, што гэта прыстойная рэч, якую варта друкаваць...

Потым гэты верш быў надрукаваны, і Аркадзь Гейне выдаў першы зборнік, які так і называўся — «Шчаслівая зорка».

Былі ў тым вершы і такія пранікнёныя радкі:

У народзе ёсць павер'е гэткае,
Быццам мае кожны чалавек
Зорку ў небе, для яго прыкметную,
І яе жыццё — ягоны век...

Паэтычная зорка Аркадзя Гейне сапраўды ўспыхнула рана і ярка. Але рана згасла жыццёвая зорка паэта.

Скупыя біяграфічныя радкі сведчаць, што аўтар скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі, працаваў у рэдакцыях беларускіх газет, паспеў выдаць кнігу паэзіі. Але ўсё перакрэсліла вайна. Малодшы лейтэнант Аркадзь Гейне камандаваў узводам 66-й механізаванай брыгады. У 1942 годзе загінуў у баі пад Сталінградам, паэту было 23 гады. Сёння мы прапануем два вершы А. Гейне, якія былі змешчаны ў кнізе «Крывёю сэрца».

*Падрыхтоўка да друку*
*і ўступнае слова Казіміра Камейшы.*

## ШЧАСЛІВАЯ ЗОРКА

Помніш, летняй ноччу цёмна-сіняю —
Шчаслівейшай нашаю парой —
Слухалі мы песню салаўіную
У зялёным садзе над ракой.

Месяц з-за высокіх ліп квітнеючых
Усміхаўся ласкавым святлом;
Зоркі, ясным бляскам палымнеючы,
Падалі далёка за сялом.

У народзе ёсць павер'е гэткае,
Быццам мае кожны чалавек
Зорку ў небе, для яго прыметную,
І яе жыццё — ягоны век...

Парашылі мы тады з усмешкаю —
Ты — сабе асобна, я — сабе —
Выбраць шчаслівейшую, найлепшую
Зорку...

Я спытаўся у цябе:
— Ну, твая, напэўна, там, што
свеціцца,
Дзе ляжыць вялікі Млечны Шлях,
Або там, дзе зорная Мядзведзіца,
Самая ярчэйшая...
Ці так?..

Ты зірнула ў ночы даль маўклівую
І сказала: — Не, не адгадаў;
Выбрала я самую шчаслівую,
Што ў Крамлі...
І выбар наш супаў...

*1938 г.*

## ПЕСНЯ ДЗЯЎЧЫНЫ

Узыходзіла сонца над гаем.
Я цябе правяла за сяло.
Ты сказаў мне: — Бывай, дарагая!..
Усміхнуўся і сеў у сядло.

Я стаяла, махала рукою,
Налівалася сэрца тугой.
— Напішы мне што-небудзь парою,
Не забудзь, ненаглядны ты мой...

Нечакана з далёкай заставы
Вестка сумная ў хату прыйшла, —

Што загінуў у бойцы са славай
Лепшы хлопец і воін сяла.

Не змываецца гора слязамі,
Ад жальбы на душы не лягчэй.
Я пайшла за табою слядамі,
Што не выцвілі ў травах яшчэ.

Ты ляжыш і не ўстанеш ніколі,
Згас твой погляд навек агнявы.
Галаву апусціўшы, на волі
Ходзіць сябра твой — конь баявы.

Я каня асядлаю з любоўю,
Я прачышчу вінтоўку тваю,
І — расплоцяцца ворагі кроўю
За цябе у наступным баю!..

*1938 г.*







▸ **ЗІНОВІЙ ПРЫГОДЗІЧ**

# КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ МАЮ МІЛУЮ...

***Старонкі дзённіка: пачуцці і роздум***

## СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

Свята. Нараджэнне Хрыстова. Тысячы, мільёны вернікаў прыйдуць сёння ў Святую царкву, каб памаліцца Богу, падзякаваць яму за тое, што дае прыклад жыць сумленна, духоўна, дае веру і надзею, цепліць сэрца любоўю...

Добра гэта ці кепска? Несумненна, добра. Запаведзі Хрыстовы ніколі нікога не вучылі і не вучаць кепскаму. І мне проста дзіўна, незразумела, чаму з такой апантанасцю, ваяўнічасцю бальшавікі змагаліся з рэлігіяй? Навошта было ісці супраць народа, апаганьваць яго веру, адбіраць у яго адну з найвялікшых духоўных апор? Не разумею. Зацьменне нейкае розуму. Дзікасць, якая пасля ўдарыла па ўсіх нас бумерангам.

* * *

Мая знаёмая, былая партыйная работніца, шчырая камуністка, стала цяпер, як пару раз прыціснула ў жыцці, такой набожнай, такой прававернай хрысціянкай, што можна толькі падзівіцца. У хаце — абразы, на стале — Біблія, у галаве — малітвы. Слова не скажа без таго, каб не было хвалы Госпаду.

Гавару гэта без усялякай іроніі, толькі канстатую як факт. Факт такога вось крутога павароту ў светапоглядзе чалавека.

Дык вось гэтая мая знаёмая сказала мне нядаўна:

— Хвала Богу, што ён пазбавіў мяне такога граху, як зайздрасць. Я абсалютна нікому не зайздрошчу. Наадварот, радуюся, калі чалавек нажыў сваё багацце чэснай, актыўнай працай.

І, памаўчаўшы, прыбавіла:

— Багаты не той, хто багата мае, а той, каму дастаткова таго, што мае. На такія думкі навёў мяне Гасподзь, і я адчуваю сябе абсалютна шчаслівым чалавекам. Жыву і атрымоўваю ад жыцця сапраўднае задавальненне.

* * *

Раніцай, калі я прагульваў Рэкса, мяне спыніў незнаёмы мужчына і пачаў адчытваць:

— Вы — смелы чалавек. Дазваляеце свайму сабаку пужаць людзей. А тут, між іншым, ходзяць і жанчыны, і дзеці...

— Ды не бойцеся Вы яго, — стаў я вінавата апраўдвацца. — Ён рахманы, добры...

— Во, во! Усе так кажуць. Але чаму я з-за вашых сабак павінен хадзіць у напружанні? У яго ж на лбе не напісана...

Каб не слухаць далей раздражнёнай буркатні, я паклікаў Рэкса, і мы пайшлі. А дарогаю ў думках працягваў даялог. Мне хацелася сказаць гэтаму мужчыну: «Не бойцеся сабак, яны практычна нікому не прычынілі зла, а бойцеся двуногіх звяроў — гэта яны і рабуюць нас, і калечаць, і забіваюць». Божа мой! Каб толькі ў нас большай бяды не было, як сабака на дарозе...

* * *

Сустрэў Алесю, былую каляжанку, з якой мы некалі разам працавалі ў газеце. Пазней яна выйшла замуж, некуды з'ехала, і я ці не дваццаць гадоў нічога пра яе не чуў і не ведаў.

І вось — сустрэча. Алеся, канечне ж, пастарэла. Твар яе як бы прывяў, вочы патухлі. Хаця яна ўсё яшчэ сімпатычная, цікавая жанчына.

Расказала сваю, поўную драматызму, гісторыю. Двойчы была на мяжы жыцця і смерці. Першы раз, калі трапіла ў аўтааварыю і пашкодзіла пазваночнік. Скурчаную, пакалечаную, яе ледзь дасталі з машыны і на «хуткай дапамозе» адвезлі ў бальніцу. Страшная траўма пагражала ёй нерухомасцю ног і прыкаванасцю да інваліднай каляскі. А тут яшчэ і сямейная драма. Даведаўшыся пра яе стан, пакінуў муж.

І яна змагалася са сваёй бядой адна. Змагалася доўга, пакутліва, апантана. І — перамагла! Жыццё пачало наладжвацца. Вярнуўся ў сям'ю муж. Падраслі дзеці.

Нечакана-негадана на Алесю абрынулася новая страшная бяда. Анкалагічнае захворванне. Амаль паўгода правяла яна ў бальнічнай палаце. Вытрымала складаную аперацыю, некалькі курсаў хіміятэрапіі. Зноў сышоў муж...

Дзе было браць сілы знявечанай і фізічна, і маральна? Але і на гэты раз яна выстаяла, не апусціла рукі. Дапамагла сістэма аздараўлення знакамітага японскага доктара Нішы. Сустрэчы з Маяй Гагулан — самай актыўнай прапагандысткай, прапаведніцай вучэння Нішы — пераканалі Алесю ў тым, што гэта адзіны шлях да яе ўратавання.

Так яно і сталася. Алеся вырвалася з учэпістых лап страшнай хваробы, вярнулася да актыўнага, паўнацэннага жыцця. А самае галоўнае, што яна, перажыўшы ўсе пакуты, якія выпалі на яе долю, не стала жорсткай, не замкнулася. Засталася такой жа адкрытай, даверлівай да людзей.

З перажытага Алеся зрабіла тры прынцыпова важныя вывады. Першы: каб у нечым перамагчы, дамагчыся пастаўленай мэты, трэба выбраць пункт апоры. Гэта можа быць блізкі чалавек, нейкае вучэнне, вера ў Бога — у кожнага сваё. Але такая апора абавязкова павінна быць.

Другі вывад: быць здаровым нам перашкаджае наша лянота.

І трэці, які коратка і дакладна сфармуляваны ў Бібліі: «Мне отмщение и аз воздам». Раней Алеся праходзіла міма гэтага выказвання, нават не разумеючы яго сэнсу. Цяпер жа ёй адкрылася ўся глыбіня і мудрасць таямнічых слоў. Бог нібы кажа: не спрабуйце нікому помсціць, гэта мая справа (и аз воздам), у адваротным выпадку вы спаліце свае сэрца, пакалечыце душу.

* * *

Вербніца. Вербная нядзеля... Гэтыя словы гучаць як музыка. І адразу — цёплыя, прыемныя ўспаміны дзяцінства. Маці (а часцей бацька) прыходзіць

з царквы з пасвянчонымі галінкамі вярбы і жартаўліва б'е мяне імі па спіне, прыгаворваючы:

— Не я б'ю, вярба б'е, за тыдзень Вялікдзень... Ужо недалечка чырвона яечка. Будзь здаровы, як вярба, будзь прыгожы, як вясна, будзь вясёлы, як лета, будзь багаты, як восень!

І пасля заставалася толькі чакаць таго Вялікадня з яго чырвонымі яечкамі, з яго пірагамі і іншай смакатой. А самае галоўнае — Вялікдзень сімвалізаваў ужо безагаворачны прыход вясны з яе незлічонымі дзіцячымі радасцямі.

* * *

На цэнтральным праспекце сталіцы ёсць дом, у якім яшчэ нядаўна жыло шмат вядомых людзей — дзяржаўных дзеячаў, артыстаў, пісьменнікаў, кампазітараў. І цяпер там мемарыяльныя дошкі з барэльефамі (гарэльефамі) слынных людзей.

Нядаўна на першым паверсе гэтага дома адкрылі магазін-салон моднага адзення. А ў якасці рэкламы паставілі ў вокнах нейкія шкілеты, на якіх вісяць тыя самыя модныя лахманы.

І атрымалася недарэчнасць. Чытаеш на дошцы: «Тут жыў народны артыст...» — і побач, у акне, шкілет. Ажно хочацца перажагнацца.

* * *

Быў на радзіме. Надзвычай цяжкое, гнятлівае ўражанне пакінула мая родная вёска. Некалі прыгожая, шматлюдная, песенна-галасістая, сёння яна літаральна памірае. Вельмі многа дамоў пустых, напалову разбураных. Многа хат, дзе засталося па адным чалавеку. Як правіла, гэта — жанчыны.

Мужчыны паспіваліся, дэградзіруюць на вачах. Працаваць не хочуць, а выпіць любяць. От і кінуліся ў крадзеж. Цягнуць усё, што трапляецца пад руку — курэй, гусей, бульбу, дровы... Ні замкі, ні сабакі не памагаюць.

У лесе мне давялося бачыць гурбачку наскубленага пер'я, а побач — след вогнішча, на якім украдзеную курку засмажылі. Непадалёку валялася і некалькі пустых пляшак.

Спрабавалі скардзіцца ўчастковаму, але той адмахнуўся: «Не хапала мне яшчэ разбірацца з вашымі курамі...»

П'юць па-страшнаму. І ў святы, і ў будні. З ранку да вечара.

Сястра, якая пасля смерці мужа жыве адна, папрасіла мужчыну — у яго свой конь — узараць агарод. Дык ён прыехаў раніцаю, стаў араць і валіцца ў баразну...

Мая родная сядзіба, што колькі гадоў назад калгас аддаў нейкаму прышламу механізатару, у страшным запусценні. Хлеў напалавіну расчынены, зеўрае гнілымі кроквамі, плот паваліўся, вароты ад вуліцы перакасіліся, латаныя-пералатаныя, ледзь ліпяць. На двары — чорт нагу зломіць. А гаспадар — не прасыхае!

Яшчэ ў горшым стане сядзіба суседкі Любы Мартынавай, якая пазалетась памерла. Хата пустуе, вокны павыбіваныя, ганак разламаны. Хлеў гэтай зімою згарэў і вуголле валяецца па ўсім двары. Агарод зарос травой і пустазеллем.

Знак запусцення, знак бяды ляжыць не толькі на гэтай сядзібе, а і на ўсёй вёсцы. Можа, хіба тры-пяць гаспадарак яшчэ трымаюцца, стараюцца нешта рабіць, варушыцца. Прыемна, што сярод іх і сябар майго маленства Антон. Удваіх з жонкаю яны трымаюць пад плёнкаю больш за дзве соткі агарода, вырошчваюць агуркі, памідоры, цыбулю, кроп. І маюць з гэтага нейкую капейчыну.

Пра астатніх і гаварыць не хочацца. Сумна. Крыўдна. Балюча...

* * *

Мой даўні знаёмы з нагоды свайго юбілею нечакана расшчодрыўся і запрасіў мяне з жонкаю ў модны рэстаран.

— Дык там жа дарага, — спрабаваў я асцярожна зазямліць рамантычны парыў юбіляра.

— А, нічога! — бадзёра адказаў той. — Можам жа мы хоць раз у жыцці дазволіць сабе такую раскошу?..

І гэтую бадзёрасць, гэты кураж ён захоўваў у рэстаране да таго моманту, пакуль не прынеслі рахунак. Зірнуўшы ў паперку, юбіляр імгненна звяў, патух, страціў цікавасць да ўсяго навакольнага. Нават кашалёк аддаў жонцы, каб тая адлічыла належную суму, бо ў самога дрыжэлі рукі і, мабыць, пацямнела ўваччу.

Пакідаючы рэстаран, я спецыяльна зазірнуў у рахунак. Там стаяла зусім не забойная лічба: 137 тысяч рублёў. І чаго ўжо было так хваляваўцца і псаваць настрой усім нам? Не хапіла ў чалавека мужнасці, сілы волі давесці прыгожы парыў да канца. Капляй дзёгцю сапсаваў бочку мёду.

* * *

Па тэлевізары расказваюць пра сусветна вядомую спявачку Патрысію Каас. Ламанае, блытанае, суровае жыццё было ў гэтай жанчыны. Давялося спазнаць усё: і славу, і багацце, і каханне, і здраду... Але напрыканцы сваіх дзён яна прызналася: музыка — не галоўнае ў жыцці. Самая вялікая каштоўнасць, якая даецца чалавеку ад Бога, — гэта каханне.

* * *

У Смалявіцкім раёне адзін немец узяў у арэнду самы адсталы, самы занядбалы калгас і праз пару гадоў ураджай падвоіў, а надоі малака нават патроіў. Ад тых жа кароў. На той жа зямлі. З тымі ж людзьмі. Толькі за кошт новых тэхналогій і тэхнікі.

Пад Мінскам, у калгасе «Волма», кітаец пачаў вырошчваць пекінскую капусту. Навёў на зямлі парадак. Аднавіў разбураную цяпліцу. Вярнуў людзям упэўненасць у заўтрашнім дні.

А што мы самі? Няўжо не можам гаспадарыць разумна, прыбыткова? Напэўна ж, можам. Але не хочам. Адны спасылаюцца на тое, што, маўляў, няма неабходных умоў. Але і немец, і кітаец працуюць у тых жа ўмовах.

А другія не хочуць брацца за справу па сваёй ляноце, распусце. Навошта высільвацца, калі можна нешта ўкрасці (у калгасе, у суседа), нешта пазычыць — і жыві сабе прыпяваючы.

Калі такая атмасфера захаваецца яшчэ год-другі, на вёсцы не застанецца, бадай, ніводнага сапраўднага гаспадара. Застанецца хіба адно: прасіць замежцаў, каб прыйшлі і навялі на нашай зямельцы парадак.

* * *

Рамэля... Не ведаю, чаму яго так празвалі ў вёсцы (сапраўднае імя Роберт), але і старыя, і малыя казалі толькі так.

Быў Рамэля заўсёды пад градусам. Тым не менш заставаўся прыстойнагжэчны: лішняга, пустога не малоў, подласці не рабіў, да кожнага меў прыветлівасць і павагу. А да нашай суседкі па дачы — асаблівую сімпатыю. Нярэдка я чуў, як ён, завітаўшы да яе ў двор, гукаў:

— Сіньёра! Прашу на хвілінку.

Не раз, праходзячы міма нашага двара і ўбачыўшы мяне, ён абавязкова спыняўся і заводзіў кароткую, хутчэй па вясковай традыцыі, чым па нейкай патрэбе, размову. Апошні раз, калі я ў садку касіў траву моднай цяпер касілкай з лескі, Рамэля спыніўся, абапёрся рукамі на плот і пачаў распыт-

ваць, колькі такая штуковіна каштуе, ці можна ёю касіць на лузе, дзе яе можна купіць...

Мы яшчэ пра нешта пагаварылі, і ён пайшоў сваёй нетаропкай, не па гадах цяжкаватай паходкай.

І вось жахлівая навіна. Рамэля ехаў на возе па сена на бліжэйшы поплаў. Насустрач ішоў камбайн. Калі разміналіся, кабыла раптам спудзілася, воз перакуліўся. Рамэля ўдарыўся галавою аб прыдарожны камень і памёр на месцы.

— Гэта лёс, — заключыў сусед, які і прынёс мне сумную навіну. — Колькі разоў я казаў яму, каб ён не браў гэтую кабылу. Дурная яна, натурыстая. Стрыножыць, бывала, яе, прывяжа, а яна ўсё роўна ўцячэ. Адшукае, прывядзе назад. А праз дзень — тое ж самае. Усе ў калгасе ад гэтай кабылы адмовіліся, а ён упёрся: вазьму і годзе. Ну вось і ўзяў. Лё-ёс!

* * *

На прасёлачнай дарозе мы з сябрам спынілі дзядзьку, які ехаў на возе, і ў драбінах ляжаў поўны мяшок. Па тым, як дзядзька спужаўся, калі мы спынілі яго, можна было здагадацца, што ў мяшку ён вёз нешта крадзенае. І як жа чалавек абрадаваўся, калі мы ўсяго толькі папыталіся ў яго, ці трапім гэтай дарогай у Даўгінава.

— А от так прама едзьце, нікуды не зварочвайце і трапіце ў Даўгінава. Шчасліvenька вам!

* * *

Дэвізам маёй маладосці было: веды — гэта сіла.

«Не!» — адказвае сённяшняя моладзь. І фармулюе свой дэвіз: сіла — гэта ўлада, таму што ўлада дае грошы, на якія можна купіць усё, што хочаш.

* * *

На пачатку свайго свядомага жыцця чалавек задаецца пытаннем: «Навошта я прыйшоў у гэты свет?» А ў канцы жыцця з сумам задумваецца: «Навошта я прыходзіў?» Але сакраментальнае пытанне так і застаецца без адказу.

* * *

Факт для роздуму.

Гістарычны вопыт сведчыць пра тое, што ў складаныя пераходныя перыяды разумна пабудаваная сістэма «кіруемай дэмакратыі» значна больш прымальная для грамадства, чым бюракратыя «некіруемая», якая прыводзіць да войнаў, галечы, дэградацыі і распаду дзяржавы.

* * *

Вучоныя сцвярджаюць: роля веры ў нашым жыцці куды больш значная, чым мы прывыклі думаць.

Эксперыменты апошніх гадоў пераканаўча даказваюць, што нашы жаданні, ідэі, якімі мы пранікаемся, здольны ўздзейнічаць на фізічны свет не толькі ўскосна, але і непасрэдна. Механізм такога ўздзеяння пакуль застаецца загадкаю. Але факт ёсць факт: усякая ідэя з самага пачатку імкнецца да матэрыялізацыі ў фізічным свеце.

Аднак мы ведаем і іншае. Што далёка не ўсякая ідэя рэалізуецца нават тады, калі для гэтага ёсць, здавалася б, усе ўмовы. Не дапамагае нават канцэнтрацыя думкі, як раяць модныя сёння методыкі.

У чым жа справа? Выказваецца асцярожная гіпотэза: магчыма, ідэя сама па сабе не валодае дастатковай энергіяй, каб матэрыялізавацца; магчыма, для гэтага патрэбна дадатковая сіла... Вучоныя мяркуюць, што гэтую сілу

ідэі дае энергія веры. Думка, падтрыманая верай, набывае моцную матэрыяльную сілу.

Паказальная гісторыя хваробы К.Э. Цыялкоўскага. У маладосці ён захварэў на рак. Але не адчаяўся, таму што верыў: у Космасе ёсць Розум, які не пакіне яго ў бядзе. Малады філосаф выходзіў на дах свайго доміка ў Калузе і звяртаўся да Неба з просьбаю аб выздараўленні. І просьба яго была пачута. Бацька сусветнай касманаўтыкі яшчэ многае паспеў зрабіць у сваім жыцці. Памёр ён у 78 гадоў. Пры ўскрыцці дактары выявілі даўнюю злаякасную пухліну, якая па незразумелых для іх прычынах калісьці была ізалявана ад усяго арганізма.

Бываюць выпадкі, калі для вылечвання не было ніякіх іншых фактараў, акрамя веры. Так здарылася і з адным амерыканскім вясковым хлопцам. Ён захварэў на рак горла. У бальніцы яму сказалі, што трэба прайсці курс прамневай тэрапіі і ён паправіцца. Але найперш вырашылі памераць тэмпературу, паклаўшы градуснік хвораму ў рот. Па выразе твару пацыента доктар зразумеў, што той прыняў градуснік за прыбор прамневай тэрапіі. Аднак нічога гаварыць не стаў. За некалькі такіх «сеансаў» рак у амерыканскага хворага цалкам прайшоў.

Дзякуючы веры вярнулі сабе здароўе тысячы і тысячы людзей. Адны з іх верылі ў новае цудадзейнае лякарства, другія — у свайго анёла-ахоўніка, трэція — у святыя мошчы альбо малітвы... Вынік быў адзін — поўнае выздараўленне.

Чытаючы гісторыю Пачаеўскай лаўры, я знайшоў дзесяткі прыкладаў такога цудоўнага вылечвання. Прызнаюся шчыра: я гэтым фактам і верыў, і недзе ў глыбіні душы трохі сумняваўся. У нас любяць ствараць міфы, разгадваць розныя таямніцы, напускаць загадкавы туман.

Але вось знаходжу таму навуковае абгрунтаванне. У часопісе «Наука и религия» чытаю: большасць з тых, хто звяртаецца за дапамогаю да «намоленай» іконы альбо да знакамітага лекара, і не падазраваюць, што дзякуючы сваёй веры яны падключаюцца да моцнага энергаінфармацыйнага поля. Гэтае поле можа канцэнтраваць у сабе каласальную сілу боскай энергіі, якая і перадаецца пакутнікам і якая ў рэшце рэшт і памагае ім. Галоўнае, каб у чалавека была вера, настрой на гэту дапамогу.

* * *

Прачытаў новую кнігу Пауэла Каэльё — «Вероника решает умереть». Мне падалося, што гэта — адна з самых дасканалых, самых мастацкіх кніг папулярнага бразільскага раманіста. Тут ёсць усё: напружаны, драматычны сюжэт, яркія, паўнакроўныя, самабытныя характары, інтрыга, якая раскрываецца літаральна на апошняй старонцы і, канечне ж, глыбокая філасофская думка, без якой любы твор ператвараецца ў простую гаварыльню на прызбе.

Зрэшты, думка, якую сцвярджае сваім раманам Каэльё, — не такая ўжо і новая. У ёй адсвечваецца вопыт і мудрасць тысячагоддзяў. Сутнасць яе такая. Кожны з нас — індывідуальнасць. Са сваім светаадчуваннем, сваім светапоглядам. Кожнаму з нас Бог вызначыў свой уласны лёс. І калі мы прытрымліваемся гэтага шляху, то ўсе сілы Сусвету садзейнічаюць нам у дасягненні нашай мэты.

Разам з тым на гэтым шляху нас чакае і нямала розных выпрабаванняў, расчараванняў, пакут. І далёка не кожны іх вытрымлівае. Але той, у каго хапае мужнасці, цярплівасці, рашучасці ісці сваім шляхам да канца, той не толькі дасягае жаданай мэты, але і знаходзіць сапраўднае шчасце.

Чаму не кожны гэтага дабіваецца? Прычын многа, лічыць Каэльё. У адным выпадку чалавек не здолеў адчуць, убачыць, расшыфраваць знакі свайго лёсу і пайшоў не сваёй дарогай.

У другім — чалавек адчувае, унутрана ведае пра сваё прадвызначэнне, але нічога не робіць, каб рэалізаваць патэнцыяльныя магчымасці.

У трэцім выпадку мы не выкарыстоўваем той шанц, які нам дорыць лёс, калі мы памыліліся, зайшлі не туды. Шанц, каб змяніць сваё жыццё. Але ў сілу кансерватыўнасці ці той жа ляноты нічога не хочам мяняць. «Лепш сініца ў руках, чым журавель у небе», «Ад дабра дабра не шукаюць», — кажам мы, апраўдваючы сваю нерашучасць. А яшчэ нярэдка застаёмся на месцы, нікуды не рухаемся, таму што не верым у свае сілы. «Не, гэта не для нас».

Аднак самае страшнае, на думку Каэльё, — гэта тыранія грамадскай думкі. «...кожная чалавечая істота унікальная ў сваіх праявах, інстынктах, спосабах атрымоўваць задавальненне, імкненнях да прыгод. Але грамадства ўсё ж такі навязвае калектыўны лад дзеянняў, і людзям нават не прыходзіць у галаву задацца пытаннем, чаму яны павінны рабіць гэтак, а не інакш... Небяспечна жадаць быць як усе, таму што гэта азначае гвалціць прыроду і ісці супраць законаў Бога, які ва ўсіх лясах і гаях свету не стварыў нават двух аднолькавых лісцікаў».

Такім чынам, думка пісьменніка ясная і зразумелая: жыць трэба сваім розумам, не залежаць ад чужога меркавання, ад ацэнак іншых людзей і праз усе перашкоды і нягоды ісці сваім шляхам. У гэтым, безумоўна, ёсць пэўны рэзон. Чалавек не павінен дапускаць самаадрачэння і самапрыніжэння, якія прыводзяць да разбурэння асобы. Канечне ж, трэба ўмець кіраваць сваімі эмоцыямі і думкамі, не рабіць трагедыі з дробязяў, не зацыклівацца на нечым адмоўным, выпрацаваць аптымістычнае ўспрыняцце таго, што адбываецца з табою і вакол цябе, жыць сённяшнім днём, а не заўтрашнім, бо тое, што пастаянна адкладваеш на заўтра, так і застаецца нязбыўным.

Усё гэта так. І ўсё ж нейкі чарвячок сумнення ў душы застаецца. Прыняўшы безагаворачна гэту канцэпцыю жыцця, ці не кінемся мы ў другую крайнасць: з-пад гнёту калектывісцкіх прынцыпаў трапім у бязмежжа крайняга індывідуалізму і халоднага эгаізму? Баюся, каб мараль кнігі Каэльё маладыя людзі не ўспрынялі як прапаганду ўсёдазволенасці. Любі толькі самога сябе, а на ўсё астатняе напляваць. Жыві сённяшнім днём. Жыццё занадта хуткаплыннае, і таму спяшайся найперш атрымліваць ад яго асалоду, задавальненне.

Пры такім падыходзе вар'яцкі дом сапраўды становіцца ідэальнай мадэллю ўладкавання, арганізацыі жыцця. «Тут кожны можа гаварыць, што яму ўздумаецца, рабіць, што хочацца, не баючыся выклікаць чыё-небудзь незадавальненне альбо крытыку».

У рэальным жа жыцці немагчыма, небяспечна жыць па прынцыпе «што хачу, тое і раблю». Бо ўсе мы ўзаемазвязаны, залежым адзін ад аднаго. Можна нават сказаць так: як язда на машыне немагчымая без правілаў руху, так і жыццё чалавека ў грамадстве немагчымае без пэўных абмежаванняў і рэгулявання. Наша свабода заканчваецца там і тады, дзе і калі пачынаюцца правы іншых людзей. Інакш жыццё ператворыцца ў суцэльны кашмар.

* * *

Палез у «Энцыклапедыю афарызмаў», каб пачытаць, што думалі лепшыя розумы чалавецтва пра такія тонкія і надзвычай важныя катэгорыі, як шчасце, абавязак, сэнс жыцця...

І што ж? Адзінства я не знайшоў і сярод мудрых з мудрэйшых. «Мэта ўсіх чалавечых намаганняў заключаецца ў дасягненні шчасця», — сцвярджае Роберт Оуэн. Яму падтаквае Ф. Энгельс: «Імкненне да шчасця ўласціва чалавеку ад прыроды, таму яно павінна быць асноваю ўсялякай маралі». А вось вялікі французскі філосаф і пісьменнік Вальтэр лічыць, што «шчасце

ёсць толькі мара». З гэтым практычна пагаджаецца і наш Ф. Дастаеўскі: «Шчасце не ў шчасці, а толькі ў яго дасягненні». Іншымі словамі, важны сам працэс.

Абсалютна рознае разуменне і таго, у чым заключаецца шчасце. «У жыцці ёсць толькі адно несумненнае шчасце — жыць для іншага», — упэўнены М. Чарнышэўскі. Тое ж самае, слова ў слова, паўтарыў крыху пазней Леў Талстой. А другі Талстой, Аляксей Мікалаевіч, сфармуляваў гэтую думку яшчэ больш ярка, вобразна: «Шчасце асобы па-за грамадствам немагчыма, як немагчыма жыццё расліны, вырванай з зямлі і кінутай на бясплодны пясок».

І зусім процілеглая думка ў Д. Адзісона: «Сапраўднае шчасце... нараджаецца галоўным чынам з любві да самога сябе». Дзіўна, але такой жа думкі і матэрыяліст Л. Фейербах: «Першы твой абавязак заключаецца ў тым, каб зрабіць шчаслівым самога сябе...»

Дык што ж усё-такі больш важнае для чалавечага жыцця: сябелюбства, эгаізм альбо служэнне грамадству, Айчыне? Пытанне, здавалася б, рытарычнае. Але вось як адказвае на яго адзін з самых палымяных барацьбітоў за людскую справядлівасць А. Герцэн: «Маралісты гавораць пра эгаізм, як пра кепскую звычку, не пытаючыся, а ці можа чалавек заставацца чалавекам, страціўшы адчуванне асобы». Яшчэ больш катэгарычны Ф. Дастаеўскі: «Але што ж мне рабіць, калі я пэўна ведаю, што ў аснове ўсіх чалавечых дабрачыннасцяў ляжыць найглыбейшы эгаізм. І чым больш дабрачынная справа — тым больш тут эгаізму. Любі самога сябе — адно правіла, якое я прызнаю».

А што думалі пра гэта ў старажытнасці? «Народ мяне асвістае, але сам я сабе пляскаю ў далоні», — гаварыў Гарацый. «Ідзі сваёй дарогай, і хай людзі гавораць, што заўгодна», — такога прынцыпу раіў прытрымлівацца вялікі Дантэ.

Сярод апанентаў знаходзім не менш славутых людзей. Вельмі эмацыянальна выказаўся на гэты конт У. Тэкерэй: «З усіх заган, якія прыніжаюць асобу чалавека, сябелюбства з'яўляецца самым гнюсным і нікчэмным». А яшчэ да яго не менш катэгарычна выказаўся Сенэка: «Чалавек, які думае толькі пра сябе і шукае ва ўсім сваёй выгады, не можа быць шчаслівым. Хочаш жыць для сябе, жыві для іншых». А яшчэ да Сенэкі тое ж самае гаварыў мудрэц Платон: «Дбаючы пра шчасце іншых, мы знаходзім сваё ўласнае».

Такім чынам, ні ў сусветнай літаратуры, ні ў філасофіі, ні ў іншых навуках мы не знойдзем адназначнага адказу на пытанне, што такое шчасце і ў чым сэнс чалавечага жыцця. Адны, як бачым, заклікаюць любіць толькі сябе, другія — падпарадкоўваюць свае інтарэсы грамадскім. Біблія імкнецца да кампрамісу: любі бліжняга, як самога сябе.

І ўсё ж думаецца, што нам, славянам, з нашым шматвяковым вопытам абшчыннага жыцця, з нашым светаадчуваннем, заснаваным на сістэме хрысціянскіх каштоўнасцей, нам больш блізкі не індывідуалізм і эгаізм, а калектывізм, адчуванне локця, пачуццё дачынення да ўсяго і ўсіх. Нездарма ж адзін з самых глыбокіх знаўцаў народнай душы Ул. Даль пісаў: «Не может рускі чалавек быць шчаслівым у адзіночку, яму патрэбен удзел навакольных, а без гэтага ён не будзе шчаслівым».

Вось чаму многія нашы людзі ў Амерыцы (ды і не толькі ў Амерыцы) задыхаюцца, як рыба, выкінутая на бераг. Нашаму чалавеку трэба не проста пасядзець у рэстаране, выпіць чарку, закусіць — гэта справа другарадная. Галоўнае — пагаварыць, пасакрэтнічаць, кажучы па-руску, «излить душу».

Канечне, любіць самога сябе трэба. Напэўна, гэта адна з важных умоў фарміраваня асобы. Аднак тут трэба ведаць меру, каб гэтая любоў не перай-

шла ў чыстае сябелюбства. І шчасце не ў тым, гаворачы словамі Л. Талстога, каб рабіць заўсёды, што хочаш, а ў тым, каб заўсёды хацець таго, што робіш.

А гэта ўжо зусім іншая рэч.

# МОЙ СВЕТЛЫ, МОЙ РОДНЫ КУТ...

* * *

Раніцаю, як заўсёды, выйшаў на праходку ў сваёй звычайнай куртачцы на сенціпоне. Але калі ў ранейшыя дні мне ў ёй было цёпла, а пасля праходкі нават горача, то сёння мне здалося, што я выскачыў у адной кашулі. Вымушаны быў паскорыць хаду. Але гэта мала памагала: холад пранікаў у рукавы, за каўнер, за спіну. І я гэтыя тры кіламетры, што звычайна праходзіў за паўгадзіны, сёння праскочыў адным духам.

Але ж і прыгожая была раніца! Уверсе, у сінім небе, вісела спакойная, хаця трохі і з халаднаватай усмешкай поўня. Радасна ззялі яркія зоркі. Унізе тысячы такіх жа зорак іскрыліся на дарожцы. А снег пад нагамі рыпеў звонка-звонка, аж з нейкім вясёлым подсвістам.

О, даўно ўжо не было такой снежнай, такой марознай, такой здаровай зімы!

* * *

Зіма яшчэ адчайна трымаецца. Глыбокі снег. Не адлягае мароз. Неба заткана нізкімі, непрыветна-свінцовымі хмарамі.

І ўсё ж такі — ужо выразна ва ўсім адчуваецца блізкая вясна. Бо снег, хоць яшчэ і ляжыць вакол, але ён пачарнелы, наздраваты, глядзіш на яго — і не казыча пад сэрцам халаднаватая радасць, якая бывае на пачатку зімы, а наплывае адно толькі нейкае шкадаванне... Бо і мароз той бярэ за вушы звычайна ўжо толькі раніцай. Бо і хмары ўсё часцей і часцей прабівае сонца — ласкавае, вясёлае, і тады на асфальце сям-там пачынаюць блішчэць лужынкі, ля якіх адразу збіраюцца задзіры-вераб'і...

Пра недалёкую вясну нагадвае і пасвяжэлае, празрыста-хмельнае паветра, і неверагодны грачыны галас у скверах, і першыя пары закаханых на лаўках у парку...

Прырода і чалавек жывуць прадчуваннем вялікага, мудрага працэсу спрадвечнага абнаўлення.

* * *

Пад сцяною, у зацішку, падстаўляючы твары цёпламу ўжо сонцу, стаяць тры бабулі. І з гэткім яны захапленнем нешта абмяркоўваюць, і столькі ў іхніх рухах чагосьці зухаватага, маладога, што, гледзячы на іх, нельга не ўсміхнуцца.

Што зробіш — вясна!

* * *

З самага ранку цярусіць дожджык. Халодны яшчэ, надакучлівы. Але — дзіва — суму, журбы няма. Адчуваеш: за гэтым дажджом хутка прыйдзе цяпло — сапраўднае, доўгачаканае.

Чамусьці ні адну пару года не чакаеш з такой нецярплівасцю, як вясну. Жывому прыемна, радасна бачыць жывое...

* * *

Два дні пастаяла цяпло — і на вачах усё перамянілася.

Зазелянела трава, прарэзаліся на клумбах вострыя лёзы цюльпанаў, праклюнуліся, а там-сям і распусціліся на бярозах першыя пяшчотна-аксамітныя лісточкі.

Каторую ўжо вясну бачыш гэты неспасцігальны, таямнічы працэс абуджэння прыроды — і кожны раз, як дзіця, здзіўляешся, захапляешся і ўдзячна, узрушана-шчасліва думаеш: «Як добра, што прыходзіць вясна, што я жыву, бачу яе...»

* * *

Цёплы красавіцкі дзень, і мы з сябрам выскачылі за горад, у лес. Якая там любата цяпер! Усё так і дыхае свежасцю, маладой сілаю, хараством. Усё — і гэта адчуваеш амаль фізічна — цягнецца ўгору, да сонца, расце.

На арэшніку, альхоўніку вісяць пяшчотныя завушніцы. Сям-там, на сонцагрэве, на вышэйшых ды сушэйшых мясцінах выпырснула маладая травіца...

Акунуўшыся ў гэту першародную свежасць, міжволі маладзееш, мякчэеш душою і сам. Сябар мой, нашто ўжо чалавек стрыманы ў сваіх пачуццях, і той з прасветленым тварам доўга расчульваўся над срэбна-пушыстым «коцікам», з павільгатнелымі вачыма кратаў далікатныя завушніцы, адганяў матыля, што раптам узяўся аднекуль і ўсё трапятаў вакол цяпельца, рызыкуючы трапіць у агонь:

— Ну куды ты, дурань, лезеш... Ляці ўнь далей. Ляці на сонейка...

* * *

Нарэшце такі дождж пайшоў. Цёплы, ціхі, першы за ўвесь красавік і май.

Як жа патрэбен ён быў! Як чакала яго перасмяглая, змарнелая зямля. Чакалі азіміна і яравыя ў полі. Чакалі дрэвы, недаўменна пазіраючы ў неба кволымі пупышкамі. Чакалі людзі, якія ведаюць, што такое сухая, без дажджу вясна...

І от дождж пайшоў... Спорны, радасны, залаты.

Ну, цяпер дай толькі пару дзён цяпла — і ўсё наўкол зацвіце, забуяе, загамоніць...

Ідзі сабе, дожджык, на здароўейка, раскашуйся...

* * *

На некалькі дзён вырваўся з горада ў вёску. У ранню́ю, зялёна-маладую вясну.

Якое ж тут цяпер хараство! Раніцаю расчыніш акно насцеж — на вуліцы ціхенька, сонечна. А паветра — чыстае, прахалоднае, хмельнае... Недзе на суседавым ясені пасвістваюць шпакі. Ля хаты гуляюць, шчабечуць, як птушкі, дзеці.

А ў полі! Што робіцца гэткай парою ў полі, у лесе. Зыркая, сонечная паводка, дзівосныя, хвалюючыя пахі. І над усім гэтым, у сінім, высокім небе, як голас анёла — звонкая жаўруковая песня...

Стаіш, убіраеш чыстае, непаўторнае хараство расчуленым сэрцам і адчуваеш, як маладая, буйная радасць прыроды становіцца і тваёй радасцю.

* * *

Ішоў раніцаю поплавам. Тым самым, на якім некалі прайшло ўсё маё дзяцінства.

І хоць многае тут змянілася: пасярод поплава пракапáлі шырокую канаву, дый самога поплава, можна сказаць, няма ўжо — яго зааралі, засеялі жытам. І ўсё ж... Звонка сакаталі, як і тады, у маленстве, конікі ў бульбе. Гэтак жа пахла травою, бульбоўнікам і яшчэ нечым знаёма-родным. Гэтак жа за ракою ў ранішнім тумане пераклікаліся касцы.

І, Божа мой, адразу, што пчолы, зараіліся ў маёй душы ўспаміны, растрывожылі, усхвалявалі сэрца. І было невыказна прыемна, радасна і трошкі журботна-балюча ад таго, што чароўная, шчаслівая пара дзяцінства ўжо не вернецца, не паўторыцца больш ніколі-ніколі.

І думалася яшчэ: як добра, што ёсць на гэтай апантанай зямлі мой ціхі, мой родны куток, дзе можна вось так, у святой сцішанасці, пастаяць, стрымліваючы на вачах слёзы, падумаць пра сваё мінулае і пра сваё заўтрашняе.

* * *

На дачы, як толькі зацвілі дзьмухаўцы, я іх скасіў — каб не паспелі выкінуць насенне. А назаўтра прыходжу зграбаць, а ў многіх скошаных раслін замест жоўтых кветак белыя шарыкі. Змаглі-такі (у паскораным рэжыме) абсеменіцца нават адарваныя ад сокаў зямлі. Якая прага жыцця: паміраючы, пакінуць патомства!

* * *

Непадалёку ад нашай дачы, на высокай алешыне, даўняе гняздо буслоў. І вось ад старасці буслянка гэтая пачала паціху разбурацца. А аднойчы, у моцны вецер, аб'ехала ўніз і гупнулася на зямлю разам з малымі буслянятамі.

Мужчыны з суседніх дамоў сабраліся ля алешыны і сталі маракаваць, што ж рабіць з разбуранай буслянкай. Нехта падказаў: а давайце пазвонім у дырэкцыю нацыянальнага парку, хай прыедуць, памогуць ўратаваць busліную сям'ю.

Пазванілі. Прыехала нейкая расфуфыраная дама, пахадзіла грэбліва вакол кволых, бездапаможных буслянят і абыякава заключыла:

— Тут ужо нічым не паможаш.

І — паехала.

Пачухалі мужчыны патыліцы, памаракавалі яшчэ і рашылі не кідаць буслоў у бядзе. Зрабілі новы, больш моцны насціл, перанеслі на яго разбуранае гняздо і ўсё разам з дапамогаю вяровак усцягнулі на алешыну, надзейна замацавалі. І сталі чакаць, што ж будзе далей.

А далей было вось што. Дарослыя буслы, якія ўвесь гэты час стаялі зводдаль, перамінаючыся з нагі на нагу, і трывожна назіралі за ўсім, што адбываецца, як толькі буслянка апынулася зноў на дрэве, адразу ж прыступілі да справы. Аднаго за адным перанеслі буслянят у гняздо і радасна, удзячна заклекаталі на ўсю ваколіцу.

Павесялелі і мужчыны:

— Ну во, а то кажа: «Нічым ужо не паможаш...» Было б толькі жаданне!

* * *

Заўсёды, як толькі пераступаеш мяжу жніўня, пачынаеш адчуваць у душы нешта шчымліва-тужлівае, журботнае, восеньскае. Той жа настрой, здаецца, апаноўвае і прыроду. І лісце нібыта яшчэ зялёнае, і сонца лагоднае, а ўжо нешта змянілася, нейкі няўлоўны сум прысутнічае ва ўсім. Лёгкае дыханне недалёкай восені кранае самыя патаемныя струны душы.

* * *

Нешта незразумелае, анамальнае робіцца ў прыродзе. Многія дрэвы стаяць яшчэ зусім зялёныя, а ўжо выпаў снег. Пачаў ён ісці з самай раніцы і не сціхаў да вечара. Канечне, тут жа і раставаў. Аднак у дварах — зямля белая.

А ноччу, абвясцілі сіноптыкі, будзе мароз да 9 градусаў. На дарогах — галалёдзіца. От табе і восень!

* * *

«Нешта незразумелае робіцца ў прыродзе...» А яно не такое ўжо і незразумелае. Яшчэ ў свой час Энгельс папярэджваў, каб мы, homo sapiens, не вельмі захапляліся сваімі перамогамі над прыродай, бо за кожны непрадуманы, грубы крок яна нам жорстка адпомсціць. Мы ж, лічачы сябе прававернымі марксістамі, не прыслухаліся да мудрага папярэджання.

Як дзікуны, з пераможнымі крыкамі-лозунгамі, з бязлітаснай тэхнікай «наперавес» кінуліся пакараць балоты. Палічылі, што гэта памылкі, недапрацоўкі прыроды. Кіруючыся ідыёцкім лозунгам «Не чакаць міласцяў ад прыроды, узяць іх у яе — наша задача», мы павялі рашучы наступ. І захліпаліся ад захаплення (як жа, спрадвечную багну ператвараем ва ўрадлівыя, квітнеючыя палеткі), хмялелі ад сваёй смеласці і дзёрзкасці, трубілі на ўвесь свет пра вялікую перамогу.

А перамога аказалася піравай. Цяпер афіцыйна вымушаны прызнаць: прычына сённяшніх пагодных анамалій у асушаных балотах. З таго часу, як пачалася меліярацыя Палесся, колькасць ападкаў зменшылася ў гэтым краі на 80 міліметраў, утрая павялічылася колькасць прыродных катаклізмаў.

У выніку — у тутэйшых мясцінах вясною жыхары сталі пакутаваць ад небывалых паводак, а летам — ад страшных пылавых бур. На асушаных землях з'явіліся дзівосныя стэпавыя птушкі. Старыя людзі з горкім сумам успамінаюць, які рай быў тут раней — шчодрыя заліўныя паплавы, густыя, багата населеныя рознай жыўнасцю пойменныя лясы. А колькі птушак і ягад было на балотах! Сёння ж нават агароды сталі безабаронныя — зусім не трымаюць вільгаць...

Між тым, яшчэ тады, на самым пачатку маштабнай меліярацыі, былі людзі, якія адважваліся выступаць супраць гвалтоўнага, непрадуманага ўмяшання ў прыроду. Не паслухаліся іх. Больш таго — залічылі ў разрад цемрашалаў, рэтраградаў...

Каюся: сярод тых, хто не разумеў працiўнікаў асушэння балот, быў і я. «Ну як можна без меліярацыі?» — думалася мне. Іншая справа, што гэтыя работы трэба весці разумна, дбайна, на навуковай аснове, забяспечваючы двухбаковае рэгуляванне вады, а не проста капаючы трохметровай глыбіні канавы і скідваючы ваду.

Цяпер стала відавочна ўсім: балоты не трэба было чапаць наогул. Гэта — не памылка прыроды, а яе вялікая мудрасць, прадбачлівасць. Гэта ж былі своеасаблівыя акумулятары вільгаці, рэгулятары ўстойлівага надвор'я на вялікіх абшарах.

Асушыўшы балоты, мы парушылі спрадвечныя, адладжаныя вякамі кліматычна-прыродныя працэсы. І гэта адгукнулася не толькі ў нас, але і ва ўсёй Еўропе. Вось чаму сёння стаіць пытанне, каб з дапамогаю ЮНЕСКА, ААН паспрабаваць аднавіць колішнія балоты.

* * *

Эколагі ўсяго свету б'юць трывогу: страшнымі тэмпамі забруджваецца паветра і вада, глеба стогне ад нітратаў, распаўзаецца радыяцыя. На карце цесна ад плям экалагічных бедстваў...

Плюс глабальныя дысбалансы — паліўна-энергетычны, матэрыяльна-сыравінны. Кажуць, што ўжо ў гэтым стагоддзі давядзецца развітацца з танным газам, нафтаю, вугалем. Запасы драўніны падыдуць да небяспечнай мяжы. Узнікнуць праблемы з пітной вадою...

Плюс яшчэ адна праблема — транспартны дысбаланс. У XX стагоддзі ў аўтакатастрофах штогод гінула каля 250 тысяч чалавек і амаль мільён атрымлівалі калецтва.

Аднак машын на планеце ўсё большае і большае. І эксперты прадказваюць, што ўжо ў першай чвэрці гэтага стагоддзя ахвяр на дарогах стане у чатыры разы болей, а калек — у дзесяць разоў.

М-да... Змрачнаватая перспектыва. Застаецца толькі спадзявацца, што гэтае прадказанне, як і большасць ранейшых, абыдзе нас бокам.

# З ЧЫМ І КУДЫ ІДЗЁМ?

* * *

Сталы і ўжо досыць вядомы крытык без усялякіх сумненняў і ваганняў прыходзіць да высновы: «Традыцыйны рэалістычна-апісальны метад, з якім звязаны многія адкрыцці 60—80-х гадоў, усё радзей дае плён».

З шаноўным крытыкам можна пагадзіцца толькі ў адным: так, апісальны метад ніколі не даваў і не дае плёну. Але пры чым тут рэалізм? Адмаўляць гэты традыцыйны метад — усё роўна што адмаўляць традыцыйнае кола і замест яго прыдумваць, скажам, квадратнае ці нават трохвугольнае. Альбо замест традыцыйнага сонца грэцца-загараць пад кварцам ці яшчэ якімі-небудзь суперсучаснымі лямпамі.

Свой глыбоканавуковы вывад крытык зрабіў, рэцэнзуючы новы твор моднага цяпер сярод сталічнага бамонду празаіка. І вось што яму ставіцца ў заслугу: некаторыя яго творы маюць выразныя фармальныя адметнасці (адсутнасць знакаў прыпынку, вялікая колькасць жарганізмаў, умоўнасць сітуацый і г. д.).

Прабачце, але дзе ж тут і ў чым навізна? Было ўсё гэта, было ўжо — і да рэвалюцыі, і пасля рэвалюцыі. І ў нас, і ў замежжы. Няўжо для таго, каб на цябе звярнулі ўвагу, трэба станавіцца на галаву? А ці не лепей паводзіць сябе натуральна, думаць і тварыць рэалістычна? Між іншым, рэалізм — найвялікшае дасягненне чалавецтва. Гэта не толькі самы універсальны, але і самы эфектыўны метад. Ну, а тое, што нейкі няўмека не ўмее, не можа ім карыстацца, то гэта, як цяпер кажуць, ужо яго праблемы.

* * *

Мне здаецца, што абстрактнае, авангардысцкае мастацтва жывіцца дзвюма крыніцамі.

Першая — такая ж хваравітая, узвінчана-растрэсеная псіхіка тых гледачоў, чытачоў, у якіх гэтае, так званае мастацтва, знаходзіць нейкі водгук у душы. Яно ім блізкае, зразумелае.

А другая крыніца — наша боязь аказацца несучаснымі, некампетэнтнымі. І мы, баючыся ярлыка «рэтраград», пачынаем глыбакадумна ківаць галавою, тым самым прызнаючы нейкі сэнс, нейкую мастацкую вартасць у гэтай абстрактнай бязглуздзіцы.

У гэтым мяне яшчэ раз пераканаў Уладзімір Салаухін. У свой час ён расказаў такі эпізод. Яго, маскоўскага госця, павялі ў парыжскую Гранд-опера. І найперш размова зайшла пра сучасны ультрамадэрновы плафон, якім замянілі ранейшы, класічны.

«Вы што-небудзь падобнае бачылі? — захапляўся гід. — Гэта ж цудоўна, геніяльна!»

Але сталася так, што Салаухіну трэба было пайсці з тэатра пасля першага дзеяння. Гардэробшчыца здзіўлена запыталася, чаму ён пакідае тэатр. А гэта была пажылая, інтэлігентная жанчына, якая бачыла тут, напэўна, і Шаляпіна, і Каруза, і Ганну Паўлаву. Каб не ўдавацца ў тлумачэнне сапраўднай прычыны свайго адыходу, ён крыху гарэзліва, але зусім шчыра адказаў:

— Плафон жахлівы. Я не магу знаходзіцца пад ім.

Пачуўшы гэта, бабуля выбегла з гардэробнай і кінулася яго абдымаць і дзякаваць. Яна гаварыла, што ён першы, хто асмеліўся сказаць праўду пра гэты плафон.

Каментарый, як кажуць у такіх выпадках, лішні.

* * *

І яшчэ да пытання пра наватарства.

Цудоўная народная песня «Ой, рэчанька, рэчанька...» Хто з нас не памятае яе тужліва-журботную, шчымлівую мелодыю? Чыё сэрца не кранала пяшчотнасць і глыбіня пачуцця, выказанага з такой геніяльнай прастатой?

Але ж от некаму падалося, што гэта занадта проста. Што песню трэба асучасніць, інтэрпрэціраваць пад модныя цяпер рытмы. І, Божа мой, у выніку гэтай «інтэрпрэтацыі» (ці дакладней сказаць — трэпанацыі) ад народнага шэдэўра, ад мілагучнай, напеўнай, лірычнай мелодыі нічога не засталося. Нейкае завыванне, дзікае скавытанне абсалютна безгалосага гурта. Скрозь гэтую какафонію ледзь-ледзь прабілася бедная, знявечаная мелодыя «Рэчанькі».

І вось такую, з дазволу сказаць, творчасць прапагандуюць яшчэ па радыё. Гучыць па-новаму? Арыгінальна? Ды ўжо ж. Але барані Божа нас ад такой арыгінальнасці і такога наватарства.

* * *

Узбекскі пісьменнік Цімур Зульфікараў выказаў парадаксальную думку: «Тоталитаризм благодатен для культурных явлений». І з уласцівай для Усходу вобразнасцю патлумачыў: каб атрымаць лімонны сок, трэба лімон выціснуць, здавіць. «Поэтому тоталитарная плита, давление которой я ощущал с детских лет, породила мои фундаментальные сочинения…»

А яно, калі прайсціся па нашай гісторыі, то так і ёсць. Самы росквіт і літаратуры, і мастацтва, яго залаты век прыпаў на XIX стагоддзе. Стагоддзе сялянскага прыгону, царскага гнёту. Пачатак XX стагоддзя, адзначаны пэўнымі свабодамі, вольнасцямі, няўстойлівасцю царскага рэжыму, можна назваць часам бурных пошукаў і эксперыментаў ў мастацтве, якія прывялі да ўзнікнення мадэрнісцкіх накірункаў, а ў канчатковым выніку да пэўнай дэвальвацыі самога мастацтва.

У 60—80-я гады — новы ўсплёск у развіцці літаратуры. А цяпер, пры знешняй свабодзе, зноў заняпад ці, кажучы словамі Зульфікарава, «восстание сорняка».

* * *

Мне здаецца, у прыродзе творчай асобы наогул закладзена нейкая парадаксальная аснова — ёй, гэтай асобе, абавязкова патрэбна супраціўленне. Тады асоба актыўна дзейнічае, напружана працуе, на поўную магутнасць уключаюцца фантазія і творчае ўяўленне. З'яўляюцца нейкі азарт, цікавасць.

Калі ж супраціўлення няма, асоба нікне, вяне і ў рэшце рэшт засыхае.

* * *

Сёння, бадай, самая распаўсюджаная ацэнка твора мастацтва — гэта арыгінальнасць.

Што ж, дзеля арыгінальнасці можна, канечне, хадзіць і не на сваіх дваіх, а на чатырох. Ці, скажам, увогуле на руках. Можна нават задам наперад, што будзе суперарыгінальна.

Усё можна. Толькі навошта? Дзеля чаго? У імя якой мэты? Важна ж не тое, як ідзеш, а куды ідзеш. А яшчэ больш важна — з чым ідзеш. Вось калі гэтага «з чым» няма, тады і пачынаюцца цырк, эквілібрыстыка.

* * *

І ўсё-такі на шляху мастацтва да народа павінны стаяць своеасаблівыя СМК — саветы мастацкага кантролю. Без гэтага, як у нас цяпер, атрымліваецца поўная анархія і хаос. Любы графаман пад лозунгам наватарства друкуе сваё трызненне, больш таго — знаходзіцца такі ж крытык, які аб'яўляе гэта дасягненнем сучаснай літаратуры, а нармальныя людзі павінны гэтым смеццем забіваць свае бедныя галовы.

А былі б СМК — уся гэтая лухта адсейвалася б, не трапляла на рынак. Чаму ўсюды на вытворчасці ёсць АТК (аддзелы тэхнічнага кантролю), якія пільна сочаць за якасцю, за тым, каб брак не трапляў на канвеер, а ў літаратуры, у мастацтве, роля якіх непараўнальна большая, чым любога тавара, такога кантролю няма? А брак жа ў гэтай сферы абарочваецца калецтвам чалавечых душ.

Іншая справа, што ў складзе гэтых саветаў павінны быць абавязкова высокапрафесійныя спецыялісты, кампетэнтныя, эстэтычна адукаваныя людзі. Гісторыя сведчыць, што нават ва ўмовах жорсткай царскай цэнзуры, калі цэнзарамі працавалі Ганчароў, Цютчаў, ніякіх праблем з друкаваннем сапраўдных мастацкіх твораў не было.

Бескантрольнасць — бяда ўсяго мастацтва.

* * *

«Белае сонца пустыні». Фільм гэты глядзеў безліч разоў. І заўсёды з захапленнем. З душэўнай узрушанасцю. А часам і са слязьмі на вачах.

А нядаўна стаў глядзець у чарговы раз. І дзіва: не хвалюе! Больш таго, фільм у многім выклікаў калі не раздражненне, то скептычна-паблажлівую ўсмешку. Прыгожая казка. Рамантычная легенда. Пра велікадушнасць, сілу бальшавікоў і пра жорсткасць і каварства азіятаў. Але ж у рэальнасці ўсё было не так адназначна, не так проста.

Адкуль узяўся гэты скепсіс? Відаць, па-новаму зірнуў я на фільм скрозь прызму цяперашніх падзей у Чачні.

* * *

Канцэрт немаладой ужо, але малавядомай філарманічнай спявачкі. Добры і прафесійна пастаўлены голас. Цудоўны рэпертуар — старадаўнія рускія рамансы. І публіка прымала няблага — былі і «біс», і гарачыя заключныя апладысменты, і кветкі. А ўсё роўна засталося адчуванне нейкай нялоўкасці, прыкметнага правінцыялізму ва ўсім. Як бы любаваўся алмазам, але алмазам неадграненым, да канца не апрацаваным, не ўстаўленым у дарагую аправу. Не ўмеем ці проста лянуемся?

* * *

Многа слушных (і што асабліва абрадавала — сугучных маім) думак прачытаў я ў артыкуле дырэктара Пушкінскага дома Мікалая Скатава. Па-першае, ён зазначае, што літаратура — гэта не толькі адзін з відаў мастац-

тва, не толькі адзін са спосабаў так званай духоўнай вытворчасці і ўжо ж, канечне, не проста адзін са школьных прадметаў выкладання. Літаратура, падкрэслівае вучоны, ёсць адзіны ў сваім родзе сродак засваення свету, інструмент для шматграннага пазнання і ўсебаковага выхавання.

Па-другое, М. Скатаў лічыць, што рэалізм — гэта даўняя і глыбокая традыцыя рускай літаратуры. А постмадэрнізм, якому сёння адкрыты насцеж усе дзверы, — гэта не водгук на патрэбнасці і пажаданні публікі, а нахабны дыктат і беспардоннае навязванне.

Ну, дзякуй Богу! А то, чытаючы сённяшнюю крытыку, я ўжо гатовы быў думаць, што безнадзейна адстаў ад часу. Працытаваныя думкі мяне і ўсцешылі, і абнадзеілі.

* * *

Ф. Дастаеўскі сцвярджае, што пісьменніку, каб добра пісаць, трэба многа пакутаваць. А вось наш слынны мастак Леанід Шчамялёў супрацьлеглай думкі: творчы чалавек павінен быць шчаслівы. І гэта шчасце адлюстроўваць у сваіх творах. Хто з іх мае рацыю? У кожнага свая праўда.







**АЛЕСЬ МАРЦІНОВІЧ**

# БЕЛЫ БУСЕЛ НАД БЕСЯДДЗЮ

Запамятаваў ужо, калі дакладна адбылося наша знаёмства. Помню толькі, што гэта было звязана з маімі выступленнямі на тагачаснай радыёстанцыі «Савецкая Беларусь», што адрасавала свае перадачы нашым суайчыннікам за мяжой. Звычайна знаёміў слухачоў з творчасцю якога-небудзь празаіка ці паэта, але з большым задавальненнем кіраўніцтва ставіла ў эфір тыя матэрыялы, у якіх гучаў голас і саміх аўтараў, найперш маладых, якіх я прадстаўляў.

Неяк Мікола Мятліцкі, які разам са мной працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», прапанаваў для чарговай перадачы сваіх добра знаёмых студэнтаў-філфакаўцаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта Алеся Пісьмянкова і Уладзіміра Мазго. Я з задавальненнем згадзіўся, бо ведаў іх па асобных публікацыях. Дый перадача прайшла не горш, чым іншыя.

...Рэдка хто можа пахваліцца такім раннім і ўдалым творчым дэбютам, як А. Пісьмянкоў. Хіба што можна згадаць незабыўную Яўгенію Янішчыц, тады яшчэ школьніцу з вёскі Рудка Пінскага раёна, якая быццам хуткакрылая ластаўка ўзнялася над Палессем, каб адразу ж «прызямліцца» на старонках вельмі аўтарытэтнай на той час газеты «Літаратура і мастацтва». Аднак і Алесь Пісьмянкоў быў зусім юным, калі выступіў у чарговым зборніку «Дзень паэзіі», што выйшаў у 1976 годзе. У той час ён вучыўся ўсяго на другім курсе аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Як Генадзь Бураўкін верыў у шчаслівую творчую дарогу Я. Янішчыц, прадстаўляючы яе «лімаўскаму» чытачу, гэтаксама Аляксей Пысін быў упэўнены, што ў далейшым хараша складзецца паэтычны лёс яго зямляка. А ўпэўненасць з'явілася пасля таго, як Аляксей Васільевіч, вельмі ўважлівы да кожнага таленту, паспеў прачытаць ягоныя творы.

У невялікім уступе-прадмове «У школе матчынай мовы», што папярэднічала вершам паэта-студэнта, А. Пысін прызнаваўся: «На касцюковіцкім семінары (маладых пачаткоўцаў. — **А. М.**) асабліва прыемным было знаёмства з семнаццацігадовым Алесем Пісьмянковым. Нядаўні дзесяцікласнік, ён працаваў карэктарам у раённай газеце, а жыў у сваёй вёсцы Бялынкавічы, якая паблізу. Танклявы, светлавалосы, знешне ён нагадваў гарадскога падлетка, але занадта ціхі і сарамлівы. Можа, разумеючы гэта, у сваіх вершах хацеў быць крыху «байчэйшым», надаваў свайму лірычнаму герою больш сталасці і мужнасці. А лепшыя яго вершы па-юнацку шчырыя

і непасрэдныя, у іх шмат пачуцця і такой добрай наіўнасці, якая асабліва кранае».

Аляксей Васільевіч спасылаўся на зусім не хітры, амаль дзіцячы зварот: «Ну наплач мне, неба, лужу, // Каб пабегчы басанож!» А. Пісьмянкова і не хаваў свайго захаплення: «Колькі святла і душэўнай незамутнёнасці ў гэтых радках! І гэта сапраўдная паэзія».

Шчырасць, непасрэднасць, а часам і тая ж «добрая наіўнасць» характарызавалі і вершы, прапанаваныя А. Пысіным для падборкі ў «Дзень паэзіі». Іх усяго чатыры, але гэта і нямала, калі прыняць пад увагу, што шмат каму і з ужо добра вядомых паэтаў было адведзена месца ненамнога больш. Ды рэч, вядома, не ў колькасці: вершы А. Пісьмянкова не толькі не губляліся сярод іншых публікацый, а наадварот, сваёй прасветленасцю, сонечнасцю, я б нават сказаў, нейкай унутранай празрыстасцю, што выклікае ў душы не проста пачуццё замілавання, а і здзіўленне перад нерушавасцю таленту і ўсяляе ўпэўненасць, што ён у далейшым на многае здатны, выклікалі ў сэрцах сапраўдных знаўцаў і прыхільнікаў паэзіі радасць ад усведамлення, што не пабяднела беларуская зямля на яркія дараванні. Аднаго хацелася: каб гэты голас, яшчэ не акрэплы як след, з цягам часу не толькі не замоўк, а і набраўся яшчэ большай моцы.

А пісаў А. Пісьмянкоў у сваіх вершах пра тое, што было ягонаму сэрцу люба і дарага, што спадарожнічала з маленства, ад нараджэння, і чым была напоўнена яго гэткая ўражлівая, а яшчэ ў большай ступені адкрытая душа. Праўда, гэта нам, чытачам, здавалася (тады, дый пасля), што ён проста пісаў. А ён і пасля не пісаў у традыцыйным разуменні гэтага слова. І нават не жыў вершамі, а думаў імі.

Пра гэта мы даведаліся пазней, калі ў друку пачалі з'яўляцца ягоныя развагі, што паступова выліліся, паводле аўтарскага вызначэння, у «літаратурна-сентыментальнае падарожжа» пад назвай «Думаць вершы...» У іх адразу, ледзь пачаў абжывацца ў новым для сябе жанры, прагучала прызнанне, што, як відаць з ягонага зместу, прыйшло не адразу, а стала вынікам асэнсавання і ўласнага мастакоўскага шляху, і разам з тым той дарогі, якую раней прайшлі іншыя, набыўшы пры гэтым куды больш значны, а таму і павучальны ў сваёй сутнасці вопыт:

«Паэты з уласнай практыкі ведаюць, што вершы не пішуць, вершы думаюць, вершы выношваюць і толькі потым запісваюць. Невыпадкова раней у літаратуры існавала дума як жанр. Памятаеце, у Лермантава — «Дума», у Янкі Купалы — «Думка», у Тараса Шаўчэнкі — «Дума»... Я ніколі не пісаў вершаў — я іх думаў».

Вершы думаў ён, крочачы за ваколіцу Бялынкавіч — туды, дзе імклівай стужкай разлілася рака ягонага маленства і рака маленства Аркадзя Куляшова Бесядзь, творчасць якога цудоўна ведаў і любіў і якая, пасля даведаўся, родная рака яшчэ аднаго выдатнага ўраджэнца тамашніх мясцін Івана Чыгрынава.

Бесядзь змалку гайдала яго на сваіх хвалях, яна ж калыхала і ягоныя мары, якія сягалі далёка-далёка за небакрай, што хаваўся за мройнасцю абсягаў. І гэтыя, дзіўныя сэрцу вобразы, не маглі не выліцца ў вершы:

Прысядае сонца нізка
І глядзіць у вочы рэк,
Нібы маці над калыскай,
Нібы добры чалавек.
Ціха-ціха, вечарэе,
А я памяць варушу.
Вечар сум, бы зерне, сее
У адкрытую душу.
. . . . . . . . . . . . . . .

Развітанні і сустрэчы,
Сум і радасць па чарзе.
Ну, а гэты, гэты вечар,
Што ён сёння прынясе?

Пытанне гучала, але адказ на яго па сутнасці і не патрабаваўся, бо ён, адказ гэты, канешне ж, быў звязаны з усім далейшым жыццём лірычнага героя, з тым жыццём, што пачыналася з роднай вёскі, ракі, з тых жа даляглядаў, якія ніколі не выкрасліць з памяці. І яны, гэтыя малюнкі, на завяршэнні верша ажывалі паўторна, цалкам супадаючы з тымі, што гучалі на пачатку твора, быццам абрамляючы, ператвараючы ў тое адзінае цэлае, з чаго немагчыма нічога выкрасліць, іначай паэтычны малюнак страціць сваю завершанасць і вобразна-сэнсавую напоўненасць:

Прысядае сонца нізка
І глядзіць у вочы рэк,
Нібы маці над калыскай,
Нібы добры чалавек.

Гэты верш, несумненна, робіць гонар паэту, таму я здзівіўся, калі не напаткаў яго ў першай Алесевай кнізе «Белы камень», што выйшла ў 1983 годзе. Яшчэ больш здзівіўся, што ён не трапіў і ў ягонае выбранае «Я не памру, пакуль люблю» (2000), годна прадстаўленае ў серыі «Беларуская паэзія XX стагоддзя». Тым больш падставы для недаўмення былі, калі прыняць пад увагу, што Алесь, складваючы згаданы аднатомнік, неаднойчы прызнаваўся, што твораў набіраецца не так і шмат. Ва ўсякім разе да таго аб'ёму, які прапаноўвала выдавецтва «Мастацкая літаратура», кніга не дацягвала. Аднак на мае настойлівыя прапановы ўключыць у выбранае што-небудзь са сваіх ранніх твораў, адказваў катэгарычным «не!». «Адмовіўся» не толькі ад верша «***Прысядае сонца нізка...», але і яшчэ ад аднаго з той жа падборкі ў «Дні паэзіі», які, я ўпэўнены, у кнізе «Я не памру, пакуль люблю» не быў бы лішнім, а яшчэ раз засведчыў бы аб тым, як хораша, надзіва прачулалірычна раскрываўся талент паэта ў яго юным узросце:

Мая вёска, мая вёска,
Сонца
мар маіх, надзей,
Усміхаецца бярозка,
Сустракаючы людзей.
Тут і радасць, і трывога,
Кожны кут мне дарагі.
Хлапчуком я басаногім
Рос ля Бесядзі-ракі.
Тут харошымі дзянькамі
Ля зялёных явароў
Я з вясёлымі дзядзькамі
Вудзіў шэрых печкуроў.

Ды каб жа толькі раннія публікацыі былі ім тады «адпрэчаны». Не трапілі ў выбранае і асобныя творы з кнігі «Белы камень». Былі старанна «прасеяны» і наступныя: «Чытаю зоры» (1988), «Планіда» (1994), «Вершы» (1997). Усё гэта, безумоўна, сведчанне вялікай патрабавальнасці А. Пісьмянкова да самога сябе, да свайго слова. Часам, як мне падаецца, нават празмернай патрабавальнасці.

Калі разважаць у гэтым накірунку далей, у яго было ўвогуле асаблівае стаўленне да паэтаў. У тым сэнсе, што па сутнасці не прымаў тых з іх, якія пісалі і пішуць шмат. Не абыходзілася, зразумела, і без выключэння. Той жа Куляшоў, Максім Танк і некаторыя іншыя, кім па-сапраўднаму захапляўся.

Ды прычына падобнай катэгарычнасці, думаецца, — усё ж не адна патрабавальнасць.

Сам пішучы мала і, трэба прызнаць, марудна, А. Пісьмянкоў і да напісанага іншымі ставіўся толькі з падобнага пункту гледжання. У тым ліку і створанага празаікамі. Мае довады, што такое меркаванне аднабаковае і памылковае, бо як колькасць не заўсёды пераходзіць у якасць, так і нельга адназначна сцвярджаць, што сама па сабе адсутнасць гэтага, груба кажучы, творчага вала аўтаматычна прыводзіць да з'яўлення высокамастацкіх твораў, нічога не давалі. Алесь настойваў на сваім, называючы прозвішчы тых паэтаў, хто сваёй творчасцю падмацоўваў правільнасць менавіта ягоных меркаванняў. Праўда, і я здавацца не збіраўся, спасылаючыся на прыклады адваротнага характару, даводзячы, што ў кожным канкрэтным выпадку неабходна зыходзіць са значнасці таго ці іншага таленту, а ўжо як выяўляецца ён — рэч другарадная, галоўнае, каб усё адпавядала высокаму прафесіянальнаму ўзроўню.

Мастакоўская спадчына А. Пісьмянкова (як душа ні працівіцца такому сцвярджэнню, ды ад яго нікуды не дзенешся, бо яно ў дачыненні да напісанага ім паспела стаць рэальнасцю — суровай і разам з тым непазбежнай — і відавочна, што паступова будзе з'яўляцца ўсё большая неабходнасць вызначэння ягонага месца ў сучасным літаратурным працэсе, а пачынаць гэта рабіць трэба ўжо сёння) патрапляе пад вызначэнне: малы залатнік, ды дарагі.

Сапраўды, калі сабраць усё напісанае ім, а гэта не толькі «дарослыя» вершы і згаданыя публіцыстычныя развагі, а і тры кнігі паэзіі для дзяцей, набярэцца не нашмат болей за дзесяць улікова-выдавецкіх аркушаў, але гэта ўсё тое, што з поўным правам трэба аднесці да безумоўных ягоных мастакоўскіх набыткаў, а значыць, і да набыткаў беларускай паэзіі ў цэлым.

Атрымліваецца, што А. Пісьмянкоў усё ж не памыляўся, калі быў пераканаы, што той з паэтаў, хто выступае ў друку не часта, нязменна трымае планку мастацкасці на высокім узроўні. Правільна гэта, аднак, найперш у дачыненні да яго самога. Як правільным будзе і сцвярджэнне, што А. Пісьмянкоў — адзін з нямногіх, хто з першых жа сваіх творчых крокаў аказаўся гэтак цесна прывязаны да роднай яму бесядзьскай зямлі, а яшчэ адразу намацаў тую сцяжыну, што вядзе ў мінуўшчыну роднага краю, кранаецца самых вытокаў, а ўжо з гэтых агледзін даўніны паспяхова перайшоў і да больш глыбокага асэнсавання паняцця Радзімы, Бацькаўшчыны, Беларусі.

Яшчэ тады, калі сёй-той з сённяшніх праўдалюбцаў «прымерваўся» да партыі, малады паэт, не паддаючыся на кан'юнктуру, ва ўвесь голас загаварыў пра самае кроўнае і дарагое яму. У гэты ж час быў напісаны адзін з лепшых ягоных вершаў, што напачатку называўся «Ля карціны П. Сергіевіча «Званар». Пазней назва яго не тое што канкрэтызавалася, а набыла больш шырокі сэнс — «Званар». Пад званаром А. Пісьмянкоў разумеў абуджальніка народа ад сну нацыянальнага бяспамяцтва.

Алесь вельмі любіў гэты свой твор. Дзе б яму ні даводзілася выступаць, абавязкова чытаў свайго «Званара», і тады яго голас, і так моцны, набываў нават нейкія сталёвыя адценні. Уражанне было такое, што сам паэт кліча народ за сабой, узнімае яго ў абарону Беларусі і беларускасці:

А звон заве ісці на «вы»,
Нібыта голас чалавечы.
Ён Беларусь заве на веча,
Каб адстаяць свае правы.

... Былым павеялі вякі,
І прыгадалася нанова:
Каб у народа вырваць мову,
Ў званоў ірвалі языкі.

У А. Пісьмянкова жыло, напаўняла ягонае сэрца і душу да самых краёў асаблівае стаўленне да свайго народа. Ён не захапляўся ім безаглядна, як гатовы захапляцца тыя, хто клянецца ў вернасці яму. Аднак і не папракаў за тое, што ён не такі, якім павінен быць. Успрымаў яго такім, якім ёсць на самой справе. Калі ж і гатовы быў у чымсьці папракнуць, дык найперш гэты папрок адрасаваў сабе самому, бо пастаянна адчуваў сябе сынам свайго народа, сынам Беларусі. І гэтае сваё стаўленне цудоўна выказаў у адным з твораў, што мусіў увайсці ў яго новую кнігу:

Год не прыходзіцца на год —
Такая ў нас пагода:
Не наракаю на народ,
Які не стаў народам.

З яго герой і супастат,
І кат з яго, з народа,
Народ ні ў чым не вінават —
Такая ў нас пагода.

Не варта вулей варушыць,
Знайсці б з сабою згоду...
Найлепей жыць, як набяжыць
У гэткую пагоду.

Скажы, скажы, каго тут крыць,
Бо ёсць даўно нагода?
Ды што дарэмна гаварыць,
Я сам, браток, з народа.

Найперш было жаданне высветліць свае ўласныя вытокі. І невыпадкова, а сімптаматычна тое, што першая ягоная кніга адкрывалася не якім-небудзь творам, а менавіта «Баладай роду». Аднак не ад уласнага імя пісаў, а падаваў гэтую гісторыю як прамоўленае адным са сваіх дзядоў, і ў выніку такога мастацкага прыёму гаворка набывала яшчэ больш важкі сэнс, бо тое, што ажывала падчас яе, сягала з самых глыбінь даўніны, а тым самым ненавязліва адчувалася сувязь некалькіх пакаленняў, а яшчэ, што таксама важна, паэтаў продак успрымаўся часцінкай усяго народа, які здаўна насяляў гэты куток беларускай зямлі:

— З Дняпра наш продак родам,
З зямлі Машэкаў і Вашчыл.
Гарачы норавам і сэрцам,
Як люд у нашай старане,
Вачэй радзіміцкіх азерцы,
Крыху гарэзінкі на дне.
..................................................
З пяром і граматай у згодзе
Ён жыў. І незнарок,
Казалі, князь пры ўсім народзе
Яму імя даў — Пісьмянок.
Ён і пачаў баладу роду,
Вянец ён першы залажыў.

Гэтая повязь пакаленняў яскрава прысутнічае і ў вершы «Дзень нараджэння», змешчаным у кнізе «Чытаю зоры», у якім паэт вяртаецца ў той мо-

мант, калі «на трынаццатым годзе // пасля вайны, // калі завіруха зямлю бінтавала, // дзедава хата // пачула мой плач — першы плач, // які ніколі не палохаў...» Хто ні заходзіў у хату, усе ўзіраліся ў партрэты ягоных дзядоў, «знаходзілі ўраз падабенства, // маё падабенства»:

Адзін толькі бацька
маўкліва глядзеў у акно,
глядзеў, як зямлю завіруха бінтуе,
і, саўладаўшы з пякучай слязою,
вымавіў ціха:
— Ён будзе жыць за абодвух —
за Хведара
і Кузьму.

Бачыў А. Пісьмянкоў сваю роднасць і іншага кшталту, звяртаючыся ў вершы «У Каменцы» (таксама з першай кнігі) да падзей, звязаных са знаходжаннем у маёнтку Давыдавых дзекабрыстаў, з наведваннем да іх Пушкіна. А для таго, каб найлепш выказаць гэтую повязь, знаходзіў нечаканы і надзіва выйгрышны сюжэтны паварот, як бы падкрэсліваючы сваю асабістую прысутнасць у тым часе:

... Яшчэ не б'е Дантэсаў пісталет,
Не ганьбіць свецкая гамонка,
Яшчэ смяюцца звонка-звонка
Мішэль Бястужаў і Паэт.
Яны ідуць пад небам сінім —
Няхай іх сівер не кране, —
Яны гавораць пра Расію
І, можа, нават — пра мяне.

Прадбачу, што сёй-той скептычна ўсміхнецца: знайшоў сабе цытату. Мала што мог напісаць малады паэт, каб гэта некалі гучала ва унісон часу. Памыляецеся, панове: у адрозненне ад многіх, А. Пісьмянкоў не пісаў на «злобу дня», а толькі прамаўляў тое, што ім было ўнутрана пражыта, асэнсавана і чымсьці лягло на душу. Як мне здаецца, толькі аднойчы здрадзіў гэтаму прынцыпу, калі ў яго з'явіўся верш, у якім згадвалася імя Паўліка Марозава. Вядома ж, у негатыўным сэнсе.

Я папракнуў яго ў адной са сваіх рэцэнзій. Штосьці падобнае паўтарыў і падчас нашай сустрэчы. Тады Алесь нічога не адказаў. Адказаў па сутнасці праз некалькі гадоў, калі адзначаўся (пры нашым ужо часе) «круглы» юбілей камсамола. А паколькі А. Пісьмянкоў з'яўляўся лаўрэатам яго, атрымаў запрашэнне, спачатку вуснае, на маючыя адбыцца ўрачыстасці. Аднак пісьмовага так і не дачакаўся, бо прызнаўся, што, маючы званне лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, ніколі і нічога пра камсамол не пісаў.

Гаварыў, вядома ж, праўду. А пра лучнасць беларускага і рускага народаў пісаў. Не пабаяўся магчымых папрокаў і ўключыў верш у сваё выбранае. Гэта быў свайго роду ўчынак і быццам падказка іншым, як трэба рабіць і як неабходна дзейнічаць, калі адчуваеш сваю правату, не зважаючы на тое, падабаецца гэта некаму ці не падабаецца, галоўнае, каб яно адпавядала твайму асабістаму ўспрыманню і разуменню той ці іншай з'явы. Аднак, адстойваючы сваю пазіцыю, А. Пісьмянкоў не збіраўся штосьці даказваць, нешта даводзіць ледзь не з кулакамі.

Як не ўспомніць у сувязі з гэтым ягоны верш «***Вам ахвота крычаць...», які мне хацелася прачытаць, развітваючыся з Алесем падчас жалобнай паніхіды. Магчыма б, узяў бы і нейкі іншы, але, калі наўгад разгарнуў выбранае, позірк запыніўся якраз на ім. Ды так і не прачытаў яго.

Прабач, Алесь, за гэта.

Прабач і за тое, што не праводзіў цябе да месца твайго вечнага спачыну.

У аўтобус і машыны, якія ішлі на Кальварыйскія могілкі, рынулася гэтулькі «люду», што я палічыў за лепшае моўчкі развітацца з табой ля твайго роднага дома. Магчыма, трэба было ўсё ж нeяк уціснуцца, паехаць на могілкі. Ды верш, твой верш не дазволіў мне зрабіць гэта. Баяўся, што калі ўсё ж пачну яго чытаць ля свежай магілы, не стрываю, сарвуся, скажу нешта такое, што ў падобны момант усё ж не трэба рабіць...

Вам ахвота крычаць,
Мне ж — паплакаць крадком,
Мне б крыху памаўчаць
З сябруком Маруком.

І куды мы імчым?
І чаго мы крычым?
Памаўчым над святым,
Аб святым памаўчым.

Слоў разменную медзь
Колькі можна збіраць...
Памаўчаць трэба ўмець,
Трэба ўмець памаўчаць.

Ён меў права так сказаць, бо сам умеў маўчаць. Не ў тым сэнсе, вядома, каб стрымліваць сябе ў гаворцы — тыя, хто добра ведаў Алеся, сябраваў з ім, ведаюць, што быў ён чалавек эмацыянальны, неўтаймаваны. Маецца на ўвазе маўчанне іншага кшталту. Тое маўчанне, за якім хаваецца высокая ўнутраная культура, якая не дазваляе чалавеку пераступіць праз святое, крэўнае, вечнае. Як і не дазваляе камусьці настойліва навязваць уласныя думкі, выдаючы іх як ісціну ў апошняй інстанцыі. А яшчэ прымушае да таго пастаянства, што само па сабе найлепшым чынам характарызуе чалавека, для якога хамелеонства — не тое, што непрымальнае, а проста агіднае:

Не спяшайцеся мяняць
акуляры ружовыя
на звычайныя:
гэта не толькі змена оптыкі
ці перамена колеру —
гэта найперш
перамена поглядаў:
перамога звычайнасці
над узнёсласцю,
раўнадушша
над шчырасцю.
І, нарэшце,
ў акулярах ружовых
вы трошкі мастак...
Не спяшайцеся мяняць
акуляры ружовыя...
Гэта раю вам я —
чалавек
у звычайных акулярах.

«Чытаў зоры», каб лепей спазнаць сваю зямлю.

«Чытаў тапаніміку», каб глыбей пранікнуць у сутнасць назваў, што перадаюцца ад пакалення пакаленню.

І апяваў хараство краявідаў, што з гадамі не толькі не забываліся, а пры кожнай новай сустрэчы з імі яшчэ больш вабілі. Такая любоў настолькі напаўняла паэта, што ягоны лірычны герой, адчуваючы гэтую спаконвечную

еднасць, прызнаваўся ў сваёй любові да Бацькаўшчыны быццам на адным дыханні. Таму ягоныя вершы і такія кароткія.

Алесь прызнаваўся: «Амаль ніколі не пішу — я запісваю. Паэты добра ведаюць, што часта першыя строфы прыходзяць самі, яны нараджаюцца лёгка, без усякай натугі, і дыханне іхняе натуральнае і нязмушанае. Яны як падарунак ад Бога. Іншы раз нават здаецца, што да іхняга з'яўлення на гэты свет ты не маеш ніякага дачынення. Проста табе быў голас аднекуль *адтуль*, і ты яго ўсяго толькі падслухаў ды запісаў на чысты аркуш паперы».

Падслухаў А. Пісьмянкоў сам сябе і ў гэтым вершы:

Вечар вынырнуў нясмела,
Цені чорныя кладзе.
Сонца яблыкам паспелым
Хутка ў Бесядзь упадзе.

Вінны водар б'е у скроні,
Спелых яблык хмеліць пах.
Уздыхаюць сумна коні
На мядовых берагах.

У туманы клічуць сосны,
Нібы мачты караблёў.
Толькі мне збірацца позна —
Я ўжо сэрца раскалоў.

Ёсць у гэтых радках штосьці ясенінскае. І не толькі ў самой інтанацыі іх, сваяцтва тут і іншага плана. Як і ягоны выдатны рускі папярэднік, А. Пісьмянкоў часта адчуваў сябе адзінокім:

Ад неба блізкі ці далёкі,
Хоць у царкве, хоць на піру —
Паэт заўсёды адзінокі,
Я гаварыў і гавару.

Як і С. Ясенін, ён пастаянна знаходзіўся на свайго роду ростанях, і яго гэтаксама не хацела адпускаць ад сябе вёска. Ды шмат у чым чужым адчуваў сябе і ў горадзе. Падобнае свайго роду раздваенне асобы, душы выклікала пэўную непрыкаянасць, нараджала няпросты, а часам і пакутлівы роздум. А ўвогуле і ў ягоным знешнім выглядзе было штосьці ясенінскае. І гэта не толькі маё назіранне.

Пасля наведвання Польшчы Алесь з гумарам расказваў, як у адным з рэстаранаў  нечакана пачуў: «Сережка!» Недаўменна азірнуўся па баках, але яшчэ больш здзівіўся, калі староваты мужчына на добрым падпітку кінуўся менавіта да яго.

— Друг мой! — пачаў ён абдымаць А. Пісьмянкова.

Як высветлілася, гэта быў адзін з польскіх акцёраў, а рускую мову ён добра ведаў таму, што нарадзіўся ў Баранавічах. А. Пісьмянкоў, зразумела, узрадаваўся, напаткаўшы земляка. А той пачаў даводзіць, што захапляецца творчасцю Ясеніна, а Алесь, маўляў, вельмі падобны да яго.

Паэзія А. Пісьмянкова не можа не выклікаць захаплення. Яна вабіць да сябе нязмушанасцю радка і адначасова надзвычайнай ёмістасцю, што нярэдка пераходзіць у філасофскую напоўненасць. Яна вельмі прачулая, бо ідзе ад уражлівай душы. У ёй ёсць жыццёвая моц, але яна прываблівае і сваёй духоўнай трываласцю. І гэта пры здзіўляючай лаканічнасці, што месцамі нагадвае сабой нават пэўную эскізнасць, але эскізнасць гэтая — не штрыхавая, а контурна выразная, а таму і атрымліваецца паэтычны малюнак такім зрокава выразным і пераканальным.

Хораша прыкмеціў адметнасць паэтычнага пісьма А. Пісьмянкова Барыс Бур'ян:

«Паэту ўласціва ёмістае мысленне; ён піша лапідарна, не дазваляе ніякай расплывістасці ў словах і радках.

Музыка лірыкі...

Калі яна працінае верш А. Пісьмянкова, яе плынь адлюстроўвае нават самыя далікатныя пачуцці ў люстры па-майстэрску выкананага мадрыгала. Не, я не перабольшваю, калі кажу: па-майстэрску».

...А тады, падчас нашага знаёмства, са шкадаваннем падумалася: «Пройдзе не так і шмат часу і трапіць А. Пісьмянкоў па размеркаванні ў якую-небудзь вёску (як-ніяк, а будучы выкладчык беларускай мовы і літаратуры), і хто яго ведае, як складзецца ў далейшым ягонае творчае жыццё, бо, не жывучы ў сталіцы, усё ж цяжка прабіцца ў выдавецтвы нават і тым, хто паспеў ужо звярнуць на сябе належную ўвагу».

На шчасце, гэтыя мае змрочныя прадчуванні не спраўдзіліся. А. Пісьмянкову пашанцавала, затрымаўся ў Мінску. Дый у далейшым прафесійны, творчы лёс у дачыненні да яго аказаўся спагадны. Атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, працаваў у аддзеле крытыкі і бібліяграфіі штотыднёвіка «Літаратура і мастацва», перайшоў у часопіс «Полымя» рэдактарам аддзела навукі і мастацтва, выбіраўся сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, а потым вярнуўся ў «Полымя» намеснікам галоўнага рэдактара, каб пазней зноў перайсці ў «ЛіМ», цяпер ужо галоўным рэдактарам. Апошнім часам узначальваў рэдакцыю гумарыстычна-сатырычнага часопіса «Вожык».

Многія з творчых людзей па-добраму могуць пазайздросціць такой службовай кар'еры. Чаго не скажаш пра лёс жыццёвы. Ён, у адрозненне ад творчага, выпрабоўваў А. Пісьмянкова жорстка, нават з нейкай садысцкай паслядоўнасцю. Блізкія Алесю людзі адыходзілі адзін за адным, пакідаючы ў ягонай душы глыбокі след, а ў сэрцы — незагойныя раны. А сэрца ён меў хворае, аднак да ўрачоў не тое што не спяшаўся, а ніколі не наведваўся. Мае запэўніванні, што гэта можа кепска скончыцца (перанесены інфаркт мяне многаму навучыў), нічога не давалі. Дарэчы, як высветлілася пасля Алесевай смерці, ён на нагах перахадзіў іх ажно тры, а чацвёрты і забраў яго ў магілу. Хутчэй за ўсё, два апошнія «прыхапіў», пахаваўшы бацьку, а пасля і маці.

Калі чалавека не стае, найперш падчас ягонага імгненнага адыходу, інакш пачынаеш успрымаць шмат якія ягоныя ранейшыя выказванні, абавязкова шукаючы ў іх нейкі патаемны сэнс, што на адлегласці ўспрымаецца ўжо як змрочнае прадчуванне. У дачыненні да пісьменніка, прынамсі, зрабіць гэта прасцей, бо ўсё тое, што гняло яго, не давала спакою, выклікала трывожныя думкі, як правіла, занатавана на паперы.

Алесь Пісьмянкоў — не выключэнне. Прытым задумвацца над хуткаплыннасцю жыцця пачаў ён рана. Завельмі рана. Яшчэ ў кнізе «Чытаю зоры» сустракаеш верш, у якім паэт упершыню спрабуе зазірнуць *туды*, дзе знікае паўсядзённае жыццё і пачынаецца невядомасць. Аднак пакуль гэта ўспрымаецца толькі як тая наканаванасць, у якую хоць і верыш, але цалкам з ёй пагадзіцца не можаш:

«Я ўжо дома, а ты — ў гасцях»...
І суцяшэнне, і пагроза.
Розум
　　　пагаджаецца цвяроза,
А цела —
　　　　халадок працяў.
Даруй, паэце невядомы,

Я напамін твой берагу
І ўсё ж паверыць —
не магу,
Што дом мой там,
што я — не дома.

Можна было б успрыняць з'яўленне гэтага твора выпадковым, калі б пазней згаданы матыў у рознай інтэрпрэтацыі не пачаў гучаць усё настойлівей, і гэта пры тым, што сам А. Пісьмянкоў разумеў, наколькі паспешна сказанае слова можа стаць рэальнасцю:

Вершы могуць здарацца,
Вершы могуць прысніцца,
Могуць плакаць, смяяцца,
Крычаць і маліцца.

Вершы могуць забыцца,
У куточак забіцца,
Замаўчаць, затаіцца,
Каб аднойчы адбыцца.

І збыцца.

Пра гэта ж сведчыў і ў адной са сваіх размоў «Ці збываюцца вершы?»

Разумеў небяспеку неасцярожна прыведзенага слова і ўсё ж пісаў. Не мог не пісаць, бо недзе глыбока ў душы не давала спакою тое, *што* ведаў, бадай, толькі ён сам. І трымаў у сабе, каб толькі зрэдку, калі на душы станавілася асабліва нясцерпна (балюча? трывожна? пакутліва? непрыкаяна? — на гэтыя пытанні адказу так і не дасі), штокольвечы даверыць радкам-споведзі. Той споведзі, якая цяпер з'яўляецца для нас загадкай і гэткай загадкай застанецца назаўсёды. Дый адну са сваіх кніг ён, відаць, невыпадкова назваў «Планіда»:

У кожнага зорка свая,
Кожнаму кубак наліты.
У кожнага доля свая,
Ці, як кажуць,
планіда.
Усе мы ў гасцях на піру,
І званыя ўсе мы нібыта.
Я свой кубак спакойна бяру:
Буду піць —
як наліта.

Загадка і ўся ягоная паэзія. У тым сэнсе, што, як на першы погляд, як быццам нічога нечаканага ў ёй няма, матывы цалкам традыцыйныя, а бярэ ж, як кажуць, за жывое, кранаецца самых патаемных душэўных струн. Ды інакш і быць не можа, бо ўсё напісанае А. Пісьмянковым — не толькі талентам народжана, а і прапушчана праз ягонае сэрца, напоўненае любоўю да чалавека і безабароннае перад няшчырасцю, двурушнасцю. І некалі прамоўленае ім сёння ўжо ўспрымаецца і ягоным голасам *адтуль*. З нематы і вечнасці:

Я прыеду, я вярнуся,
Я прыйду да плыткай рэчкі,
Дзе самотны белы бусел
Думу думае аб вечным.

Як і год, і два, і дзесяць,
Мо яшчэ з сярэднявечча,

Ён вартуе рэчку Бесядзь,
Думу думае аб вечным.

Я вярнуся, пакланюся
І яму, і нашай рэчцы,
Я з ім ціха пажуруся
І падумаю аб вечным.

Пакланюся, пажуруся
І ў тумане знікну заўтра...
Белы бусел, белы бусел —
Мой задумлівы сааўтар.

Алесь Пісьмянкоў не дачакаўся сваёй празаічна-публіцыстычнай кнігі «Думаць вершы...», аб выхадзе якой так марыў. Недапісанай засталася і чарговая паэтычная — «Срэбра зялёнай травы». Але верыцца, што яны абавязкова пабачаць свет. Магчыма, і пад адной вокладкай, куды не лішне ўключыць і ўспаміны пра яго.





ВАСІЛЬ СТАРЫЧОНАК

# «Я ПАВЯДУ СВАЮ ХАДУ ПРАЗ ПАЧУЦЦЁ, ЦЕРАЗ ЖЫЦЦЁ»

## *Псіхалагічны тып метафары ў творах беларускай літаратуры*

Чалавек у працэсе жыцця адчувае самыя розныя псіхалагічныя станы (прыемныя, непрыемныя, кароткія, працяглыя, сітуацыйныя, інтэнсіўныя і інш.), што залежыць ад яго зносін з другімі людзьмі, яго суб'ектыўнай рэакцыі на ўздзеянне знешніх і ўнутраных раздражняльнікаў. Для выражэння такіх псіхалагічных і эмацыянальных станаў у беларускай і іншых мовах існуе каля сотні слоў. Калі ж уважліва прыгледзецца да семантыкі, здавалася б, далёкіх ад псіхалагічнага і эмацыянальнага зместу слоў, то лік іх значна павялічыцца за кошт пераносных метафарычных лексіка-семантычных варыянтаў (у далейшым — ЛСВ), здольных апасродкавана выражаць унутраны стан чалавека, яго эмоцыі, пачуцці, перажыванні, асаблівасці характару і духоўнага складу асобы, яе тэмперамент, паводзіны, уклад жыцця, адносіны да іншых людзей і мн. інш. Такі тып метафар адлюстроўвае пазнавальную, матывацыйна-афектыўную, аперацыйную і іншыя праяўленні псіхікі чалавека, абумоўленыя прычынамі біялагічнага і сацыяльнага характару, і атрымоўвае сваё рэальнае ўвасабленне ў кантэксце, камунікатыўным акце, маўленчай сітуацыі.

У мове мастацкай літаратуры псіхалагічныя метафары выконваюць не столькі інфармацыйную, колькі эстэтычную функцыю, характарызуюцца нестандартнай спалучальнасцю, што дазваляе актывізаваць закладзены ў слове глыбінны семантычны патэнцыял. Так, шырокараспаўсюджаны субстантыў *пачуццё* ў розных кантэкстава-дыстрыбуцыйных сітуацыях выклікае новыя (часам нечаканыя і нестандартныя) вобразы і ўяўленні, раскрывае даволі шырокую палітру сэнсавых нюансаў і адценняў, звязаных з выражэннем сілы, інтэнсіўнасці і спосабу працякання такога пачуцця, часу яго ўзнікнення і знікнення і інш. Параўн.: *зярняты пачуццяў* (Н. Арсеннева), *пачуццяў першацвет* (В. Гадулька), *галінкі жывога пачуцця* (З. Марозаў), *пачуццяў веснаванне* (К. Жук), *звонкі прамень пачуцця* (З. Марозаў), *пачуцця шоўк* (Я. Золак), *цаліна пачуццяў* (У. Гетманчук), *пачуццяў каламуць* (Л. Сіманёнак), *сумятня раструшаных пачуццяў* (М. Зарэцкі), *рой пачуццяў* (Л. Главацкі), *пачуццяў бранзалеткі* (Я. Янішчыц), *вялікі напал пачуццяў* (А. Кучар), *пачуццяў хвалі* (Э. Акулін), *пачуццяў прыбой* (У. Гетманчук), *віху-*

*ра пачуцця* (Р. Баравікова), *пачуццяў рэкі* (В. Стрыжак), *пачуццяў усхваляваны акіян* (Э. Валасевіч), *агонь пачуцця* (А. Кажэра), *вогнішча пачуцця* (М. Арочка), *гарачыя кастры пачуцця* (Я. Янішчыц), *бездань пачуцця* (С. Давідовіч), *бездань найтанчэйшых пачуццяў* (Я. Скрыган), *бяздонне пачуцця* (І. Хадарэнка), *вулкан пачуццяў* (М. Адам), *турбіна пачуцця* (А. Сербантовіч), *попел жывых пачуццяў* (З. Марозаў), *шэры попел з агню пачуцця* (А. Кажэра), *горыч і соль пачуцця* (Я. Янішчыц), *рэшткі забітых пачуццяў* (І. Хадарэнка), *нязжатае поле пачуцця* (Т. Ляшонак), *свечка былога пачуцця* (Г. Бураўкін).

Псіхалагічныя метафары ў сваёй большасці характарызуюцца цеснай сувяззю і залежнасцю ад крыніцы матывацыі, першасных ЛСВ, ад іх сэнсавай напоўненасці, характару суаднесенасці з аб'ектыўнай рэальнасцю і інш. З пункту гледжання семантыкі, метафары псіхалагічнага тыпу можна аб'яднаць у некалькі груп, тэматычна скіраваных на выяўленне душэўнага пад'ёму, страснасці, азарту, моцнага жадання чаго-небудзь, на адлюстраванне сардэчнасці (шчырасці, спагадлівасці), радасці, асалоды (задавальнення), на перадачу цяжкага душэўнага стану, нервовага ўзбуджэння, трывогі, неспакою. Многія метафарычныя ЛСВ полісемантаў выражаюць сум, змрочнасць, бязрадаснасць, душэўны холад, стрыманасць у праяўленні пачуццяў, няшчырасць, ілжывасць і інш.

Метафары з семантыкай душэўнага пад'ёму, уздыму, прыліву пачуццяў часцей за ўсё арыентаваны на выражэнне кахання, для азначэння якога выкарыстоўваюцца дзесяткі і сотні слоў рознага сэнсавага напаўнення тыпу *глыбокае, бязмежнае, бясконцае, вечнае, моцнае, вялікае, высокае, невычэрпнае, непахіснае, неўміручае, вострае, палкае, агністае, гарачае, маладое, чыстае, цудоўнае, узвышанае, загадкавае, бурлівае, бязмернае, незямное, ахвярнае, пякельнае, паглынальнае, нябеснае, боскае* і мн. інш. Сярод субстантываў метафарычнаму пераасэнсаванню ў большасці выпадкаў падвяргаюцца словы, у сэнсавых структурах якіх фіксуецца першасны ЛСВ 'агонь, полымя' і актуалізуюцца семы 'ўздзеянне агню', 'гарэнне', 'спальванне': *А цяпер вось кахання* ***агню*** *Аддаеш пачуццё ты і сілы* (У. Жылка). ***Агні*** *кахання — вечныя агні. Яны нікому з нас не слепяць вочы* (А. Грачанікаў). *Зоркі згаснуць на світанні, Толькі* ***полымя*** *кахання Не пагасне у вачах тваіх* (Э. Валасевіч). *Гарыць душа, гарыць уся, Не патушыць душы* ***пажар*** (Я. Пушча). *Не разлюбі, не разлюбі, Не загасі* ***касцёр*** *любві* (М. Віняцкі). *Адгучаў маладосці смех, І кахання* ***касцёр*** *згарэў* (М. Яцкоў). *Вы распалілі* ***вогнішча*** *ўва мне, Яно гарыць, і я ў ім дагараю* (Р. Барадулін). *Прага новых адкрыццяў не дае памерці нашаму каханню, наадварот, усё мацней і мацней раздзімае яго* ***вогнішча*** (А. Зэкаў). *Толькі сэрца ў цемрыве стыне: Там гарыць майго кахання* ***жар*** (Я. Золак). *У сэрцы збалелым кахання апошняга* ***жар*** (А. Дэбіш). *Дрыжыць мая душа ад захаплення, ад гэтага высокага* ***гарэння,*** *— о свет, о час, хаця не астудзі!* (С. Шах).

Радзей прычынай прыліву пачуццяў з'яўляецца адчуванне гневу, нянавісці: *А там ачахла і* ***полымя*** *няскага* ***гневу*** (У. Арлоў). ***Агонь нянавісці*** *святой Рваў маё сэрца на кавалкі* (А. Звонак).

Многія ЛСВ субстантываў *агонь, жар, гарэнне* звязаны з выражэннем запалу, натхнення, захаплення: *Пішы, калі ў творчым* ***агні*** *душэўную смагу спатоліш* (М. Касцюковіч). *Эх, дзе ты, натхнення ўзнёслага* ***жар?*** (М. Калачынскі). *Паперы аркуш стыне на стале, Пачуццяў сіні* ***жар*** *на ім сатлеў* (А. Звонак). *І ўсё-ткі, што ні новы дзень, То сэрца — поўнае* ***гарэнне!*** *Усё глыбей сярод людзей Маё жывучае карэнне* (Н. Мацяш).

Не менш распаўсюджанымі з'яўляюцца пераасэнсаванні, што развіваюцца ў кірунку ад назваў з агульнай семай 'наяўнасць вады'. У працэс метафарызацыі ўключаюцца найменні вадзянога валу, ваганняў марскіх хваляў, марской буры, перыядаў прыбою і прыліву, паводкі: ***Хваля*** *абурэння, вострае пачуццё рэўнасці сціснула горла* (М. Гамолка). *А час прыходзіць — як зара, як*

*свежы подых ветра, і адступае* ***хваля*** *зла, і робіцца зноў светла* (А. Вярцінскі). *Новая* ***хваля*** *сораму прыліла да яе стомленага, бледнага твару, пазбавіла яе мовы* (А. Васілевіч). *Але крыўду гэту захліснула гарачая* ***хваля*** *пяшчоты* (І. Шамякін). ***Хваля*** *цёплых пачуццяў запаўняе яе* (М. Лупсякоў). *Да сэрца прыліла* ***хваля*** *нястрымнай радасці* (М. Даніленка). *Дабрата не імпульс, не парыў, Не адзінкавы* ***усплёск*** эмоцый (Н. Мацяш). *Шумяць усхвалявана ў сэрцы дзявочым Кахання пяшчотныя* ***ўсплёскі*** (А. Александровіч). *І кожны чалавек шукае ў гэтым віры колераў маленькі, свой* ***усплёск*** *радасці (Я. Сіпакоў). А завея сляды замятае, Замярзае пачуццяў* ***прыбой*** (У. Гетманчук). *Васілю стала лёгка і добра, і ён пачуў у сабе* ***прыліў*** *вялікай сілы і шчасця* (Я. Колас). *Лясніцкі ўздрыгнуў ад раптоўнага прыліву гневу* (І. Шамякін). *Чуючы, як пад сэрца плыве халодная* ***паводка*** *нечаканае крыўды і злосці, Самец апанурыўся і сцяўся ўвесь* (В. Адамчык).

Сэнсавай канкрэтызацыяй семантыкі слова ў плане актуалізацыі сем ‘прыліў энергіі’, ‘уздым’, ‘натхненне’, ‘высокая ступень напружання, хвалявання’ можна лічыць развіццё субстантываў *уздым, узлёт, парыў, накал, напал, кіпенне, кіпень*: *Максім у парыве радаснага* ***ўздыму*** *яшчэ раз хацеў абхапіць Давіда і закружыць па камеры* (М. Машара). *Рыгор ажно скалануўся ўсёй постаццю ад надышоўшага пачуцця* ***ўздыму*** (Ц. Гартны). *У нас у кожнага Былі свае турботы,* ***Узлёт*** *юнацкіх Запаветных мар* (М. Хведаровіч). *Першы* ***парыў*** *радасці пачаў ужо праходзіць* (М. Пятніцкі). *А толькі ў сэрцы ёсць Тое, што навекі нас звязала: Наша юнасць, наша маладосць, І пачуцце яснага* ***накалу*** (К. Буйло). *І як хораша гэта знешне дрымотная атмасфера адцяняе вялікі* ***напал*** *пачуццяў, які тут шугае полымем* (А. Кучар). *Адчувалася віравое* ***кіпенне*** *жыцця* (Ц. Гартны). *Аж кіпіць, здаецца.... Не жыццё, а* ***кіпень****!* (У. Дубоўка).

У сэнсаваых структурах полісемантаў *выбух, успышка, узрыў* актуалізуюцца дадатковыя семы ‘раптоўнасць’, ‘моц, значная мера, вялікая колькасць’: *Яго не ўскалануў* ***выбух*** *Булыгавай шчырасці* (Х. Шынклер). *Ён абхапіў маю шыю, паклаў сваю сівую галаву мне на грудзі і прарваўся несутрыманай жальбой, цэлым* ***выбухам*** *слёз* (М. Нікановіч). *Яна паволі, стараючыся задушыць у сабе бурныя* ***ўзрывы****, пайшла праз увесь двор* (К. Чорны). *Ён чакаў большай* ***успышкі*** *гневу ў Ваўчка, які, зразумела, ведаў Паходню лепш, чым Бабейка* (Т. Хадкевіч). *Валенда панура маўчаў. Успышка* ***гневу*** *не зрабіла яго цвярозым* (А. Асіпенка).

Душэўны ўздым, бурнае, гарачае выяўленне пачуццяў даволі часта асацыіруюцца з прыроднымі з’явамі моцнай (часта разбуральнай) сілы. У працэс метафарызацыі ўключаюцца субстантывы *бура, навальніца, завея, смерч, ураган,шторм, вулкан*: *А можна сабе ўявіць, якую* ***буру*** *пачуццяў выклікала ў душы былога паўстанца-бадзягі гэта вестка* (Г. Кісялёў). *Паспрабуй пражыць сваю маладосць без душэўных* ***бур*** *і трывог* (М. Гроднеў). *І расла* ***навальніца*** *нянавісці дзікай і злосці* (П. Глебка). *Ты стаіш.... А на душы* ***завеі****.... А на душы халодныя лісты* (П. Трус). *Любоў — гэта* ***смерч, ураган*** (А. Зарыцкі). *Гатоў цябе я ўсю скусаць, — Усціш маіх настрояў* ***шторм*** (Я. Пушча). *Раптам — апякло дыханне, захапіў* ***вулкан*** *жыцця: на дваіх — адно каханне, вось і бездань пачуцця!* (С. Давідовіч).

Метафары з семантыкай азарту, моцнага жадання чаго-небудзь выяўляюцца ў субстантывах *сверб, смага,* якія на першы план вылучаюць семы ‘імкненне’, ‘нецярпенне’: *У грудзях яшчэ ўсё тлеў пякучы, як ад крапівы-жыгучкі,* ***сверб*** *крыўды* (В. Адамчык). *А мо яго адолеў здрады* ***сверб****?* (Я. Сіпакоў). *У гэты век, што адвучыў маўчаць, Але, відаць, песні і славы не трэба, Калі ў сэрцы* ***смага*** *пякучым агнём, Калі прагнеш помсты, Як долі, як хлеба* (М. Машара).

Абвостранасць пачуцця можа выражацца пераноснымі ЛСВ субстантываў *ружа, джала*: *Вазьмі сабе* ***ружы*** *маёй* ***тугі****, Пакінь мне крывавыя* ***макі****....*

(У. Караткевіч). *Вострае* ***джала рэўнасці*** *балюча кальнула сэрца, ён застагнаў і кінуўся на канапу* (Я. Рамановіч). *Раўнівасць прасунула сваё вострае* ***джала*** *паміж імі* (Р. Мурашка).

Метафары са значэннем радасці, асалоды, прыемнасці, задавальнення выяўляюцца ў субстантываў *мёд, солад, слодыч, свята, святло,* першасныя ЛСВ якіх арыентаваны на салодкія рэчывы і прадукты, прыемныя смакі, на ўрачыстыя, светлыя дні: ***Мёд*** *пацалунка счуў праз пачуццё* (М. Віняцкі). *Хмельны* ***солад*** *кахання* (У. Жылка). *Пазнаць хацела солад* ***мараў*** *і дум у сэрцы маладым* (М. Машара). *А салаўі, пад смех маладзіка, Паілі сэрца* ***слодыччу*** *шчымлівай* (Н. Мацяш). *Я ўдзячны табе адной За* ***слодыч*** *забытага болю* (Р. Барадулін). *У Варанецкага на душы было сапраўднае* ***свята*** (І. Дуброўскі). *Толькі чаму* ***свята*** *ў сэрцы няма?* (С. Законнікаў). ***Святло*** *радасці захапіла і асляпіла Аксану* (П. Кавалёў). *Любові запаліў* ***святло*** *Над цёмным непарушным сумам* (Л. Галубовіч).

Метафары са значэннем такіх рыс характару, як сардэчнасць, дабрата, шчырасць, душэўная цеплыня, спагадлівасць, рэгулярна развіваюцца ад першасных ЛСВ назоўнікаў, звязаных з выражэннем цяпла, цеплыні, мяккасці: *Ды і не ў кветках тут прычына. Проста чалавеку патрэбна* ***цеплыня****. Кожнаму! Маленькая крупінка сардэчнай* ***цеплыні*** (А. Савіцкі). *Адчуўшы сардэчую* ***цеплыню****, шчырасць, я хутка асвоілася з ім* (П. Мядзёлка). *Чалавеку трэба чалавечае* ***цяпло*** (К. Пішчыкава). *Мая душа пачынала расцвітаць ад* ***цяпла*** *жаночай пяшчоты* (У. Дамашэвіч). *Хвыль быў найдабрэйшы чалавек і за буркатнёй хаваў сваю душэўную* ***мяккасць*** (У. Шыцік).

Своеасаблівым сімвалам выражэння дабраты, сардэчнасці, суперажывання ў многіх творах выступае пераносны ЛСВ субстантыва *сэрца: У цябе, Лэйзарка, сапраўды залатое* ***сэрца*** (З. Бядуля). *Людзі! Да зорак вас не ракеты — Шчодрыя* ***сэрцы*** *нясуць* (У. Верамейчык). *Свой радок на паперы Не чакаў я спаткаць, Проста* ***сэрца*** *без меры Захацела спяваць* (П. Броўка). *Лепей сто разоў на слове збіцца (Дараваў бы ў сто разоў хутчэй), Чым паперкаю адгарадзіцца Ад гарачых* ***сэрцаў*** *і вачэй* (Н. Гілевіч).

Метафары з агульнай семантыкай ‘цяжкі душэўны стан’, ‘нервовае ўзбуджэнне’, ‘маральныя пакуты’ засведчаны ў полісемантаў *рана, рубец, шрам, болька,* першасныя ЛСВ якіх звязаны з выражэннем фізічных пашкоджанняў на целе чалавека: *Напамінак аб каханні крануў свежую* ***рану*** (І. Шамякін). *Коля толькі казаў так, каб даць спакой* ***ранам*** *душы гэтага чалавека* (К. Чорны). *А дзе запісваць, што баляць заўсёды* ***Рубцы*** *і* ***раны*** *на жывой душы?* (С. Грахоўскі). *Ад патаемных нашых слёз* ***Рубцы*** *не гояцца на сэрцы* (С. Грахоўскі). *Ад іх [здрад] на сэрцы* ***меты****, Паглядзі:* ***рубцы*** *і* ***шрамы*** (Г. Каржанеўская). *У кожнага засталася якая-небудзь* ***болька****, не даваў спакою ўспамін аб перажытым горы* (К. Кірэенка).

Працэс метафарызацыі часта ажыццяўляецца ў кірунку ад зыходнага ЛСВ, звязанага з найменнем цвёрдай горнай пароды. Такія канструкцыі ўключаюць у свой склад назоўнік *камень* і з’яўляюцца варыяцыямі шырокаўжывальнага фразеалагізма *камень на сэрцы: Цяжкі* ***камень*** *давіў* ***на сэрца****, балюча было за сяброў, якія загінулі* (І. Шамякін). *Ой, як цяжка! Як балюча! Лёг на* ***грудзі камень*** (М. Хведаровіч). *У бацькі цяжкі* ***камень з грудзей*** *зваліўся* (А. Кулакоўскі). *Упаў* ***з душы*** *той* ***камень*** *цяжкі, Што прыгнятаў у лагеры мяне* (А. Бачыла). Цікавымі з’яўляюцца індывідуальна-аўтарскія метафарычныя канструкцыі *камень нуды, камень чэрствасці, камень памяці: Адно шчасце людзей, Толькі змога тады, — Калі працай сваёй Зваляць* ***камень нуды*** (Я. Купала). *Здаецца мне, што гэта б’ецца сэрца Аб* ***чэрствасці*** *тупыя* ***камяні*** (А. Сербантовіч). *Маўчала чорная зямля. Маўчала спаленае рэха. І супыніўся плуг. І я На* ***камень памяці*** *наехаў* (Л. Дайнека).

Цяжкі душэўны стан перадаецца праз другасны ЛСВ полісеманта *груз*, які ў кантэксце ўскладняецца квантытатыўнай семай ‘многа, значная колькасць’: ***Груз** няўдач і памылак пакіну На мяжы — лістападам сухім* (А. Пысін). *Не скіну **груз** пакут З душы сваёй нідзе я* (У. Скарынкін). *На плечы лёг не гэткі **груз** абразлівых знявааг і кпінаў* (М. Аўрамчык). Значэнне цяжкога пачуцця адлюстроўваецца ў сэнсавых структурах полісематаў *накіп* і *муць*: *А на душы, як у чайніку, **накіп*** (А. Савіцкі). *Сцішвалі людзі ў сабе пакутлівы **накіп** смутку, злосці і адвагі* (К. Чорны). *Ці вы, пражыўшы век, не знаеце, Як душыць душы **накіп** пошлы, Як труціць сэрцы яд нянавісці?* (Н. Гілевіч). *У душы ўспляснуў агонь! Яго заліла **муць**.... І сэрцу беднаму так больна!* (М. Багдановіч).

Празрыстыя сэнсавыя сувязі прамога і пераноснага ЛСВ полісемантаў *пекла, астрог, турма, катарга* лёгка ўкладваюцца ў мадэль семантычнай дэрывацыі ‘месца, дзе церпяць вечныя пакуты душы памёршых грэшнікаў; турма; катарга → цяжкія душэўныя пакуты’: *Такога **пекла** сэрца шчэ не знала* (Н. Мацяш). *Лепш не пытай, чаму душа баліць — Я гэта **пекла** вызначыў сам* (П. Панчанка). *Адзіныя словы ў **астрозе** душы Скрозь шчыліны воч пазіраюць на свет* (Л. Галубовіч). *Спакойны час. Як разбіць мне сэрца **турму?*** (У. Караткевіч). *Жыццё, жыцця ты іншага не мысліш На **катарзе** любові і святла!* (Я. Янішчыц). *Я ўцякаў, нібы злачынца, З пакутнай **катаргі**, хутчэй, Каб адзінотаю лячыцца Ад варажбы тваіх вачэй* (П. Панчанка).

Метафарычныя ЛСВ інварыянтнага характару ‘душэўны холад’, ‘горкае пачуццё’, ‘неспакой’, ‘застыласць’, ‘трывога’ ў сваёй большасці аказіянальныя, не фіксуюцца слоўнікамі літаратурнай мовы. Пісьменнікі звязваюць цяжкі душэўны стан чалавека з самай халоднай парой года, з сырым, пранізлівым надвор’ем: *У маім сэрцы **зіма** І прасвету няма...* (М. Васілёк). *Няхай жа і ў нашыя дзверы Не грукае болей **зіма*** (С. Грахоўскі). *І адышла **зіма** трывог* (У. Караткевіч). *Не пяецца песня: Голасу няма. На дварэ прадвесне, На душы — **зіма*** (В. Рагаўцоў). *Між намі сцюжнавейная **зіма**. Мы іншыя. І ведаем пра гэта* (М. Шабовіч). *Глыбока ў сэрцы — **золь імжы**, Гнятліва, непагодна...* (Н. Гілевіч). *Знікла роспач, **Золь** і слота, Шчасце стукае ў акно* (М. Багун). *І на двары і ў сэрцы **золь**. Сяброў і родных меней, меней* (А. Майсеенка). *Чалавеку не проста адмахнуцца ад сумнай **імжы**: І дарог сваіх ростань, і сіроцкі ён боль перажыў* (К. Кірэенка). *З нас кожны памыляцца можа, На сэрцы **горыч** ды **імжа*** (П. Броўка).

Метафарычныя ЛСВ полісемантаў *адвячорак, вечар, ноч* выражаюць градацыйныя адносіны з наступным павелічэннем сілы, велічыні сэнсавай кандэнсацыі: ‘элегічны настрой’ — ‘трывога, хваляванне’ — ‘цяжар, душэўны непакой’: *Наведваецца **адвячорак** у мой настрой...* (Р. Барадулін). *А на дварэ бязгодзіца, Нібы ў душы. Як цяжка несці ў сабе **вечар**, Калі ступае ранак на шашы* (Я. Хвалей). *І доўга крыўдай невымоўнай Цямрэла ў сэрцы **ноч** пакут...* (Н. Гілевіч). *І я асуджаны на вечнае выгнанне У **ноч** душы, у кніжны неспакой* (Л. Дранько-Майсюк).

Да гэтай сэнсава-тэматычнай групы цесна прымыкае полісемант *скразняк*, метафарычныя ЛСВ якога актуалізуюць дадатковыя семы ‘трывога’, ‘страх’, ‘душэўная неўладкаванасць’: *Астатнія часы Міцеву душу абліваў настылы лядовы **скразняк** трывогі, каб благога чаго не прылучылася з бацькам* (В. Адамчык). ***Скразняк** халоднага страху прабег у Ваўчка па спіне* (В. Адамчык). *Грэюся, дзіўна, аднак жа, бывае: цела гарыць, а ў душы **скразнякі*** (Т. Цвірка). На наш погляд, выраз *на скразняку (скразняках) жыцця*, які даволі часта ўжываецца ў творах мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, неабходна лічыць устойлівым словазлучэннем (фразеалагізмам): ***На скразняку жыцця** патухла свечка* (С. Грахоўскі). *Заўчасна б не прапасці **На скразняку жыцця*** (М. Гудкова). ***На скразняках жыцця** акрэп, Не любіць грэцца Ля ця-*

*пельца славы* (М. Маляўка). Пісьменнікі і паэты, акцэнтуючы ўвагу на такую эксплiцытную сему выразу, як 'час, перыяд', шырока выкарыстоўваюць яго ў розных варыяцыях, якія носяць індывідуальны, творча-аўтарскі характар: *І выбіраюць тут. І забіваюць* ***На скразняках*** *зняверaных* ***эпох*** (Я. Янішчыц). *Сваю кніжку пра Максіма Танка М. Мікуліч назваў «****На скразняках стагоддзя****»* (В. Старычонак). *Ты, кніжка запісная, — дом, дзе свішча* ***Скразняк гадоў****, віхор няспелых дум* (А. Куляшоў). ***На скразняках*** *айчыннага* ***лёсу*** *гібела душа продкаў маіх гаротных* (В. Рагаўцоў).

Адценне смутку, неспакою часта выражаецца спалучэннем слоў *смутак, неспакой* з назоўнікам *жарства* 'буйны калючы пясок': *Разразаючы* ***смутку*** *тугую* ***жарству****, Я брыду да Цябе, мой Агонь!* (Я. Лайкоў). *Самотна да дня праблукаю, Можа, закалышу* ***неспакою жарству*** (І. Скурко).

Асновай для ўтварэння метафар са значэннем суму, меланхоліі, змрочнасці, маркоты, бязрадаснасці часта служаць ЛСВ з абагуленай семантыкай 'чарната', 'хмурнасць': *Са мной начамі толькі шэпчуць зоры, ды* ***чарната*** *варушыцца ў душы* (В. Ракаў). *Прыкрая* ***чарната****, што засланяла яго думкі, знікла* (А. Чарнышэвіч). *Бацька адагнаў ад сябе гэтую* ***хмурнасць*** *і напусціў на сябе ранейшую гаварлівасць* (К. Чорны). *Арцём усміхаецца — скупа, з* ***хмурынкай*** *мімалётнага суму* (М. Ракітны).

Горкае пачуццё ад крыўды, няўдачы, гора выражаецца пераносным ЛСВ полісеманта *горыч*: *Толькі той смех памятаю і вострую* ***горыч*** *той самай крыўды* (Я. Брыль). *Каб* ***горыч*** *паменшыць разлукі, галубяць і песцяць у сне вясёлыя мілыя рукі* (А. Астрэйка). *І хоць ззяе дзень прыгожы, у сэрцы* ***горычы*** *прылiў* (А. Ставер). Такі ж кірунак метафарычнага пераасэнсавання назіраецца ў субстантываў з першасным значэннем 'ядавітая расліна', 'пустазелле з горкім смакам': *І горкі* ***чэмер*** *ён у сэрцы нёс* (А. Зарыцкі). *Трэба ўмець ва ўсім струну жыцця крануць І* ***чэмер*** *дум змесці* (У. Хадыка). *Дзе* ***блёкат*** *хцівасці і злосці труціў пачуццяў першацвет, узыдзе кветка прыгажосці, якая выратуе свет* (В. Гадулька). *І цяпер цвілі ў душы піжмы і* ***палыны*** (К. Чорны). *Мілы, мы знаді кахання* ***палын*** (Я. Янішчыц).

Прадказальнымі можна лічыць супрацьлеглыя ЛСВ, якія развіліся ў музыкальных тэрмінаў *мінор, элегія* 'сум, меланхолія' і *музыка, акорд* 'страснасць, уздым': *У вас нейкі* ***мінор*** *сёння* (А. Савіцкі). *На сёння хопіць* ***мінору****!* (Э. Ярашэвіч). *Няма ў мяне юнацкіх прывілегій. Бяру ўсё па-даросламу ўсур'ёз І не баюся ўжо мужчынскіх слёз, І не смяюся з сябравых* ***элегій*** (Г. Бураўкін). *Не чую* ***музыкі*** *ў душы, Што ты вясною абудзіла* (З. Марозаў). *Прачнуўся з жахам, безгалосы — Прапала* ***музыка*** *ў душы* (А. Пісьмянкоў). *І спяць гаі... і сыплюцца лісты... Звіняць* ***акорды*** *ў сэрцы маладым* (П. Трус).

Стрыманасць, раўнадушнасць у праяўленні пачуццяў, у адносінах да каго-небудзь звычайна выражаецца ЛСВ назоўнікаў з коранем *холад*: *Падкрэслены* ***холад*** *расстання* (Г. Бураўкін). *На сэрцы* ***холад*** *і варожасць* (Р. Мурашка). *Дрыжыць трывогі* ***холад*** (Р. Барадулін). *У яе словах быў* ***холад****, была адчужанасць* (Л. Арабей). *Хітрынкі ў паглядзе,* ***халоднасць*** *у твары* (А. Бялевіч). *Ён то цягнуўся да яе, зачараваны і шчаслівы, то адштурхоўваў яе з бязлітаснай* ***халоднасцю*** (І. Пятроў).

Шырокая палітра сэнсавых адценняў назіраецца ў структуры полісеманта *лёд*. Цэтральнае яго значэнне — 'раўнадушныя, стрыманыя адносіны да каго-небудзь': *Нейкі халадок,* ***лёд*** *паміж намі* (Х. Шынклер). *А між намі —* ***лёд*** (Я. Янішчыц). *Растаў твайго маўчання* ***лёд*** (Л. Пранчак). *Задумаў скрануць, вершаплёт, Лірычным, як водзіцца, вершам Яе раўнадушнасці* ***лёд*** (М. Калачынскі). Блізкім да яго з'яўляецца ЛСВ 'моцнае перажыванне, якое халодзіць душу': *Хаджу па хаце, як атруты, У жылах чую зімні* ***лёд*** (Цётка). *Тады яно прайшло, а пазней, часцей і часцей гэты* ***лёд*** *халадзіў мне грудзі* (І. Дуброўскі). *Рукі ледзянелі, да сэрца дабіраўся* ***лёд*** (Я. Янішчыц). Сэнсавы дыя-

пазон гэтага слова значна пашыраецца за кошт яго індывідуальна-аўтарскіх, кантэкставых ужыванняў у паэтычнай мове: *Твой ліст — нібыта крыгаход, што раскрышыў **ільды сумненняў*** (М. Мельнік). *Каханне... растопіць **ільды асцярогі** і вызваліць скрытыя воды* (А. Бадак).

Спакой, ураўнаважанасць у душы чалавека часта асацыіруюцца з адлігай, зацішшам, штылем, нерушам: *Чабаровай выспаю Даганяю я гады. На душы **адліга...*** (Р. Барадулін). *Я ў радасці, і ў журбе, І калі на душы **зацішша**, Мару ўзвысіцца да цябе, Гарадоцкае наша ўзвышша* (У. Скарынкін). *Мы ў жыцці не шукаем **зацішша**, І няма ў нас «тваё» і «маё»* (М. Губернатараў). *Людское сэрца, быццам мора, У ім бывае шторм і **штыль*** (П. Броўка). *Тады ты ў лепшае паверыш, Калі на сэрцы згода, **неруш*** (Г. Каржанеўская).

Метафары са значэннем няшчырасці, крывадушнасці, ілжывасці назіраюцца ў полісемантах *грым, кара, абалонка, шчыт, найгрыш, поза*: *Двудушша не схаваецца пад **грымам*** (Л. Дайнека). *Мы ведаем, хто Загнаў у тупік нашы справы, Сёння нас не аслепіць Яркасць хлуслівага **грыму*** (П. Панчанка). *Чалавечая душа абгортвалася **карой** фальшы і дробнай хітрасці* (К. Чорны). *Сарвіце з душ чарсцвення **абалонку**!* (М. Віняцкі). *Яго ранейшы аўтарытэт быў яму някепскім **шчытом*** (У. Дамашэвіч). *Федзя адчуваў **найгрыш**, штучнасць у сваіх паводзінах, у тым, што і як робіць* (П. Місько). *У. Дзюба рэдка абыходзіцца без **позы**, сапраўдных сваіх пачуццяў ён вельмі часта не слухае* (Н. Гілевіч).

Значэнне 'прытворства, якое скрывае сутнасць каго - ці чаго-небудзь', часта выражаецца назоўнікам *маска*: *Згода-еднасць — толькі **маска**, Пад якой — нянавісць-злосць* (Н. Гілевіч). *Імператар Нерон носіць не твар, а **маску** глыбакадумнасці. І прыкідваецца добрым* (М. Ваданосаў). У творах мастацкай літаратуры гэты назоўнік часта ўжываецца ў складзе вядомага фразеалагізма *скінуць маску* 'станавіцца самім сабой, пераставаць прытварацца, прыкідвацца': *Толькі тут зразумеў Карповіч, што Вялічка **скінуў** з сябе **маску**, адкрыўшы сапраўдны твар правакатара* (М. Машара). *Вельмі хутка ён **скіне** з сябе **маску**, якой прыкрываўся ўвесь час* (У. Шахавец).

Пры метафарызацыі даволі часта на першы план вылучаюцца не самі эмоцыі і пачуцці, а ступень і форма іх праяўлення, колькасныя і часавыя паказчыкі. Так, розныя эмоцыі і пачуцці з пункту гледжання іх інтэнсіўнасці, узмоцненасці, меры выяўлення і працякання ў часе выражаюцца ў метафарычных спалучэннях *вал злосці* (А. Бачыла), *іскры злосці* (Я. Колас), *патоп гневу, ярасці* (П. Панчанка), *зарад нянавісці* (І. Шамякін), *бліскавіцы гневу* (Я. Рамановіч), *маланка гневу* (Я. Колас), *маланка страсцей* (Г. Каржанеўская), *дамба страсці* (А. Бачыла), *струмень жаданняў* (Р. Мурашка), *пачуццяў шумны дождж* (Л. Сільнова), *хваля цёплых пачуццяў* (М. Лупсякоў). Некаторыя субстантывы характарызуюцца шырокай валентнасцю, здольнасцю спалучацца з вялікай колькасцю слоў. Так, з назоўнікам *вір* утвараюцца наступныя спалучэнні метафарычнага тыпу: *вір клопату пустога, вір звягі, вір знявагі* (Р. Барадулін), *вір уласных мар* (А. Чарнышэвіч), *глыбокі вір страху* (В. Адамчык), *вір шалёнай страсці* (І. Хадарэнка). Ступень, спосаб, і форма выяўлення пачуццяў актуалізуюцца ў выразах *чара асалоды* (Я.Колас), *чара горычы* (П. Ламан), *чаша любові* (Л. Пранчак), *чаша гневу* (М. Багдановіч), *чаша пакут* (А. Бачыла), *гронка агнявых пачуццяў* (У. Гетманчук), *сумятня пачуццяў* (Р. Бярозкін), *клубок трывог* (Н. Мацяш), *ланцуг любасці і пяшчоты* (Р. Барадулін), *ком смутку* (К. Кірэенка).

Творча выкарыстоўваючы сэнсавы патэнцыял слова, шырокія магчымасці яго асацыятыўных і кантэкставых сувязей, пісьменнікі нярэдка ў адным лінейным раду спалучаюць сінонімы і блізказначныя словы, а таксама антонімы. Прыём нанізвання сінонімаў-метафар дазваляе ўзмацніць значэнне кожнага з сінонімаў, іх сэнсавыя адценні, а таксама агульны сэнс выказ-

ванне і тым самым павысіць выразнасць маўленчага акту: *Юнацтву ўласціва* ***кіпенне, бурленне*** (Я. Колас). *Каханне — гэта* ***полымя, агонь*** *жыцця, тварэнне цуду* (Г. Юрчанка). *Унутраныя, сардэчныя* ***буры, навальніцы****, што адбываюцца, працякаюць у душах і сэрцах герояў і гераінь, набываюць канкрэтныя контуры і абрысы* (Г. Юрчанка). Адзін і той жа метафарычны субстантыў у спалучэнні з рознымі па сэнсавай накіраванасці дапаўненнямі здольны выразіць шырокі спектр перадаваемых аўтарам пачуццяў: *Падкрадаецца са спіны, Свой бязлітасны час вызначае* ***Хваля зайздрасці і маны, Недаверу, Бяссілля, Адчаю...*** (Г. Бураўкін). *Гэта быў цэлы* ***вулкан пачуццяў, жаданняў і магчымасцяў*** (М. Адам).

Зрэдку субстантыў паўтараецца двойчы, удакладняючы і канкрэтызуючы прадмет апісання: *Сэрца яго топіцца ў* ***моры*** *агнявых жаданняў, у бурным* ***моры****, ад якога ў сэрцы ўскіпае балючая слодыч* (М. Зарэцкі). *І гэты дальні дом, і гэты спеў музыкі Ўзнялі агнём жаданняў і журбы* ***Акорд*** *ў грудзях яе,* ***акорд*** *душы вялікі, Бо толькі маці можа так любіць!* (В. Маракоў).

Антонімы-метафары, ужытыя ў адным мікракантэксце, ствараюць яркі антытэзны малюнак, раскрываюць дыялектыку развіцця чалавечага жыцця з яго пад'ёмамі і падзеннямі, адлюстроўваюць амбівалентнасць пачуццяў, супярэчнасці псіхічных адчуванняў і перажыванняў лірычнага героя: *Спазнаў я у жыцці* ***Святло і змрок*** (М. Арочка). *І* ***пекла*** *рэўнасці, і* ***рай****...* (З. Марозаў). *Кактэйлі* ***любові з нянавісцю*** *— звычны сучасны пакой. Дзе вы, былыя страсці, — няма ні той, ні другой* (П. Шруб). *Мы ўсе праходзім поўны круг жыцця — Ад* ***першых слёз*** *Да* ***сціхлага дыхання****, Адпіўшы* ***чашу*** *хмельнага* ***кахання****, Адчуўшы колкі* ***холад забыцця*** (Г. Бураўкін). *Будзе* ***май*** *квітнець і будуць* ***сцюжы****, будзе* ***ўздым і горычы няўдач*** (М. Смагаровіч).

Выражэннем псіхалагічнага стану, пачуццяў, пэўнага настрою з'яўляецца твар чалавека, які многія даследчыкі лічаць адным з невербальных сродкаў камунікацыі. Твар — гэта застылая гісторыя жыцця чалавека. «*І кожны дзень, пражыты у трывозе,* ***Кладзе адбітак****, нібы цэнь,* ***на твар****»,* — справядліва зазначае Я. Крупенька. Адна з гераінь твора М. Ваданосава ў гумарыстычна-іранічнай форме папярэджвае свайго субяседніка: «*Хаваешся ад людзей... Яно не без прычыны — у цябе ж* ***не твар, а шыльда****, дзе ўсё напісана».* Даволі вялікая колькасць інфармацыі аб унутраным стане чалавека свядома ці несвядома счытваецца з яго твару. Для дакладнага выяўлення выразу твару (а значыць — складаных глыбінных працэсаў псіхікі чалавека, яго ўнутранага стану) пісьменнікі выкарыстоўваюць метафарычныя ЛСВ самага рознага зместу, што, безумоўна, залежыць ад ступені актуалізацыі таго ці іншага аспекту шырокай пачуццёвай гамы і характару кантэкставага акружэння слова. Параўн.: *На твары яго ляжала* ***пячаць здзіўлення*** (К. Чорны). *Халодны позірк, тон суровы, на твары* ***горычы пячаць*** (С. Грахоўскі). *Варвара ўбачыла, як на твар яго лёг* ***адбітак болю*** (А. Васілевіч). *Тут ён паспрабаваў усміхнуцца таямніча і хітра, але неслухмяныя* ***фальбоны*** *ягонага* ***твару*** *ўсё роўна скалаліся ў звычайную яго безнадзейна-горкую міну* (М. Зарэцкі). *Добра бачу: твар твой — гэта* ***маска*** (А. Камоцкі).

Праяўленне на твары дрэннага адчування, кепскага настрою, болю, адчаю часцей за ўсё выражаецца пераноснымі ЛСВ полісемантаў *цень, хмара, смуга:.* ***Цень роспачы*** *на твары* (М. Віняцкі). *І* ***цень*** *ледзь прыкметнага* ***болю*** *На твары іх ціханька лёг* (Я. Колас). ***Цень незадавальнення*** *прабег па твары Галіны Пятроўны* (Г. Шыловіч). *На яе твары ён не заўважыў ні здзіўлення, ні расчаравання, ні нават* ***ценю адчаю****, чаго так вельмі баяўся* (І. Сіўцоў). *Марынка тлумачыла адсутнасць бацькі па-дзіцячаму лёгка і без* ***ценю смутку*** *на твары і ў сэрцы* (А. Васілевіч). *Паказаўся твар, зацягнуты цёмнай* ***хмарай незадавальнення*** (А. Васілевіч). *Замест чырвані на твар Журко набегла бялявая* ***смуга хвалявання****, і вочы нібыта пабольшалі* (А. Савіцкі). Радасна-ўзбуджаны вы-

раз твару, які адлюстроўвае радасны, прыўзняты настрой, выражаецца ЛСВ полісемантаў *прамень, святло: На твары людзей лажыцца* ***прамень*** *светлай* ***радасці*** *і свядомасці* (К. Чорны). ***Промень усмешкі*** *прабег па засмучаным твары* (І. Новікаў). *Але і праз густое сівае шчаціннe відаць было, як на старым яго твары прабівалася* ***святло радасці*** (А. Якімовіч).

Самым выразным невербальным сродкам выражэння ўнутранага стану чалавека лічацца яго вочы — люстэрка душы. Вочы як ні адзін іншы орган цела чалавека здольны на хуткія (часам імгненныя) змены і рэакцыі. Менавіта таму яны могуць быць гарачымі і халоднымі, вясёлымі (радаснымі) і сумнымі (панурымі, самотнымі), пакорлівымі і непакорлівымі, горкімі і салодкімі, саромнымі і бессаромнымі, даверлівымі і недаверлівымі, праўдзівымі і падманнымі, спакойнымі (ціхімі) і гнеўнымі (яраснымі, шалёнымі), удумлівымі і бяздумнымі і г.д. Вочы, на думку З. Марозава, могуць нават крычаць: *Я помню тваё развітанне, Знямелы* ***крык*** *тваіх вачэй.* Позірк вачэй бывае калючым і вострым, як цвікі, як нажы: *Прыйшоў у хату — раўнапраўны — З* ***цвікамі*** *вогненных вачэй* (А. Сербантовіч). *А сын ускіне воч блакітныя* ***нажы*** (А. Вялюгін). Для лірычных герояў Р. Барадуліна паядынак вачэў носіць узвышана-вясёлы характар: *Паядынак вачэй — паядынак вясёлы, Чым пяшчотнейшы ён, тым душы балючэй* (Р. Барадулін).

У творах беларускай літаратуры вочы даволі часта атаясамліваюцца з кветкамі (сінім іх колерам), з пладамі розных дрэў і ягадамі, з сонцам і зоркамі: *А вочы —* ***валошкі*** *у жыце* (М. Лынькоў). *Яе бровы — смоль, а вочы —* ***Васількі*** *жытнёвыя* (А. Дзеружынскі). *Дзве* ***пралескі*** *— яе вочкі, Ці два ў збожжы васілёчкі* (Я. Купала). *Вочы яе былі то спелымі* ***вішнямі****, то* ***васількамі*** (З. Бядуля). *Упершыню яна, канешне, Так блізка бачыла касца, Бо у яе вачах-****чарэшнях*** *Было здзіўленне без канца* (А. Сербантовіч). *Блакітам поўняцца* ***яблыкі*** *Славянскіх адкрытых вачэй* (Я. Янішчыц). *Размяталіся крыламі бровы Над* ***парэчкамі*** *дзіўных вачэй* (А. Сербантовіч). *Вочы —* ***ягадкі*** *лясныя, Свецяць парай аганькоў* (М. Віняцкі), з сонцам і зоркамі: *Вочы твае — дзве бяссонныя* ***зоркі*** (З. Марозаў), *У белым пекле, засмяглым, сонным, адкуль на свет без пакуты нельга, узыдуць вочы, два шэрыя* ***сонцы****, цяплейшыя, чым тое, што ў небе* (Д. Бічэль-Загнетава).

Бляск, святло, гарэнне ў вачах як вынік стану ўзбуджанасці, страснасці, вялікай сілы напружання чалавека часта выражаецца пры дапамозе ЛСВ полісемантаў *касцёр, полымя, пажар, ззянне: Мілее юны твар. І смелых вуснаў слодыч, Вачэй* ***пажар*** (А. Шушко). *Нават слёзы не патушылі* ***пажар*** *гэтых вачэй* (А. Васілевіч). *Вачэй* ***кастры*** *шматслоўныя — Маёй душы прычал* (В. Стрыжак). *Бровы могуць з часам выліняць І згарэць вачэй* ***кастры*** (А. Астрэйка). *Вось азірнулася —* ***полымя*** *з воч* (У. Жылка). *Ну і вочы! Так палаюць ярка, Пэўна ў Мінску* ***ззянне*** *іх відаць* (Э. Агняцвет). *Цямней становяцца вочы твае, і душа мая тоне ў моры іх* ***ззяння*** (З. Бядуля).

Агеньчыкі, вугалькі ў вачах адлюстроўваюць пачуццё ўздыму, узнёсласці, захаплення чым-небудзь: *Яны мяняліся, плылі, Ружовашчокія славянкі, Вачэй гарачыя вуглі* (К. Камейша). *На чарнявым яго твары паблісквалі вугалькі рухавых вачэй* (М. Пятніцкі). *Вочы — два блакітных* ***вугалькі*** *— Пад брывамі ўсмешліва яснелі* (С. Гаўрусёў). *Гляджу замілавана, вочы — два* ***вугольчыкі*** *ўначы* (Р. Баравікова). *У яго [Колышава] чыстых адкрытых шырока вачах успыхвалі цікаўныя і неспакойныя* ***светлячкі*** (І. Мележ).

Востры гнеўны позірк даволі часта выражаецца пры дапамозе назоўнікаў *маланка, бліскавіца:* ***Маланкі*** *дзве блакітныя Бліснулі грозна з Янкавых вачэй* (З. Бядуля). *Пранізлівая маланка мільганула ў яго вачах* (Я. Лайкоў). *Ажно маланкі бліскаюць з вачэй* (Р. Барадулін). *У яе шэрых, як воблака перад навальніцай, вачах узнікалі бліскавіцы гневу* (Я. Рамановіч).

Холад душы, трывога, страх і нават нянавісць выражаюцца словазлучэннямі з назоўнікам *ільдзінка*: *Савацееў заўважыў у яго вачах* ***ільдзінкі холаду*** (У. Шыцік). *У яго сініх вачах не расталі яшчэ* ***халодныя ільдзінкі*** *толькі што перажытага* ***страху*** (М. Лынькоў). *Роб убачыў, як у кашэчых вачах капітана заблішчалі* ***халодныя ільдзінкі нянавісці*** (М. Гамолка).

Розныя па сіле праяўлення пачуцці адлюстроўваюцца ў розных станах вачэй, названых субстантывамі *іскра, іскрынка, промень, вір*: *Ляснік заўважыў у яе сініх вачах* ***смехатлівыя іскры*** (З. Бядуля). *З вачэй сыпаліся* ***іскры злосці*** (Я. Колас). *І ззяе ў вачах тая ж іскра юнацтва, ці ў працы ты зараз, ці выйшаў на пенсію* (Н.Чарнушэвіч). *Іскрынкі ўбачыў ён усё-ткі У двух карычневых вуглях!* (Н. Гілевіч). *У вачах праменны бліск пагас,* ***прамень надзеі*** *ж не патух* (С. Новік-Пяюн). ***Праменні дабрыні*** *Няцяжка распазнаць, Калі умееш сам Іх людзям аддаваць* (Г. Дашкевіч). *Засвяціліся ў Яркі* ***Промні радасці*** *ў вачах* (В. Бычко). *Дай акунуцца ў чысты* ***вір вачэй,*** *Якім магу паверыць без вагання* (Я. Янішчыц). *Яшчэ не раз растане Душа ў* ***вірах вачэй*** (В. Стрыжак).

Такім чынам, для выражэння псіхалагічнага стану чалавека, яго эмоцый, пачуццяў, перажыванняў выкарыстоўваюцца субстантывы самай рознай сэнсавай напоўненасці. У залежнасці ад вылучэння на першы план таго ці іншага сэнсавага адцення шырокай пачуццёвай гамы актуалізуюцца тыя ці іншыя ЛСВ полісемантычных структур. Душэўны пад'ём, прылівы пачуццяў звычайна асацыіруюцца са словамі з агульнай семантыкай 'гарэнне агню' (*агонь, вогнішча, полымя, пажар, жар, гарэнне),* з найменнямі гайданняў паверхні вады (*хваля, усплёск, прыліў, паводка)* і прыродных з'яў вялікай разбуральнай сілы *(бура, навальніца, смерч, ураган, шторм, вулкан)*. Моцнае жаданне чаго-небудзь, азарт атаясамліваюцца са *смагай, свербам*; асалода, прыемнасць — з *мёдам, соладам, святам*; сардэчнасць, шчырасць, дабрата — з *цеплынёй і мяккасцю*. Цяжкі душэўны стан перадаецца метафарычнымі ЛСВ полісемантаў *рана, рубец, шрам, болька, груз, камень, муць.* Душэўны холад чалавека, яго трывога, занепакоенасць у беларускіх пісьменнікаў асацыіруецца з *зімой, імжой, золлю, скразняком*, з пэўным часам сутак (*адвячорак, вечар, ноч*). У працэс метафарызацыі могуць уключацца найменні ядавітых раслін, пустазелля, музычных тэрмінаў, кветак і іншых тэматычных груп (*чэмер, блёкат, палын, мінор, музыка, акорд, ружа, макі).* Дыяпазон некаторых полісемантаў даволі шырокі і ўключае ў свой склад ЛСВ антанімічнага характару (*агонь любві і нянавісці, прыліў пяшчоты і гневу, хваля зла і дабрыні, чаша любові і гневу).*

Прааналізаваны матэрыял паказаў, што розныя кантэкставыя сітуацыі дазваляюць актывізаваць закладзены ў слове глыбінны сэнсавы патэнцыял, рэалізаваць шматлікую палітру сэнсавых адценняў і нюансаў. Асноўныя кірункі семантычнага развіцця пацвердзілі даўно выказаную ў семасіялагічнай навуцы думку аб аднолькавым «семантычным лёсе» слоў з падобнай семантыкай (суфіксальных дэрыватаў, сінанімічных адзінак).



МІКОЛА БАГАДЗЯЖ

# МЯЦЕЖНЫ ГЕТМАН

Прадузятасць — вельмі небяспечная з'ява. Асабліва, калі яна праяўляецца ў гісторыкаў ці літаратараў. Калі ўжо адны ці другія створаць нейкі стэрэатып, то змяніць яго бывае вельмі цяжка. Сярод ахвяр такога стэрэатыпу ёсць і нашы землякі. Аднаго з іх, Януша Радзівіла, малююць аднымі толькі чорнымі фарбамі і польскія, і большасць айчынных даследчыкаў. Асабліва ж зняславілі яго пасля рамана таленавітага польскага пісьменніка Г. Сянкевіча «Патоп» і фільма, пастаўленага паводле гэтага рамана. Калі прыгадваеш яго імя, то амаль заўсёды чуеш: «А, Януш-здраднік!» І ў дадатак шэраг эпітэтаў. А ўсё таму, што менавіта здраднікам паказаў яго польскі пісьменнік Сянкевіч. «Януш-здраднік» — так называе Януша Радзівіла большасць польскіх гісторыкаў. Магчыма, з іх пункту гледжання ён і быў здраднікам. А з нашага?

Нарадзіўся Януш у 1612 годзе. Бацька яго, Крыштаф Радзівіл, займаў пасады віленскага ваяводы і гетмана Вялікага княства Літоўскага. Дзяцінства прайшло ў радавых маёнтках Кейданах, Біржах, Віжунах. Яно было такім, як і ў большасці дзяцей магнатаў. Адметным сталася хіба толькі тое, што хатнім настаўнікам хлопчыка быў выкладчык кальвініскай школы. Справа ў тым, што бацька яго паходзіў з біржаўскай лініі Радзівілаў. А прадстаўнікі гэтага адгалінавання магутнага роду захавалі вернасць тым рэлігійным поглядам, якіх прытрымліваўся і за якія вёў барацьбу іх прашчур Мікалай Руды.

У 1624 годзе Януша накіравалі ў слуцкую гімназію. А яшчэ праз тры гады юнак паехаў удасканальваць свае веды за мяжу. Вучыўся напачатку ў Германіі, а потым у Галандыі. Трэба заўважыць, што юнака цікавілі не толькі лекцыі універсітэцкіх выкладчыкаў. Ён шмат падарожнічаў, пабываў у Англіі, Бельгіі і Францыі. За гэты час выканаў некалькі асабістых даручэнняў караля. І выканаў так удала, што ў 1622 годзе атрымаў пасаду падкаморага Вялікага княства Літоўскага. Якраз у гэты час Януш сабраўся дадому. Разам з ім рушылі нанятыя ім тысячы пешых і дзвесце конных воінаў. Да гэтага войска юнак далучыў некалькіх артылерыстаў і ваенных інжынераў. З гэтай уласнай «узброенай сілай» прыбыў ён на радзіму і адразу ж накіраваўся пад Смаленск. Горад гэты яшчэ з вясны спрабавалі захапіць маскоўскія войскі ваяводы Шэіна. Януш прыбыў пад Смаленск у кастрычніку і прыняў актыўны ўдзел у барацьбе. Маскоўскія войскі цярпелі адно паражэнне за другім. Нарэшце ў канцы 1633 года на тэатры ваенных дзеянняў з'явіўся кароль Уладзіслаў з вялікім войскам, а 16 лютага 1634 года Шэін склаў зброю. У чэрвені быў падпісаны мірны дагавор, згодна з якім пацвяр-

джаліся правы пераможцаў на валоданне смаленскімі, чарнігаўскімі і наўгародскімі землямі.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў Януш нейкі час пабыў у Вільні, а потым паехаў у Кракаў. Там узяўся выконваць абавязкі падкаморага пры двары караля.

У гэты час па-сапраўднаму і раскрыўся характар нашага земляка. Даследчыкі як адзін сцвярджаюць, што Януш вызначаўся гарачнасцю і ўпартасцю. Справа ў тым, што каралеўскі ўрад пастаянна парушаў умовы, на якіх кіраўнікі Вялікага княства пайшлі на заключэнне Люблінскай уніі. Пагадненне аб ваеннай узаемадапамозе існавала фактычна толькі на словах. Польскія магнаты, ды і каралі, глядзелі на землі княства як на свае асабістыя ўладанні і імкнуліся распараджацца ў іх, як у сваёй вотчыне. Гонар не даваў Янушу магчымасці ўтойваць свае пачуцці. Ён ніколі не хаваў іх і адкрыта праяўляў свае настроі. І аднойчы адбыўся «выбух»...

У час пасяджэння рады сената княства, якое праходзіла ў Вільні, паміж гетманам Вялікага княства Літоўскага Крыштафам Радзівілам (бацькам Януша) і каралём Уладзіславам узнікла спрэчка. Гетман указваў на недапушчальнасць парушэння ўмоў пагаднення на тое, што сенат княства сам можа вырашыць свае праблемы, што каралю няма неабходнасці ўмешвацца ў іх дзеянні. Уладзіслава «прыперлі да сцяны» фактамі. Ён не змог іх абвергнуць. І тады... перапыніў раду.

Януш, які ў якасці члена світы караля прысутнічаў пры гэтым, быў абражаны не меней за іншых. Ён уголас выказаў свае меркаванні: «Пачакайце, прыйдуць часы, калі мы вас не праз дзверы, а праз вокны будзем выкідваць». Зразумела, якія пачуцці выклікалі гэтыя словы ў палякаў. Яны ледзь не хорам пачалі патрабаваць, каб Януш адмовіўся ад сваіх слоў і папрасіў прабачэння. Запатрабаваў гэтага і кароль. Але наш зямляк не згадзіўся.

Пацiху справу замялі. Кароль Уладзіслаў вымушаны быў лічыцца з магутным і ўплывовым родам Радзівілаў. Януш заставаўся ў яго свіце. Больш таго — кароль называў яго сваім сябрам, пастаянна браў з сабой на паляванне, у паездкі, нават дзяліўся сваімі «амурнымі» сакрэтамі.

У 1638 годзе Януш вырашыў ажаніцца. Яго абранніца паходзіла з польскага магнацкага роду Патоцкіх. Крыштаф быў вельмі незадаволены выбарам сына. Асабліва не падабалася яму тое, што будучая нявестка была ваяўнічай каталічкай. Ён неаднаразова папярэджваў сына, што той яшчэ набядуецца. Але закаханы Януш настояў на сваім. Жонка ж з першага дня пачала дабівацца, каб ён перайшоў у «лона адзінай роўнаапостальнай каталіцкай царквы». Асабліва ўзмацніла яна свае дамаганні пасля таго, як у 1640 годзе памёр свёкар. Януш адбіваўся ад гэтых захадаў. Але сякія-такія з патрабаванняў жонкі выканаў. Напрыклад, замяніў усіх сваіх слуг, якія былі кальвіністамі, на католікаў. Хто ведае, можа, «слабая жанчына» ці, наадварот, «начная зязюля» ўрэшце і дабілася б свайго. Чаго-чаго, а настойлівасці ў яе хапала. Тым больш, што ў гэтай справе ў яе было шмат памагатых. І Уладзіслаў, і шматлікія сябры-палякі, і «ліцвіны» з тых, хто сам быў католікам. Але ў 1642 годзе Катажына памерла.

Праз пэўны час Януш зноў ажаніўся. На гэты раз нявесту ён нагледзеў у больш далёкіх землях — у Малдавіі. У тамтэйшага гаспадара (князя) Базыля Лунула было дзве дачкі. Наш зямляк пасватаўся да старэйшай — Марыі. Базыль нічога супраць не меў. Наадварот, яго вельмі ўзрадавала магчымасць парадніцца з Радзівіламі. Задаволены быў і Уладзіслаў. Ён якраз вёў падрыхтоўку да вайны з Турцыяй і шукаў саюзнікаў. Праўда, каралю вельмі не падабалася, што нявеста праваслаўная, але што ён мог зрабіць? Януша ж апошняя акалічнасць толькі радавала: «ваяўнічы каталіцызм» ужо сядзеў у яго «ў пячонках».

У 1646 годзе Януш Радзівіл атрымаў пасаду гетмана польнага літоўскага. У тым жа годзе па просьбе (заўважце — не загадзе, а просьбе) караля выехаў у вандроўку. Пабываў у свайго цесця. Адтуль накіраваўся ў Семіград, дзе гасцяваў у трансільванскага князя Юрыя I Ракочы. I з тым, і з другім была заключана дамоўленасць аб сумесных дзеяннях супраць Турцыі. У падзяку за гэты паспяховы вояж кароль даў Янушу пасаду маршалка трыбунала літоўскага.

Якраз у гэты час на паўднёва-ўсходніх землях Рэчы Паспалітай (на Украіне) успыхнула паўстанне, на чале якога стаў Зіновій (Багдан) Хмяльніцкі. На падаўленне яго Уладзіслаў IV паслаў войскі. 16 мая 1648 года пад Корсунем паміж імі і паўстанцамі-казакамі адбылася бітва. Казакі ўшчэнт разгромілі каралеўскае войска. У палон да іх трапілі нават гетманы каронныя Патоцкі і Каліноўскі. Пасля гэтай перамогі полымя паўстання ахапіла ўсю Украіну. Запалалі кляштары і маёнткі. Польскія паны кідалі ўсё і збягалі ў Польшчу. У гэты цяжкі момант Рэч Паспалітая апынулася без галоўнакамандуючага. Януш па праве разлічваў на гэтую пасаду. Але нечакана памёр Уладзіслаў IV. Становішча Радзівіла адразу пагоршылася. Як бы там ні было, а нябожчык усё ж такі падтрымліваў яго. А зараз гэтай падтрымкі не стала. Вынікі адчуліся амаль адразу. На сойме, які адбыўся ў ліпені таго ж 1648 года ў Варшаве, Януш вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду гетмана кароннага. Але яму прыгадалі колішнія словы пра палякаў, якіх будуць «выкідваць... праз вокны». Зразумела, што пасля гэтага на гетманскую булаву разлічваць было нельга.

А тым часам паўстанне на Украіне перарасло ў вайну. Яна ахоплівала ўсё новыя і новыя тэрыторыі. Яе іскры-паўстанні ўспыхнулі на Беларусі і нават у самой Польшчы. Шляхту ж Рэчы Паспалітай больш займала іншая «хвароба» — яна выбірала новага караля. Меліся два прэтэндэнты — браты нябожчыка Уладзіслава Карл Фердынанд і Ян Казімір. Першы з іх быў езуітам і прызнаваў толькі адну рэлігію — каталіцызм. Ужо з-за гэтага ён быў шмат каму не даспадобы. Яна Казіміра амаль не ведалі, бо ён практычна ўвесь час жыў за мяжой. I ў кожнага з іх былі прыхільнікі. Па ўсёй дзяржаве праходзілі соймы і соймікі, пляліся інтрыгі, купляліся галасы... Урэшце пераможцам выйшаў Ян Казімір, за якога, дарэчы, падаў свой голас і Януш, і нават... Багдан Хмяльніцкі. Злыя языкі даводзілі пазней, што менавіта страх перад украінскім гетманам прымусіў шляхту галасаваць за гэтага прэтэндэнта. Януша ж перадвыбарчыя падзеі ўжо мала хвалявалі. У яго галаве спеў новы план — аб'яднацца з Багданам Хмяльніцкім і сумесна разарваць путы, якія звязваюць іх землі з Польшчай. Ён пасылае на Украіну надзейных людзей. Але адказу няма. Радзівіл цудоўна ведаў, што ў палітыцы паважаюць толькі моцнага. Ён вырашае паказаць сваю сілу і кідае войска на паўстанцаў, якія фактычна авалодалі ўсім поўднем Беларусі. Яго армія на пачатку 1649 года адбівае Пінск, Мазыр, Бабруйск і іншыя гарады. Януш вырашыў запалохаць ворагаў. Для гэтага загадаў пасадзіць захопленых у палон кіраўнікоў паўстання на палю, а 270 казакам — адсекчы правую руку і адпусціць на волю.

У той час ён мог з лёгкасцю ачысціць ад паўстанцаў усю тэрыторыю княства. Але не пажадаў. Адвёў войска. Сам пасяліўся ў маёнтку пад Вільняй і зноў пачаў перапісвацца з Хмяльніцкім і блізкімі да яго людзьмі. Піша ён і да трансільванскага князя, і ў Малдавію да цесця. Прапанова ў яго ўсё тая ж — аб'яднаць намаганні і ўдарыць па Польшчы. Але адказу зноў няма.

Тады Радзівіл вырашае яшчэ раз паказаць сваю моц. Ён са шматтысячным войскам выступае на Кіеў. Багдан Хмяльніцкі пасылае супраць яго аднаго з лепшых сваіх паплечнікаў — Міхала Крычэўскага з пятнаццацітысяч-

ным войскам. У дарозе яно абрастае паўстаўшымі сялянамі. У момант сустрэчы з Радзівілам Крычэўскі меў пад сваім кіраўніцтвам трыццацітысячнае войска. Але ў бітве, якая адбылася 31 ліпеня 1649 года пад Лоевам, паўстанцы былі разбітыя. Паранены Крычэўскі трапіў у палон і скончыў жыццё самагубствам. Дарога на Кіеў зноў адкрытая. Але Януш усё яшчэ спадзяецца дамовіцца з Хмяльніцкім. Да таго ж, ён не жадае «рабіць усю справу за палякаў». Таму заяўляе, што войску не хапае пораху і куляў, і адводзіць яго ў Рэчыцу.

Зноў маёнтак пад Вільняй. Зноў перапіска, перамовы. Зноў узаемныя амбіцыі не даюць прыйсці да згоды.

А тым часам польскі ўрад заключыў перамір'е з Хмяльніцкім. Яно было неабходнае абодвум ваюючым бакам.

У Варшаве пачаўся сойм. 16 снежня 1650 года на ім з'явіўся Януш. Ён злажыў перад каралём захопленыя пад Лоевам сцягі і бунчукі казацкіх атрадаў. Сенат вымушаны быў узнагародзіць героя. Ва ўласнасць Радзівіла пераходзяць гарады Себеж і Невель. Кароль жа, са свайго боку, дае яму пасаду старасты Барысава. Аднак пры ўсім гэтым манарх вельмі насцярожана ставіцца да «ліцвіна». Яго шпегі даўно ўжо данеслі, што Радзівіл перапісваецца з гетманам Багданам Хмяльніцкім. Не даспадобы яму былі і незалежныя, самаўпэўненыя паводзіны нашага земляка. Аднак палітыка ёсць палітыка. І Ян Казімір стараецца палепшыць свае адносіны з найбольш уплывовым «літоўскім» магнатам. Але дасягнуць гэтага хоць збольшага яму ўдалося толькі пасля таго, як войскі Багдана Хмяльніцкага напалі на Малдавію. Радзівіл прапаноўвае каралю ўтварыць антыказацкую кааліцыю. Паводле яго меркаванняў, у гэтую кааліцыю можна ўключыць Рэч Паспалітую, Малдавію, Трансільванію, нават крымскіх татараў. Яна Казіміра ўзрадавалі такія перспектывы. Ён не здагадваўся, што галоўнае прызначэнне гэтай кааліцыі (на думку Радзівіла) — не барацьба з казакамі, а сіла, з дапамогай якой можна прымусіць Польшчу скасаваць унію з Вялікім княствам Літоўскім.

Януш зноў ідзе на Кіеў. І зноў — бітва пад Лоевам. 16 ліпеня 1651 года яго войска сутыкнулася з казацкімі загонамі, якімі кіраваў атаман Нябаба. Апошні перахапіў і амаль цалкам знішчыў пры пераправе два палкі. Потым добра «разжыўся» ў абозе. Усё гэта дало яму магчымасць у сваёй рэляцыі Б. Хмяльніцкаму распісаць бітву як сваю перамогу. Але на самой справе перамагло войска Радзівіла. Сведчаннем з'яўляецца тое, што праз некалькі дзён пасля гэтай бітвы яно захапіла Чарнігаў, затым і Кіеў. Праўда, хутка гэты горад давялося пакінуць, бо жыхары падпалілі яго. Аднак, перш чым выйсці з палаючага горада, Януш даручыў свайму мастаку перамаляваць фрэскі на сценах Сафійскага сабора.

Януш накіраваўся на злучэнне з польскім войскам. Прыбыў ён у лагер 4 верасня. Планавалася, што аб'яднаныя сілы Кароны і княства змогуць разбіць войска Хмяльніцкага. Аднак кароль не рашыўся на гэта. 29 верасня ён заключыў у Белай Царкве мір з Багданам Хмяльніцкім.

Слава пра рашучыя дзеянні Радзівіла пракацілася па ўсёй краіне. Яго параўноўвалі з палкаводцамі старажытнасці. На вуліцах натоўп крычаў яму: «Віват!» На сойме, які адбыўся ў Варшаве ў лютым наступнага года, ён расказваў пра дзейнасць і кароннага войска, і войска Вялікага княства. Здавалася б, усё выдатна. Але рост аўтарытэту і папулярнасці Радзівіла напалохаў польскіх (дый не толькі польскіх) магнатаў. Па Варшаве папаўзлі плёткі. Пачаліся інтрыгі. Хтосьці пусціў пагалоску, быццам памёр вялікі гетман літоўскі Ян Кішка. Пачалі вырашаць, каму аддаць гэтую пасаду. Па ўсім выходзіла, што найбольш падыходзіць Януш Радзівіл. Але і кароль, і польскія магнаты пабаяліся зрабіць гэта. Пасада была паабяцана князю Паўлу Сапе-

гу. Гэта настолькі абразіла Януша, што ён раптоўна пакінуў Варшаву. Усцешыла яго, але так і не зменшыла крыўду сустрэча з жывым і здаровым... Янам Кішкам. Радзівіл зразумеў, што падманная вестка пра смерць Кішкі была пушчана кімсьці з нядобразычліўцаў.

Праз год пасля гэтых падзей на сойме ў Брэсце Януш пастараўся расквітацца. Ён запатрабаваў ад Яна Казіміра, каб той менавіта яго прызначыў ваяводам Віленскага ваяводства. Кароль вымушаны быў згадзіцца. У наступным годзе памёр Ян Кішка. Януш пачаў барацьбу за яго пасаду. Кароль доўга ўпарціўся, але ўсё ж пагадзіўся. Так Радзівіл атрымаў у свае рукі дзве галоўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім.

А тым часам Багдан Хмяльніцкі вёў перамовы з Масквой. 8 студзеня 1654 года ў горадзе Пераяславе быў падпісаны дагавор. Украіна добраахвотна ўз'ядноўвалася з Расіяй. Гэта было поўнай нечаканасцю для кіруючых колаў Рэчы Паспалітай, Вялікаму ж княству Літоўскаму прынесла страшэнную бяду. Цар Аляксей Міхайлавіч афіцыйна абвясціў вайну. Яго войскі разам з украінскімі казакамі перайшлі мяжу. Пачалася жорсткая вайна. Да таго ж цар вырашыў у гэтай барацьбе абаперціся на падтрымку праваслаўнага насельніцтва княства. Ён разаслаў па ўсёй краіне граматы-звароты да адзінаверцаў. Шэраг гарадоў без бою адчынілі яму свае брамы. Войскі Вялікага княства Літоўскага цярпелі паражэнні адно за адным. Нават гарнізон Смаленска не змог утрымацца і склаў зброю.

Палякі ж, як і заўжды, быццам забыліся пра існаванне дагавору аб ваеннай узаемадапамозе. Яны чакалі, калі Вялікае княства Літоўскае аслабне.

Нечаканым быў паварот падзей і для Януша Радзівіла. Ён спрабаваў што-небудзь зрабіць, як-небудзь сабраць сілы ў кулак і адбіць навалу з усходу. Але не змог. Перашкодзілі гэтаму і агульная разгубленасць шляхты, і тое, што ён ужо не быў польным гетманам. Справа ў тым, што наш зямляк паддаўся на настойлівыя просьбы караля і саступіў гэтую пасаду Вінцэнту Гансеўскаму. З тымі войскамі, якія Януш змог «наскрэбці», ён выступіў супраць рускіх. Бітва адбылася 12 жніўня 1654 года ля невялічкага гарадка Шклова. Войскі рускага цара значна пераважалі па колькасці, дый узброены былі лепей, таму разбілі войскі Радзівіла ўшчэнт. Яшчэ большае паражэнне пацярпеў ён праз некалькі дзён у бітве ля вёскі Шпялевічы.

Зразумеўшы, што сваімі сіламі не справіцца і што палякі не дапамогуць, Януш зноў узяўся за пяро. Ён піша і Багдану Хмяльніцкаму, і Юрыю II Ракочы (сыну свайго старога знаёмага). З'явіўся ў яго і новы адрасат — шведскі кароль Карл X Густаў. Швецыя валодала ў той час не толькі сваёй сучаснай тэрыторыяй, але і значнай часткай Прыбалтыкі. З іх дапамогай Януш разлічваў утварыць антырускую і антыпольскую кааліцыю. Ён спадзяваўся разбіць захопнікаў з усходу і дабіцца таго, каб Вялікае княства Літоўскае стала поўнасцю самастойнай дзяржавай. Гэтымі планамі Радзівіл падзяліўся з Гансеўскім і літоўскімі сенатарамі. Але не знайшоў паразумення.

Раз'юшаны Януш вырашыў працягваць барацьбу з рускімі, і войска Вялікага княства накіравалася да Магілёва. Горад аблажылі і спрабавалі захапіць. Але не змаглі і ў маі 1655 года адступілі.

Рускія ж войскі ў гэты час развівалі свае поспехі. Яны заваёўвалі горад за горадам. Здалася нават Вільня.

У гэты час на Польшчу напала Швецыя. Шведы засталі зусім не падрыхтаваную да абароны краіну і за некалькі месяцаў захапілі амаль усю тэрыторыю. Дарэчы, Багдан Хмяльніцкі заключыў з імі саюз і кінуў казацкую кавалерыю «на ляхаў». Януш жа Радзівіл з групай паплечнікаў вырашыў скарыстаць гэтую акалічнасць. 18 жніўня 1655 года было падпісана пагадненне аб пераходзе Вялікага княства Літоўскага ад уніі з Польшчай да уніі са Шве-

цыяй. Пагадненне падкрэслівала, што гэта аб'яднанне раўнапраўных партнёраў, а не падначаленне адной дзяржавы другой. Сярод іншых пунктаў можна назваць такія, як свабода голасу, веравызнання. Адзін з пунктаў прадугледжваў узаемадапамогу ў выпадку вайны, але была зроблена заўвага: «...выключаючы караля і Карону Польскую (гэта значыць Польшчу. — **М. Б.**)».

Узрадаваныя гэтай падзеяй, шведы абяцалі саюзнікам ледзь не залатыя горы. Прынамсі, забяспечыць іх зброяй, порахам і іншымі неабходнымі рэчамі. Абяцалі выплачваць жалаванне, даваць грошы на харч. Войска падтрымала князя Радзівіла, гатовае хоць зараз выступіць у паход. Але шведы сваё слова не стрымалі. Не было ад іх ні грошай, ні пораху, ні падтрымкі. Усё гэта выклікала абурэнне і гнеў. Успыхнуў бунт. Януш застаўся без арміі. Адданымі яму засталіся толькі тысяча ваяроў. Дый тыя былі іншаземнымі наёмнікамі, якія служылі за грошы. Але наш зямляк не апусціў рукі. Невядома, на што ён спадзяваўся. Можа, на фартуну, можа, на сваё абаянне, а можа ўсё ж такі, нягледзячы на факты, на дапамогу адзінаверца — караля Карла X Густава. Януш Радзівіл вырашыў змагацца з бунтаўшчыкамі. Ён заняў Тыкоцынскі замак і пачаў рыхтаваць яго да абароны. Але... Сярод тых, хто застаўся з неўтаймоўным князем, былі і ворагі — тыя, хто жадаў распаду Рэчы Паспалітай. 12 снежня 1655 года Януш раптоўна памірае. Пасля смерці на яго целе выступілі чорныя плямы. Гэта яскрава сведчыць пра тое, што князь Радзівіл быў атручаны.

Так у невялікім замку скончылася жыццё славутага князя. У апошні раз прадстаўнік магутнага магнацкага роду Радзівілаў зрабіў спробу ліквідаваць тую памылку, якую зрабілі магнаты Вялікага княства Літоўскага (у тым ліку і яго продкі), заключыўшы Люблінскую унію.

Гэта было вельмі супярэчлівая асоба. У ёй спалучаліся і фамільная ганарыстасць, і гарачы патрыятызм, і вялікія веды, і жорсткасць... Аднак, дзякуючы намаганням такіх асоб, гісторыя рухаецца наперад.





МІКОЛА БАНДАРЭНКА

# БЕНЯДЗІКТ ДЫБОЎСКІ

На мемарыяльнай дошцы, што ўстаноўлена на Доме прафсаюзаў Мінскай вобласці (плошча Свабоды, дом № 23), сярод імёнаў вядомых дзеячаў літаратуры, мастацтва і навукі, удзельнікаў вызваленчага руху супраць царызму — былых выхаванцаў Мінскай гімназіі — ёсць і імя Бенядзікта Дыбоўскага. Цяжка нават пералічыць усе галіны навукі, у якіх ён сказаў сваё важкае слова. Заолаг, прыродазнаўца, урач, публіцыст, Бенядзікт Іванавіч Дыбоўскі нарадзіўся 29 красавіка 1833 года ў маёнтку Адамарын (за 4 км на ўсход ад вёскі Дубравы, недалёка ад таго месца, дзе пачынае свой 78-кіламетровы шлях рака Уша) Вілейскага павета Мінскай губерні (цяпер Маладзечанскі раён). Пра Б. Дыбоўскага ў «Энцыклапедычным слоўніку» Ф. І. Бракгаўза і А. І. Эфрона (С.-Пецярбург, 1893, с. 299) запісана, што ён «у 1864 годзе прыгавораны да 15-гадовай катаргі (недакладнасць — да 12 гадоў катаржных работ. — **М.Б.**) і сасланы ў Сібір; даследаваў там Байкальскае возера, раку Амур і ўзбагаціў заалогію шэрагам новых адкрыццяў. У 1877 годзе ён вярнуўся на радзіму, але хутка, жадаючы вывучаць Камчатку, узяў месца акружнога ўрача ў Петрапаўлаўску». Бацькі будучага вучонага належалі да шляхты сярэдняй рукі, даволі адукаванай для свайго часу. Дыбоўскія спагадліва ставіліся да прыгонных сялян, аказвалі ім бясплатную медыцынскую дапамогу.

Бацька яго ўдзельнічаў у паўстанні 1830—1831 гадоў пад кіраўніцтвам Ш. Канарскага, а таксама ў паўстанні 1863 года. Ён быў «вучоным-агароднікам». І, як мяркуюць, упершыню ў Беларусі пачаў вырошчваць салату, нядрэнна на гэтым зарабіў і ўзяў у арэнду Адамарын, акрамя таго, арандаваў бліжэйшы (12 кіламетраў ад Адамарына) маёнтак Тонвы, які належаў Пшысецкім. Калі ажаніўся з дачкой Пшысецкіх, Саламеяй, Тонвы дасталіся маладым. Дыбоўскія жылі то ў Тонвах, то ў Адамарыне, у бацькоў Саламеі. Шасцёра іх дзяцей (Бенядзікт, Тадэвуш, Уладзіслаў, Ганна, Каміла, Мальвіна) і прыёмная дачка Ізабэлла Шверын лічылі абодва дамы роднымі. Пазней Бенядзікт у сваіх успамінах будзе з вялікай любоўю апісваць прыгажосць гэтых мясцін. «Адамарын, — піша ён, — быў чароўным месцам, акружаным прыгожымі бярозавымі, з дамешкам яліны і хвоі, гаямі сярод узгорыстага наваколля. Праз вялікі сад цёк ручай, вада якога каскадамі спадала са ставу: наўзбоч стаяў белы каменны дом і драўляны флігель».

Дзяцінства Б. Дыбоўскі правёў у вёсцы — у Адамарыне, а таксама ў маёнтку сваіх бацькоў Тонвах і ў Сенніцы, дзе жыла яго цётка. З ранніх гадоў хлопчык чула ставіўся да дрэў, кветак і раслін. У перыяд вучобы ў Мінскай гімназіі пачаў рыхтаваць сябе да далёкіх падарожжаў, зімой спаў на двары,

узбіраўся па вертыкальнай сцяне з дапамогай жэрдкі з цвікамі, многа ездзіў конна, хадзіў пешшу.

З успамінаў Бенядзікта паўстае вобраз сям'і — вельмі дружнай, унутрана багатай і шчырай, з культам светлых грамадзянскіх ідэалаў, вялікім піетэтам перад ведамі і адукацыяй. Біёграф Б. Дыбоўскага, прафесар Габрыэль Бжэнк піша, што ўсе яны вызначаліся вялікімі інтэлектуальнымі здольнасцямі і выдатнай памяццю. Асаблівы культ існаваў у адносінах да прыродазнаўства.

У Адамарыне, паводле ўспамінаў Б. Дыбоўскага, арандатары маёнтка жылі з вяскоўцамі адной сям'ёю. Звычайна разам з прыслугай садзіліся за стол, разам з раднёю рэкрута бедавалі над яго лёсам. Дарэчы, бабка Бенядзікта вырошчвала ў Адамарыне розныя «нетыповыя» па тым часе карысныя расліны, у тым ліку лекавыя: шалфей, мяту, рамонак, рэвень і інш. Яна вучыла ўнукаў, як збіраць травы, сушыць, як імі карыстацца. Часта бабуля Францыска брала з сабой Бенядзікта. Яны ішлі на луг збіраць зелле, а затым неслі яго хворым прыгонным сялянам. Гэтыя прагулкі развівалі ў хлопчыка назіральнасць, і ў далейшым ён адчуваў сябе ў лесе і полі як дома, пазнаваў кожную птушку па голасе і палёце. З вялікай цеплынёй Б. І. Дыбоўскі ўспамінаў гэтыя прагулкі, адзначаў, што менавіта яны абудзілі ў ім любоў да прыроды, якая захавалася ў яго на ўсё жыццё.

Саламея Дыбоўская навучала асновам прыродазнаўства паводле кнігі «Апісанні прадметаў натуральнай гісторыі» — папулярнага падручніка для моладзі.

У Тонвах меліся дзікія звяры — ваўчаня, медзведзяня, лісяня. Іх апякаў галоўным чынам Бенядзікт. Але сапраўдны «хатні звярынец» арганізаваў Бенядзікт ужо ў час вучобы ў гімназіі. Шмат істот перабыло ў гэтым звярынцы: вожыкі, зайцы, трусы, суслікі, жураўлі, качкі, канарэйкі, егіпецкі голуб, чарапахі, рыбы, восы, конікі, цвыркуны і інш.

Першапачатковую адукацыю Бенядзікт Дыбоўскі атрымаў дома (з ім займаліся бацькі і хатнія настаўнікі), яшчэ да паступлення ў гімназію ён валодаў чатырма мовамі — рускай; польскай, нямецкай, французскай. У 1847 годзе хлопчык змог паступіць адразу ў трэці клас Мінскай класічнай гімназіі. У сваіх успамінах Б.Дыбоўскі піша: «Адзінай светлай асобай, якая адрознівалася ад іншых настаўнікаў, быў Радзевіч. Выпускнік Маскоўскага універсітэта, былы асістэнт пры кафедры фізікі ў Маскве, ён захапляў нас усебаковымі ведамі, тактоўнасцю і выдатным выкладаннем. Адразу ж пасля прыезду ў Мінск, ён арганізаваў у гімназіі метэаралагічную станцыю, вучыў нас запісваць назіранні: у кабінеце фізікі мы самі рабілі розныя доследы. Радзевіч пакрысе знаёміў нас нават з неабавязковымі прадметамі, напрыклад, з асновамі хіміі». Дыбоўскі пісаў, што ўменню абыходзіцца з метэаралагічнымі прыборамі ён абавязаны свайму настаўніку фізікі Радзевічу.

Пасля заканчэння гімназіі восенню 1853 года Бенядзікт паступіў на медыцынскі факультэт Дэрпцкага (зараз Тартускага) універсітэта. У Дэрпце ён жыў вельмі сціпла. Бенядзікт апісвае сваю «кватэру» ў мадам Гертруд, дзе ён жыў разам са стрыечным братам Эмілем яшчэ да прыезду ў 1857 годзе брата Уладзіслава, называе яе «ўбогай», харчаваліся яны галоўным чынам хлебам і малаком. У 1857 годзе за ўдзел у дуэлі ў якасці секунданта Б. Дыбоўскі быў выключаны з універсітэта. Ён паехаў у Брэслаў (зараз Вроцлаў) і там скончыў універсітэт. Пасля гэтага Б. Дыбоўскі пераехаў у Берлін для ўдасканальвання сваіх прыродазнаўчых ведаў. Ён пазнаёміўся з вучэннем Ч. Дарвіна, стаў яго прыхільнікам і пашыральнікам яго эвалюцыйнай тэорыі. Пасля двухгадовай падрыхтоўкі ў Берлінскім універсітэце ў 1860 годзе Б. Дыбоўскі абараніў дысертацыю на атрыманне ступені доктара медыцыны і хірургіі.

Вярнуўшыся на радзіму, Б. Дыбоўскі ў Дэрпце абараніў яшчэ адну дысертацыю для пацверджання замежнага дыплома. У 1861—1862 гадах ён наведаў заалагічныя музеі Пецярбурга і Стакгольма. Навуковыя і грамадскія погляды Б. Дыбоўскага складваліся пад уплывам рэвалюцыйнага руху ў Расіі і Польшчы. У 1861 годзе ў Пецярбургу ён зблізіўся з мясцовым камітэтам польскіх афіцэраў-рэвалюцыянераў на чале з З. Серакоўскім і будучым генералам Парыжскай камуны Я. Дамброўскім. У гэты ж час ён пазнаёміўся і з некаторымі рускімі рэвалюцыянерамі. Камітэт афіцэраў даручыў Б. Дыбоўскаму арганізаваць падполле ў Тарту. Малады вучоны прыняў удзел у маі 1861 года ў Вільні ў маніфестацыі пратэсту супраць расстрэлу царскімі войскамі маніфестацыі ў Варшаве, за што быў арыштаваны. Гэта перашкодзіла яму ўзначаліць кафедру заалогіі ў Кракаўскім універсітэце, паколькі аўстрыйскі ўрад не захацеў мець у сябе «бунтаўшчыка».

У 1862 годзе Б. Дыбоўскі пераехаў у Варшаву, дзе быў выбраны прафесарам кафедры заалогіі і параўнальнай анатоміі Галоўнай школы (універсітэта). Лекцыі Дыбоўскага адразу прыцягнулі ўвагу моладзі сваёй навізной, рэвалюцыйнасцю. Малады прафесар збіраў аўдыторыю вельмі рана, на досвітку. Была прычына такіх ранніх лекцый. Пазней аўдыторыя служыла месцам сходаў членаў нацыянальнага паўстанцкага ўрада. Сціплая кватэра Дыбоўскага на вуліцы Варэцкай таксама з'яўлялася месцам падобных сходаў. Малады прафесар, займаючыся выкладаннем і навукай, адначасова працягваў рэвалюцыйную дзейнасць. Ён быў актыўным удзельнікам стварэння «Літоўскага правінцыяльнага камітэта», які кіраваў рэвалюцыйным рухам у Беларусі і Літве. Дыбоўскі хутка зблізіўся з рэвалюцыйнымі коламі, стаў членам арганізацый, дзейнасць якіх была накіравана супраць царскага рэжыму, прадастаўляючы ім для сходаў універсітэцкія аўдыторыі. У самы разгар паўстання, з чэрвеня па верасень 1863 года, кіраўніцтва паўстання збіралася ў заалагічным і батанічным кабінетах ад'юнкт-прафесара Галоўнай школы Б. Дыбоўскага. У лютым 1864 года ўлады арыштавалі яго. Ён трапіў у турму «Павяк», а затым у Дзесяты павільён Варшаўскай цытадэлі. Дыбоўскі стойка трымаўся ў час допыту, не выдаў сваіх таварышаў. Вучонага абвінавацілі ў тым, што «ён аказваў істотную дапамогу паўстанцам (1863 год), дазваляў сакратарам вышэйшых рэвалюцыйных улад у Варшаве збірацца ў яго аўдыторыі і памяшканні Галоўнай школы з мэтай абмену карэспандэнцыяй гэтых жа ўлад», што, як пацвярджаюць тры сведкі, «адбывалася часам у прысутнасці самога Дыбоўскага».

Б. Дыбоўскі быў прыгавораны да пакарання смерцю. Толькі дзякуючы хадайніцтву шэрагу вучоных Расіі і Германіі, і асабліва прафесараў Рэйхерта, Рэйснера і Грубе, смяротны прыгавор замянілі катаргай і ссылкай у Сібір. Па сведчанню жандармскага афіцэра Н. Югана, Дыбоўскі «ператварыў сваю аўдыторыю ў рэвалюцыйны сакратарыят, за што і сасланы на катаржныя работы».

Удзел сям'і Дыбоўскіх у паўстанні быў літаральна пагалоўны. Ужо вельмі сталы бацька, усе яго дзеці, Ізабэлла Шверын, пляменнікі і пляменніцы — усе адыгрывалі нейкую ролю ў так званай «Наваградскай партыі», лакальнай арганізацыі паўстанцаў. Прозвішча Дыбоўскіх пастаянна сустракаецца ў матэрыялах следства па справах наваградскіх паўстанцаў, таму і помста ўлад была вельмі суровай. У мінскай турме апынуліся, акрамя брата Уладзіслава, яго бацька, стрыечны брат Эміль Дыбоўскі, з якім Бенядзікт жыў у адным пакоі ў час вучобы ў Дэрпцкім універсітэце, сястра Эміля — Юзя, другая сястра паехала за мужам, асуджаным на катаргу, у Сібір. Другі брат, Тадэвуш, паранены ў часе паўстання, здолеў збегчы ў Галіцыю, у эміграцыі апынулася і сястра Каміла з мужам Віктарам Катовічам, а таксама Павел Дыбоўскі і другі стрыечны брат Бенядзікта — брат Эміля.

Калі бацька Бенядзікта выйшаў з турмы ў Мінску, уся яго маёмасць была канфіскаваная (у тым ліку і Тонвы), на яго налажылі кантрыбуцыю, таму «зусім збяднелага і прыгнечанага старога ўзяла да сябе яго далёкая радня, Давыдоўскія, у доме якіх ён скончыў сваё працавітае жыццё».

Яшчэ ў час знаходжання ў турме Дыбоўскі старанна вывучаў кнігі аб фауне Сібіры. Пазней ён успамінаў пра гэта: «Цяжка было працаваць. Шум, дрэннае харчаванне і асвятленне, рух у перапоўненай камеры перашкаджалі чытанню, але трэба было прывыкаць». 10 жніўня 1864 года з Пецярбургскага вакзала Варшавы адпраўлялася група ссыльных з 50 чалавек, у складзе якой знаходзіўся і Дыбоўскі. Паездка доўжылася аж восем месяцаў — да вясны наступнага года. Калі Дыбоўскі выязджаў з Варшавы, сябры здолелі ўручыць яму пакунак, у якім было некалькі навуковых кніг, мікраскоп, лупа, хірургічныя інструменты і невялікая аптэчка. На адным з этапаў у час праверкі ў яго канфіскавалі аптэчку, а інструменты ён здолеў схаваць. У асабістых дзённіках Дыбоўскі падрабязна апісвае свой шлях з Варшавы: праз Пецярбург і Маскву — у Сібір. Сам гэты шлях быў сапраўдным выпрабаваннем. Да Ніжняга Ноўгарада цягніком, потым коньмі. Дзень і ноч амаль без адпачынку везлі іх, закутых у кайданы, у невялікіх калясках без спінак, з якіх лёгка было выпасці і быць раздушаным. Ішлі і пешшу. Так адолелі восем тысяч кіламетраў. Спыніліся ў Іркуцку.

Прафесар С. Лапцеў у артыкуле «Матэрыялы да біяграфіі і навукова-даследчай дзейнасці Б. Дыбоўскага ва Усходняй Сібіры» («Известия АН СССР», 7 серыя фізіка-мат. навук, 1928, № 8—10) прывёў цікавы дакумент — станавы спіс Дыбоўскага.

**...Ранейшае становішча, віна і пакаранне:**

*З дваран. Былы прафесар Варшаўскай Галоўнай школы; за дазвол сакратарам вышэйшых рэвалюцыйных улад у Варшаве збірацца ў аўдыторыі Дыбоўскага пазбаўлены ўсіх правоў маёмасці і сасланы на катаржныя работы на дванаццаць гадоў. Калі размеркаваны, з спраў не відаць, прыбыў у Іркуцк 18 лістапада 1864 года, адпраўлены на Нерчынскія заводы 6 сакавіка 1865 года. На аснове высачайшага павялення 16 красавіка 1866 года тэрмін работ скарочаны напалову і ўсяміласцівейшаму маніфесту 28 кастрычніка таго ж года на $^1/_4$ частку; вызвалены ад работ за сканчэннем паложанага тэрміну і прылічаны на пасяленне ў Бадайскую воласць Іркуцкага округа 25 кастрычніка 1868 года; на аснове высачайшага павялення 25 мая 1868 года прылічаны ў сяляне 16 кастрычніка 1871 года.*

**Верна:**

*в.п. дазёрца пасяленняў* *Турчанінаў*

Ужо будучы на этапах, вучоны працягваў цікавіцца прыродай Сібіры. Асабліва яго ўвагу прыцягнулі Байкал і Ангара. У сваім дзённіку ён запісаў: «Нейкае невыказнае пачуццё глыбокай зацікаўленасці з'явілася ў мяне да гэтай ракі».

У Іркуцку Б. Дыбоўскі звязаўся з сакратаром Сібірскага аддзела Рускага Геаграфічнага таварыства Рыхардам Маакам, з якім у свой час вучыўся ў Тарту. З яго дапамогай Бенядзікт стаў членам таварыства, атрымаў магчымасць карыстацца бібліятэкай. У Іркуцку Дыбоўскі выпрасіў у казарменага повара рэдкі экземпляр забітага сібірскага глушца, зрабіў з яго чучала і з дапамогай Р. Маака адправіў у Варшаву свайму сябру Уладзіславу Тачаноўскаму.

З Іркуцка Бенядзікта Іванавіча накіравалі за Байкал, у сяло Сівакова, паблізу Чыты. Тут ён, як і іншыя ссыльныя, сек і вывозіў лес, рамантаваў дарогі, майстраваў лодкі. Вакол сябе Б. Дыбоўскі сабраў здольных даследчыкаў прыроды — швейцарца Альфонса Парвакса (у мінулым — майстар па

вырабу чучал), сваіх землякоў Віктара Гадлеўскага (па прафесіі агранома), Міхаіла Янкоўскага (былога студэнта земляробчага інстытута ў Горках, добрага паляўнічага, які пад кіраўніцтвам Б. Дыбоўскага навучыўся прэпарыраваць птушак і грызуноў), Уладзіслава Ксенжапольскага і іншых. У вольны час лячыў людзей. У Сівакове Б. Дыбоўскі стаў вядомы як вопытны ўрач. Бенядзікт Іванавіч пасля цяжкага працоўнага дня разам са сваім сябрам Віктарам Гадлеўскім збіраў расліны, лавіў насякомых, птушак, млекакормячых, усё гэта калекцыяніраваў і толькі яму вядомымі шляхамі адпраўляў на радзіму.

Неўзабаве Дыбоўскі даведаўся, што ў даліне ракі Туры, каля Дарасуна, ёсць мінеральныя крыніцы. Пры дапамозе Усходне-Сібірскага аддзела Геаграфічнага таварыства Дыбоўскі атрымаў дазвол на пераезд у сяло Дарасун. Тым часам выйшаў дэкрэт, у якім гаварылася, што ссыльныя, якія жадаюць прымаць удзел у забудове пасёлкаў, вызваляюцца ад прымусовых работ. У 1866 годзе Б. Дыбоўскі, В. Гадлеўскі і А. Парвакс, атрымаўшы дазвол на вольнае пасяленне, пераехалі ў малады курортны пасёлак паблізу Чыты. Разам з Гадлеўскім пабудавалі дом, у якім Дыбоўскі на працягу першых двух гадоў лячыў буратаў, а Гадлеўскі ў гэты час займаўся паляваннем. Абодва збіралі навуковыя калекцыі. Дыбоўскі стаў адным з першых урачоў, якія працавалі ў Дарасуне на мінеральных крыніцах у раёне Хабараўска і Уладзівастока. Б. Дыбоўскі высока цаніў лекавыя вартасці дарасунскіх мінеральных вод. Толькі дзякуючы ім ён змог аднавіць падарванае катаргай здароўе. Дыбоўскі часта ездзіў па ваколіцах Дарасуна, наведваючы хворых — рускіх і буратаў, апісваў быт, звычаі, вераванні, мову буратаў, называючы гэты народ «здольным да прагрэсу і дастойным, каб ім займаліся з любоўю». Адгэтуль яго выклікалі для ліквідацыі тыфу і шкарлятыны. Так што нейкая палёгка з цягам часу з'явілася.

Пры садзейнічанні Сібірскага аддзела Геаграфічнага таварыства Б. Дыбоўскі атрымаў магчымасць займацца вывучэннем расліннага і жывёльнага свету Забайкалля.

Да Дыбоўскага ў біялагічнай навуцы панавала думка, што расліны і жывёльны свет Сібіры нічым не адрозніваецца ад расліннага і жывёльнага свету Усходняй Еўропы, што фауна Байкала вельмі бедная і не заслугоўвае ўвагі. Дыбоўскі ж меркаваў, што кожная тэрыторыя ў залежнасці ад існуючых там умоў павінна мець адпаведны раслінны і жывёльны свет. Гэтыя здагадкі бліскуча пацвердзіліся. Дыбоўскі адкрыў і апісаў дзесяткі відаў птушак, рыб і насякомых, прасцейшых жывёлін, якія не сустракаліся нідзе, акрамя Сібіры. Вучоны сабраў у Дарасуне больш як 500 птушыных яек, падрыхтаваў больш за 40 прэпаратаў 26 відаў рыб рэк Інгоды і Анопы, з іх 12 відаў апісаў упершыню. 18 ліпеня 1868 года палітычны зняволены праявіў смеласць і падаў прашэнне аб дазволе яму і В. Гадлеўскаму пераехаць у іншы раён басейна ракі Амур. Генерал-губернатар Усходняй Сібіры наклаў рэзалюцыю: «Няхай накіруе сваю дзейнасць на возера Байкал. Перавесці яго ў Іркуцкую губерню, а працы перадаць Сібірскаму аддзелу Геаграфічнага таварыства».

Заможны Іркуцкі купец Пярмікін згадзіўся здаць у арэнду Дыбоўскаму ў Култуку на паўднёвым беразе Байкала ў падножжы Хамар-Дабана, за 90 км ад Іркуцка, жылы дом разам з гаспадарчымі пабудовамі і агародам за 15 рублёў у год. Дыбоўскі адразу заплаціў патрэбную суму і разам з Віктарам Гадлеўскім і Уладзіславам Ксенжапольскім выехаў у Култук, які на працягу некалькіх гадоў павінен быў стаць месцам іх жыхарства. Гэта ў часы Дыбоўскага было адно з вельмі глухіх месц губерні. У ім налічвалася не больш 32 двароў каля самага ўзбярэжжа возера. Жыхары займаліся рыбнай лоўляй, паляваннем, кедравым промыслам.

Па словах прафесара С. Лапцева, які ў 1927 годзе наведаў Култук, дом, у якім жыў Дыбоўскі, захаваўся і з'яўляўся адным з культурных помнікаў Култука. Дом гэты невялікі. Пакой, у якім жыў Дыбоўскі, складаў 9,3 кв. м, а лабараторыя, дзе ўпершыню байкальская фауна прайшла перад дапытлівымі вачамі вучонага-заолага, была крыху больш 10 кв. м. Побач з домам, за некалькі дзесяткаў метраў, шумеў Байкал і да двара калісьці шчыльна падступала тайга.

Дзякуючы хадайніцтву генерала Кукеля і членаў Геаграфічнага таварыства ссыльныя атрымалі дазвол на свабоду перамяшчэння і набыццё рэчаў, неабходных для правядзення работ. Ксенжапольскі завёў агародніную гаспадарку, пабудаваў краму і пякарню, зрабіўшыся, такім чынам, не толькі карміцелем, але і казначэем.

Дыбоўскі пачынае грунтоўна даследваць фауну і фізічную геаграфію Байкала. Дзякуючы нястомнай энергіі ён ператварыў гады сваёй ссылкі ў гады інтэнсіўнай навуковай працы. Сродкаў для працы ні ад улад, ні ад Сібірскага аддзела Геаграфічнага таварыства вучоны не атрымаў і быў вымушаны патраціць грошы, якія пазычыў у таварыша па ссылцы — урача Ігнація Лагоўскага. Разам з В. Гадлеўскім і А. Парваксам Бенядзікт Іванавіч абсталяваў метэаралігічную станцыю і абсерваторыю. Са сваімі сябрамі Гадлеўскім і Ксенжапольскім Дыбоўскі тут (на Байкале) пачынае праводзіць работы па праграме, зацверджанай Геаграфічным таварыствам, канструюе прымітыўныя прыборы. Для вымярэння глыбіні возера прыстасавалі звычайны бязмен такім чынам, што па вазе вяроўкі вызначалі глыбіню. З цягам часу замянілі гэты прыбор новым, які зрабілі са старых спружын французскіх вагаў. Гадлеўскі, апрача таго, змайстраваў «глеяхват», якім можна было даставаць глей са дна возера. Дыбоўскі непасрэдна сам вёў даследаванні, нават уласнаручна віў вяроўкі, неабходныя для работ на Байкале. Даследчыкі кіркамі высякалі палонкі, у іх з вечара апускалі занды, а раніцай вынімалі. Пазней ён пісаў, як разам з таварышамі па некалькі тыдняў праводзіў на лёдзе возера і ў час моцных марозаў спаў на санях. Пасля такіх экспедыцый нярэдка даводзілася вяртацца ў Култук з абмарожанымі тварамі і пачырванелымі вачыма. Сваімі даследаваннямі вучоны даказаў, што жывёльны свет Байкала надзвычай багаты. У 1868—1871 і 1875—1876 гадах разам з Гадлеўскім Дыбоўскі апісаў своеасаблівую фауну возера Байкал і яго прыродныя ўмовы (вымярэнне глыбінь, тэмпературы, узровень вады). 30 сакавіка 1876 года была ўзята першая і адзіная да 1925 года серыя тэмператур вады з глыбіні 1320 м. Па ініцыятыве Дыбоўскага ўпершыню праведзена вывучэнне хімічнага саставу вады Байкала, грунтоўна вывучаны рэльеф яго дна.

Даследаваннямі Байкала і Ангары, а таксама навакольных лясоў і гор Дыбоўскі займаўся некалькі гадоў. Адсюль ён адправіў у еўрапейскія музеі звыш 2500 каштоўных экземпляраў прэпарыраваных птушак і звыш 100000 насякомых. Многія з іх і зараз знаходзяцца ў Інстытуце заалогіі Расійскай акадэміі ў Пецярбургу. Частку сваіх багатых збораў — малюскаў і губак — Б. Дыбоўскі рэгулярна перадаваў для апрацоўкі малодшаму брату Уладзіславу, які ў 1875 годзе апублікаваў вялікую працу аб малюсках Байкала, якая адразу ж зрабіла яму прызнанне сярод малюсказаолагаў усёй Еўропы. У 1878 годзе У. Дыбоўскі атрымаў ступень доктара біялагічных навук, затым пасяліўся ў ваколіцах Навагрудка, калекцыяніраваў віды раслiннага і жывёльнага свету беларускай зямлі, апублікаваў звыш 100 навуковых прац.

Дыбоўскі карыстаўся любой магчымасцю, каб папоўніць веды аб нязведанай прыродзе Сібіры і Далёкага Усходу. Ён з радасцю прыняў запрашэнне працаваць урачом дзяржаўнай камісіі генерала Скалкова, які летам 1869 года аб'язджаў Прымор'е і Прыамур'е. Па дарозе ў Іркуцк І. Скал-

кову ампутавалі руку. Рана не зажывала. Патрабавалася пастаяннае назіранне ўрача, пакуль ён — старшыня камісіі — следуе на Усход. Так у якасці асабістага ўрача і натураліста Бенядзікту Іванавічу ўдалося «мімаходам» пазнаёміцца з прыродай Прыамур'я. Калі генерал спытаў вучонага, якую прызначыць яму плату, то пачуў адказ: «З мяне дастаткова, што я атрымаў магчымасць падарожнічаць і працаваць над калекцыямі, якія мне ўдасца скласці». З камісіяй Скалкова Дыбоўскі падарожнічаў па Амуры і Усурыйскім краі і пабываў ва Уладзівастоку. Частку гэтага шляху прайшоў са знакамітым географам М. Пржавальскім.

Б. Дыбоўскі прагнуў пабываць у Тункійскай даліне, на возеры Касагол. Дапамог у гэтай справе чыноўнік па асобых даручэннях Карл Нейман, які хадайнічаў перад губернатарам Усходняй Сібіры аб дазволе ўключыць Дыбоўскага, Гадлеўскага, Чаканоўскага і Вронскага ў склад экспедыцыі ў Тункійскі край.

У Забайкаллі Б. Дыбоўскі не толькі даследаваў фауну края, але таксама вырашыў такія практычныя пытанні, як высвятленне прычыны недахопу лясоў у Дауріі, магчымасць павялічыць у Забайкаллі хлебаробства.

Пазней Дыбоўскі неаднаразова бываў разам са сваімі сябрамі ў Прыамурскім краі і на ўзбярэжжы Японскага мора, вывучаючы там раслінны і жывёльны свет. У гэты час ён зблізіўся з такімі буйнымі даследчыкамі Сібіры, як географ І. Чэрскі, геолаг А. Чаканоўскі. Адам Мальдзіс сцвярджае, што «ёсць падставы меркаваць, што ў час адной з паездак у Нерчынск Дыбоўскі пазнаёміўся з вялікім рускім рэвалюцыйным дэмакратам М. Чарнышэўскім».

Б. Дыбоўскі, В. Гадлеўскі і М. Янкоўскі атрымалі магчымасць наведаць даліну Амура і Усурыйскі край. У старым Курухтайтуі яны змайстравалі лодку, якую назвалі «Надзеяй», і 9 жніўня 1873 года ў суправаджэнні мясцовых казакоў, рушылі ў плаванне. Праз шэсць тыдняў, пераадолеўшы неймаверныя цяжкасці, падарожнікі дасягнулі Благавешчанска. Тут яны атрымалі бясплатныя білеты на параход «Інгода», які плыў у Хабараўск. Пра знаходжанне Дыбоўскага ў 1874 годзе тут шмат гадоў пасля жыхарка Хабараўска Рома Фрызе пісала: «Зімой 1874 года ў наша жыццё ўнosіў разнастайнасць вядомы вучоны-арнітолаг Дыбоўскі, які пасяліўся з навуковай мэтай у сарака вярстах ад Хабараўска са сваімі двума таварышамі. Ён быў адным з самых цікавых калі-небудзь бачаных мною людзей. Заўсёды сціпла і чыста апрануты, даволі высокі, здаровы шатэн, прыгажун у поўным сэнсе слова, ён рабіў такое ўражанне, быццам ніколі ў жыцці не бачыў сябе ў люстэрку і таму не ведаў сваёй красы. Спакойны, ураўнаважаны філосаф, высокаадукаваны, Дыбоўскі як бы не адчуваў сваю перавагу над тымі, каго сустракаў, і ахвотна прымаў удзел ва ўсялякай пустой размове. А калі расказваў аб сваіх пошуках, то здавалася, быццам бы чытаем самую цікавую кнігу. Ён быў доктар медыцыны, прафесар Варшаўскага універсітэта, у выніку беспарадкаў 1863 г. яго саслалі ў Сібір, спачатку жыў у Забайкаллі, а ў 1874 годзе перабраўся на Амур, каб даследаваць яго фауну і флору. Жыццё ў тайзе без усялякіх выгод не абцяжарвала яго ніколькі. У выпадку патрэбы Дыбоўскі мог курыць маньчжурскі тытунь і есці пельмені з мяса янота з кунжутным маслам, не знаходзячы ў гэтым нічога асаблівага, лічачы, што ўсё ў прыродзе — божы дар. Навука і дапамога хворым іншародцам ды навакольным казакам замянялі яму ўсё ў жыцці. Я ні разу не бачыла яго сумным, не чула, каб ён паскардзіўся на лёс. Пасля гутаркі з ім станавілася лягчэй на душы і здавалася, што ўсё ў жыцці дробязі і тлен, акрамя ідэі, якая кіруе чалавекам. Атрымаўшы дазвол вярнуцца на радзіму Дыбоўскі паехаў у еўрапейскую Расію, але праз два гады мы зноў пабачылі яго ў Хабараўску. На гэты раз ён ехаў на Камчатку

павятовым урачом і меркаваў, жывучы сярод пракажоных, заняцца вывучэннем пракkilled»".

З Хабараўска Б. Дыбоўскі са сваімі сябрамі выехаў у станіцу Казакевічаву, якая паслужыла ім базай для экспедыцый па Усуры ў канцы 1873 і першай палове 1874 гадоў. Даследчыкі сабралі вялікую калекцыю чучал птушак і звяроў. У жніўні 1874 года Б. Дыбоўскі і В. Гадлеўскі адправіліся ва Уладзівасток. Нягледзячы на прадпісанне іркуцкага генерал-губернатара аб аказанні ім дапамогі, камандуючы Ціхаакіянскім флотам адмірал Афанасьеў не даў судна Дыбоўскаму для плавання па Японскім моры, а даў класічны адказ: «Для даследванняў марской фауны існуюць французы, немцы і англічане, няхай яны збіраюць усялякую дрэнь у моры; што ж датычыцца глыбінь, то мараку да іх няма ніякай справы — яму дастаткова ведаць мелі». Аднак гэта не перашкодзіла вучонаму працягнуць даследаванні на востраве Аскольд і на беразе заліва Стрэлак паблізу Уладзівастока. Б. Дыбоўскі склаў карту мясцовасці, адкрыў тут больш за сорак марскіх жывёлінгубак, малюскаў, ракападобных. Ён дапамог мясцовым жыхарам, прывіваючы ім у час успышкі воспы вакцыну, якую падрыхтаваў на месцы сам. Багацце раслiннага і жывёльнага свету вымушала працаваць апантана, вучоны адкрываў для сябе і сусветнай навукі сапраўдныя мацерыкі нязведанага. Міжволі падумаеш: адзін катаржанін зрабіў больш за цэлае аддзяленне Геаграфічнага таварыства.

Вярнуўшыся ў Култук зімой 1875—1876 года, Бенядзікт Іванавіч аднавіў свае байкальскія даследаванні. Было вядома, што ў зімовы час, калі Байкал пакрыты лёдам, ён самы зручны для сістэматычных даследаванняў у значным аддаленні ад берагоў, бо тады няма перашкоды ў выглядзе хваль, якія перашкаджаюць лоўлі і замерам. Каб не залежаць ад надвор'я ў час работы, даследчыкі пабудавалі лёгкую перасоўную лямцавую юрту, набылі чыгунную печку, устанавілі іх на сані і такім чынам маглі з поспехам рабіць пераезды з месца на месца, ад адной палонкі да другой і нават жыць, назапасіўшы прадуктаў, цэлымі тыднямі пасярод возера. І гэта дапамагло ў даследаваннях. Работы было шмат, а сродкаў не надта. Сібірскі аддзел Рускага Геаграфічнага таварыства выдзеліў усяго 77 рублёў на правядзенне даследаванняў на Байкале. Гэтага «капіталу» ледзь хапіла на набыццё посуду. Астатняе залежала ад самога вучонага — яго кемлівасці, вынаходлівасці і сапраўды катаржнай працы, асабліва ў зімовы час. Даследчыкі Байкала спрабавалі наймаць на цяжкія работы мясцовых сялян, але тыя «заломвалі» такія цэны, што даводзілася адмаўляцца ад іх паслуг, ды і не рызыкавалі мясцовыя жыхары адпраўляцца далёка ад берага. Міжволі «ўсе работы на возеры па прарубцы адтулін у лёдзе (палонак) мы вымушаны былі рабіць самі, — адзначаў Бенядзікт Іванавіч, — толькі незвычайнай фізічнай сіле Віктара Гадлеўскага, яго інтэнсіўнай працы, асабліва таму захапленню, з якім прыступілі да даследаванняў, мы абавязаны незвычайна вялікім вынікам».

Вялікія калекцыі, сабраныя Дыбоўскім па Сібіры і перададзеныя ім розным спецыялістам заходне-еўрапейскіх універсітэтаў, дазволілі ім адкрыць шмат новых, яшчэ не апісаных відаў, а яго назіранні і нататкі далі багаты матэрыял для вывучэння біялогіі сібірскага краю.

Дзейнасць Б. Дыбоўскага атрымала высокую ацэнку вучоных Расіі. Па прапанове Геаграфічнага таварыства ён быў узнагароджаны залатым медалём. Таварыства таксама дабівалася ў цара дазволу насіць Дыбоўскаму побач з прозвішчам прыстаўку «Байкальскі», ад чаго вучоны-дэмакрат рашуча адмовіўся.

Відны савецкі байкалазнаўца Г. Верашчагін так адзываўся аб работах вучонага: «Дыбоўскаму, які працаваў на Байкале ў 1867—1868 і 1875—1876 гадах, належыць гонар адкрыцця тых выключных асаблівасцей Байкала,

якія ў далейшым прыцягнулі да яго ўвагу ўсяго свету. Працы Б. Дыбоўскага, якія паклалі аснову вывучэння шэрагу галін прыроды Байкала, вызначаюцца для свайго часу выключнай паўнатой і дакладнасцю».

Фундаментальныя даследаванні фауны, флоры, геаграфіі Усходняй Сібіры і Далёкага Усходу і асабліва возера Байкал прынеслі Б. Дыбоўскаму шырокую вядомасць у Расіі і за яе межамі. Акадэмія навук і Рускае Геаграфічнае таварыства хадайнічалі перад царскім урадам аб яго вызваленні са ссылкі.

У чэрвені 1877 года Б. Дыбоўскага вызваляюць са ссылкі. Цяжкім было яго расставанне з сібірскімі мясцінамі. «Тое, што Б. Дыбоўскі пакідаў месца сваёй ссылкі са смуткам, — пісаў яго біёграф Я. Даманеўскі, — не здасца дзіўным, калі ўлічыць, што ён пражыў там лепшыя гады жыцця, праводзіў навуковыя даследаванні, якія потым прынеслі яму такое задавальненне, якое атрымлівае кожны вучоны, калі па сканчэнні работы яе вынікі пацвярджаюць тэарэтычныя высновы».

Нарэшце Б. Дыбоўскаму было дазволена вярнуцца на радзіму. Але пражыў тут ён нядоўга. Пабываў у Адамарыне, наведаў у Варшаве свайго былога настаўніка — вядомага заолага У. Тачаноўскага, устанавіў цесны кантакт з пецярбургскімі вучонымі. Яму прапаноўвалі кафедру ў Томскім універсітэце, працу ў еўрапейскіх заалагічных музеях. Аднак Дыбоўскі цвёрда вырашыў працягваць работы па даследаванні Сібіры і Далёкага Усходу. Вярнуўшыся са ссылкі, пачаў рыхтавацца да экспедыцыі на Камчатку. Пасля многіх гадоў ссылкі ў аддаленыя раёны Расіі ён выбраў яшчэ больш аддаленае ад цэнтра месца працы. На радзіме з сумам развіталіся з ім сябры. Многія з іх лічылі, што бачаць вучонага апошні раз, настолькі рызыкоўным здавалася ім яго новае падарожжа. Праз Тарту Дыбоўскі едзе ў сталіцу Расіі. Вучоны свет Пецярбурга з радасцю прымае даследчыка Байкала. Гасцінна сустрэлі ў Акадэміі навук і Геаграфічным таварыстве, якое выбрала яго правадзейным членам і выдзеліла 1000 рублёў для даследчых работ на далёкім паўвостраве. Акадэмія навук забяспечыла неабходнымі прыборамі і кнігамі.

У 1878 годзе Дыбоўскі быў прыняты на пасаду ўрача Петрапаўлаўскай акругі і ў студзені 1879 года выехаў на Камчатку. Праца на поўначы Далёкага Усходу была ў тыя гады звязана з вялікімі цяжкасцямі і нягодамі, таму месцы ўрачоў заставаліся вакантнымі. Пасада акруговага ўрача ў Ахоцкай акрузе пуставала 8 гадоў, а ў Гіжыгінскай яшчэ больш. Вучоны працаваў на Камчатцы доктарам 5 гадоў. Нялёгка яму бывала раз'язджаць па востраве па бездарожжы ў дождж і ў снежную слоту. Аб той пары свайго жыцця Дыбоўскі ўспамінаў у аўтабіяграфіі: «Мы пяць разоў аб'ехалі ўвесь паўвостраў (плошча яго роўна 370 тыс. кв. м. — **М.Б.**) з медыцынскай мэтай, а таксама з мэтай збірання заалагічных калекцый (прычым чатыры разы на сабаках, а адзін раз летам верхам на кані) і неаднаразова (тры разы) наведалі Камандорскія астравы. Адпаведна нашым скупым сродкам мы сабралі ўсё, што было можна. Біялагічныя даследаванні, якія меркавалася правесці, давялося абмежаваць да вельмі сціплых памераў дзякуючы адсутнасці падтрымкі і спачування мясцовых улад».

У сваіх рапартах начальству Б. Дыбоўскі не адзін раз падкрэсліваў дрэнныя ўмовы быту і харчавання жыхароў Камчаткі і Камандорскіх астравоў, чым тлумачыў высокую смяротнасць туземцаў.

У выніку рэгулярных аб'ездаў акругі Б. Дыбоўскі сабраў унікальныя статыстычныя дадзеныя аб становішчы здароў'я насельніцтва Камчаткі. Паводле справаздач Б. Дыбоўскага, у 1880 годзе паказчыкі нараджальнасці і смяротнасці ў цэлай акрузе раўняліся 36 і 21 працэнты, у камчадалаў — адпаведна 35 і 26 працэнтаў, у алеутаў Камандорскіх астравоў — 45 і 37 працэнтаў і г.д. Асабліва высокай была ў акрузе дзіцячая смяротнасць.

Б. Дыбоўскаму ўдалося дабіцца адкрыцця ў Петрапаўлаўску бальніцы на дзесяць ложкаў.

У час аб'езду акругі ён наведаў і Ключэўскую бальніцу, пра якую пісаў: «Будынак складаецца з дзвюх старых сялянскіх хат... пакрыты дрэнным дахам з ліставой кары... Скрозь падлогу, сценкі і столь пранікае пастаянна свежае паветра, а на падлозе зімою замярзае пастаўленая там вада».

Дыбоўскі вывучаў прычыны захворванняў на Камчатцы, мясцовыя лячэбныя фактары, упершыню правёў шырокае абследаванне тэрмальных крыніц паўвострава. Урач змагаўся з эпідэміямі, прапагандаваў сярод насельніцтва гігіенічныя навыкі, клапаціўся пра быт жыхароў Камчаткі і Камандорскіх астравоў. Для паляпшэння эканамічнага становішча насельніцтва Дыбоўскі распрацаваў рэкамендацыі па земляробстве і жывёлагадоўлі на паўвостраве. Эксперыментальна ён даказаў, што прычыны невыспявання злакаў на Камчатцы не ў дрэнных умовах, а ў дрэннай апрацоўцы зямлі і прымяненні неакліматызаванага насення. Для пасеваў, казаў ён, належыць завозіць на паўвостраў насенне з раёнаў з падобным кліматам. У савецкі перыяд гэтая думка пацвердзілася практыкай калгасаў і саўгасаў.

Б. Дыбоўскі тлумачыў нізкую прадукцыйнасць жывёлы ўтрыманнем яе ўвесь год пад адкрытым небам, дрэннымі заатэхнічнымі ведамі жыхароў і знайшоў практычны выхад са становішча. Ён раіў завезці на паўвостраў авечак, коз, трусоў, якаў, а азёры запоўніць карпавымі рыбамі. Дыбоўскі дабіўся забароны на вынішчэнне пушнога звера і арганізаваў сабаліныя запаведнікі ў раёне Кранакі і Асачы, перасяленне на Камандорскія астравы паўночных аленяў — аплаціў іх правоз і кармленне ў дарозе. Алені прыжыліся, і мясцовыя жыхары атрымалі акрамя ўсяго новую крыніцу малака і мяса. Людзі паважалі яго за душэўны клопат пра іх. Алеуты склалі легенду пра «добрага белага Бога», які прыслаў ім аленяў і падарылі яму шкілет вымерлай у XVIII стагоддзі жывёліны — марской каровы.

Дыбоўскі звярнуў увагу ўлад на даходнасць лову камчацкіх селядцоў і выкарыстанне драўніны на паўвостраве, а таксама паставіў пытанне пра здабычу на Камандорскіх астравах торфу і вуглю. Вывучаў клімат, апісваў рэкі, мінеральныя крыніцы, перасылаў узятыя ім пробы вод для аналізу акадэміку К. Шміту. Дыбоўскі марыў аб тым, каб на месцы камчацкіх мінеральных крыніц стварыць вялікую «здраўніцу для ўсяго Далёкага Усходу». Ён паспяхова змагаўся з праказай і іншымі заразнымі захворваннямі. Адначасова вучоны даследаваў жывёльны свет паўвострава, склаў і выдаў слоўнікі камчадальскай, бурацкай і іншых моў. Дыбоўскі займаўся таксама даследаваннем антрапалогіі, ставіў сваёй мэтай даказаць, што мясцовыя жыхары зусім не з'яўляюцца ніжэйшай расай. Ён многа займаўся этнаграфічнымі пошукамі. Урач-дэмакрат глыбока спачуваў народнасцям Камчаткі. Назіранні і вывады гэтага перыяду вучоны выклаў у кніжцы «Аб Сібіры і Камчатцы» (у 1912 годзе выдадзена ў Кракаве), якая мае і значныя мастацкія каштоўнасці. Б. Дыбоўскаму належаць грунтоўныя даследаванні флоры і фауны Камчаткі і Камандорскіх астравоў. Пасля пяцігадовай службы на паўвостраве наш зямляк падаў прашэнне на імя цара аб дазволе паехаць у водпуск у Пецярбург, аднак вучонаму адмовілі, забараніўшы знаходзіцца ў сталіцы, а таксама ў сталічных і заходніх губернях.

Б. Дыбоўскі прыняў рашэнне ўзначаліць кафедру заалогіі ў Львоўскім універсітэце. У лютым 1884 года ён быў звольнены з пасады петрапаўлаўскага акруговага ўрача. Прывезеных з Камчаткі 60 скрынь (каля 11,5 тоны) экспанатаў хапіла, каб адкрыць у Львове заалагічны музей. Вучоны заняўся сістэматызацыяй і абагульненнем здабытага ім матэрыялу. У Львове і Варшаве арганізаваў выстаўку заалагічных, этнаграфічных, антрапалагічных матэрыялаў сваіх экспедыцый. Прыйшла заслужаная слава, пашана. Працы

вучонага (а іх 130) з еўрапейскім імем перакладаліся і друкаваліся ў многіх краінах.

Б. Дыбоўскі выкладаў акрамя заалогіі і антрапалогію, пастаянна крытыкуючы расісцкія погляды. Пад уплывам каталіцкага духавенства Міністэрства адукацыі Аўстра-Венгрыі прапанавала яму не закранаць тэорыю Ч. Дарвіна, у якой яно бачыла «сімвал бязбожжа, амаральнасці». Аднак вучоны катэгарычна адмовіўся адракацца ад сваіх поглядаў і ў выпадку прымусу яго да гэтага абяцаў пакінуць кафедру і вярнуцца на Камчатку, дзе, па яго словах, «ён будзе мець лепшыя магчымасці распаўсюджвання культуры і прагрэсу». Баючыся скандалу, венскі ўрад вымушаны быў адмовіцца ад сваёй задумы.

Калегі па рабоце падтрымлівалі вучонага, дапамагалі яму ў стварэнні заалагічнага музея, які з'явіўся яго навуковай лабараторыяй.

У верасні 1906 года, нягледзячы на добрае здароўе і велізарныя творчыя магчымасці, Дыбоўскага ва ўзросце крышку больш за 70 гадоў рэктар вызваліў «па старасці» ад усіх пасад у Львоўскім універсітэце. Па сутнасці, гэта было выгнаннем непажаданага ўладам прагрэсіўнага вучонага. Аднак Дыбоўскі не здаўся. Вучоны прысвяціў сябе навукова-даследчай працы. Вывучаў азёры Беларусі, Украіны, Польшчы (Свіцязь, Любань, Загаранскае, Чорнае) і даказаў іх ледніковае паходжанне, даў характарыстыку іх хімічнага саставу і жывёльнага свету.

Пакінуў Бенядзікт Іванавіч і ўспаміны пра паўстанне 1863—1864 гадоў. У пачатку першай сусветнай вайны даследчык жыў у сваёй сястры Мальвіны Наргялевіч-Дыбоўскай у маёнтку Нянькаў каля Навагрудка. Царскі ўрад прапанаваў яму як аўстрыйскаму падданаму неадкладна адправіцца на Урал. Б. Дыбоўскі прасіў прызначыць месцам яго жыхарства горад Іркуцк, але іркуцкая адміністрацыя не дазволіла яму пасяліцца ў горадзе, і месцам яго жыхарства павінна была стаць Якуцкая губерня. Толькі заступніцтва Акадэміі навук, Геаграфічнага таварыства і яго Усходне-Сібірскага аддзела і хадайніцтва асобных прадстаўнікоў навукі пазбавілі Б. Дыбоўскага ад паўторнай царскай ссылкі.

Тым часам фронт набліжаўся. Абстралялі дом, у якім жыў вучоны. Нямецкія захопнікі выгналі сям'ю сястры і яго самога з дому, разрабавалі і спалілі іх сядзібу. Толькі з дапамогай нямецкага афіцэра — унука вядомага натураліста Аляксандра Гумбальдта — Дыбоўскі атрымаў магчымасць вярнуцца ў Львоў, дзе застаў разрабаваны і паўразбураны дом. Вайна прынесла вялікую шкоду асабістаму архіву і бібліятэцы вучонага. Сям'я яго жыла ў дрэнных умовах. Аднак, нягледзячы на гэта, Б. Дыбоўскі не пакінуў навуковую працу. Калі пажары сусветнай і грамадзянскай войн сціхлі, Дыбоўскі зрабіў савецкаму ўраду шмат карысных прапаноў. Да апошніх дзён свайго жыцця падтрымліваў цесную сувязь з савецкімі вучонымі, жыва цікавіўся праблемай Ангарбуда. Ён прапанаваў таксама пабудаваць на Байкале пастаянную гідрабіялагічную станцыю. Гэтую ідэю ў хуткім часе ажыццявіла Акадэмія навук СССР.

Прызнаннем заслуг вучонага было абранне яго ў 1927 годзе членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР, а яшчэ раней (у 1864 годзе) — польскай Акадэміі навук. Б. Дыбоўскі быў абраны таксама ганаровым прафесарам Львоўскага і Віленскага універсітэта. Акадэмія навук назвала яго імем даследчае судна на Байкале. Рэкамендацыі вучонага былі ўлічаны пры праектаванні Брацкай ГЭС.

Дажываў свой доўгі век Б. Дыбоўскі ў Львове. Гады рабілі сваю справу. Усё мацней і мацней адчуваўся боль у сэрцы. Памёр ён 31 студзеня 1930 года ва ўзросце амаль 97 гадоў і пахаваны на Лычагоўскіх могілках. Тысячы жыхароў Львова выйшлі праводзіць вучонага ў апошні шлях. Дыбоўскага,

як удзельніка паўстання 1863 года, хавалі з воінскімі ўшанаваннямі. Надмагільны помнік вучонаму стаіць на адным з узгоркаў Лычагоўскіх могілак побач з прыгожым помнікам аднаму з кіраўнікоў паўстання 1863 года — Р. Траўгуту...

Як нельга лепш характарызуюць навуковы подзвіг Б. Дыбоўскага словы яго біёграфа Я. Даманеўскага: «Калі б тыя даследаванні, якія праводзіў Б. Дыбоўскі, праводзіла добра аснашчоная экспедыцыя, якая складалася з некалькіх вучоных, то вынікі, дасягнутыя ёю, можна было б лічыць вельмі вялікімі. А зробленыя адным чалавекам у такіх выключна цяжкіх умовах — яны проста выдатныя». Гэта словы з кнігі Я. Даманеўскага «Бенядзікт Дыбоўскі», якая выдадзена ў 1954 годзе ў Варшаве. У 1965 годзе ў Мінску выйшла кніга Г. Вінкевіча пра Б. Дыбоўскага — «Выдающийся географ и путешественник». А ў 1981 годзе Г. Бжэнк у Любліне апублікаваў кнігу «Бенядзікт Дыбоўскі: жыццё і справа».

Вядомы айчынны краязнаўца Генадзь Каханоўскі адзначаў: «Колькі б пра яго ні пісалі, кожны раз адкрываецца нешта новае, дагэтуль невядомае з яго багатай творчай спадчыны і яшчэ больш багатай біяграфіі». У справядлівасці гэтых слоў упэўніваемся, калі чытаем памянёны артыкул прафесара С.І. Лапцева. У 1927 годзе ён у сяле Култук распытваў пра Дыбоўскага пажылых людзей. Памяць пра яго захавалася. Па іх словах, гэта быў «уважлівы», але вельмі неспакойны чалавек, які ніколі не сядзеў без справы. Успаміналі яго паездкі на возера, жыццё тут па тыднях зімой у юрце з печкай, лоўлю «бармашоў» і інш. Добры быў чалавек — лячыў і грошай не браў, любіў гутарыць з людзьмі, збіраў звесткі аб жыцці жывёлін, промыслах, цікавіўся геграфіяй раёна, умеў добра прадказваць надвор'е.

Б. Дыбоўскі належыць да ліку вучоных-энтузіястаў, якія цалкам аддалі сябе служэнню навуцы, не шкадуючы ні матэрыяльных сродкаў, ні сіл, ні здароўя. Яго пастаяннае імкненне да ведаў у спалучэнні з мэтанакіраванасцю, выключнай прастатой, даступнасцю, дабрынёй і дзівоснай працаздольнасцю вельмі павучальныя. Жыццё Дыбоўскага — бліскучы прыклад таго, якую вялікую карысць грамадству можа прынесці чалавек сваёй працай, уменнем выкарыстоўваць усе свае здольнасці і цвёрдай воляй дасягнуць тых мэт, якія ён ставіць перад сабой. Ні працяглае знаходжанне ў ссылцы, ні цяжкія гады сусветнай вайны і бязладдзя не маглі зламаць гэтага моцнага духам чалавека, які на працягу 73 гадоў не спыняў навукова-даследчай дзейнасці, бясплатна аказваў насельніцтву медыцынскую дапамогу. Кладучы гады свае на алтар навукі, галоўным чынам расійскай, ён свята верыў, што паліць тым самым газнічку і ў акенцы беларуса, ліцвіна, паляка.



*СЯРОД КНІГ*

ЯЎГЕН ХВАЛЕЙ

# ПАМКНЕННІ... ДЫЯЛОГІ... МАЙСТРЫ...

*Ю. Сохар. Тэатральныя пуцявіны. Мінск. «Тэхнапрынт», 2003.*

*Да таго часу, пакуль акцёр зможа звыклым рухам адчыняць дзверы службовага ўваходу тэатра — ён будзе іграць. Наша жыццё — ігра!*

***Алег Яфрэмаў***

З гэтым цікавым, неардынарным чалавекам я пазнаёміўся яшчэ ў пачатку васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Я ведаў, што ён быў акцёрам Купалаўскага тэатра ў Мінску, а пасля, скончыўшы аспірантуру, стаў тэатразнаўцам. Шмат друкаваў матэрыялаў. Апублікаваў манаграфіі, адзін з аўтараў шматтомнай «Гісторыі беларускага тэатра», аўтар артыкулаў у 5-томнай «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Загадваў кафедрай рэжысуры і майстэрства акцёра ў Беларускім універсітэце культуры. Мы доўга не бачыліся.

Нечаканая сустрэча надарылася сёлетняй вясной у Мінску. Сімпатычны, высокі мужчына з пасярэбранай галавой і гэткай жа ўбеленай кароткай барадой, у акулярах паўстаў перада мной, працягнуў руку:

— Юрый Сохар... Не памятаеш?

— Як не помніць! Дзе цяпер, Юрый Максімавіч?

— Выкладаю на кафедры русістыкі Карлава універсітэта ў Празе. Вось прыехаў у Мінск... Выйшлі тут, у выдавецтве «Тэхнапрынт», дзве мае кнігі.

Праз некалькі дзён я трымаў у руках гэтыя кнігі: «Светлы смутак» і «Тэатральныя пуцявіны», дыхтоўна выдадзеныя, на добрай паперы, з фотаздымкамі. Пра што ж яны? Вось анатацыі да іх: «Аўтар даследуе пытанні Дабра, Справядлівасці, Абавязку, Веры. Ён паказвае сваіх герояў у простых бытавых сітуацыях, якія, дзякуючы своеасаблівым характарыстыкам, падымаюцца да шырокіх жыццёвых абагульненняў» («Светлы смутак»). «У зборніку даследуюцца працэсы, якія адбываліся ў тэатральным мастацтве Беларусі ў 70—90-я гады XX стагоддзя. Асэнсоўваюцца праблемы падрыхтоўкі акцёрскіх і рэжысёрскіх кадраў, а таксама аналізуюцца творчыя пошукі і дасягненні асобных рэжысёраў, акцёраў, драматургаў. Вялікую ўвагу аўтар надае разгляду творчасці выдатных майстроў нацыянальнай сцэны.

Рэтраспекцыя дзеля ўдасканалення сучаснага і будучага тэатральнага працэсу — асноўная ідэя кнігі» («Тэатральныя пуцявіны»).

Здавалася б, дзве розныя кнігі, але іх яднае адно: творчая асоба, «якая ўмее зачароўваць, — як заўважыў у пасляслоўі да «Светлага смутку» лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, празаік Георгій Марчук. — У гэтага рознабакова адоранага чалавека ў душы прысутнічае вельмі рэдкая, але важная якасць: здзіўляцца акаляючаму свету, пазнаваць сэнс яго і дзяліцца гэтым з намі».

Скажу адразу: кніга «Светлы смутак» складаецца з трох частак, але найбольш будзе цікавіць нас сярэдняя — «Тэатральныя «ўнутрыпогляды». Чаму? Ды таму, што яна выдатна дапаўняе ўсю кнігу «Тэатральныя пуцявіны». У гэтай частцы аўтар падае цікавейшыя, можа, унікальныя эпізоды з жыцця беларускіх акцёраў, рэжысёраў. Часцей яны кур'ёзнага, белетрыстычнага плана. А вось кніга «Тэатральныя пуцявіны» — гэта вынік ці не 30-гадовай мэтанакіраванай сур'ёзнай працы Ю. Сохара. Тут артыкулы пазначаны датамі ад сямідзесятых да двухтысячных гадоў. Хораша зазначыў у прадмове да «Тэатральных пуцявін» вядомы тэатразнаўца Арсень Лабовіч: «Кампазіцыйна даследаванне складаецца з трох самастойных частак — праблемныя артыкулы, прысвечаныя аналізу творчага стану сучаснага тэатра, нарысы пра творчасць асобных тэатраў — бабруйскага, брэсцкага, гомельскага, магілёўскага і інш. У гэтых нарысах чытач знойдзе не толькі цікавыя прафесійныя назіранні, але і турботу пра творчае жыццё артыстаў, канкрэтныя прапановы і рэкамендацыі, накіраваныя на рост майстэрства, на перспектыву. Асаблівая ўвага надаецца нарысам-эсэ пра людзей тэатра — артыстаў, рэжысёраў, педагогаў, тэатразнаўцаў. Гэта людзі розныя па ўзросце, таленце, аб'ядноўвае ж іх агульная мэта ствараць мастацкія вобразы на сцэне, раскрываць характары персанажаў, фарміраваць грамадскую думку вакол тэатральных з'яў і падзей».

«Памкненні» — гэта праблемныя артыкулы, «Дыялогі» — рэцэнзіі на спектаклі, «Майстры» — творчыя партрэты. У першай частцы вылучаюцца артыкулы «Хочаш быць акцёрам? Будзь ім!» (да пытання падрыхтоўкі акцёрскіх кадраў у Тэатральна-мастацкім інстытуце), «Славяне і свет» (аб славянскім праекце ЮНЕСКА). Калі чытаеш «Дыялогі», рэцэнзіі на шматлікія спектаклі ў розных тэатрах: «Таблетку пад язык», «Святая прастата» А. Макаёнка, «Трывога» А. Петрашкевіча, «Закон вечнасці» Н. Думбадзе, «Птушкі нашай маладосці» І. Друцэ і іншыя, то самахоць усплываюць памастацку пададзеныя, часам з гумарам, часам з горыччу эпізоды з жыцця некаторых акцёраў з кнігі «Светлы смутак». Ну, як тут забудзеш маскоўскага акцёра Муранкова, які ў спектаклі замест беларускага слова «Малайцы!» гаварыў: «Мала́йцы!», або акцёра Луцэвіча з ягоным спакойным сном у грымёрнай у час спектакля, ці Міранюка, якому не шанцавала ў многіх тэатрах... А пражытае жыццё ў «зацьменні» някідкага акцёра Усевіча? Часам і мурашкі пройдуць па спіне.

Ну і, відаць, самы прыцягальны, найбольш чытабельны раздзел «Майстры». Трыццаць творчых партрэтаў тэатральных дзеячаў! Прозвішчы ад «А» да «Я», пачынаючы Ларысай Александроўскай і канчаючы Мікалаем Яроменкам. Тут і заснавальнік беларускага прафесійнага тэатра Ігнат Буйніцкі, і рэжысёры-педагогі Еўсцігней Міровіч, Дзмітрый Арлоў, Віталь Баркоўскі, і вучоныя-даследчыкі, тэатразнаўцы Уладзімір Няфёд, Арсень Лабовіч. А артысты — цэлая залатая скарбонка талентаў. Народныя і заслужаныя: Ларыса Александроўская, Аляксандр Ільінскі, Стэфанія Станюта, Здзіслаў Стома, Леанід Рахленка, Віктар Тарасаў, Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Гарбук, Мікалай Яроменка, Аляксандра Клімава, Лілія Давідовіч, Валянцін Белахвосцік, Анатоль Трус, Яўген Шыпіла, Арнольд Памазан, Павел Кармунін, Барыс Барысёнак, Мікалай Кірычэнка... Глядзіце, як дакладна,

адным штрыхом раскрыў аўтар акцёрскую сутнасць Генадзя Аўсяннікава: «Празвінеў трэці званок, скончыўся антракт. Зараз пачнецца другі акт спектакля «Трыбунал» А. Макаёнка. Генадзь Аўсяннікаў стаіць за кулісамі і слухае подых залы. Яшчэ некалькі хвілін назад ён сядзеў перад грыміравальным столікам вясёлы, іранічны (такі ў яго характар) і расказваў смешныя гісторыі. А вось зараз, перад выхадам на сцэну, ён поўны ўвагі. На твары, у пастаці ніякага фізічнага напружання, але вялікая сканцэнтраванасць. Вось-вось ён прадоўжыць расказ пра трагікамічны лёс свайго героя Цярэшкі па мянушцы Калабок». І такіх адметных штрыхоў шмат у творчых партрэтах Дзмітрыя Арлова, Лілії Давідовіч, Паўла Кармуніна, Здзіслава Стомы, Віталя Баркоўскага, Леаніда Рахленкі, Мікалая Кірычэнкі...

Асобна трэба сказаць пра творчы партрэт драматурга Андрэя Макаёнка, напісаны яшчэ ў 1980 годзе (дарэчы, усе гэтыя артыкулы публікаваліся на працягу 25 гадоў у перыядычным друку). Так грунтоўна да таго часу пра асобу драматурга, яго творы, бадай, не пісалі. Юрый Сохар «прасачыў» творчасць А. Макаёнка ад самай першай п'есы «На досвітку», пастаўленай на сцэне Купалаўскага тэатра рэжысёрам Канстанцінам Саннікавым у 1951 годзе (і нават аднаактовак), да апошнай — «Верачка», пастаноўка якой ажыццёўлена Брэсцкім абласным драматычным тэатрам. Здзіўляе колькасць тэатраў (іх прыводзіць аўтар), якія паставілі п'есы Макаёнка — сто, дзвесце... Тут і айчынныя (маецца на ўвазе былы Савецкі Саюз), і замежныя. І міжволі падумаецца: якога мы страцілі драматурга! Дай яму Бог крыху больш жыцця — што ён яшчэ стварыў бы... Спадчына ж А. Макаёнка складае ўсяго дзесятак п'ес, а такая слава!

Хочацца адзначыць ілюстрацыйны матэрыял: ён вельмі багаты. Тут, натуральна, фотаздымкі тэатральных дзеячаў у «Творчых партрэтах», каларытныя выявы сцэн са спектакляў, удзел самога аўтара ў розных мерапрыемствах, партрэты вядомых рэжысёраў. Усё гэта дапамагае паўней данесці да чытача змест выдання. Што тычыцца кнігі «Светлы смутак», то і там шмат цікавых фотаздымкаў, у першую чаргу, з жыцця Ю. Сохара. У апошняй інтрыгуюць не толькі абразкі пра тэатр, але і раздзелы «Прарастанне», «Нявыдуманыя гісторыі». Там адлюстравана народнае жыццё, якое гартавала, рыхтавала аўтара да сённяшніх яго дасягненняў. А гэта быў вельмі няпросты час — пасляваенны. Толькі з кнігі я даведаўся, што Юрый Максімавіч — украінец, дзяцінства і юнацтва правёў на знакамітым «чумацкім шляху», Чэрняшчыне. Паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, выдатна авалодаў беларускай мовай і карыстаецца ёю ўсё жыццё, стаў вучоным, прафесарам, дасканала ведае тэатр, беларускі тэатр, пра які расказвае ў Празе.

У «Заключэнні» да кнігі «Тэатральныя пуцявіны» Юрый Сохар піша: «Чалавек не можа выбіраць час, у якім хацеў бы пражыць сваё жыццё. Ён жыве тады, калі яму наканавана жыць — у незалежнасці ад сістэмы ці рэжымаў... Гэта адносіцца і да мастацтва тэатра, да яго дзеячаў. Бягуць гады, адыходзяць у гісторыю творцы, якія ўсё сваё жыццё аддалі сцэне, садзейнічалі, незалежна ад палітычных сістэм, росквіту нацыянальнага тэатральнага мастацтва».

У звязцы з гэтым хочацца сказаць, што беларускае тэатральнае мастацтва і яго прадстаўнікі апошніх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя яскрава ажывуць у сэрцах тых, хто перачытае старонкі грунтоўных выданняў Юрыя Сохара.





# МІКОЛА ВЯРШЫНІН

## ЭПІГРАМЫ

### ДВАЯКІ ПАДЫХОД

Паэт прыйшоў.
Рэдактар без затрымкі
Яго схапіў у моцныя абдымкі:
— Твой рукапіс паверх другіх ляжыць,
І можаш ты спакойна, браце, жыць.
Паэт пайшоў.
Той кажа: — Каб ты скіс!
І рукапіс перакладае ўніз.

### «ТВОРЧЫЯ» ПАРАДЫ

Аўтар верш прыносіць новы.
Кансультант —
супроць ні слова,
І адказ такі чуваць:
— Верш ваш добры,
ды мяркую,
Што ў газету лепш якую
Вам яго прапанаваць.
Ён паслаў — прыходзіць допіс:
«Лепш даслалі б
у часопіс».

### СУВЯЗЬ АЎТАРА З ГЕРОЯМІ

— Ты дзе працуеш? —
запыталіся ў паэта.
Той усміхнуўся, жартаўліва адказаў на гэта:
— Ды за сябе і за мяне мае героі самі
Да вечара штодзень грукочуць малаткамі.

### КРЫТЫКУ

Калі яго прызналі крытыкам вядомым,
Уласных кніжак стаў паклоннікам свядомым.

### ВОСЬ ДЫК ЗАНЯТАК!

Сустрэў пісьменнік сябра неяк,
І той пытаецца ў яго:
— Ты кім працуеш?
— Я — пісьменнік.
— Ты толькі пішаш?
І ўсяго?

### СОН ПАЭТА

Калі натхнення светлы час міне,
Калі замучыць вечны пошук тэмы,
То часта бачацца паэту ў сне
Урыўкі з ненапісанай паэмы.



